ВЕРШЫ АЛЕСЯ НАЎРОЦКАГА ПРА СЯБЕ

НА ПАЛЕССІ ГОМАН

ХЛОПЦЫ З ЛАЎСАНБУДА

В'ЕТНАМ ЗМАГАЕЦЦА

ІНТЭРВ'Ю З ІВАНАМ НОВІКАВЫМ

У КРАІНЕ ІМЁНАЎ

ПРАБЛЕМЫ МІЖЗОРНЫХ ТРАС

ЧЭХАСЛАВАЦКІЯ ДОСЦІПЫ



8

ЖНІВЕНЬ

МІНСК 1966 г.

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе — № 8 ЖНІВЕНЬ 1966

Выдавецтва «Звязда»

## У НУМАРЫ:



Пятро Дурчын. Ветраны дзень.



Пакуль згатуецца абед.

Фота М. Бяляева.

Вокладка **М. Чэпіка.**

Галоўны рэдактар **Пімен ПАНЧАНКА.**




**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**



# ВАСІЛЕВІЧЫ

*С. Петачэнку*

## СЛОВА

**Не бег за лёгкай я удачай,
Як за начальствам падхалім.
Я над радком штоноч батрачыў,
Рабіў яго гарбом сваім.**

**Няма на свеце маўзалеяў,
Дзе б слову схованку далі:
Чым больш з гадамі мы сталеем,
Тым большы к сэрцу слоў прыліў.**

**І гэты час, калі арфуеш
З мякіны словы на пасеў,
Калісьці занава адчуеш,
Пазнаўшы ў песнях свой запеў.**

**Імкнуць увысь, не вянуць словы,
Трапеча сэрца пад крылом:
За слова праўды мы гатовы
Ісці заўсёды напралом.**

Мой край — ля Васілевіч выспы,
Сасоннік сіні, луг, трысцё.
Я песню тут па слову высніў,
Адсюль пусціў яе ў жыццё.

## Я ІДУ

Я іду ў блакітнае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое:
Пахне пожняй гарэлай глухая ралля,
Пахне поле крутым сырадоем.

Я іду у ружовае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое:
Пахне ступай дубовай у лыжцы куцця
І буквар пахне фарбаю новай.

Я іду у шчаслівае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое:
Пахне сенам духмяным падушка мая,
Пахне матчына хата спакоем.

Я іду у далёкае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое:
З Васілевіч ірвецца цягнік у працяг...
А дзяцінства стаіць за спіною.

## ЛЁНЬКА СОХАР

Дзе ты, Лёнька, капітан прызнаны
Футбалістаў нашых з гарадка?
На якіх ты морах, акіянах,
Пры святле якога маяка?

У піянерскім лагеры калісьці
Падышоў ты першы да мяне...
Раз пятнаццаць адшумела лісце
У палескай нашай старане.



Адшугалі квецені акацый,
Хмары адпаўзлі за небакрай.
Мне з табой так хочацца спаткацца.
Кінь усё і — летам прыязджай.

Што было калісьці, прыгадаем,
Прад табой нічога не стаю,
А пасля у шахматы згуляем
І звядзем па дружбе ўнічыю.

Хлапчукі не нашага узросту
Бескляпотна рэжуць у футбол.
Як усё ў дзяцінстве, Лёнька, проста:
Пяты клас, канікулы і гол...

А жыццё — яму зусім не страшна:
Кожны з нас даўно ўжо не малы —
Пасылае у вароты нашы
Сумныя й вясёлыя галы.

Сумныя — мы стойка адбіваем,
Не выходзім, Лёнька, мы з гульні.
І тады на момант забываем
Пра дзяцінства залатыя дні.

А пісьмо з радзімы — не стрымацца.
Для цябе ж — хоць карабель кідай,
Хваляванне, як перад пенальці...
Кінь усё і — летам прыязджай.

## НОВЫ ТРАТУАР

Запахла ў Васілевічах гудронам,
Казыча нос распаранай смалой,
Кіпіць смала ў старых катлах шалёна,
Кіпіць смала пад ліпай векавой.

Яшчэ шнурамі значаць тратуары,
Яшчэ гладзілкі зззяюць чысцінёй,
А мы, ужо немаладая пара,
Сюды прыходзім восеньскай парой.

Каб ты была Аленкай-чараўніцай,
А я тваім Іванкам-прастачком,
І стаўся б цуд: ты стала б вучаніцай,
А я з мужчыны — ціхім юнаком.

Цябе б узяў за рукі асцярожна,
Па Камсамольскай, млеючы, павёў,

Забыўшы ўраз, што так рабіць не можна
І што дырэктар выкліча бацькоў.

А тратуара выгнутыя дошкі
Вялі б да ночы дружна: «хлоп-чырык».
Рамантаваў тваю б я басаножку,
Падраную аб тратуарны цвік.

Але на свеце казак не бывае:
Ты без мяне калісьці тут жыла...
Смала паволі, глуха адкіпае,
Яе грабуць лапатамі з катла.

Яе кладуць рабочыя гурбою,
Дзе тратуар драўляны быў тады...
Гудрон застыў. Ці можна мне з табою
Паставіць побач шчырыя сляды?

## ПРА АПОШНЯЕ

Я лусту апошняга хлеба свайго
Пашлю толькі маці.
Калі застанецца апошні рубель,
Аддам я студэнту.
Закрутку апошнюю скурым з табой,
Надзейны таварыш.
А з сябрам апошнюю шклянку віна
Падзелім пароўну.
Калі застанецца апошні патрон,
Па ворагу стрэлю.
Апошні дарыць пацалунак хачу
Любімай жанчыне.
Параду апошнюю даць я хачу
Малодшаму брату.
Слязінку апошнюю сэрцы хачу
Я з твару сястрыцы.
Праклянцем апошнім праклясці хачу
Я нелюдзяў душы.
Апошнюю рэчку хачу пераплыць
Не Лету, а Прыпяць.
У дзень у апошні дзявіцца хачу
На яснае сонца.
Апошняе даць бласлаўленне хачу
Любімаму сыну.
У шлях у апошні няхай панясуць
Мяне з Васілевіч.

□ □ □

Мікола КАПЫЛОВІЧ

# У РУЖОВЫМ ТУМАНЕ

Апавяданне



Мал. В. Долгава

## I

У ночы знадворку моцна страляла. Бухнула ля самага вуха — Лёнька падскочыў, скінуў з сябе посцілку і з перапуду нема крыкнуў:

— Мама, немцы!

— Спі, сынок...— азвалася спрасонку маці.

Ён пасядзеў на ложку, пакруціў галавою і, прыслухаўшыся да цемнаты, уцяміў — страляла, лопалася ў сцяне ад марозу-трас- куну дзерава. Паспакайнеў, зноў накрыўся дзяружкаю і ціха засоп.

Прачнуўся Лёнька, калі ў хаце ўжо развіднела. Працёр вочы, глянуў на вокны і сам сабе ўсміхнуўся: на шыбах за ноч узышлі і густа разрасліся белыя папараці — вокны замураваў мароз. Ён выскачыў з-пад дзяружкі, перабег хату, залез на лаву, стаў наўкаленцах ля акна і пачаў выкручваць пальцам на мерзлай шыбіне маленькае акенца на двор. Лёд не вельмі паддаваўся — не хацеў раставаць і так моцна пёк у палец, што Лёньку аж трэба было адаграваць яго ў роце. Але вось пад пальцам заскрыгатала шкло — акенца гатова. Лёнька, уткнуўшыся носам у зашэрхлую шыбіну, прыпаў да яго вокам: над комінам Ігнатавай хаты стаяў пульхны слуп дыму — палілі ў печы, а сама хата была сляпая, невідушчая; яе вокны, што выходзяць на вуліцу, зацягнула, засланіла, бы бельмамі вочы, белай намараззю, і яна, здавалася, не бачыла ні людзей на вуліцы, ні хат.

Лёнька злез з лавы, пакруціўся па хаце, заглянуў пад ложак, пад скрыню і спытаў у маці:

— А дзе Мурзік?

Маці тым часам стаяла на прыпечку і зачыняла ў коміне юшкі.

— Ох, і абрыдзіў ты мне з гэтым Мурзікам...— уздыхнула яна.— Прынёс яго на маю галаву! Скуголіць, лазіць па хаце. Калі Язэп нёс яго тапіць, то хай бы тапіў...

— Мама, і ён жа жыць хоча,— зірнуў маці ў вочы Лёнька.

— Хай ужо жыве, калі прынёс... Што з табою зробіш! Жывая ж душа. На печ занясла я твайго сабаку.

Маці спавіла кудзелю і села прасці. Скубла, смычыла, бы даіла, прадзіва. Верацяно гудзела ў яе руцэ, прысядала да падлогі, зноў па нітцы падцягвалася ўгару, і неўпрыметку таўсцела ручайка.

Лёнька пад'еў і палез на печ. Скруціўшыся ў калачык, Мурзік ляжаў ля коміна на анучах. Быў ён белы, а па белым — жоўтыя латачкі. Толькі мордачка чорная, быццам мурзатая. Лёнька пагладзіў сабачку і наліў яму з гаршка ў бляшанку крупніку. Мурзік расляпіў вочкі, пацягнуўся і, ціха заскуголіўшы, падбег да бляшанкі, уткнуўся ў яе мордачкай і стаў хлябтаць.

Лёнька разаслаў на печы латун, каб не вельмі пякло ў спіну, лёг на яго дагары і паставіў на голую чарэнь халодныя пяткі — хай трохі папячэ, пагрэе іх.

Добра ляжаць на печы. Лёнька аж прыжмурыў вочы: прыемна грэла ў спіну, цяпло разыходзілася па целе, апаноўвалі млявасць і нейкая лянота, што хоць пальцам не варушы.

Хораша пахла тлустаю, чырвонаю, як мяса, лучынаю, якую ён калодзежыкам склаў ля коміна, вышмуленага да самай цэглы, сухім чабаром, што маці яшчэ ўлетку павесіла на чай у палатняным мяшочку пад бэлькай.

Пад столлю, у самым кутку, напяў сваё ценета маленькі чорны павучок, а сам, падабраўшы пад сябе ножкі, прытоена, бы рыбаквудар, сядзеў на столі — чакаў улову.

Маці, калі бяліла печ, хацела была змесці венікам павуціну, але Лёнька не даў — хай жыве і павучок.

## II

— Сынок, уцякайма!

Ён аж скалануўся ад крыку маці, спярша няўцямна атарапеў, потым, схапіўшы з чарэні ватоўку і шапку, апукаю зваліўся з печы і кінуўся ў дзверы. Выскачыў на двор, аглянуўся — маці бегла за ім — і з усіх ног панёсся цераз агароды да лесу. Ад страху ўсяго яго халадзіла, і ляцеў ён, бы на крыллях, цераз разоры, не чуючы пад сабою ні ног, ні зямлі. Ззаду стралялі, і гэта яшчэ больш паддавала ахвоты ўцякаць, ратавацца ад смерці. Пад нагамі крышылася адліўная скарынка шарэну, Лёнька загрузаў па пахі ў снезе, але бег і бег, пакуль у грудзях не спёрла дых. Заняло ў сярэдзіне, ногі бы адняло — Лёнька бухнуўся ў снег. Моцна запякло ў нагу, ён схапіўся за яе рукою, нага была босая, парэзаная аб шарэн да крыві. Падбегла маці, узяла яго на спіну і панесла. У алешніку яна ссадзіла з сябе Лёньку і, калі трохі аддыхалася, зняла з галавы хустку і, абвязаўшы ёю босую Лёньчыну нагу, пачала зашпільваць, каб не мёрз, на ім гузікі. У запазусе ў Лёнькі заварушылася нешта жывое.

— Ох, божухна мой, божухна!..— ніяк не магла маці дрыжачымі ад страху рукамі зашпіліць апошні гузік у яго на грудзях. Такое гора, а яму яшчэ гэты сабака ў галаве стаіць...

— Мама, яго немцы спалілі б.

Маці выцерла яму нос, разагнулася і глянула на сяло: над ім стаяў чорны дым, палалі, аж трашчалі, хаты, смуродзіла гарэлым мясам. Роўным і спакойным полымем гарэла іхняе селішча: полымя, выбіўшыся з вокан хаты, загіналася ўгару на самую страху, скручвалася ў адзін клубок з чорным тлустым дымам і мітуслівымі іскрамі; агонь віўся, бы цёк, па сценах хлява, віхрэў на яго саламянай страсе.

У вачах пацямнела, і маці, схапіўшыся рукамі за алешыну, каб не ўпасці, загаласіла нема і страшна.



## III

Зложаны з сасновага галля курэнь стаяў у роўным, хлёсткім хвойніку-жардзяніку. Па адзін бок яго быў гушчар з крушынніку і арэшніку, па другі — гала, на якім дзе-нідзе ў верасе раслі маладыя бярозкі і хвойкі. А за галам ляжала зарослае, глухое балота.



Увечары Лёнька забыў, што немцы спалілі хату, што ён з маці плакаў,— весела было яму сядзець у курані і глядзець на агонь. Пасярод кураня мітусілася, падскоквала ўгару полымя, учапіўшыся за

паленцы; роем ляцелі ўгару іскры, калі паварушыш галавешкі кіем.
Сагнуўшыся, стары Ігнат сядзеў на калодцы з другога боку агню і плёў лапці-саракавушкі. Ігнаціха, сухая і вузкаклубая, бы абчэсаная ўнізе, размотвала лазовы верч — мерылася кроіць дзяжкі на другую пару лапцей.
Прыпякло. Стары расшпіліў на сабе чорную картовую кашулю і зноў стаў калупаць падплеткай лапаць. Потым украдкам глянуў на старую і забумкаў:
— Германец — дзела ізвеснае. Не першы раз на нас лезе...— Ён выняў з кішэні свае курэцкія прычындалы, скруціў тоўстую, бы папліску, папяросу і прыпаліў яе ад галавешкі: — Кожны раз таўклі яго, як ката́, а ён лезе... як вош у кажух. Зямлі, бачыце, яму не хватае?.. Я, самае, у мікалаеўскую вайну...— зноў зіркнуў на старую і пачухаў вострую, бы ў пеўня, грудзіну,— бывала пайду ў разведку і кожны раз прыцягну яго правасхадзіцельству немца... тоўстага, як кабана...
Старая не выцерпела, грымнула кулаком яму ў спіну:
—Ой, ваяка!.. Слухаць няма чаго: швэркае, швэркае... Ты ж казаў, што коні даглядаў у таго схадзіцельства...
Стары ўтуліў галаву ў плечы, змоўк і, закапыліўшы ніжнюю губу, да якой прыліп абслінены акурак, узяўся плесці другі лапаць.
Ігнаціха падсела да Лёнькавай маці, пахітала галавою — паспачувала:
— Гэта ж ты, Грыпіна, нічога з агню не выхапіла... Усяго твайго, што на табе. Ох і нагаруешся, суседачка... ды яшчэ з малым.— Яна падсунулася бліжэй: — А мой чалавек, дзякаваць богу, неяк пазаўчора кажа мне: «Звязвай, Малання, клункі, бо не здабраваць нам — немцы прыедуць паліць!» А я яму кулаком у спіну: «Каб табе язык адсох за твае словы!» А ён: «Учора ля мосту партызаны падарвалі легкавушку з іхнім начальнікам. Пабачыш, прыедуць. Сэрца маё чуе...» Расстараўся, дзякаваць богу, каня, запрог яго ў сані, а да саней карову прысцябнуў... І вось на табе: сёння прынясло іх, ірадаў...— Ігнаціха залапатала весялей: — Жыць будзеш, Грыпінка, з намі... Не прападаць жа табе...
Ігнаціха адышла ад Грыпіны да сваіх клункаў, у якіх былі падушкі і кажухі, развязала іх, разаслала на падсціле з хваёвых галін пасцель і пачала масціцца нанач.

## IV

Загрузаючы па калені ў снезе, з гушчару вылез з мяшком за плячыма Ігнат. Быў ён добра такі ўпараны: твар чырвоны, абліты потам, ускудлачаныя пасмы валасоў прыліплі да мокрага лба. Ігнат усунуўся ў курэнь і скінуў мяшок з плячэй.
— От, самае, нагараваўся! — пацягнуў рукавом стары па лбе.— Змакрэў, як квач...
Ігнаціха сядзела на цялешыку ля агню і зашывала дзіркі ў каптане.
— Дзе ты быў, старэнькі мой? Што гэта ты прынёс? — няўцямна і здзіўлена глянуўшы на старога, Ігнаціха ўпала на коленцы перад мяшком і стала яго абмацваць.— Нешта жывое!?.
— Гэ-э, дзе быў, пытаеш?.. На паляванні... Цецерукоў, самае, вось прыпёр табе поўны мяшок.
Нецярплівая і цікаўная, Ігнаціха пачала распускаць завязку на



мяшку: калупала пальцамі ў вузле, але вузел быў завязаны цесна і ніяк не паддаваўся. Гэта яшчэ больш даймала старую. Вузел, нарэшце, аслабіўся пад яе пальцамі, Ігнаціха расшмаргнула завязку і, глянуўшы ў мяшок, прысела ад радасці і здзіўлення — у ім было поўна курэй.
— Дзе ты іх палавіў, старэнькі? — пляснула яна рукамі.
Ігнат расшпіліўся, засадзіў руку за каўнер,— спіна, умлелая ад поту, свярбела,— і стаў расказваць:
— Табак, самае, выйшаў у мяне раніцой... Дай, думаю, праведаю курані Мандрыкаў ды папрашу там у каго-небудзь хоць бадылля... Выдраўся, самае, я з карчоў, падышоў да куранёў, глядзь — у іх там нікога няма... Гукнуў — ні адной жывой душы... Немцы, няйначай, забралі ўсіх... Толькі куры ходзяць... Я іх і пахватаў у мяшок. Не прападаць жа ім.
Лёнька стаяў з Мурзікам за куранём і сумнымі вачыма пазіраў у канец сцежкі, якая хавалася ў цёмным балоце,— чакаў маці. Яна яшчэ на досвітку пайшла ў вёску красці ў немцаў картоплю.
Мароз адлёг. Адсырэў, пацямнеў лес. Неба, у нізкіх цёмных хмарах, ссоўвалася некуды за балота. Хісталіся ў бакі і нудна гаманілі над галавою хвоі, бы плакалі: з іх капала на заляжалы, зярністы, як жарсцвяк, снег.
А вось і маці. Па доўгай чорнай спадніцы, хустцы-абпінянцы і па нагах, абкручаных анучамі, не адразу пазнаў Лёнька. Ён што сілы кінуўся з сабакам ёй насустрач, але, калі падбег і ўбачыў у руках маці парожні мяшок, перастаў радавацца. Ад крыўды і голаду моцна засмактала ў яго пад грудзьмі: хаця б адну бульбіну з'есці — выграбсці з жару, гарачую і духмяную, абскрэбсці, каб жоўтая была...
Лёнька каўтнуў — у роце назбіралася поўна сліны.
Маці пагладзіла яго па галаве.
— Цэлую ноч сядзела, сыночак мой, у карчах і за немцам сачыла. Чакала, пакуль ён, анцыхраст, намерзнецца ля капцоў і пойдзе ў зямлянку грэцца... А ён не пайшоў, усё ракеты пускаў у неба...
Калі Лёнька ўвайшоў з маці ў курэнь, Ігнат сядзеў на калодцы з сякераю ў руках, а Ігнаціха дзяржалася рукамі за гічку мяшка. Яна ўсадзіла руку ў мяшок, дастала адтуль за ногі чорную куру і падала яе Ігнату. Той палажыў куру галавою на палена і — хрась сякераю!.. Галава асталася ляжаць на палене, а сама курыца залапатала крылламі, заскакала, пускаючы пер'е па куранi: канчалася.
Ігнаціха абскубла курэй, абсмаліла іх на полымі і села перадыхнуць. Потым, нешта падумаўшы, устала, пазбірала з зямлі ў гліняную міску курыныя галовы і падала іх Грыпіне:
— Бяры, саколка... Юшку сабе зварыш...

## V

Улетку жыць у курані было раскошай. Цяпер Лёнька не мёрз у падраным сваім латунчыку, не туліўся, калоцячыся ад холаду, уночы да маткі. І з ядою было цяпер лягчэй: як-ніяк, а ўлетку падняць можна ў лесе і грыб, і ягадніцу зварыць з чарніц, і цяцерыны яйкі пабраць. Лес хоць чым-небудзь, але прабавіць душу ад голаду. Была толькі адна бяда — машкара. І ўдзень і ўночы стаяла яна над галавою, лезла сляпіцай у вочы...
Лёнька сядзеў у курані і галінкаю клёну шлёгаў сябе па шыі —

адганяў камароў. Ля яго круціўся Мурза. Лашчыўся — хацеў, каб Лёнька яго пагладзіў. Пад лета з Мурзы вырас і ўдаўся добры сабака, падгалісты, злы.

Мурза нешта пачуў, навастрыў вушы і з брэхам кінуўся з кураня ў той боў, дзе стаяў конь з каровай.

Каб не кусалі камары, Ігнат, накрыўшыся посцілкай, спаў у сваім лежыве. Пачуўшы брэх сабакі, ён падняў з падушкі галаву і прыслухаўся.

— Каб цябе зарвала, падла! Каб цябе ваўкі ўклалі! — ён падняўся з пасцелі, пашукаў вачыма палліску ў сябе пад нагамі, каб аперазаць ёю сабаку, але не знайшоў, выцягнуў з агню галавешку і пасунуўся з ёю з кураня.

Лёньку аж скаланула: ён пачуў, як заякатаў, загаласіў выцяты Ігнатам Мурза, і не вытрымаў, кінуўся быў на помач, але выбегці з кураня не паспеў — сутыкнуўся з Ігнатам. Той адпіхнуў яго рукою назад:

— Сядзі... Перацягну і цябе палкаю... Хочаш сабакам навесці немцаў на нас... Брэх пачуюць — сюды прыйдуць... Жыць табе надаела, га? Павешу, самае, твайго гончага на дубе, калі ён хоць раз яшчэ забрэша.

— Дзядзька, ён ваўкоў не падпускае да вашай худобы... Вось і гаўкае. Такая яго сабачая работа,— умяшалася, заступілася за Лёньку маці.

— Ваўкоў, ваўкоў...— перакрывіў яе Ігнат.— Ён сам іх, як чорт кадзіла, баіцца... Брэша — абы брахаць...

Палез пад посцілку, сцішыўся і засоп у нос — заснуў.

## VI

На досвітку Лёнька стаяў ля куране і праводзіў вачыма маці. Яна пайшла па грыбы аж на Анчосавыя Груды, бо лета было мокрае, з аблажнымі дажджамі, і баравікі дзе-нідзе пракідваліся толькі на высокіх месцах. Маці з парожнім кашалём, які цялёпаўся ў яе за спіною, прайшла гала і прапала з вачэй за камлямі хвой.

Спявалі на ўсе галасы птушкі. На ўсходзе выплывала, разрасталася ўшыркі чырвань: недзе за лесам прачыналася сонца. Гала зацягнула за ноч ружовым туманом — цвілі верасы.

Лёнька вярнуўся ў курэнь і сеў выразаць з хваёвай карыны пісталет. Выстрыгаў ножыкам дула і, высалапіўшы язык, стаў старацца лязом ля курка, але адарваўся ад сваёй забавы: за куранём забрахаў Мурза. Лёнька крадкам глянуў на Ігната — той аж вочы ад злосці вытрашчыў на яго — і пабег пераймаць сабаку.

— Не давай брахаць, бо я яго...— ужо за куранём пачуў ён ззаду сябе голас Ігната.

Мурза драў лапамі зямлю ад злосці і, заходзячыся, гаркаў у бок бярэзніку. Лёнька падбег, схапіў яго за ашыйнік і, глянуўшы ў бярэзнік, пахаладзеў ад жаху: з аўтаматамі ў руках па верасе паўзком краліся да куране немцы. Лёнька пабялеў, раскрыў рот, каб крыкнуць, але язык яму адняло ад страху, і ён, не памятаючы сябе і не выпускаючы з рук сабаку, кінуўся ў курэнь.

— Немцы ідуць! — убег і не сваім голасам крыкнуў Ігнату.

Ігната аж страсанула. Ён умомант скеміў і — Ігнацісе:

— У гушчар хутчэй!

Тая, падхапіўшы рукамі спадніцу, выслізнула з куране. Лёнька з Мурзам кінуўся за ёю. «Сабака бяжыць за намі»,— бы крыкнула штo ў галаве Ігната, і, ірвануўшыся з месца, ён дагнаў Лёньку, шкуматнуў яго за рукаў:

— Уцякай туды!

І паказаў рукою ў другі бок, на гала.

Не разбіраючы дарогі, Лёнька нёсся, натыкаючыся на кусты і заблытваючыся ў верасе; ногі, здавалася, беглі самі, а ён стаяў на месцы, доўга і даўно — так да прагнасці хацелася перабегчы гала і ўскочыць у балота, якое, чамусьці, не набліжалася, не бегла да яго.

Напятыя між кустоў і абсыпаныя расою, ляцелі яму насустрач мішэні-павуціны, цэліліся ў твар, агідна бліскалі ў вачах, круглыя і цвёрдыя павукі гарошынамі стукалі па лбе.

Ззаду грымнула, як гром: павуціны пахіснуліся ўбок, сплыліся ў адну, агністую і шырокую. І яна раптам пажоўкла, сарвалася з вачэй — у грудзях стала цесна і млосна, ногі анямелі, і Лёнька ўпаў у верас.

Ён яшчэ пачуў, як тонка зазвінела ў вушах...

Каб не трэснула пад нагамі, Ігнат з Ігнаціхай, асцярожна ступаючы, выткнуліся, выглянулі крадком з гушчару і ледзь не абамлелі — шырокім полымем гарэў іхні курэнь. Полымя падымалася да самых верхавін, абсмальвала галлё хвой; жэрдкі, перапаленыя агнём, разламваліся на галавешкі і падалі з даху куране на дол.

Не было відаць ні каня, ні каровы.

Ігнаціха, як убачыла такое, ніцма ўпала на зямлю, пачала качацца па верасе і галасіць:

— Ох, няма нашай каро-о-ўкі, ох дзе ж наш к-о-о-нік!.. Згарэла ўсё, згарэ-эла! Загубіў нас, са свету звёў... байструк паршывы!.. Навёў сабакам на курэнь ірадаў, навёў... Каб яго пярун забіў... на чыстай, на гладкай дарозе!.. Каб ён перад смерцю качаўся... як я тут качаюся... Каб яго сырая зямелька ўзяла-а-а!..

Ігнат нахіліўся над ёю:

— Уставай!.. Узяло цябе за бокі... Равеш тут, бы не сваім галасам... Добра, што хоць самі асталіся цэлыя ды неўрадзімыя,... Вайна кончыцца — разжывемся і на каня і на карову... Распусціла тут нюні...— Ён прыслухаўся да лесу: — За душу ў мяне шкрабе, што Грыпінінага хлопца нешта няма... Хаця б, не дай бог, з ім што паганае не стала... Стралялі немцы не па нас... Куль не чутно было...

Ігнат раскрыў рот, каб нешта яшчэ сказаць старой, але змоўк, зняў з галавы шапку — на гале, у ружовым тумане, жудасна завыў сабака.





Алесь НАЎРОЦКІ

●

# ВЕРШЫ ПРА СЯБЕ

...вунь маленства маё,
вайной пахаванае,
дзе асколак сасне скрыжаваў
галіны рук.
Рукі галіны ўзняцца не маюць сілы.
А час ідзе.
Яго не стрымаць хады.
І толькі высяцца кронамі зялёнымі, мілымі,
за гадамі гады.

О, кронаў зялёных тых шалясценне!
Кронаў зялёных светлыя цені!
Каханне маўклівае...
Расстанне...
Журба...
І аб сустрэчы з Марынай —
адзінай —
ціхай ноччу мальба...
Мальба вуснаў, вачэй, рук...
Радасць мук...

Шчаслівая мне ўгатована доля:
дзеля каханай пралезу ў паэты,
як найхутчэй.



І вось першы верш нарадзіўся,
як дзіця, аддзяліўся з болем
ад вуснаў маіх, ад рук, ад вачэй...

...прыязджаю на пабыўку.
Родны дом...
Разбягаюцца сцежкі ў лясной старане.
Сваім пачарнелым галлём
ахінае бяроза мяне.
Насустрач асенняй — сырой і халоднай — рані,
як хочацца з табою, бяроза, выйсці.
Бяроза мілая!
Вятры цябе балюча ранілі,
і ты сцякаеш крывёю лісцяў.
А каб кроў тую ніхто не ўбачыў,
цябе засцелюць сцягамі сінімі,
каб не ўстрывожыла нікога плачам —
на шыю каралі начэпяць з інею.
Не гаруй!
Я побач!

...ох, як я пастарэў.
Медыцынай набіў аскому.
У жыццё ступаю смялей і смялей,
вершы пакрысе пішу без дыплома,
з дыпломам лячу людзей.
Многа таго не знаходжу, чаго шукаю.
Горкая дума часамі агорне:
навошта сэрца сваё пераціраю
між двух жорнаў?

...вунь яно і юнацтва маё,
дзе асколак сасне скрыжаваў галіны рук.
Рук галіны вось-вось упадуць долу.
А час ідзе.
Яго не стрымаць хады.
І толькі высяцца кронамі без лісцяў, голымі,
за гадамі гады.
О, абскавычаных голляў тых шастанне!
Сэрца ціхі зацьмелы стук!
Дзе ты, Марына, маё каханне,
ты — мальба маіх вуснаў, вачэй і рук?
Я адзін-адзінокі іду па полі.
Голле голае б'е па маім плячу.
Невясёлая, горкая мне ўгатована доля.
Толькі долі другой
не хачу.

●

Калі-небудзь у ясны летні дзень
ты азірніся...
І ўбачыш цень.
Мае пазнаеш рысы ў ценю тым —
падумай,
не спяшай расстацца з ім.
І каб цябе не выпек летні дзень,
схавайся ў цень.

# Я ПЛЫВУ

Я плыву па цячэнню дзён...
І здаецца часам:
Сілы мае растал,
Плывучы, каханне маё, за табой...
Мае думы мяне захліснуць і, як хвалі,
Кругамі разыдуцца над маёй галавой!
Апошніх дум тых маіх адгалоскі
На імгненне абудзяць даль...
А жыццё па-ранейшаму
Будзе кіпець усплёскамі
Белапенных кіпучых хваль.

●

Месяца бледнага
сінія лініі...
Ты далёка з мужам
за рэкамі сінімі...

Не замінаю я вам,
ды, бачыць сам бог,
месяца... хопіць нам
і на трох.

●

Не заўважаем мы, не заўважаем,
Як хвіліна, гадзіна бяжыць,
Як без літасці час прымушае
Маршчыну да іншых маршчын далучыць,
Як скроні матулі
меліць мелам,
Як затравела сцежка дамоў,
Як хусцінка каханай
ветразем белым
Адплывае кудысьці
на хвалях гадоў...

□ □ □

Алесь МАСАРЭНКА



# НІКА

Апавяданне

Мал. А. Бараноўскага

Яе, як добра забяспечаную (бацька быў дырэктарам школы), пазбавілі інтэрната. Стыпендыю ўсё ж давалі, але звычайную, хоць і меліся ўсе падставы для павышанай: вучылася Ніка на адны пяцёркі.

З іх групы толькі Сеня Туманаў вызначаўся такімі ж здольнасцямі. Праўда, бацькі яго ў дырэктарах не былі, і ён, шчаслівчык, спакойна жыў сабе ў інтэрнаце на пятым паверсе і штомесяц палучаў павышаную стыпендыю.

Зрэшты, Сеня не забываў і пра свае абавязкі. Як стараста курса, ён не раз і не два спрачаўся ў дэканаце, даводзячы, што тыя ж самыя, як і ў яго, прывілеі павінны быць і ў Нікі. Але дэкан адно разводзіў рукамі і заклапочана зазначаў:

— Ліміт, шаноўны, ліміт...

Што думала і як расцэньвала Ніка ягоныя клопат і ўвагу, Сеня не ведаў, бо яна не надта любіла дзяліцца сваімі думкамі.

Увогуле, яму з Нікай было заўсёды хораша.

Засяроджаная, маўклівая-згодлівая, яна амаль кожную суботу запрашала яго да сябе, на ўскрай горада.

Невялічкі сонечны пакойчык, які абыходзіўся ёй у пятнаццаць рублёў, сустракаў іх сваёй утульнасцю і на дзіва простым, сціплым харастом.

Ніка садзілася на край тахты, што была ёй за ложак. Угінаючыся, тахта нудліва-грозна гула, і за спіной Нікі, падымаючы выцертую, некалі блакітную, покрыўку, выпіраліся нязграбна-пругкія жаўлакі,— здавалася, тахта гразілася кулакамі.

Сеня ўладкоўваўся на старамодным, адзіным у пакойчыку, крэсле, пабітым шашалем, і гэтаксама, як і Ніка, доўга маўчаў.

Мерна цокалі старэнькія ходзікі з намаляваным на цыферблаце шустрым катом, вочкі якога ў такт маятніку, бегалі ўлева-ўправа. На покуце, збоч акна, стаяў упрытык да сцяны нягеглы, такі ж, як тахта і крэсла, кухонны столік з дзвюма палічкамі, занавешанымі падсіненай марляй,— там хаваўся небагаты Нікін посуд. На століку, засланым паверх кваецістага абруса газетаю, узвышаўся ладны стосік кніг у перамешку з канспектамі. Многа кніг было і на шафе, нядаўна пацягнутай руда-жоўтай фарбай. Шафа стаяла так, што калі яе адчынялі, дык шырокія фанерныя дзверы загароджвалі



ўвесь калідорчык. І Ніка заўсёды, калі трэба было пераадзецца, хавалася за гэтыя дзверы і строга наказвала Сеню: «Адвярніся і не ўздумай азірацца!» Ён адварочваўся і чакаў, пакуль тоненька, як мышка ў закутку, віскнуць ржавыя дзвярныя завескі. І тады азіраўся: Ніка, старанна зашпільваючы халацік, ішла да яго. Затым клала яму на плечы свае лёгкія рукі і доўга ўзіралася блакітна-зялёнымі вачанятамі ў ягоны твар. І была яна такая блізкая і зразумелая, добрая і навекі адзіная, што ён пасля ніяк не мог ачомацца — нутро так і віравала ашчадна-п'янкім пачуццём...

Сеня кахаў Ніку летуценна-шчыра і верна. Так кахаюць адзін раз і толькі тыя, каму не давялося яшчэ зазнаць пакут душэўнай роспачы.

Ды Ніку яго каханне чамусьці не радавала.

Усё часцей і часцей яе пагляд не выказваў ласкавасці, пяшчоты. І тады яна хуценька адводзіла вочы ўбок, рабілася негаваркой, засмучана-задуменнай, а ў апошні час, калі даводзілася ім быць сам-насам,— дарэчы, цяпер яны, акрамя як на занятках, нідзе ўжо і не сустракаліся,— зласлівай.

Неяк пасля лекцый Сеня ўбачыў Ніку ў буфеце. Паабедаўшы, яна звычайна займалася ў чытальнай зале. Рашыў пачакаць, бо даўно ўжо збіраўся пагаварыць з ёй.

Ды Ніка быццам і не заўважыла яго, пратупала міма, запынілася ля гардэроба і, апрануўшы плашч, таропка падалася на выхад.

Сеня нагнаў яе.

Ішлі праспектам. Не размаўлялі.

Каб зацягнуць маўчанку, Ніка знарок завярнула ў магазін-салон, дзе была выстаўка твораў самадзейных мастакоў.

У салоне, апроч дзяжурнай — пажылой, з бяскроўным, нібы з мармуру, тварам жанчыны,— нікога не было. Сядзела яна за вялікім двухтумбавым сталом і, ад нечага рабіць, дагвязвала дзіцячы, пэўна для ўнука, сіні світарок. Прыязны позірк дзяжурнай на хвілю запыніўся на тых, хто ўвайшоў, а пасля зноў унурыўся ў світарок,— і ў руках яе пацешна заблісквалі пруткі.

Задуменна-насупленая, Ніка доўга кружыла па зале. Потым села на вузкую, абабітую чырвоным аксамітам канапку, што стаяла якраз насупраць вялікай карціны, напісанай маслам. То быў пейзаж: кучаравая вярба глядзелася ў блакітнае лясное возера, левы бераг якога густа зарос чаротам.

— Ніка, што здарылася? Чаму не глядзіш на мяне? Бы чужая...

Шчокі яе прыкметна запунсавеліся.

— А я і не была тваёй...— сказала і энергічна паднялася, засланіўшы сабой ледзь не ўсю вярбу на карціне.

Ніка ўраз зрабілася недасягальна-далёкай, калючай. Сеня не мог паверыць нават, што яна можа быць такая. Ён зλавіў яе руку і



пяшчотна-балюча пацісnuў кончыкі пальцаў,— такое рабіў, калі Ніка спрабавала злавацъ. Ды яна і не войкнула, як раней, а рашуча-рэзка вышмаргнула руку і ледзь не шэптам, але даволі гучна, сказала:

— Хлапчук ты, Сеня! Далібог, хлапчук... Харошы такі, правільны, хоць на кут садзі!

— Ніка...— і ён ступіў да яе бліжэй.

— Не, Сеня, не...

Сэнс гэтых слоў быў такім неабвержным, што заставалася адно: як мага хутчэй збегчы адсюль. Другога выйсця ён не бачыў.

І калі Ніка пачула, як адчайна-гулка бразнулі дзверы,— Сеня і сапраўды такі пайшоў,— то заплакала. Ціха, без слёз. А чаму — і сама добра не ведала. Пэўна, шкадавала яго.

Яна разумела: збылося тое, чаго, па праўдзе, і хацела. Але ж не думалася, што так хутка і лёгка разыдуцца яны. Відаць, апошняя размова заўжды бывае кароткая...

Адно што, калі яны сустрэліся,— гэта быў першы дзень заняткаў у інстытуце,— яна адчула, што таварышаваць можна з Сенем, бо ён, як ёй здалося тады, іменна з тых, хто можа быць проста сябрам і не болей. А Сеня неўзабаве так захапіўся ёю, так загарэўся і хацеў, дзівак,— якое хацеў! — патрабаваў яе ўзаемнасці. Гэта ўпачатку смяшыла Ніку, але пасля ўсё ж яна вымушана была сказаць, што сапраўднага друга не выбіраюць — ім становяцца. Заўвага падзейнічала: Сеня неяк адразу ж астыў, пасур'ёзнеў, а пазней і сам нават асудзіў сваю ранейшую ветранасць.

«Не, Сеня, не...— разважала Ніка.— Сабе не схлусіш, не... Ногі яе млелі, шчымліва пякло ў грудзях. Каб суняцца, апусцілася на канапку...

Міжволі прыгадаўся школьны выпускны вечар, Мар'ян. Ён быў у недарагім чорным касцюме, белай кашулі, пры гальштуку з чайкай. Гальштук быў завязаны непрыгожа, і яна пасля перавязала: вузялок зрабіла маленькі, і чайкі не стала відаць. Мар'ян пачаў быў пярэчыць, ды яна, помніцца, сказала, што гэтак, маўляў, модна. І ён пагадзіўся з ёю...

Школа была за пяць кіламетраў ад іх вёскі, і дамоў з вечара ішлі разам. Шчаслівыя, падатліва хінуліся адно да другога. Жартавалі, смяяліся з вершаў, якія тут жа складалі і голасна чыталі...

Ах, якая то была ноч: ціхая, зорная, вольная! І да чаго ж прыемна пахла скошаная дзяцеліна...

Падышла дзяжурная.

Ніка спахапілася: шчоўкнула сумачкай, дастала грабеньчык і пачала папраўляць прычоску.

— Ніколі і не падумала б, што вы, такія мілыя, ды не паладзіце. Ой, маладосць-дуросць! — прапела яна. Счакаўшы, спачувальна запытала: — І што, вы даўно знаёмы?

— Больш года ўжо...

— Адумаецца... Памянеце мяне — адумаецца! Вы ж варты яго: маладзенькая, прыгожанькая... І не хвалюйцеся нават,— не змаўкала дзяжурная.— Мужчыны ўсе такія — падурэюць трохі, дый аціхаюць... Будзь шчаслівá, дзетка...

— Дзякуй вам...— праказала Ніка, адчыняючы дзверы салона.

Выйшла.

Крыху пастаяла, раздумваючы, што рабіць. І надумала схадзіць па часопіс, які ёй ішоў на паштамт.

Чаргі ля акенца, дзе выдаюць карэспандэнцыю, не было. Ніка дастала пашпарт і падала яго мажнай смуглявай кантралёрцы.

— Лагіновіч! — уголас прачытала тая, стрэльнуўшы ў Ніку кароткім афіцыйным паглядам, і пачала хуценька перабіраць пачку пісьмаў на «Л».

— Мне, калі ласка, «Юность»...— удакладніла Ніка.

Якраз у гэты момант побач з яе пашпартам лёг прыгожа аздоблены канверт.

Ніка здзівілася. Ёй ніколі яшчэ не пісалі да запатрабавання. І раптам... «Не, гэта проста памылка...» — палічыла яна, гатовая вярнуць пісьмо назад.

—Палучыце... А часопіс не прыйшоў пакуль. Зайдзіце заўтра.

Ніка разгубілася: пісьмо і сапраўды адрасавана ёй. І хоць там, дзе звычайна павінен быць зваротны адрас, стаяла мікраскапічнае «Z», яна адразу ж, па почырку, устанавіла аўтарства — «Мар'ян».

Захацелася пабыць адной.

Зайшла ў парк. Якраз каля рэчкі, пад разгалістым ліпняком шарэў акруглы замшэлы валун. Ніка прысела на яго.

Вакол бесклапотна гойсалі вераб'і, пэўна, недзе ў ліпах былі іх гнёзды. Неба ўвачавідкі зацягвалася смужліва-цьмянай завалокай — вечарэла.

Урэшце Ніка распячатала пісьмо. І першае, што кінулася ў вочы — словы: *«Ніка, любая!»* Сумелася, запаволіла дыханне і пачала чытаць далей: *«Я спадзяюся ўсё ж, што гэтае пісьмо знойдзе цябе, хаця, уласна кажучы, шансы і не вялікія. Можна было, канечне, асмеліцца і папрасіць у вашых адрас. Ды маці твая, як мне здаецца, па-ранейшаму глядзіць на мяне нядобра. І чым я ўпёкся ёй, не ведаю...*

*Мне часта мроілася, што ты, Ніка, даўно забыла мяне. А вось прыехаў дамоў і зразумеў: у маім жыцці не хапае цябе — мілага сэрцу, дарагога мне чалавека. Зараз у душы маёй жыве-цепліцца надзея: мы сустрэнемся і зноў, як раней, будзем самымі шчаслівымі. Калі і ты хоць крыху верыш у гэта, дык не таіся — напішы. Адно прашу — не маўчы. Асабліва цяпер, калі я і жыву толькі табой...*



*Так, мяне лічылі тады злачынцам, хуліганам. Ды я не думаю, што і ты, Ніка, была гэткай жа думкі пра мяне.*

*Я не ганю людзей, не! Але некаторыя з іх, здаецца, для таго толькі і жывуць, каб за кошт другіх мецъ асабістыя выгады. Іменна такі Аўгей Зуля. Канечне, «Волгу» яго, як ты ведаеш, я знарок разбіў. Шчыра кажучы, мне проста надаела абслугоўваць Зулю. Ледзь што — пасылае: «Ідзі, спец, пацікаўся, што там з ёй сталася... Мо дэтальку якую замяніць трэба — заўтра ж дастану». А другія машыны, калгасныя, месяцамі прастойвалі ля кузні — чакалі, між іншым, патрэбныя «дэталькі»... І я не мог тады зрабіць іначай, а таму і рашыў: кокну «Волгу». і хай Зуля ведае, што дармаўшчына не вечна. Аказваецца (аб гэтым я нават не задумваўся машына — не што іншае, як рэч, а кожная рэч — мае свой кошт...*

*І трэба ж, які я наіўны быў тады!.. Канечне, такога выбрыку ты ад мяне ніколі не чакала. Нездарма ж так пакрыўдзілася, што і размаўляць не стала са мной. Павер, Ніка, я і сам зараз не дужа веру, што мог так зрабіць: на поўным хаду выскачыць з машыны, а тая, аж пыл закурэў, адна, без мяне, шалёна паляцела да касцёла. Імгненне — і важка-рэзкі ўдар у каменную сцяну; лёгкі звон разбітага шкла, шызы дымок з выхлапной і клубы пары з раскурочанага радыятара... Агей пасля аж вар'яцеў: «Бандыт! Пасаджу ў турму!»*

*І пасадзіў. Ды так усё павярнуў, што «Волга» аказалася не ягонай, а калгаснай... А як толькі ўсё ўляглося, стаў у чаргу на «Масквіча» новай маркі. І займеў, ды не ўдалося паездзіць: харашэнька праверылі і, ведаеш, дакапаліся, чые грошыкі плакалі — зноў-такі калгасніцкія... Здавалася б, няўжо яму, старшыні, не хапіла б калгаснага газіка?*

*Кажуць, Зулю будуць судзіць, бо вядзецца следства. Справядлівасць, як бачыш, узяла верх!*

*Харошавічы нашы ніколечкі не змяніліся. Праўда, касцёл разабралі (для цябе і гэта, канечне, не навіна)... Зулява ідэя. Маладзец!*

*Любая! Як даўно я не бачыў цябе — не год, а цэлую, здаецца, вечнасць. Напішы ж, абавязкова напішы.*

*Твой Мар'ян».*

Ніка з палёгкай уздыхнула. Ад пісьма веяла нечым родным, блізкімі ў той жа час,— колішнім: не то маленствам, не то летняю ноччу — той, калі спазналі яны, абое, хмельную слодыч свайго кахання.

Назаўтра Ніка не прыйшла на лекцыі. Сеня занепакоіўся і выправіўся да яе на кватэру. Але там яму сказалі, што Ніка яшчэ досвіткам кудысьці паехала. Куды і чаму — не ведалі.

◆ ◆ ◆



**Яўген ШАБАН**

●

# НАРАЧ

**Ты, Нарач, для мяне,**
**як музыка,**
**ты, Нарач, для мяне,**
**як вершы,**
**як смех,**
**як мова беларуская,**
**як спеў,**
**як пацалунак першы.**

**...Плыву**
**і блізарука жмуруся**
**ад зззяння**
**залацістых вод,**
**як жмурыцца**
**вясной на вуліцы**
**ад сонца захмялелы кот.**
**Праменні зверху**
**п'ю гарачыя,**
**а знізу п'ю**
**дыханне**
**рання,**
**і з хваляваннем**
**хвалі лашчу я,**
**вод гладзі**
**гладжу з хваляваннем.**



**Плыву,**
**тваёй красой заліты я,**
**за хвалі ласкава**
**бяруся...**

**Я без цябе,**
**маё блакітнае,**
**не уяўляю**
**Беларусі.**

# РАЗВІТАННЕ З УСПЕНКАЙ

**Вось і ўсё.**
**Давай развітаемся**
**назаўсёды,**
**Успенская горка.**
**Мы сустрэцца яшчэ пастараемся,**
**ды на сэрцы чамусьці**
**горка...**
**Мо таму,**
**што з табою дружылі мы,**
**што сябрамі былі заўсёды,**
**мо таму,**
**што з табою дзялілі мы**
**усе радасці**
**і нягоды?..**
**Мо таму,**
**што калісьці марыў я**
**тут аб першым сваім каханні**
**і праседжваў на лаўцы**
**марна я**
**у чаканні яе**
**да рання?**
**А яна чамусь не прыходзіла...**
**А яна**
**ў другім месцы чакала,**
**неспакойна па вуліцы**
**ходзячы,**
**тыя ж словы,**
**што я,**
**шаптала.**
**Ты паслала ёй,**
**горка Успенская,**
**пазыўныя майго кахання,**

---

Так завуць Успенскую горку—адну з найпрыгажэйшых мясцін у Віцебску. У цэнтры зялёнага сквера — помнік-манумент героям Айчыннай вайны 1812 года. Трошкі далей на крутым беразе Дзвіны — рад магіл воінам і партызанам, якія загінулі ў часе Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў.

з хваляваннем Дзвіны успененай
ёй паслала маё
хваляванне.
Прыляцела яна
птушкай быстраю.
Мне ў вочы
глядзела, маўчала
і ў руцэ сваёй
моцна сціснутай,
трапяткое сэрца
трымала.
Вы даруйце нам,
пліты магільныя,
што мы шчасця свайго
не хавалі...
— Мы за шчасце ваша загінулі,—
нам з-пад пліт
галасы
адказалі.
...Дык давай жа,
горка Успенская,
мы прысядзем
на развітанне.
Дык бывай жа,
горка Успенская!
Дык бывай жа,
маё каханне!
Час.
Бывайце!

## ГАЗІК

Сустрэла нас
сярдзіта так
і вельмі строга
разбітая,
размытая,
разрытая дарога.
Ў Лукомль мы сабраліся,
а дождж пачаўся.
І мы спяшаліся,
і дождж спяшаўся,
і несліся навыперадкі
зілы,
мазы,
а чэмпіёнам быў-такі
наш газік,
старэнькі,
растрэсены
газік-козлік...
У ім чакае пенсіі
вінцік кожны,
а ён ахрыплым голасам
мазам кажа:
— Дарогу камсамольцу
з да-а-аўнім стажам!
Даганяй праўнукаў,
даганяй, свавольнік,
даганяй, сапраўдны наш
камсамолец!
На твае забудземся
на гады мы,
і з табою будзем ўсе
маладымі.

Газік бліснуў хуценька
левым вокам
і пацісну рупненька
ў левы бок ён.
Абганяў машыны ён,
матацыклы,
толькі дождж пад шынамі
злосна сыкаў,
ды глядзелі з прыкрасцю
самазвалы
на старога
спрытнага
самазванца,
што наперад рвецца так,
як шалёны,
пакідае эксамі
чэмпіёнаў!..

Абганяй жа праўнукаў,
дзед-свавольнік,
абганяй,
сапраўдны наш
камсамолец!
Абганяй!
Забыліся на гады мы.
Абганяй!
Запісвайся ў маладыя!

## ПЕСНЯ З РЫШТАВАННЯЎ

Я сваіх гераінь
па песні знайшоў,
што звысоку данеслася
гулка:
«Отчего, отчего,
отчего так хорошо?
Оттого,
что ты идёшь по переулку...»
Яшчэ вуліц няма,
і завулкаў няма,
толькі гліна
разбітая мазамі.
А дзяўчаты пяюць.
І пяюць нездарма:
ім паказвае
фільмы
фантазія.
Перад позіркамі
у дзяўчат
праплываюць дзівосныя фільмы:
вуліц чыстых істужкі
і плошча,
і сад,
і любімы,
адзіны любімы...
Ён ідзе па завулку,
і тут жа яго
даганяюць
дзявочыя
вочы.
Ён ідзе
і не ведае нават таго,
што з ім побач каханне
крочыць.
Азірніся ж назад!
Што —
убачыў?
Знайшоў?
Чуеш,
сэрца як б'ецца гулка?..
Чуеш песню яе:
«...отчего так хорошо?
Оттого,
что ты идёшь по переулку»...

...Тут дзяўчаты,
заўважыўшы зверху мяне,
сарамліва неяк
прымоўклі,
вырашаючы, пэўна,
спяваць ім ці не:
лоўка гэта пры мне
ці нялоўка?
Вы спявайце, дзяўчаты!
Нічога,
што дождж!
Разганяйце марамі
хмары.
Я ж у «козлік» райкомаўскі сяду
(што ж!)
і таксама
з вамі
памару...
Я схаваўся у газік,
каб толькі маім
гераіням
не перашкодзіць.
Зноў яны заспявалі,
што хораша ім,
калі любы
завулкам ходзіць...
І, заплюшчыўшы вочы,
спяваю і я
за дзяўчатамі ўслед
таксама,
і таксама фантазія мне
мая
фільмы круціць,
што ім,
тыя ж самыя.
Бачу:
сад распускаецца,
кветкі цвітуць,
бачу іх я
у белых плаццях...
На спатканне спяшаецца
шпілечак стук
па блакітным, як неба,
асфальце...
Я таксама спяшаюся
тут
і там
пабываць у новым Лукомлі,
бо Лукомль —
гэта помнік
вашым рукам,
вашай працы, дзяўчаты,
помнік!

□ □ □

Лідзія **АРАБЕЙ**

# НА СТРУНАХ БУРЫ

Аповесць

Мал. І. Давідовіча

## XVII

Уадзін з вечароў, калі Алаіза, аддзяжурыўшы ў сваім аддзяленні, прыйшла дахаты, тут жа, за ёю, у пакой уваліліся Піліп і Карусь Каганец.

— Хлопчыкі, каб на вас ліха! Скуль жа вы ўзяліся? А як жа добра, што вы прыехалі!

— Але ж і зашылася ты, Цётка, у глушу! — гудзеў Піліп.— Ледзьве адшукалі. І не выеш ты тут воўкам ад суму?

Піліп аж учарнеў, так пахудзеў, змарнеў, світка пацёртая, шапка — нібы карова жавала-жавала ды выплюнула. Адны вочы гараць, блішчаць на няголеным твары.

А Карусь — у доўгай вясковай апранасе, у ботах, з нязменным нажом за халяваю. З-пад апранахі відаць каўнер вышытай пеўнікамі кашулі, на які спадае чорная барада. Усё той жа лесавік, уладар пушчы.

— Карусёк, ты адкуль тут узяўся? Калі прыехаў? Ці надоўга? — пыталася Алаіза ў Каганца.

— Ненадоўга, Цётка. Дні на два. Ды вось, заехаў цябе пабачыць,— адказваў ён, распранаючыся.

— Вось жа малайцы! Карусь то далёка, на яго я не магу злавацца. А вось гэты злыдзень. Зараз як вазьму за чупрыну,— падалася Алаіза да Піліпавай, не вельмі багатай на расліннасць, галавы,— не можа прыехаць паказацца... Зусім забыўся на Цётку.

— Ой, не руш, Цётка, не руш,— бараніўся Піліп.— Што ж я буду рабіць, калі апошнія валасы павыдзіраеш? Мяне ж дзеўкі любіць не будуць...

— Патрэбен ты дзеўкам такі, худы ды няголены,— махнула Алаіза на яго рукою.

— Ах, Цётка, няма часу нават пагаліцца. У нас у Майшаголе такое робіцца! Не захацела са мною паехаць — пашкадуеш...

І Піліп пачаў расказваць Алаізе і Карусю, што ў іх там, у Майшагольскай воласці, ідзе да сапраўднага перавароту. Ужо створаны часовы ўрад, у склад якога ўваходзіць і ён, Бурбіс.

— Мы нават маніфест склалі, якой будзе наша Майшагольская рэспубліка пасля таго, як народ захопіць уладу ў свае рукі,— гаварыў Бурбіс.— І ў адным з пунктаў гаворыцца: уся зямля — казённая, удзельная, манастырская, царкоўная, касцёльная, усе фаль-

---

Заканчэнне. Пачатак гл. № 7.

варкі, маёнткі, лясы, рэкі і азёры пяройдуць у карыстанне ўсяго народа. У нашым краі ў народных школах дзеці будуць вучыцца на родных мовах: літоўскай, польскай, беларускай. Адным словам, ва ўсёй Майшагольскай воласці будзе ўтворана дэмакратычная рэспубліка. Вось так!..

— Ну, а Карусь нам што раскажа? — паклала Алаіза руку на Карусёва плячо, калі Піліп скончыў расказваць пра Майшаголу.

— Я не столькі мо раскажу, як пакажу,— Карусь пачаў разгортваць пакет, які прывёз з сабою.— Во, паглядзі,— паклаў ён на стол тоўсты сшытак.

— «Вольнае слова»,— прачытала Алаіза акуратна зроблены чорным чарнілам надпіс на сшытку. Яна пачала гартаць старонкі. Усе яны былі напісаны ад рукі адным буйным, акуратным почыркам з нахілам. У сшытку былі вершы, артыкулы, апавяданні.

— Што гэта? — з цікавасцю спыталася Алаіза ў Каруся.

— Рукапісны часопіс. Перапісаны ў дзесяці паасобніках. У Ашмянах выходзіць. І назва, бач, якая — «Вольнае слова»...

— Братачка, гэта ж надта цікава! — загарэлася Алаіза.— Хто ж яго складае?..

Алаіза аглядала сшытак з усіх бакоў, нібы гэта была нейкая таямнічая штука, якую трэба было разгадаць — адкуль і як яна з'явілася на свет.

— Энтузіясты выдаюць. Беларусы...— адказаў Карусь.

Алаіза адгарнула старонку наўздагад. Там быў верш. Алаіза прабегла вачыма па радках, але верш адразу спадабаўся ёй, і яна пачала чытаць уголас:

*Уставай, Беларусь! Пратры свае*
*вочы,*
*Ужо годзе цярпець у няволі.*
*Запей весялей сярод цёмнае ночы,*
*Запей песню шчасця і волі...*

Алаіза скончыла чытаць, крышку памаўчала, глушачы хваляванне, пасля загаварыла голасам, поўным радасці:

— Гэта ж вельмі добра, браткі! Гэта ж з усіх бакоў так добра! І тое, што ёсць паэты ў нас, і тое, што яны так думаюць, так пішуць!..

— А ты вось гэта пачытай. Публіцыстыку...— узяў Карусь з рук Алаізы сшытак і знайшоў тое, што хацеў ёй паказаць.

— «Уставай, брат мужык-беларус! — зноў пачала чытаць уголас Алаіза.— Ты загнаны, пакрыўджаны ўсімі! Уставай, затрасі сваёй чорнай працоўнай рукой! Няхай твае тыраны задрыжаць у сваіх палацах, няхай пазнаюць, што і ты чалавек! Бо ты — чалавек! Ты — сіла! Ты — уладар свету ўсяго! Смялей гавары ўсюды аб волі, аб сваім жыцці нявольным! Аб сваім горы і слёзах! Уставай! Уставай! Ужо ўсе народы ўсталі, каб здабываць свае правы, а ты спіш! Уставай за зямлю, за волю, за роўнасць і брацтва...»

— А кажуць, няма беларускае нацыі, няма беларускае мовы,— захадзіў узад-уперад па пакоі Піліп, чапляючыся за крэслы, за ложак.— А адкуль гэта? З самага народа, з самых глыбінь,— паказаў ён пальцам уніз, у падлогу, нібы там была гэтая глыбіня.

— І колькі працы трэба было пакласці... Ад рукі перапісаць дзесяць такіх тоўстых сшыткаў!..— падняла Алаіза часопіс у руцэ.

— А што ж ты будзеш рабіць... Надрукаваць жа нідзе не надрукуеш, а сэрца рвецца, хочацца сваё слова ўбачыць хоць напісаным,— сказаў Карусь.

— Рэвалюцыя ўсё нам дасць,— патрос кулаком у паветры Піліп.— І газеты беларускія, і кнігі, і школу. Бо інакш і ваяваць няма чаго. Некалі мы яшчэ ўсяму свету пакажам, што значыць беларускі народ. Людзі толькі дзівіцца будуць, адкуль што возьмецца. Бо, браточкі, народ жа наш такі таленавіты, такі...— Піліпавы вочы гарэлі захапленнем, гонарам.

— Вось сядзіць перад табою гэты барадач,— паказаў ён Алаізе на Каруся Каганца.— Паглядзі на яго збоку — от так: нязграбны мужык, мядзведзь белавежскі. А глянь у яго душу! Глянь на гэтую руку, што ляжыць вунь на стале, як вузлаваты корч! Што гэта рука ўмее рабіць? Ты ведаеш? От пакажы, пакажы Цётцы свае малюнкі.

— Ат, кінь... Ці пра мяне гаворка! — адмахваўся Карусь.

— Не, не! Пакажы. Гэта ён прывёз Івану. Той хоча для свайго музея выманіць. Але я прымусіў яго ўзяць альбом з сабою, табе паказаць. Давай, давай, не крыўляйся,— цягнуў ён у Каруся з кішэні невялікі альбомчык у зялёнай вокладцы.

Піліп стаў за спіной Алаізы і Каруся, якія сядзелі каля стала, і, у выцягнутых руках трымаючы альбом, разгарнуў яго.

На белым лісце паперы было намалявана гняздо бусла. Бусліха сядзела на яйках, а бусел стаяў каля яе на адной назе, узняўшы ўгору сваю доўгую дзюбу. Над імі было шырокае, вольнае неба з лёгкімі аблокамі, а ўнізе — дзіравая страха нейкай хаціны. І ад усяго малюнка веяла такім беларускім настроем, такой жыццёвай рэальнасцю, што Алаіза магла пабажыцца — Карусь бачыў гэтых буслоў у яе родным Старым Двары. Гэта быў вобраз яе роднай вёскі. І з такім замілаваннем да гэтых буслоў, да гэтага неба і да гэтай страхі быў зроблены малюнак, што аж займала дыханне, гледзячы на яго.

Алаіза забрала альбомчык з Піліпавых рук. Сама гартала яго, падоўгу ўглядаючыся ў кожны малюнак. «Паляўнічы і лось». «Касьба». «Стары лірнік». «Жабракі». «Дзеці».

— Карусёк, любы ты чалавеча, я ж і не ведала, што ты такі майстра. І без школы, самавукам!..— дзівілася і радавалася Алаіза.— І як жа ўсё па-народнаму, з любасцю да свайго.

— Ды гэта ўсё накіды, зарысоўкі...— бянтэжыўся Карусь ад пахвалы.

— Іван казаў, што ў яго ў Мінску ёсць работы і акварэлем, і алеем. Некалі спецыяльна прыедзем да цябе з Цёткаю, каб паглядзець,— гаварыў Піліп.

Яны ўсе былі ўзбуджаныя, усхваляваныя. Настрой ва ўсіх траіх быў прыўзняты. У маленькім пакойчыку лунала атмасфера творчага запалу, натхнення. Так бывае, калі збіраецца некалькі чалавек, якіх можа ўсхваляваць адно і тое ж, навесці на адны і тыя ж думкі, адчуванні, калі ўсе разумеюць адзін аднаго, калі ўсталёўваецца атмасфера таварыскасці і згоды.

І ўсім траім хацелася прадоўжыць гэты настрой.

— Прачытай, братка, свае вершы,— папрасіла Алаіза Каруся Каганца.

Карусь усміхнуўся. У гэтай усмешцы была і радасць, якую перажывалі цяпер яны ўсе, і няёмкасць.

— Што гэта сёння,— я ды я, нібы імянiннік... Давайце на вашы асобы пяройдзем. Ты, Цётка, пакажы свае вершы. Вунь усе кажуць, што ты нейкі дужа добры верш напісала.

— Прыйдзе чарга, пакажу і я свой. А цяпер ты давай. Ты ў нас сёння госць, і табе першае слова.

Але Карусь, відаць, адмаўляўся толькі з далікатнасці. Яму і самому хацелася і чытаць, і слухаць вершы, і ён больш не ўпіраўся. Ён

адкінуўся на спінку крэсла, падняў крыху ўгору вочы і пачаў, расцягваючы словы, нараспеў:

*Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,*
*А цераз поле чалавек ідзе.*
*Ой, полем ідзе і штосьці ён нясе,*
*І хлопец яго за руку вядзе...*
*Які гэта старац з хлопцам ідзе?*
*То Кабзар ідзе і кобзу нясе,*
*А хлопец за руку к вёсцы вядзе...*

Карусь Каганец гайдаўся ў такт словам, на твары ў яго быў сум, і сам ён, з шырокаю чорнаю барадою, у кужэльнай кашулі з каўнярам, вышытым пеўнікамі, нагадваў таго сляпога кабзара, якога за руку вядзе хлопец у вёску. І нават вочы яго, якія пазіралі некуды ў адну кропку, здаваліся невідушчымі.

Усё, пра што гаварыў у вершы паэт, Алаіза бачыла перад сабою, як жывое.

*У вёску прыйшоў, на прызбу сеў*
*І ціха людзям спяванку запеў.*
*У круг людзі стаяць,*
*На старца глядзяць,*
*Бо да душы бедным людзям запеў.*

Малюнак усё ярчэў. Алаіза бачыла цяпер сваю вёску, мужыкоў і кабет, якія абступілі лірніка, стаяць, слухаюць яго спеў.

— Дай абдыму цябе, браце,— падалася Алаіза да Каруся, калі той скончыў.— Дзякую,— і яна пацалавала яго ў калючую шчаку.

І Піліп сядзеў задаволены, з вільгаццю ў вачах, і ўсміхаўся, і выгляд у яго быў такі, нібыта яго заслуга была ў тым, што Карусь Каганец жыве на свеце.

— Ну, а цяпер ты давай сваё,— рашуча патрабаваў Карусь.

— Ага, давай, давай той, што чытала на мітынгу, пра які ўся Вільня гаворыць, які літоўцы надрукавалі,— сказаў Піліп.

— Паказвай, паказвай,— нецярпліва падганяў Алаізу Карусь.

Калі Алаіза падала яму вузкі лісток-пракламацыю, Карусь доўга аглядаў яго з усіх бакоў, трымаў, як нешта шкляное альбо вельмі каштоўнае, з чым трэба абыходзіцца надта далікатна. А калі прачытаў верш, устаў, прайшоўся па маленькім пакоі. Сур'ёзным і доўгім позіркам спадылба паглядзеў на Алаізу.

— Адно магу сказаць — зайздрошчу,— нарэшце прамовіў ён. І тон, якім ён сказаў гэта, быў такі сур'ёзны, што Алаіза паверыла: Карусь Каганец сказаў шчыра.

— Я вось гляджу на вас і думаю,— пераводзіў Піліп вочы з Алаізы на Каруся.— Хоць абодва вы і паэты і шмат у вас у душах агульнага, але і розныя вы зусім. Цётка ўся ў сённяшнім моманце, у агні, а Карусь увесь у мінуўшчыне беларускай... Не, ты пачакай,— спыніў ён рукою Алаізу, якая нешта хацела сказаць.— Твой верш кліча ў бойку, ён, як бубен, як барабан, які нясуць наперадзе калоны. А Карусь,— я і цябе не хачу пакрыўдзіць,— павярнуўся ён да Каруся,— але ты ўсё ж, як флейта...

— Браток,— абняла Алаіза Каруся,— бачыш, і бубен ужо ёсць у нас, і флейта, а ў Мацея Бурачка была «Дудка беларуская», а там мо хто і скрыпку даробе, як ён, наш бацька, казаў! Во і аркестр у нас будзе!

— Праўда, флейта,— развіваў сваё параўнанне Піліп. Відаць, яму самому спадабалася гэта параўнанне.— Ці якая іншая далікатная дуда. Ад тваёй паэзіі вее старажытнасцю. І на слёзы цягне.



— Ну, ужо і на слёзы..— запярэчыў Карусь Каганец.— Гэта ўжо як разумець. Я, брат, дух беларускай пушчы. Для мяне наша пушча,— лясы, прырода,— сімвал вольнасці, за якую трэба змагацца. І ў нашай даўніне я бачу сімвал вольнасці. Хіба не беларусы на Немане крыжакаў пакрышылі? Паказалі сябе сілаю, якая светам усім скаланула...

— Ах ты, мая барадатая флейта! Бач, як напаў на цябе Піліп... Але што зробіш, Піліпка,— павярнулася яна да Піліпа, які, задаволены сваёю прамоваю, здаецца, збіраўся яшчэ нешта гаварыць.— У кожнага паэта свая песня, свой голас, і калі камандаваць яму, каб спяваў інакш, як ён спявае, паэт сфальшывіць.

— Усе мы робім, што можам,— гаварыў Карусь Каганец,— каб наш край, наша Беларусь займела свабоду, роўнасць. Каб яна была шчаслівая, каб людзі жылі ў ёй, не ведаючы гора, каб самі гаспадарылі над сваім жыццём.

— Яно то так,— згадзіўся Піліп.

Алаіза, між тым, даўно ўжо думала, як пачаставаць, пакарміць сваіх гасцей. Яна не вяла ніякай сваёй гаспадаркі. Пры бальніцы была сталоўка для абслугі, і там яна снедала, абедала і вячэрала. Цяпер яна надумалася збегаць туды, на кухню, і папрасіць кухара, каб той даў вячэру дахаты, сказаць, што да яе прыехалі госці.

— Вось што, хлопчыкі,— сказала яна Піліпу і Карусю,— вы тут крышку пасядзіце, пазабаўляйцеся чым, а я на хвілінку выскачу. Зараз прыбягу. І, не дачакаўшыся, што адкажуць хлопцы, схапіла сваё паліто. Але калі забразгала міскамі, вымаючы іх з шафкі, Піліп і Карусь здагадаліся, што яна нешта надумала з частаваннем.

— А ты што збіраешся рабіць? — з дакорам спытаўся Карусь.— Калі частаваць нас, то кінь: мы не галодныя.

— А сытых лягчэй карміць,— адказала Алаіза.— З майго дому ніхто ніколі без пачастунку не выходзіў,— дадала яна і, сабраўшы міскі, знікла за дзвярыма.

Калі вярнулася, Піліп сядзеў на крэсле, выцягнуўшы ногі ледзь не на ўвесь пакойчык, і, заклаўшы рукі за галаву, не то драмаў, не то марыў. А Карусь нешта маляваў у сваім альбоме.

Алаіза паставіла на стол вячэру. Яна поркалася ў шафцы, збіраючы відэльцы, лыжкі, як раптам пачула моцны, задаволены рогат Піліпа. Алаіза азірнулася. Піліп стаяў каля крэсла, у якім сядзеў Карусь, глядзеў на тое, што намаляваў Карусь, і весела, задаволена рагатаў.

Алаіза падышла да іх, зазірнула ў альбом. Спачатку не магла разабраць, што там намалявана, а калі прачытала подпісы і ўсё зразумела, таксама весела і радасна засмяялася.

Ліст альбома Карусь падзяліў крыжам на чатыры часткі. І ў кожнай клетцы, у кожнай чацвяртушцы ліста, быў малюнак. У першай клетцы была намалявана труна, а каля яе, укленчыўшы, стаяў поп, адпяваў нябожчыка. Пад малюнкам быў подпіс: «Хочуць пахаваць рэвалюцыю». На другім малюнку века труны было прыўзнята, а поп ад страху схаваўся пад труну. І подпіс: «Рэвалюцыя ўздымаецца!» На трэцім малюнку рэвалюцыя скідала вечка труны, спрабавала з яе вылезці, але яе за рукі моцна трымалі паліцэйскія. І ў канцы на чацвёртым малюнку рэвалюцыя ў вобразе прыгожай, велічнай жанчыны з мечам у руцэ, адкінуўшы ўбок паліцэйскіх, выходзіла з труны. Пад чацвёртым малюнкам быў подпіс: «Ніякія сілы яе не ўтрымаюць, не пахаваюць!»

— Вось дык Карусь! Ну і маладзец! Дык гэта ж палітычная карыкатура! — крычаў Піліп.

— А ты казаў, што ён адарваны ад сённяшняга моманту, што ён у мінуўшчыне!..— радавалася і Алаіза.— Што можа быць больш сучаснае, больш актуальнае! Ды з якою выдумкаю!

Карусь моўчкі ўсміхаўся, слухаў, што гаварылі сябры, пасля ўзняў на Алаізу вочы, доўгім позіркам паглядзеў на яе, сказаў нягучна:

— Калі шчыра казаць, то гэта твой верш, Цётка, мяне натхніў. Зайздрасць узяла...

— Няхай жыве тая зайздрасць, якая робіць людзей геніямі! — з вясёлым пафасам сказала Алаіза. Пасля схамянулася: — Браткі! Вячэра ж стыне! Пан Казімір так стараўся... За стол, за стол жыва!

## XVIII

Сонца ўсё вышэй узнімалася ў небе, усё цяплей прыгравала зямлю. Пахла прэлым лісцем, дымам кастроў, вясновымі сокамі. Паказала сінюю галоўку пралеска. А над полем завёў песню жаваранак.

І нават цяжкія хмары, якія ў адзін дзень выплылі з-за лесу і пачалі засцілаць усё неба, не прыглушылі вясновай радасці, бо гэта плылі хмары, з якіх павінны былі ўдарыць першыя вясновыя грымоты.

Усе чакалі гэтай вясны. Чакалі навальніцы, якая змые бруд, што вякамі збіраўся, душыў усё жывое, знішчыць путы, што аплялі цела народа, дасць яму волю, свабоду.

Працоўны люд збіраў свае сілы, каб перуном ударыць па гнілым молаху самаўладства і на яго рэштках збудаваць новы свет, свет праўды і дабра.

Але вонкава здавалася, што жыццё ідзе сваім парадкам. Чыноўнікі хадзілі на службу і са службы, гімназісты бегалі з кніжкамі, крамы гандлявалі розным таварам, у тэатрах ставіліся спектаклі, прыезджыя музыканты выступалі з канцэртамі.

21 красавіка «Комитет попечительства о народной трезвости» ў Нова-Вілейцы вырашыў даць баль. З Вільні былі запрошаны артысты. Усёй інтэлігенцыі ў Нова-Вілейцы разаслалі запрашальныя білеты.

Белы бліскучы білецік з надрукаваным на ім запрашэннем прынеслі і доктару Сільвановічу, кіраўніку аддзялення, у якім працавала Алаіза.

Доктар Сільвановіч быў малады, энергічны чалавек, высокі, дужы. Яго цікавіла не толькі медыцына. Ён шмат чытаў, любіў пагаварыць пра палітыку, прычым не баяўся выказваць уголас сваё незадавальненне існуючымі парадкамі. Радаваўся, калі да яго даходзілі чуткі аб забастоўках, аб рэвалюцыйных выступленнях. Да Алаізы скора паставіўся амаль па-сяброўску, не падкрэсліваў свайго вышэйшага перад ёю палажэння.

— Вы не пайшлі б за кампанію? — прапанаваў ён Алаізе, паказваючы запрашэнне.— Кажуць, будзе цікавая пастаноўка. Трэба нам крыху растрэсціся.

— З прыемнасцю,— згадзілася Алаіза.— Сто гадоў, як той казаў, не была ў тэатры. А які будзе спектакль?

— Здаецца, «Скаваныя крылы» Прахарэнкі. У ёй занята пані Яблачкіна. Вельмі хваляць.



— Ага, чула. Нават «Северо-западное слово» пісала пра яе,— успомніла Алаіза.

Размова адбывалася ў доктарскім кабінеце іх аддзялення. Доктар Сільвановіч запісваў у карткі назначэнні хворым, Алаіза збірала ў металічны карабок інструменты.

— Ніяк не разбяруся, што вы за чалавек...— не адрываючыся ад пісання, сказаў доктар Сільвановіч.— З фельчарскімі абавязкамі вы спраўляецеся някепска, але мне здаецца, што па прызванню вы ўсё ж не медык.

У тоне, якім гаварыў доктар Сільвановіч, не было папроку ці незадаволенасці. Хутчэй, у ім было жаданне выклікаць Алаізу на шчырасць, на сяброўскую размову. Алаіза адчула гэта.

— Ох, доктар Сільвановіч,— уздыхнула яна,— каб я сама ведала, што ў мяне за прызванне... Мусіць, няма ніякага, бо вельмі многае мне хочацца рабіць. Лекарская работа мяне вабіць, і літаратура жыць не дае. А калі ісці на шчырасць, дык і тэатр цягне. Нават часам на сцэне сябе ўяўляю. І настаўніцай быць хочацца, дзяцей вучыць... навукаю займацца..

Яна клала адзін за адным інструменты ў карабок і гаварыла, нібы пералічваючы разам і інструменты, і свае схільнасці.

— О, значыцца, я не пазбаўлены назіральнасці,— узрадаваўся Сільвановіч.— Я такі бачу, што ваш твар, вашы вочы жывуць не аднымі толькі аспірынам і бромам.

— Чым яны толькі не жывуць, гэтыя завідушчыя вочы. На ўсё буду кідацца, нічога не зраблю,— бразнула яна карабочкам, ставячы яго ў шафу.

— Наадварот, вы, як геній адраджэння, сумесціце ў сваёй асобе многа талентаў.

— Дзякуй... Геній ёсць. Няма толькі адраджэння.

— Чаму? Прысутнасць генія — адзнака адраджэння. І, па-мойму, яно надыходзіць...

— Надыходзіць час ісці на савет па разгляду хвароб. Вы можаце спазніцца і выклікаць нездавальненне пана Хардзіна,— перавяла размову на жарт Алаіза.

— Дзякуй за напамінак,— выняў Сільвановіч з кішэні гадзіннік «Павел Бурэ». Шчоўкнуў вечкам.— Сапраўды, гадзіна часу,— падняў ён светлыя бровы.— Так што... да пабачэння... Я зайду да вас у вашу келлю. Пагуляем на бале,— сказаў ён на развітанне.

Доктар Сільвановіч зайшоў па Алаізу падвечар. У чорным вячэрнім гарнітуры, з гальштукам-матыльком, з бялюткай хустачкай у кішэні, ён быў непрывычны пасля доктарскага халата і шапачкі, у якіх звычайна бачыла яго Алаіза.

Яна таксама выстраілася: як-ніяк, ішла на баль... Надзела белую блузку, пачысціла чаравікі, і яны блішчалі, хоць пазірай у іх, як у люстэрка.

У Народнай зале, дзе мела адбыцца гулянне, было ўжо многа людзей. Па-святочнаму апранутыя паны і пані — Нова-Вілейскія чыноўнікі. Асобнаю групкаю трымаліся нейкія маладыя людзі, не то студэнты, не то курсісты якога вучылішча. Сярод іх выдзяляўся адзін, з калючымі быстрымі вачыма, з чорнымі вусікамі. Было даволі многа і простага люду, рабочых: камітэт па народнай цвярозасці ўцягваў у сваю суполку і працоўны народ. «Хай лепш ходзяць сюды, чым на сацыялістычныя сходы і мітынгі»,— разважалі заснавальнікі таварыства.

Хутка ўсе паселі на месцы. Адкрылася заслона.

Дэкарацый артысты ў Нова-Вілейку не прывезлі, і сцэна была абстаўлена тым, што, мусіць, удалося знайсці ў клубе. У кватэры доктара, дзе адбывалася дзея, стаяла пашарпаная канапа, канцылярскі стол, крэслы, праседжаныя членамі таварыства. Дзвярыма былі кулісы. Калі па ходу дзеі трэба было стукаць у іх, то стукалі недзе за сцэнаю.

Ігралі артысты кепска. Пані Яблачкіна, якую хацела ўбачыць Алаіза, не прыехала. Яе замяняла нейкая старая, тоўстая артыстка. Яна ламалася, крыўлялася, выдаючы сябе за семнаццацігадовую паненку, і ў Алаізы, якая вельмі любіла тэатр, усё гэта выклікала моцнае раздражненне.

— Яны думаюць, што за дзесяць вёрст ад Вільні канчаецца цывілізаваны свет, што тут ужо адны дзікуны, для якіх трэба толькі крыўляцца,— злосна шаптала яна Сільвановічу.

— А вы глядзіце, глядзіце. І ў гэтым ёсць свая цікавасць,— супакойваў яе доктар.— Паслухайце, як прызнаецца ў каханні малады хлопец гэтай тлустай цётцы.

— Ягадка... Птушка мая... Дзяўчынка мая яснавокая,— стоячы на каленях перад сваёй каханай, гаварыў між тым артыст.

А ягадка і птушка фунтаў на трыста вагою, трасучы тоўстым азадкам, бегала па сцэне і скардзілася, што ў яе скаваныя крылы і яна не можа паляцець.

— Вам гэта смешна, а я не магу трываць такой прафанацыі,— злавалася Алаіза.

Пасля спектакля былі аб'яўлены танцы. Алаіза хацела пайсці дахаты, але Сільвановіч затрымаў яе.

— Я вінны перад вамі, прывёў сюды і падмануў вашы чаканні. Замест асалоды вы атрымалі адно нездавальненне. Можа, хоць танцамі паправім справу.

— Але я не танцую... Дальбог, не танцую...— адмаўлялася Алаіза.— Умею адну толькі польку. Дык тут жа яе не гуляюць...

— Ну, застанемся, паглядзім, як другія забаўляюцца.

Нездаволеная вечарам, шкадуючы, што патраціла час, Алаіза села на крэсла ля сцяны.

Аркестр заіграў вальс «На сопках Маньчжурыі». Некаторы час сярэдзіна залы была пустая, пасля нясмела выйшла адна пара, за ёю другая. Але большасць людзей не танцавала. Групкамі стаялі яны пры сценах, глядзелі на тых, хто танцуе. У адной, найбольшай групцы былі рабочыя. Яны з усмешкамі пазіралі, як весяліцца мясцовае панства.

Маладыя людзі, якіх яшчэ раней заўважыла Алаіза, таксама не танцавалі. Яны стаялі кампаніяй пры дзвярах, перашэптваліся. Здавалася, танцы іх не цікавілі наогул. Гэтая купка хлопцаў чымсьці прыцягвала ўвагу Алаізы. Нечым яны былі ёй падазроныя. Хутка яна заўважыла, што і гарадавы, пан Жылевіч, якога ўсе ведалі ў Нова-Вілейцы і які таксама быў на балі, толькі не як госць, а па службе, прыглядаецца да хлопцаў. Пасля Алаіза падумала, што, можа, гэта ёй здаецца. І яна пачала глядзець на пары, якія з правінцыяльнай напружанасцю, стараннасцю кружыліся пад музыку духавога аркестра.

І раптам — што гэта? Нібы снег пасыпаўся на людзей, што былі ў зале. Белыя лісткі, як галубы, закружыліся пад столлю, пачалі падаць, апускацца на плечы, на галовы людзей. Алаіза падняла вочы. Лістоўкі падалі ў залу праз адтуліну для вентыляцыі, якая была ў столі.

У першую хвіліну людзі застылі, скамянелі. Але тут збоку, з гурту



маладых людзей, якія цяпер стаялі шчыльнаю купкаю пад дзвярыма, пачуўся вокліч: «Далоў самаўладдзтва! Далоў паліцыю!»

І нібы электрычны ток прайшоў праз людзей. Усе загаманілі, заварушыліся, пачалі лавіць лісткі, падбіраць іх з падлогі. Схапілі некалькі лісткоў і Алаіза з Сільвановічам.

— Гляньце: «Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя»,— паказваў на подпіс пад тэкстам у лістку Сільвановіч.

Гэта быў заклік святкаваць Першае мая, адзначаць яго ўсеагульнай забастоўкай, дэманстрацыяй.

А людзі нібы толькі і чакалі гэтых лісткоў. Суму, які панаваў тут цэлы вечар, як і не было, хоць музыка ўжо і не іграла.

Алаіза вачыма шукала купку маладых людзей. Яна цяпер была ўпэўнена, што гэта іх работа. Канечне, вунь яны, каля дзвярэй, і гэта з іх гурту ляцяць воклічы. Толькі іх цяпер пабольшала. З імі вунь рабочыя, што з ухмылкамі пазіралі на танцораў.

А на сцэне, перад закрытаю заслонаю, раптам апынуўся малады чалавек у студэнцкай куртцы. Ён пачаў зычным голасам:

*Как волны бурливого моря,*
*Поднялся весь русский народ,*
*И к свету, к желанной свободе*
*Он ринулся смело вперед!*

У зале пачало цішэць. І скора людзі, якія так абыякава глядзелі на ігру прафесіянальных акцёраў, застылі, слухаючы гэтага студэнта.

*Дружнее, быть может придётся*
*Нам многим погибнуть в бою,*
*Зато же пусть дети увидят*
*Свободной отчизну свою!*

У залу ўбег пажылы рабочы. Ён вачыма шукаў некага. Мусіць, не знайшоў, ды, можа, і не ведаў, каго трэба шукаць. Крыкнуў, перакрываючы сваім голасам студэнта, які дэкламаваў верш:

— Там вашага... жандары!..

Студэнт змоўк, з хвіліну шукаў вачыма таго, хто крыкнуў, пасля саскочыў са сцэны проста ў залу.

— Таварышы! Нашага сябра арыштавалі! Таварышы! — чуліся галасы.

Натоўп хлынуў да запасных выхадаў. Усе ціснуліся, хацелі выбегчы з залы. І Алаізу з Сільвановічам падхапіў натоўп і вынес на вуліцу.

Пасля ярка асветленай залы на вуліцы здалося вельмі цёмна. Народ мітусіўся, не ведаў, куды ісці. Адчувалася, што не было тут некага, хто накіраваў бы людзей, сказаў, што трэба рабіць.

— Яны тут, недалёка... Жандары цягнуць, а ён упіраецца,— пачуўся раптам спераду звонкі голас, і людзі, заахвочаныя гэтым голасам, рушылі хутчэй, а пасля пабеглі.

Наперадзе, у цемені, паказалася невялікая купка. Кішэнны ліхтарык, які быў у некага, выхапіў жандарскія нашыўкі, твар маладога хлопца з вусікамі.

«Той, якога я прыкмеціла ў зале...» — падумала Алаіза.

Натоўп хутка дагнаў жандараў. Тыя спачатку хацелі ўцячы, але хлопец, відаць, не вельмі спяшаўся за імі, і хутка жандары вымушаны былі спыніцца.

— Страляць буду! — схапіўся за кабуру жандар.

Але нехта з мужчын схапіў яго ззаду за руку, закруціў яе. Падскочыў яшчэ адзін чалавек, і рэвальвер бразнуўся на брук.

Другі жандар таксама хутка быў абяззброены. Аднак яны не здаваліся. Затуляючы спінамі арыштаванага, жандары бараніліся ад натоўпу кулакамі.

І тут Алаіза ўбачыла спіну доктара Сільвановіча. Спачатку гэта спіна засланіла ад яе ўсё, бо доктар стаў проста перад ёю, пасля, расштурхваючы людзей, падаўся наперд, да жандараў.

Высокі, дужы, доктар Сільвановіч хутка расчысціў сабе дарогу. Стаў тварам у твар да жандара, адно імгненне нібы прыглядаўся, прымерваўся, за што зручней ухапіць, пасля згроб яго адной рукою, нібыта той і не быў мужчынам з тоўстым каркам і шырокімі плячыма.

У гэты час людзі расправіліся і з другім жандарам. У цемені мільгаў, узлятаў кій, якім нехта дубасіў ахоўніка парадку.

— Ура! Брава! — крычаў натоўп.

Нечыя рукі падхапілі студэнта, узнялі яго.

— Качаць! Брава! — грымелі мужчынскія галасы.

І хлопца падкінулі ўгору, зноў падкінулі і зноў...

З іншых вуліц збягаліся людзі. Тыя, што пазней выйшлі з клуба, і тыя, што толькі цяпер павыбягалі з дамоў, пачуўшы рух на вуліцах.

— Няхай жыве Першае мая! — крыкнуў нехта.

І натоўп, несучы на руках хлопца, якога адбілі ў паліцыі, рушыў па вуліцы.

## XIX

Яшчэ перад тым, як Алаіза з доктарам Сільвановічам хадзіла на баль, да яе ў пакойчык завітала Тацяна Краінская.

Тацяна Краінская заўсёды была хоць не багата, але акуратна і з густам апранута. Валасы яна зачэсвала назад і звязвала ў тугі вузел, і яны ляжалі ў яе заўсёды гладзенька, адзін да аднаго. Ніколі не скажа лішняга слова, нікога не пакрыўдзіць, гаворыць заўсёды роўна і спакойна. Аднак часам Алаізе здавалася, што гэты спакой у дзяўчыны знешні, што Тацяна стрымлівае ў сабе і нейкія бурлівыя сілы. Часам яе чорнае брыво магло так варухнуцца, а ў вачах з'явіцца такая іскра, што было відаць — у душы дзяўчыны не так ужо ўсё і спакойна, як у рухах, у гаворцы.

Калі Тацяна зайшла да Алаізы, тая ляжала на ложку і чытала. Убачыўшы суседку, яна падхапілася, хацела прапанаваць ёй сесці, пагаварыць, як часам яны не раз гаварылі. Але Тацяна папрасіла прабачэння, што патурбавала Алаізу, прысесці адмовілася, а толькі сказала:

— Я зайшла перадаць вам запрашэнне доктара Полазава. Ён прасіў, каб вы заўтра, калі можаце, прыйшлі да яго вечарам, гадзін у восем. Дахаты...— дадала яна пасля невялічкай паўзы.

Сказала і пайшла, акуратна зачыніўшы за сабою дзверы.

Алаізу гэтае запрашэнне зацікавіла. З таго дня, як яна размаўляла з доктарам Полазавым і як ён уладзіў яе на работу, Алаіза бачылася з ім толькі здалёк. Доктар вітаўся з ёю, і ўсё.

«Цікава, навошта кліча Полазаў? — думала яна.— Каб па рабоце, то пазваў бы ў кабінет, у гадзіны дзяжурства. А то дахаты, вечарам...»

Кватэра доктара Полазава была тут жа, на тэрыторыі бальніцы.





Ён жыў у невялічкім доміку з сінімі аканіцамі, выдзеленым яму як служачаму. Домік стаяў у парку, на яго ўскраіне, каля самага плоту, за якім былі дарога, поле, маляўнічыя ўзгоркі, такія характэрныя для ўсёй Віленскай ваколіцы.

Назаўтра вечарам Алаіза пайшла да Полазава. На ганку доміка яе сустрэў Іван Лыкаў, рабочы з майстэрні, якая была пры бальніцы. Ён стаяў у пінжаку, накінутым на плечы, на чорную сацінавую кашулю. Івану Лыкаву было гадоў трыццаць пяць. Ён быў шыракаплечы, з шырокім тварам і ўвесь нібы квадратны, прысадзісты. Ва ўсёй яго постаці адчувалася сіла рабочага чалавека. Здавалася, возьме такі рукою — як абцугамі сцісне. Ён павітаўся з Алаізаю і паслужліва, нібы чакаў яе, адчыніў дзверы. Яна ўвайшла ў дом, а Лыкаў застаўся на ганку.

У кватэры Полазава ўжо было некалькі чалавек: хто сядзеў на канапе, хто на крэслах, хто прахаджваўся па вялікім, амаль пустым пакоі.

Доктар Полазаў жыў у гэтым доме з жонкаю — невысокаю худою жанчынаю з бледным тварам, якую толькі аднойчы бачыла Алаіза. Яна, відаць, была вельмі ціхая кабета, нідзе не хадзіла, і цяпер Алаіза не бачыла яе ў пакоі. Мо яе не было дома, а мо не выйшла да гасцей.

На круглым стале, засланым белым абрусам, стаялі кубкі, пячэнне на талерцы, цукар, але ніхто з гасцей да нічога не дакранаўся. І калі доктар Полазаў прапанаваў Алаізе шклянку гарбаты, яна падзякавала і адмовілася, зразумела, што не дзеля гэтага сабраліся людзі.

Адразу ж за ёю прыйшло яшчэ некалькі чалавек. Доктар Гарэлік, невялічкі, чарнявенькі, у акулярах з тоўстымі шкельцамі, фельчар Эйляшэвіч з аддзялення Полазава. Прыйшла і Таццяна Краінская. Калі Алаіза агледзелася, то ўбачыла, што тут ужо былі і доктар Сільвановіч, доктар Тамашэвіч, якога Алаіза пакуль мала ведала, Роза з Аняю. Усіх сабралася чалавек з пятнаццаць. Па тым, як людзі трымаліся паміж сабою, гаварылі, жартавалі, было відаць, што збіраюцца яны тут не ўпершыню.

«Не інакш, як палітычная сходка,— падумала Алаіза.— Ну, канечне,— азіралася яна.— Вунь і вокны завешаны, і вартавы, Іван Лыкаў, на ганку».

Яна не памылілася. Калі сабраліся, мусіць, усе, каго чакалі, доктар Полазаў паклаў на стол тоўстую кнігу ў скуранай вокладцы. «Біблія» — было выціснута на ёй вялікімі залатымі літарамі. Але каго-каго, а Алаізу гэтая вокладка не ўвядзе ў зман.

Калі доктар Полазаў адгарнуў «біблію», там аказаліся лісткі з дробненькімі, не вельмі выразнымі літарамі, зусім не такімі, якімі друкуюць свяшчэнныя кнігі. І тое, што пачаў чытаць Полазаў, было далёка не святое. Доктар Полазаў чытаў выдадзеную ў Лондане брашуру аб падзеях у Расіі.

З таго дня Алаіза пачала прыходзіць то да доктара Полазава, то да доктара Гарэліка, які жыў у Нова-Вілейцы і ў якога збіраліся служачыя лячэбніцы. Чыталі нелегальную літаратуру, заводзіліся цікавыя размовы. Аднойчы загарэлася спрэчка аб партыях, аб іх праграмах, аб тым, якую задачу кожная партыя ставіць перад народам.

— Я належу да Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі,— гаварыў доктар Полазаў.— У нас, у рускіх сацыял-дэмакратаў, ёсць свая праграма. Мы лічым, што рэвалюцыя ў Расіі павінна быць



пралетарскай. Што пралетарыят павінен узяць уладу ў свае рукі. Мы ведаем, што нашы аднадумцы ёсць і ў іншых партыях — у сацыял-дэмакратаў Польшчы, Літвы. Яны складаюць там левае крыло. Але ёсць у гэтых партыях і правыя элементы, яны імкнуцца абмежаваць рух мас рамкамі рэвалюцыі буржуазнай. На першы план яны выстаўляюць нацыяналістычныя інтарэсы. Нам, рускім сацыял-дэмакратам, варожы як шавінізм, так і нацыяналізм. Мы — за свабоду для ўсіх народаў. Наш лозунг — «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

— А як я ведаю, проша пана,— далікатна запярэчыў доктар Тамашэвіч, пухленькі, як булачка, з ружовымі шчокамі,— то ў расійскіх сацыял-дэмакратаў таксама няма згоды. Бальшавікі... меншавікі...

— А мы і не хаваем нашай нязгоды з меншавікамі. Наадварот, выкрываем іх апартуністычную палітыку,— адказваў Тамашэвічу доктар Полазаў.— Меншавікі ўсю надзею ўскладваюць на буржуазію. А мы, бальшавікі, толькі пралетарыят лічым да канца рэвалюцыйным класам. І, звярніце ўвагу, яны — «меншавікі»... Гэта значыць, што іх менш!

— Я думаю, што першая задача рэвалюцыі — знішчыць царызм,— уключыўся ў спрэчку доктар Сільвановіч.— Звергнуць самаўладдзтва. Устанавіць дэмакратычную рэспубліку!

— Бальшавікі таксама кажуць, што першая задача нашай рэвалюцыі — знішчыць царызм,— зноў загаварыў Полазаў.— Яны падтрымліваюць і нацыянальны рух палякаў, літоўцаў, беларусаў. Але бальшавікі глядзяць наперад. Для іх буржуазная рэвалюцыя, такая, як былі на захадзе Еўропы, не апошняя мэта. Яны сцвярджаюць неабходнасць рэвалюцыі сацыялістычнай.

Пасля спрэчак часта наступала разрадка. Жартавалі. Асаблівым майстрам на жарты быў доктар Сільвановіч. Ён сыпаў імі, як з мяшка. Адкуль толькі і браліся!

— Ведаеце,— пачынаў ён,— хутка ў Расіі насельніцтва павялічыцца ўдвая.

— Чаму? — пытаўся нехта, і ўсе з затоенымі ўсмешкамі чакалі адказу.

— Бо за аднаго бітага двух нябітых даюць.

Смяяліся.

А Сільвановіч пачынаў ужо новы жарт.

Дні праз тры пасля балю, на якім была Алаіза з доктарам Сільвановічам, яна зноў ішла да доктара Полазава на сходку. Быў цёплы вечар канца красавіка, калі вясна сáма ўбіраецца ў сілу, калі дол ужо ўкрывае зялёная трава, калі пупышкі на дрэвах, поўныя нецярплівай сілы жыцця, гатовы вось-вось лопнуць, узарвацца, выпусціўшы на свет прагную на рост зеляніну лістоў.

Алаіза ішла паўз драўляны плот, за якім было поле, далей лес і каля яго невялічкая вёсачка — некалькі цёмных хат з высока ўзнятым над імі жураўлём калодзежа. За лес апускаўся чырвоны шар сонца, фарбуючы ў ружовы колер лёгкія аблокі, якія плылі ў сіняй высі неба, кладучы водсвет на зямлю, на стрэхі хат, на ствалы дрэў тут, у парку. У гэтым святле ўсё здавалася поўным асаблівай веліччы і хараства. І ў душы з'яўляліся яркія, як і гэтае святло, пачуцці і жаданні, хацелася рабіць нешта добрае, значнае, вартае гэтага бясконцага ў сваім аднаўленні жыцця.

Ды раптам на дарожцы, якая ішла паўз агароджу, паказалася чалавечая постаць. Яна рушыла насустрач Алаізе. У бальнічным халаце, у зімовай шапцы, якая неяк крыва сядзела на галаве. Мужчы-

на ішоў, згорбіўшыся, чапляючыся нагой за нагу, рукі яго нязграбна целяпаліся. Ён нагінаўся, нечага шукаў на зямлі, нешта знаходзіў, клаў у кішэню і ішоў далей. Зноў нагінаўся, зноў нечага шукаў. Калі ён быў блізка ад Алаізы, яна ўбачыла і яго твар з адвіслаю губою, з пустымі, неразумнымі вачыма. Нейкі хворы выйшаў з корпуса і прывалокся аж сюды. Ходзіць, нечага шукае.

І Алаізе стала да болю крыўдна, што веліч, прыгажосць прыроды можа існаваць побач з гэткім вось чалавечым няшчасцем. Што гармонія, веліч прыроды існуе побач з брудам і несправядлівасцю ў чалавечай сям'і. Што самы адметны, самы найлепшы твор прыроды — чалавек яшчэ бывае такі бездапаможны.

Яна схамянулася — ці не спазнілася на чытанне. Нядобра, калі хто прыходзіць пазней, перабівае ўвагу іншых.

Але яна не спазнілася. Доктар Полазаў яшчэ не паклаў на стол сваю «біблію». Ды нешта сёння і не спяшаюцца чытаць. Мужчыны кураць, нешта даказваюць адзін аднаму.

— Браточкі, можа б вы не курылі...— просіць іх Роза Малкус.— Вокны завешаны, патруцімся.

Нарэшце доктар Полазаў садзіцца на сваё месца, але не вымае ніякай кніжкі. Сашчапіў пальцы, аж пабялелі пазногці.

— Вось што, калегі...— пачаў ён.

Усе насцярожыліся, бо ў тоне доктара Полазава было нешта незвычайнае, урачыстае.

— Мы тут з вамі збіраемся, чытаем. Вучымся палітычнай граматнасці, так сказаць. Але я па настроі ўсіх бачу, што гэтага нам ужо замала. Што ўсе мы здольныя на большае... Што ўсе мы хочам дзеяння, работы,— абвёў ён усіх жывым, энергічным позіркам.

— Я даўно казаў, што мы — сіла, што мы — арганізацыя! — падаўся да Полазава доктар Сільвановіч.

— Канечне!

— Даўно пара! — загудзелі галасы.

— Наша лячэбніца павінна стаць цэнтрам рэвалюцыйнага руху ў Нова-Вілейцы,— устаў доктар Сільвановіч.— Мы павінны арганізоўваць забастоўкі на заводах Поселя, на фабрыцы Мозара. Рабочыя настроены па-баявому. Мы нядаўна з фельчаркай Пашкевіч былі сведкамі такога энтузіязму...

— Трэба выкарыстоўваць нашу залу для мітынгаў... Каб да нас збіраліся з усёй Нова-Вілейкі,— узняўся і фельчар Эйляшэвіч.

— Можна з Вільні запрашаць дакладчыкаў...— падтрымала яго Алаіза.

— Раздаваць пракламацыі...

— Агітаваць словам...

— Дружыну...— адна за адной чуліся прапановы.

— Пачакайце, цішэй! — стрымліваў усіх доктар Полазаў, але, відаць, быў задаволены, што іскра, якую ён кінуў у гэты гурт, так хутка ўспыхнула полымем.— Я бачу, што ўсе мы думаем аднолькава. У часы, калі ў Расіі адбываецца рэвалюцыя, мы не можам быць яе пасіўнымі прыхільнікамі.

— Так!

— Згода!

Было гэта нечакана. Нечакана і радасна. Тое, што адчувалі яны, усе, кожны паасобку, што трывожыла, хвалявала ўсіх, але, можа, не было яшчэ выразнаю думкаю, цяпер набывала акрэсленасць, выказвалася ўголас. Яны ішлі да гэтага праз свае зборы, чытанні. Яны, магчыма, сапраўды ўжо былі арганізацыяй. Толькі час патрабаваў ад іх іншых формаў работы.



— Нам трэба выбраць сакратара,— зноў жэстам просячы ўсіх быць цішэй, сказаў Полазаў.

З хвіліну ўсе прыглядаліся адзін да аднаго.

— Хай будзе Тацяна Краінская,— сказаў доктар Гарэлік.

— Тацяну!..

— Тацяну Краінскую!..

Тацяна пачырванела. Ёй, відаць, было і нечакана і прыемна, што людзі давяраюць важную работу.

І зноў зашумелі прыглушаныя галасы. Вызначалася праграма арганізацыі, строіўся план яе работы.

План дзейнасці арганізацыі быў прыняты ўсімі з энтузіязмам. Яго яшчэ дапаўнялі, распрацоўвалі. Гаварылі, што адной з задач арганізацыі павінна быць яе пашырэнне: трэба ўцягваць у яе новых членаў. Што прысутныя тут таварышы гэта — ядро, камітэт арганізацыі. Ад таго, якой яна будзе па колькасці, будзе залежаць і маштаб яе работы.

Доктар Полазаў сказаў між іншым:

— Лічу, што нам і самім яшчэ трэба вучыцца. Разабрацца як след у тэорыі рэвалюцыі. Мы павінны і далей наладжваць сумесныя чыткі. Вывучаць рэвалюцыйную літаратуру.

«Так, канечне,— думала Алаіза.— Чытаць, чытаць, вучыцца...»

— Трэба знаёміцца з вопытам Парыжскай камуны,— гаварыў Полазаў.— У мяне ёсць мемуары генерала Камуны Клюзэрэ «Пра барацьбу на вуліцах»,— выняў ён з шуфляды стала жоўтую кніжачку.

«Клюзэрэ... генерал Камуны,— думала Алаіза.— Цікава, трэба будзе абавязкова пачытаць...»

Прага пазнання новага авалодвала ёю. Яна цяпер была ўдзячна лёсу, які звёў яе з гэтымі людзьмі. Яна цяпер ведала, што ад іх пачэрпне шмат патрэбнага, такога, чаго не ведала дагэтуль, высветліць шмат з таго, што было ёй не да канца зразумела.

І зноў прыйшло прагнае жаданне пісаць самой. Выказваць свой настрой, свае пачуцці. А яны кіпяць, шукаюць выйсця.

У гэты вечар яна доўга не магла заснуць. Прыслухоўвалася да цішыні ў двары і ведала, што цішыня гэта зманлівая, што яна кожную хвіліну можа ўзарвацца людскім пратэстам. Як зманлівай магла паказацца суседзям і цішыня ў яе пакоі. А тут жа рвецца, грыміць яе сэрца. Чаго б хацела яна, Алаіза? Яна б хацела...

*...у неба хваляй здаць,*
*Украсці сонца, зноў спусціцца*
*І больш свету людзям даць.*
*Прыгарнуць усё ў дарозе,*
*Каплю шчасця, долі ўліць,*
*Думаць ўсюды аб народзе,*
*Родны край усюды сніць...*

Складваўся новы верш.

## XX

Белы халат Алаізы ў чарнаце цэха быў вельмі незвычайнаю плямаю, і рабочыя азіраліся на яе, як на нейкае дзіва. Яна прыкмеціла нават некалькі ўхмылак і смяшлівыя вочы маладога хлопца-рабочага. Ёй крыху прыкра было ад гэтага. Яна лепш прый-

шла б сюды ў якім простым убранні, але для ролі, якую яна павінна была тут выканаць, халат быў неабходны.

Шукаючы дарогі да рабочых завода Поселя, Алаіза на пасяджэнні арганізацыі прапанавала паслаць яе на завод нібы з аглядам санітарнага стану ў цэхах. Такая ідэя ўсім спадабалася, і доктар Палазаў назаўтра заявіў упраўляючаму завода Поселя Гросу, што прышле з бальніцы да іх на абследаванне фельчара.

Іван Лыкаў сказаў Алаізе, што там працуе рабочы Кайлюнас, якому можна даверыцца, перадаць пракламацыі. Сам Кайлюнас не мог зрабіць гэтага, бо ў апошні час начальства вельмі сачыла за ўсімі, асабліва за тым жа Кайлюнасам. У гарадавога Нова-Вілейскай паліцыі Жылевіча Кайлюнас быў на асаблівай заметцы як бунтар. Жылевіч ведаў, што ніводнае выступленне рабочых завода Поселя не абыходзілася без актыўнага ўмяшання Кайлюнаса.

Алаіза з Тацянай Краінскай, закрыўшыся вечарам у канцылярыі бальніцы, надрукавалі на машынцы штук сто пракламацый, у якіх заклікалі рабочых баставаць, а трэцяга мая сабрацца на маёўку за гарадскімі могілкамі. Алаізе трэба было знайсці спосаб перадаць гэтыя лісткі.

Яшчэ ідучы на завод, яна ведала, што можа там убачыць, якая там санітарыя. Тое самае, што ў Суравіча, у Менке. Ды і не наводзіць чысціню ішла яна туды. Ведала, што гэта проста немагчыма. Але, ходзячы па цэхах, яна павінна была рабіць выгляд, што цікавіцца толькі тым, у якіх санітарных умовах працуюць рабочыя. Да таго ж, у апошні час яна пачала на многае глядзець сапраўды доктарскім вокам. І тое, што яна ўбачыла, ужо не магло пакінуць яе абыякавай.

Бруд. Чарната. Земляны ток пад нагамі. Нямытыя маленькія вокны пад самай столлю ледзь прапускаюць дзённае святло. Закураныя цагляныя сцены, смярдзючае паветра — поўная адсутнасць вентыляцыі. І холад. Страшэнны холад. Ён прабіраў да касцей. Пакуль Алаіза прайшла па цэхах, у ёй, здаецца, аж застыла кроў. А ў такім холадзе трэба было працаваць дванаццаць гадзін! Гэта так холадна было вясной. Што ж тут рабілася ў маразы?!.

У цэхах шумелі машыны, ляскала жалеза, стукалі малаткі, вішчалі напільнікі. Рабочыя ў чорнай закуранай вопратцы, з чорнымі ад пылу і копаці тварамі, худыя, панурыя, нешта рабілі кожны на сваім месцы, не зважаючы ні на бруд, ні на смурод, ні на холад, мусіць, прывыкшы да ўсяго гэтага.

Асабліва балюча было Алаізе глядзець на падлеткаў, амаль дзяцей. У палатаных кашулях, з расхрыстанымі худымі грудзінамі. Ім бы бегаць дзе па полі, па лесе, ганяць галубоў, дыхаць чыстым паветрам ці вучыцца ў школе. Маладыя гады, свята жыцця чалавечага, з'есць бруд і цяжкая праца ў заводскіх цэхах.

Шкада было і кабет. Напінаючыся з усёй сілы, дзве жанчыны цягнулі вялізную драўляную скрынку, поўную жалезнага ламачча. Па тварах жанчын было відаць, як ім цяжка. Скрынка скрабла па земляной падлозе, пакідаючы за сабою доўгі след.

Цераз двор, завалены смеццем і ламаччам, Алаіза прайшла ў кантору завода. Там за сталамі сядзела некалькі чалавек. Хто ўнурыўшыся ў паперу, хто ляскаючы на лічыльніках. Яны на міг адарваліся ад сваіх спраў, з цікавасцю паглядзелі на Алаізу.

— Мне трэба ўпраўляючы! — голасна сказала яна.

Адзін са служачых, з рэдкімі рудымі вусамі і нібы заспанымі вачыма, паказаў на дзверы, што вялі ў другі пакой.



— Я накладу на вас штраф, пан упраўляючы,— ледзь пераступіўшы парог, выпаліла Алаіза.

Упраўляючы, немец з белымі рэдкімі, гладка зачасанымі назад валасамі, павольна ўзняўся з-за стала.

— А-а, што... Пані доктарка знайшла беспарадак? Бітэ, бітэ, зітцэн зі зіх,— замітусіўся ён, падстаўляючы Алаізе крэсла.

Алаіза не села.

— Беспарадкаў у вас шукаць не трэба. Яны вось тут,— падняла Алаіза руку ўверх далоняй.— Дзе пан Посель? Я б з ім хацела пагаварыць.

— Пан Посель у Берліне. Вернецца праз месяц,— стараўся быць стрыманым і далікатным Гросман.

— Ну што ж, калі пана Поселя няма, то за ўсё будзе трымаць адказ пан Гросман, як упраўляючы.

— Але варум, варум? Чаму?

— Як санітарны інспектар, я складу пратакол. Чаму ў вас у цэхах няма вентыляцыі? За два гады работы ў вас можна сухоты атрымаць. А бруд... А холад... Сырасць, цвіль. Чаму рабочыя без медыцынскага нагляду? Раны перавязваюць бруднымі анучамі...

Гросман паскроб шчаку, перасмыкнуў плечуком.

— Пані доктарка — інтэлігентная асоба,— загаварыў ён зноў пачціва, стараючыся ўлагодзіць фельчарку,— павінна разумець: вайна, малы попыт на тавар, малы прыбытак... Донар вэтар! — закончыў ён лаянкаю напаўголаса.

— Вашы прыбыткі нас не цікавяць. Рабочы не скаціна.— І, крышку падумаўшы, нібы толькі цяпер гэта вырашыла зрабіць, хоць такі план ужо быў у яе абгавораны з Палазавым, Алаіза аб'явіла: — Я прашу вас выдаць мне бінты, ёд, вату. Няхай усе, у каго параненыя рукі, прыходзяць да мяне. Я зраблю перавязкі.

— Бітэ, бітэ,— адразу згадзіўся Гросман.— Прашу... Мы ўсё зробім,— замітусіўся ён.

Гросман папрасіў прабачэння і выслізнуў за дзверы. Алаіза нарэшце села, глыбока ўздыхнула. «Кілбаснік,— у думках аблаяла Гросмана.— Ты ў мяне паскачаш, «донарвэтар»!

Праз якую гадзіну Алаіза сядзела ў пакойчыку, наскора абсталяваным пад медыцынскі пункт. Чакала, хвалявалася. Ці прыйдуць да яе рабочыя? Прывыкшы да нечалавечага жыцця, да сваіх пакут, яны недаверліва ставіліся да тых, хто нібыта імкнуўся ім памагчы.

Але вось нарэшце прыйшоў адзін. Гадоў пад сорак, у чорнай кашулі з вялікаю сіняю латаю на грудзях, у зімовай шапцы, з якой тырчала брудная вата.

У рабочага была моцна пакалечана рука. Рана гнаілася, вакол яе распаўзлася чырвоная пухліна.

— Дзе ж гэта вы так? — спагадліва спытала Алаіза.

— Ды от, секанула зубцом. Пас саскочыў,— абыякава пазіраючы на сваю руку, адказаў рабочы.

— Калі ж гэта было?

— Дзісь чацвер...— пачаў успамінаць рабочы.— От, здаецца, у пятніцу, на тым тыдні... Ну але, як цяпер успомніў, што перад суботаю было...

Алаіза прамыла рану спіртам, перавязала.

— Як ваша прозвішча? — спыталася яна.

— Кудзеля... Пранук Кудзеля,— адказаў рабочы.

Нешта ў гэтым чалавеку было блізкае Алаізе. Можа, яго мова, інтанацыя, няўлоўна асаблівая, як у яе родных мясцінах.

— Скуль жа вы родам? — спыталася яна.

— Я? З Лідчыны,— адказаў Пранук Кудзеля, мусіць, дзівячыся, навошта спатрэбілася доктарцы ведаць, адкуль ён.

— Дык мы ж з вамі землякі! — узрадавалася Алаіза.— Я з-пад Васілішак!

Пранук Кудзеля ўсміхнуўся.

— Я бо гляджу, што за доктарка такая, што па-простаму гаворыць...

— Не па-простаму, а па-беларуску... І ты па-беларуску гаворыш, бо сам беларус. І даўно ты ў Поселя робіш?

— Ды ўжо гадоў з дзесяць. Нас братоў было шэсцера. Дзяліліся-дзяліліся, але, як ні пакруціш, некаму і скраўка не выпадае. Вось я і пацёгся на рабочы хлеб, бо з братоў малодшы.

— Ну, і як хлеб? Смачны?

— На сабаку такі хлеб... Не хлеб, адна хвароба...

— Хвароба, кажаш,— на хвілінку задумалася Алаіза. Ёй раптам захацелася даць лістоўку Прануку Кудзелю, але і вагалася: як-ніяк, трэба было берагчыся. Ды не можа быць, каб гэты чалавек выдаў яе. Змучаны рабочы, зямляк... І яна адважылася.

— Хвароба, кажаш, а не работа?.. Дык на табе рэцэпт ад тваёй хваробы. Як будзеш рабіць тое, што тут напісана, ачуняеш...

І пайшлі да Алаізы рабочыя. Мужчыны, жанчыны. З парэзанымі, абабітымі рукамі, нагамі. А зайшоўшы да яе, ужо скардзіліся на ўсе свае хваробы. У каго балела ў грудзях, у каго ў жываце рэзала. Шмат было скурных хвароб. Людзі задзіралі свае чорныя лахманы, паказвалі худыя, аж сінія, бакі, спіны.

Не кожнаму яна магла памагчы, не кожнаму магла і ўстанавіць хваробу. Тады абяцала чалавеку, што прыйдзе да яго дахаты, яшчэ раз паглядзіць, пашукае лякарства, якое яму трэба. Але большасць хвароб была ад недаядання, ад непасільнай працы. Анемія, дзістрафія, кароста... Каб вылечыць такія хваробы, трэба было мяняць умовы жыцця людзей. Трэба было даць ім добры харч, чыстае паветра, хоць часовы адпачынак.

Пад канец дня прыйшоў да яе Кайлюнас, бялявы хлопец з жывымі карымі вачыма, рухавы, быстры. Алаіза не раз бачыла яго з Іванам Лыкавым, ён прыходзіў да Лыкава ў бальнічную майстэрню.

— Што, і ты скалечыўся? — спытала ў яго Алаіза.

— Саўсем руку адсек, спасіце, доктарка,— зрабіў трагічную міну Кайлюнас.

Алаіза ўзялася за анучку, каб развязаць.

— Вой, вой!..— заенчыў хлопец.

Алаіза асцярожна пачала здымаць перавязку, але калі зняла яе, Кайлюнас заварушыў чорнымі, запэцканымі пальцамі.

— Ой, лайдак! — нязлосна вылаяла яго Алаіза.— Думала, ён і праўда скалечыўся...

— Хітрасць... Каб да вас папасці. Бо Донарвэтар ругаецца: усе работу пакідалі і да доктара пайшлі...

— Хто, хто лаецца? — перапытала Алаіза.

— Донарвэтар... Гросман... Упраўляючы. Яго ў нас так называюць, бо ён усё ругаецца: донарвэтар і донарвэтар..

— А,— засмяялася Алаіза, успомніўшы як і пры ёй у Гросмана выскачыла лаянка.— Я тут табе лістоўкі перадам,— панізіла голас Алаіза.— Ты зможаш раздаць рабочым? Толькі асцярожна, каб не папаўся.

— Знаю, знаю, мне Лыкаў сказаў,— шэптам адказваў ёй Кайлюнас.— А раздаць я раздам... Мне важна было, чтобы сюда іх прынесці, бо возле брамы ў мяне кожны дзень карманы... как это... обысківают...



Алаіза скоранька перадала Кайлюнасу пачак пракламацый.

— А з рукою тваёй што рабіць? — думала ўголас Алаіза.— Прыйдзецца, мусіць, перавязаць.

— Я магу яе о што-нібудь ударіць, каб кроў пайшла,— падаў ідэю Кайлюнас.

— Не пляці абы-што... Абыдзецца,— паклала Алаіза белы бінт на яго здаровую руку.

— Вот перахітрылі мы Донарвэтара,— цешыўся Кайлюнас.

— А штраф я на яго ўсё роўна накладу,— гаварыла Алаіза, разразаючы канец бінта нажніцамі і завязваючы канцы.— І пратакол складу. І прыйду праверу. Калі не зробіць вентыляцыю ў цэху, то з яго будзе яшчэ большы штраф сысканы.

## XXI

Раніца трэцяга мая выдалася ясная, сапраўды майская. З вышыні ўзгорка, на якім стаяла бальніца, Нова-Вілейка ўнізе выглядала, як памытая. Блішчалі бляшаныя дахі камяніц. Шыбы адбівалі сонечных зайчыкаў. То там, то тут пракідаліся кавалкі зямлі з яркаю травою. Дрэвы стаялі, нібы пакрытыя жаўтаватым пухам,— гэта пупышкі выкідалі першую квецень, першыя дробненькія лісткі.

Алаіза прыбралася па-святочнаму. Апранула белую блузку, чаравікі з высокаю шнуроўкаю. На плечы накінула шаль. Хацела падкрэсліць урачыстасць сённяшняга дня.

З ёю ішла на маёўку і Тацяна Краінская. І Тацяна прыбралася. Была ў квяцістай сукенцы, у белых пантофлях і чорных шаўковых панчохах. Алаізе яна сёння здалася проста прыгожай.

Цяпер яны спускаліся па дарозе з узгорка ўніз, да Нова-Вілейкі.

Калі праходзілі мост праз Вільню, якая абягала гарадок, Алаіза спынілася, нахілілася цераз парэнчы да вады, што аж рвалася, гудзела пад мостам.

Вільня была цяпер шырокая, бурная. Паток нёс з сабою нейкія трэскі, кавалкі леташняга моху, сухія галіны.

— Да Віліі спяшаецца,— ласкава сказала Алаіза.— А там — праз Нёман і да мора... Ты ведаеш,— павярнулася яна да Тацяны, якая таксама спынілася на мосце і таксама пазірала на быстрыя воды ракі,— ніколі не бачыла я сапраўднага мора, толькі Фінскі заліў пад Пецярбургам, а ўяўляю яго, як жывое. І так хочацца мне ўбачыць яго. Гэта ж, мусіць, такое хараство... Асабліва, калі бура... І скалісты бераг... Хвалі б'юць у скалы, грымяць грымоты... Гусцеюць хмары... А горы хваль уздымаюцца, рвуцца, скачуць, як шалёныя. А над імі чайкі. Трывожна крычаць... Б'юць крыламі...

Тацяна Краінская, якую Алаіза сваімі марамі настроіла, мусіць, таксама на рамантычны лад, раптам пачала дэкламаваць:

*Как хорошо ты, о море ночное,*
*Здесь лучезарно, там сизо-темно...*
*В лунном сиянии, словно живое,*
*Ходит и блещет, и дышит оно...*

— Гэта Цютчаў,— сказала Алаіза.— А мне пра мора больш падабаецца вось гэта: «Синим пламенем пылают стаи туч над бездной

моря. Море ловит стрелы молний и в своей пучине гасит. Точно огненные змеи вьются в море, исчезая, отраженья этих молний!

— Буря! Скоро грянет буря!..»

— А гэта хто? — спытала Тацяна, якая з цікавасцю слухала.

— Гэта? Максім Горкі...

Яна больш нічога не сказала Тацяне. А каб раскрыла сваю душу далей, то мусіла б прызнацца, што гэта песня Горкага не дае спакою яе ўяўленню. Што і ёй даўно хочацца напісаць верш пра мора, таксама алегарычны. Пра рэвалюцыю, уздым якой яна хоча параўнаць з марскою бурай. Але пра гэта яна не сказала Тацяне.

Да пачатку маёўкі яшчэ быў час. Яны знарок выйшлі рана, таму што Алаіза хвалявалася, не магла ўседзець дома, каб прыйсці раней, падрыхтавацца, сустрэць рабочых.

Чакаючы, пакуль збярэцца народ, яны гулялі па могілках. Хадзілі паміж акуратна прыбраных магіл, чыталі надпісы.

— І тут няроўнасць,— сказала Тацяна Краінская, паказваючы рукою на струхлелы праваслаўны крыж.— У адных — мармуровыя помнікі-капліцы, а ў іншых ужо і самі магілы развальваюцца. Вось скора заваліцца гэты крыж, і знаку не застанецца, што жыў на свеце чалавек...

Скора яны ўбачылі на дарожцы, якая вяла ад горада да могілак, купку людзей. Гэта ішлі мужчыны, яшчэ здалёк можна было пазнаць, што просты народ, але апрануты па-святочнаму, у чыстых кашулях.

— Ідуць,— сказала Алаіза.

Варта было ёй апынуцца твар у твар з людзьмі, убачыць скіраваныя на сябе вочы, улавіць насцярожаную цішыню чакання яе слоў, як яна ўся нібы падцягвалася, загаралася ўнутраным агнём. Да яе ўраз прыходзіла патрэбнае слова, патрэбная інтанацыя, і хутка яна і людзі, якія слухалі яе, зліваліся нібы ў адно цэлае.

Так было і цяпер. Тое, што яна прыходзіла да іх на завод, што некаторым з іх перавязвала раны, нібы яшчэ больш зблізіла яе з гэтымі людзьмі. І яна адчувала іхні давер да сябе. Яны мусілі ёй верыць.

І яна гаварыла.

А калі яна скончыла прамову словамі «Далоў цара!», «Далоў самаўладства!» — усе дружна, натхнёна пляскалі ей.

Пасля выступаў Кайлюнас.

— Мы на нашем заводзе дзелаем косы,— казаў ён.— Косамі людзі косяць, но оні могуць прыгадзіцца не только для гэтага. Каса может быць нашым оружыем. Касою мы можем срезаць голову самому цару! На заводзе Поселя дзелаюць яшчэ і цвікі. Гэтыя цвікі трэба загнаць у гроб царызма!

Пасля выступлення Кайлюнаса рабочыя заспявалі Марсельянку. Пачалася песня асцярожна. Яе зацягнуў нясмелы голас аднекуль ззаду. Да першага голасу далучыўся другі, да другога трэці, а там яшчэ і яшчэ. Песню падхапіла і Алаіза. І Тацяна Краінская спявала. Яе вялі не вельмі дружна. Не ўсе ведалі словы. Ды кожны і спяваў неяк па-свойму. Чуліся польскія словы, Кайлюнас спяваў па-літоўску. Але гэта была песня барацьбы, песня свабоды, і сэнс яе быў зразумелы ўсім. Усіх яднаў яе напеў.

Рытм, мелодыя песні закранулі ў Алаізы тыя струны, якія заўсёды былі напяты ў ёй, якія адгукаліся, варта было да іх хоць злёгку дакрануцца. Яны звінелі, калі Алаіза ўспамінала родную вёску, і лес, і поле, калі ўспамінала нават Курту, навязанага каля будкі.



Яны грымелі, гэтыя струны, калі Алаіза бачыла змучанага, галоднага чалавека, беспрытульнае дзіця. Яны грымелі, ледзь не рваліся то ад гневу, то ад замілавання. І калі звінелі, грымелі гэтыя струны ў яе сэрцы, то з грудзей рваліся словы.

Рука прасіла паперы, чарніла. Слоў, якія яна хацела выліць з душы, жыло ў ёй ужо многа. Пакуль раскіданых, не сабраных, не выстраеных пад каманду рытмаў і рыфм, але яны ўсё турбавалі яе, шукаючы гэтага свайго строю, аднаго, вечнага месца, з якога ўжо нельга было б яго скрануць.

*Цяпер, брацця, мы з граніту,*
*Душа наша з дынаміту,—*

выстрайваліся яны нарэшце.

А ў грудзі біліся новыя вобразы, словы. І яны, як салдаты, станавіліся ў строй, займалі свае месцы.

*Мора вуглем цяпер стала,*
*Мора з дна цяпер гарыць,*
*Мора скалы пазрывала,*
*Мора хоча горы змыць.*

Ёй хацелася зараз жа, цяпер жа зачыніцца ў сваім пакойчыку, пакласці перад сабою чысты ліст паперы і выліць на яго ўсё, што сабралася ў сэрцы, што жыве ўжо ў ёй, шукае выйсця.

Вечарам яна сапраўды сядзела за столікам у сваім пакоі. Пад столлю цьмяна гарэла электрычная лямпачка, і ліст, які ляжаў перад ёю, здаваўся жоўтым. Алаіза пісала верш. Той верш, які вось ужо колькі часу марыла напісаць — пра мора і пра буру на ім. Разгневанае, бурнае мора было сімвалам рэвалюцыі народнай. Магутныя хвалі білі ў бераг. Грымелі грымоты, палілі маланкі. Гэта быў бой не на жыццё, а на смерць.

*Такі бой вякамі жджэцца,*
*Такі бой гігантаў дасць,*
*У такім баі толькі грэцца,*
*У такім баі толькі пасць!*

І пад загалоўкам верша «Мора» яна напісала — «Рэвалюцыя народная».

## XXII

— Доктар Сільвановіч, што б вы рабілі, каб я раптам памерла?

Сільвановіч з цікавасцю паглядзеў на Алаізу, зразумеў, што яна гаворыць несур'ёзна.

— Пахавалі б,— уздыхнуў ён, паддаючыся яе тону.

— І не шкада б вам было?

— Чаму не шкада, шкада. Але што ж зробіш! Аднак чаму гэта вы надумалі паміраць? Такое хараство кругом — цеплата, сонейка.

Яны сядзелі на лавачцы каля свайго корпуса, назіралі, як гулялі хворыя. Дзень сапраўды быў цудоўны. Цёпла грэла сонца. Парк шапацеў маладою майскаю лістотай.

— Цеплатою і паміраць лепш. З кветкамі пахавалі б... Ну, а на маё месца вы ўзялі б новага чалавека? Праўда?

— Свята месца пуста не бывае,— згадзіўся Сільвановіч.

— А каб я не памерла, а толькі захварэла? Што б вы тады рабілі?

— Тады лячылі б,— як надакучліваму дзіцяці, адказаў Сільвановіч.
— А на маё месца ўсё роўна знайшлі б некага? Я ачуняла б, і тут мне навіна — доктару Сільвановічу служыць маладая фельчарка...
— Не, не ўзялі б, пачакалі б, пакуль старая фельчарка ачуняе,— супакоіў яе Сільвановіч.
— О, вось гэтага я і дабівалася,— узрадавалася Алаіза, нібы злавіўшы Сільвановіча на слове.
— То можа фельчарка не будзе круціць, а проста скажа, што ёй трэба,— прыхіліўся доктар Сільвановіч спіною да сцяны будынка. Ён паклаў рукі ў кішэні халата. Ва ўсёй яго постаці было задавальненне чалавека, які адпачывае, цешыцца мяккім сонцам, свежым паветрам.
— Трэба, доктар Сільвановіч, знікнуць мне на які тыдзень. Я Эйляшэвіча папрашу, ён за мяне работу зробіць. А доктар Сільвановіч хай адпусціць мяне... Каб ніхто асабліва не ведаў. Ну, нібыта я захварэла...
— А куды ж гэта вы навастрыліся? — прыжмураным вокам паглядзеў на Алаізу доктар Сільвановіч.
— У Маскву... На з'езд.
Доктар Сільвановіч з цікавасцю ўставіўся на Алаізу.
Падзеі апошніх дзён для самой Алаізы былі нечаканыя. Неяк прыехаў да яе Іван Луцкевіч. Яго прыезд здзівіў Алаізу. Не такімі яны былі сябрамі, каб Іван проста засумаваў па ёй і прыехаў у госці. Мусіць, нешта яму было патрэбна.
І Алаіза ўгадала. Пасля нязначнай размовы пра тое-сёе, пра новае месца Алаізы Іван загаварыў аб тым, што прывяло яго ў Нова-Вілейку.
— Ліга раўнапраўя жанчын у Вільні арганізоўвае вялікі сход. На сходзе выступяць жанчыны ад усіх партый. Толькі ад беларусак няма нікога. Думаю, што табе трэба выступіць. Ты ж і працуеш з жанчынамі...

Сход Лігі адбываўся ў клубе чыгуначнікаў. Насіў ён легальны характар, бо Ліга раўнапраўя жанчын існавала са згоды мясцовай улады, але прыйшлі на сход і прадстаўнікі іншых рэвалюцыйных партый, каб выкарыстаць яго для сваіх мэт.
На сходзе Алаіза сустрэлася са Сцяпанам, якога даўно не бачыла. Яна ледзь пазнала яго — Сцяпан адгадаваў пышныя вусы.
— А божачка, што за маскарад! Вы ж на сябе не падобны! — пляснула яна рукамі.
— А гэта мне і трэба,— разгладжваў свае вусы Сцяпан.— Ад паліцыі хаваюся, дык гэтыя хвасты то адгадую, то пагалю. Але дзе ж вы дзеліся? Колькі часу не бачыў!
— Я вас таксама шукала, хацела паказаць, дзе цяпер жыву, але і вы зніклі,— гаварыла Алаіза.
— Я ж кажу — ад паліцыі хаваюся. Ды былі злавілі. Толькі — я ўцёк з арыштанцкай. Не знікайце адразу пасля сходу, я вас праводжу, пагляджу, дзе вы цяпер жывяце,— сказаў Сцяпан, спяшаючыся некуды ісці, бо яго клікалі.
На сход прыйшлі і фабрычныя работніцы, і інтэлігенцыя — настаўнікі, дактары. Але панаходзіла і шмат багацеек — жонак і дачок заводчыкаў, фабрыкантаў. Яны былі пышна апранутыя, у шыкоўных капелюшах. У тым баку залы, дзе яны паселі, паблісквалі пацеркі і manісты з дарагімі камянямі.



Алаіза прывяла на сход сваіх дзяўчат. Амаль усе месцы ў зале былі занятыя, яны прыйшлі крышку пазней, і Алаіза забегала па радах, шукаючы, дзе пасадзіць сваіх падапечных. У тым баку, дзе сядзелі багацейкі, было некалькі вольных месцаў. Простыя работніцы трымаліся асобна, сваёй «палатаю».
Алаіза правяла дзяўчат, каб сесці. Яны нерашуча прабіраліся за ёю па радах, чапляючыся за пышныя спадніцы важных паняў. А Алаіза іх падбадзёрвала:
— Кася! Ванда! Маня! Сюды, сюды. Вунь вольныя крэслы.
Яна бачыла, што багацейкі моршчыліся, не вельмі, мусіць, падабалася ім такое суседства, але Алаіза рабіла выгляд, што не заўважае іх незадавальнення.
— Сядзіце,— загадала яна дзяўчатам, а сама пайшла туды, дзе збіраліся прамоўцы.
Алаіза пачала сваю прамову з таго, што работніц ашукваюць, калі абяцаюць ім дабіцца раўнапраўя праз буржуазную лігу.
— Вось тут сабраліся капялюшніцы,— паказала яна рукою на рады, дзе ў шыкоўных уборах расселіся жонкі фабрыкантаў са сваімі кавалерамі.— Вам з імі не па дарозе! Работніцы павінны запісвацца ў пралетарскую партыю сацыялістаў!
Алаіза пасля дзівілася, як гэта, нягледзячы на такое яе выступленне, ліга пасылала яе на з'езд жанчын у Маскву. Можа таму, што ад беларускіх жанчын больш не было каго паслаць. А можа лігаўцы не адважыліся выступіць супраць дэмакратычнай часткі сходу, якая ў адзін голас заявіла, што ў Маскву на з'езд трэба паслаць Цётку. Гуляючы ў дэмакратычнасць, лігаўцы хацелі накіраваць у Маскву прадстаўнікоў ад усіх нацыянальнасцей. І ад літоўцаў, і ад палякаў, і ад беларусаў. А можа такім чынам заігрывалі з ёю, хацелі перацягнуць на свой бок?
«Спадзявайцеся сабе на што хочаце,— думала Алаіза,— а я ведаю, што буду гаварыць на тым з'ездзе».
— Што ж, калі трэба, то трэба,— сказаў Сільвановіч, калі Алаіза растлумачыла яму, навошта ёй вольны тыдзень.— Думаю, што гэта ваша паездка не разыходзіцца з праграмаю дзеяння нашай арганізацыі. Паміж сабою будзем вас лічыць камандзіраванаю ад нас. і як што — выручым...
Быў і яшчэ адзін клопат, які трэба было ўладзіць. Алаіза не мела пашпарта. А без пашпарта ехаць у такую далёкую дарогу было рызыкоўна. Выручыла дэлегатка ад польскіх жанчын Марыля Кодзіс, немаладая кабета з мяккім, добрым тварам. У яе ў пашпарце была прапісана дачка Зося. Колькі гадоў той Зосі, у пашпарце не значылася, Алаіза ж выглядала молада, можна было паверыць, што Марыля Кодзіс — яе маці.
Так яны ўдваіх і адправіліся ў дарогу.
Недзе пад Смаленскам у іх вагон увайшоў кантралёр, а з ім двое жандараў. Правяралі дакументы. Марыля Кодзіс падала пашпарт. Сэрца ў Алаізы моцна забілася і тахкала ў грудзях, пакуль жандар, вялы, сонны,— гэта было ноччу,— гартаў пашпарт, глядзеў то на Марылю, то на Алаізу.
— Мамусю, гдзе тэраз естэсь мы? — знарок па-польску спытала ў Марылі Алаіза, робячы выгляд, што з цікавасцю ўглядаецца ў акно.
— Не вем, цурэчко,— адказвала Марыля.— Напэвно, блізко юж Москва.
Жандар аддаў пашпарт, кантроль пайшоў далей па вагоне. Алаіза з палёгкаю ўздыхнула, Марыля Кодзіс спадцішка перажагналася.

З'езд адбываўся на кватэры нейкай багацейкі на Разгуляі. У вялікай зале яе прыватнага дома сабраліся багата прыбраныя маскоўскія пані. І Алаіза адразу зразумела, што гэты з'езд зусім не тое, чаго яна чакала. Была тут, праўда, і працейшая публіка, такія самыя правінцыялкі, як яна, як Марыля Кодзіс, работніцы з маскоўскіх заводаў. Але гэта была меншая частка з'езда, і трымаліся яны ўсе асобна.

Пры рэгістрацыі дэлегатаў Алаіза запісалася як Зося Кодзіс. Яе сапраўднае імя стала вядома толькі пасля выступлення на з'ездзе.

Не чакаючы многага ад гэтага з'езда, Алаіза вырашыла выкарыстаць яго для таго, каб расказаць прысутным аб існаванні беларускага народа, беларускай працоўнай жанчыны: і работніцы, і сялянкі. Яна ведала, што для многіх, прысутных тут, само тое, што існуе беларускі народ, было адкрыццём. І яна імкнулася расказаць аб гэтым народзе, выклікаць спагаду да беларускай жанчыны, якая рве жылы на непасільнай працы.

Яна гаварыла прамову па-руску, гаварыла проста, што думала, што адчувала. І прамова яе спадабалася, яна скора зрабілася прыкметнаю асобаю на з'ездзе.

Пасля Масквы Вільня здалася спакойнай, ціхай і такой жа роднай. На кругу, дзе прымацоўваліся рэкламы, вісела аб'ява аб канцэрце вядомага музыканта.

«Няўжо прыехаў у Вільню? — не верыла сваім вачам Алаіза.— Трэба будзе схадзіць на канцэрт. Даўно не слухала добрай музыкі».

Валізка з кнігамі была цяжкаватая, але нічога, ужо дома.

Яна заехала да сястры, перакінулася некалькімі словамі, пакінула валізку і вырашыла сёння ж дабірацца ў бальніцу.

— Хай бы пераначавала,— упрошвала Стэфа.— Куды ты, позна ж ужо?

— Родненькая, не магу. Прыязджай ты да мяне, а то ў апошні час так мала з табою бачымся.

— Баюся я туды ехаць,— прызналася Стэфа.— Там жа вар'яты.

— Хо! — засмяялася Алаіза.— Мае вар'яты ціхія.

Стэфа з неахвотаю адпусціла сястру. Ды і Алаізе было шкада Стэфы. Вечна яна адна ды адна. Але нічога не зробіш, трэба ехаць.

Цягніка ў той бок сёння не было, пра гэта Алаіза даведалася яшчэ на станцыі. Яна кінулася на кірмаш, думала ўзяць там якую фурманку, ды і кірмаш ужо раз'ехаўся. Да Нова-Вілейкі цяпер можна было дабрацца толькі пешшу. І Алаіза вырашыла ісці.

Дарога была няблізкая, вёрст пятнаццаць, але ёй не цярпелася быць дома, даведацца, як там без яе было, ці не агледзеўся хто, што яна ад'язджала. І яна пайшла. Калі мінала цэнтр горада, яшчэ раз убачыла аб'яву з прозвішчам музыканта. І яшчэ раз вырашыла, што абавязкова сходзіць на канцэрт.

Успомніла, як у Пецярбурзе, калі выступаў які славуты артыст, яны начамі стаялі ў чарзе. Білеты былі вельмі дарагія, і пасля прыходзілася моцна эканоміць, сядзець на хлебе і вадзе.

Гады, праведзеныя ў Пецярбурзе, ужо адыходзілі ў прошласць, рабіліся прыемным успамінам. Яна цяпер успомніла Сымона з-пад Смаргоні, з далікатным прыгожым тварам і магутнага, як зубр. Продкі ў Сымона былі баявыя. Яго дзед у часе прыгону ўздымаў сялян на бунт. За гэта быў закатаваны да смерці. Сымон хацеў напісаць драму, галоўным героем якой быў бы яго дзед. Ён даверыў сваю патаемную думку Алаізе, і яна загарэлася яго намерам, пачала раіць, як лепш павярнуць сюжэт. Сымон прапанаваў ёй пісаць драму з ім разам.



І яны пачалі работу. Дзень у дзень сядзелі ў яе пакойчыку, пісалі, перапісвалі. Напісалі пяць карцін, дзве дзеі. Ды далей справа нешта не пайшла. Не хапіла, мусіць, вопыту, умення.

Сымон павяраў Алаізе ўсе свае таямніцы, расказваў нават, што мае ў Смаргоні дзяўчыну, дачку смаргонскага настаўніка. Сымон пісаў сваёй дзяўчыне лісты, а Алаіза дапісвала: «Верны друг вашага Сымона цалуе вас крэпка-крэпка».

Дапісвала, а самой пасля кожнага ліста рабілася сумна. Сумна, што ёй такога ніхто не напіша, не прышле. З хлопцамі, якія вучыліся разам з ёю на курсах, яе звязвала толькі сяброўства. Яе сябрам быў Ёсаль, які сам мог галадаць, але прынесці ёй білет на канцэрт Шаляпіна, пасядзець пры яе ложку, калі ёй нездаровілася. Яе сябар быў і рускі хлопец Уладзімір, якому яна памагала пасцігаць складанасць лацінскай і грэчаскай мовы, і маларус Сібіра, кудлаты, вялізны і рагатун, весялун, без якога ў іх кампаніі было сумна.

А наогул у іх тады было весела, хоць і галадна, і холадна. Шчырасць была, таварыскасць.

Алаіза даўно пакінула ўжо горад. Яна разулася, каб лягчэй было ісці, а чаравікі звязала шнуркамі і перакінула цераз плячо. Дарога бегла то полем, то праз лес, то апускалася ўніз, то ўзбягала на ўзгоркі. З узгоркаў перад Алаізаю на ўсе бакі раскрывалася даль. Былі відаць стрэхі самотнага хутара, сіні лес на гарызонце, адзінокі магутны дуб сярод поля.

Усцяж дарогі цвілі буйныя белыя рамонкі, чырванелі высокія сцяблы конскага шчаўя, як зорачкі, мільгалі ў зеляніне яркія пеўнікі, калываліся сінія званочкі.

Дарога была амаль пустая. Прагнаў хлопчык чародку гусей, паднімаючы пыл босымі нагамі, паважна прайшоў за кароваю мужык у падкасаных да каленяў штанах, і зноў нікога, ні наперадзе, ні ззаду.

Алаіза ішла лёгка, радуючыся цеплаце летняга вечара, удыхаючы пахі поля і лесу, там-сям скошанай травы, ад якой ішоў такі моцны і прыемны дух. Яна ўслухоўвалася ў цішыню, якая рабілася яшчэ харашэйшай ад стрекату конікаў, ад нечаканага крыку птушкі, што збіралася на начлег.

Заходзіла сонца. Вялізным распаленым кругам апускалася яно за лес, які сінеў наперадзе. Яно вельмі скора хавалася за высокія вершаліны, нібы лес усмоктваў яго. І калі сонца зусім патанула ў гушчыні дрэў, над лесам успыхнула зарава. Здавалася, за лесам, ці ў самой яго сярэдзіне, нешта загарэлася вялізным яркім агнём і водсвет гэтага агню ахапіў усё неба. Аднекуль на гэта зарава заплыло воблачка і зайграла на ім, як залатая рыбка. Рыбка плыла, варушыла плаўнікамі. І шкада было рыбкі, калі воблака пачало раставаць, расплывацца, губляючы форму.

Але доўга яшчэ пераліваліся ў небе сонечныя барвы, размалёўваючы берагі аблокаў, робячы іх падобнымі то на чароўны замак, то на невядомага звера з вогненнаю пашчаю.

Ды нарэшце фарбы пачалі бляднець, а хутка знікла і апошняя яркая палоска над лесам. Ён адразу пацямнеў, нахмурыўся, стаяў цяпер зялёна-сіні, непрыветны.

Пачынала адчувацца стома. Як-ніяк, але пасля такой дарогі, ды яшчэ пешкі, зрабіць столькі вёрст!

«Ужо не так далёка, ужо менш засталося ісці, чым пройдзена,— суцяшала яна сама сябе.— Каб не адной, каб з кім у такой дарозе...»

І тут яе ўяўленне прывяло таго, аб кім не пераставала думаць з вялікай ласкаю. Яна ўжо ішла поруч з Іонасам, размаўляла.

— Прабачце, што я без чаравікаў, босая,— казала яна яму.— Я ж не ведала, што вас сустрэну.

— А я зараз таксама скіну чаравікі... Пойдзем удваіх басаногж па цёплай дарозе,— адказваў ёй Іонас.

— Не, вам басаногж няможна. Прастудзіцеся... А мо вы ачунялі?.. Ну, канечне! Вы перамаглі хваробу! Адужалі! Вы ж малады, таленавіты, я ж так шкадую вас! Вам нельга паміраць! Вам жыць і жыць! Вы мусіце жыць! Павінны!

— Ага, я буду жыць. Хіба не бачыце, які я ўжо дужы і шчаслівы?!

— І я шчаслівая... Шкада, што вы не бачылі, як заходзіла сонца. Такая пекната...

— Я бачыў... Я ж ішоў за вамі. Дзіва што пекната... У Швейцарыі такога век не бывае!

— Радзіма,— гаворыць Алаіза.

— Радзіма, — уздыхае Іонас.

— Вось добра, што я вас сустрэла, і якое шчасце, што вы ачунялі! Мне цяпер так хораша ісці...

— Дык я ж ведаў, дзе вас шукаць... Я ж сам вас у гэтую бальніцу сасватаў.

— Ага... Дзякуй... Я ж вам за гэта яшчэ не падзякавала.

Цяпер Алаіза не адна. І ёй так добра, так лёгка ісці... І цемень, якая апускаецца на зямлю, не палохае яе. І крык сойкі ў цёмным ужо лесе не здаецца тужлівым.

## XXIII

Тацяна Краінская, якая ведала аб ад'ездзе Алаізы, расказала ёй назаўтра пра навіны. Перш-наперш пра тое, што арганізацыя наладжвала лекцыю ў зале лячэбніцы. Сабралася шмат людзей — свае служачыя, рабочыя з Нова-Вілейкі. Лекцыю чытаў нейкі доктар філасофіі, якога Полазаў запрасіў з Вільні. Гаварыў цікава: пра ўтварэнне зямлі, пра тое, як з'явілася на ёй жыццё, як рабочыя надумаліся змяніць на зямлі парадкі. Наогул гэты доктар, як відаць, не толькі філасофіяй цікавіцца, бо прывёз Полазаву шмат нелегальнай літаратуры, пракламацый, лістовак. Адным словам, арганізацыя разгортвае работу.

Пасля, смеючыся, Тацяна расказала, як гэтымі днямі наглядчык дзядзька Мацей хадзіў з адным хворым у Нова-Вілейку. Да хворага прыязджалі родзічы, пакінулі яму грошай. Вось хворы і вырашыў зафундаваць дзядзьку Мацею. Павёў яго ў карчму. Дзядзька Мацей набраўся так, што не мог стаяць на нагах. Хворы ледзь прывалок яго дадому. Вось табе і наглядчык!

Алаіза шчыра смяялася, а пасля ўздыхнула: «Парадачкі ў нас...»

Вечарам наступнага дня Цётка збіралася на канцэрт.

Адна думка пра тое, што яна будзе слухаць добрую музыку, поўніла яе радасцю. Увесь дзень яна жыла чаканнем незвычайнага. Так было заўсёды, калі яна збіралася ў тэатр ці слухаць музыку.

У фае гарадскога клуба шпацыравала багатая публіка. Алаіза прайшла адразу ў залу, села на сваё месца, пачала чытаць праграмку. Рыпелі крэслы, нехта пакашліваў, гаварылі. Нарэшце патушылі святло, і заслона паволі ўзнялася ўгору.

Выйшаў артыст — худзенькі, невысокі, ну проста хлапчук, дзіця. Твар бледны, натхнёны. Ледзь-ледзь пакланіўся публіцы, падняў



скрыпку, дакрануўся да струн смычком. І нібы да сэрца дакрануўся. Яно тарганулася, а пасля замёрла, застыла. Аж не перадыхнуць. А мелодыя лілася то ціхім уздыхам дзіцяці, то звонам раніцы. Ды раптам зазвінела бураю, загрымела громам. Здаецца, змагаецца з некім скрыпка, ратуе кагосьці ад злоснай сілы.

Алаіза сядзіць, заплюшчыўшы вочы, і сэрца яе рвецца на часткі. Каб хто спытаў у яе, шчаслівая яна цяпер ці няшчасная, яна б не ведала, што адказаць. Бо і шчасце, і гора, якія ёй давялося перажыць, цяпер узнімаліся ў ёй разам, грымелі, кроячы душу на часткі і болем і радасцю.

І зноў звонам раніцы пела скрыпка.

Бягуць перад Алаізаю свежыя пракосы, буйныя росы на іх блішчаць, і папараць-кветка расцвітае. І сама яна, маленькая, бяжыць босая паміж кветак, а бабка Ягася кліча яе песняю.

І птушка скрыдламі махае над ёю, ляціць некуды ўдаль, да мора. І мора б'е хвалямі ў бераг, і чайкі крычаць над вадою. І гэта не птушка, а душа чалавечая б'ецца ў радасці над аблокамі.

Калі запалілі святло, Алаіза скоранька выцерла хусцінкаю вочы, каб людзі не ўбачылі, што яны мокрыя. Уздыхнула на ўсе грудзі, яшчэ поўныя і ціхай радасці і болю. Устала, каб прайсціся ў антракце, і тут, проста перад сабою, убачыла знаёмыя вочы.

Алаізу ўсю абдало жарам. Адчула, што аслабелі ногі, што яна больш не можа зрабіць і кроку.

— Як я рады вас бачыць,— падышоў да яе Іонас.— Вось нечаканая сустрэча...

Іонас быў у чорным фраку з бялюткаю манішкаю, элегантны, але сам ён, здаецца, яшчэ больш пахудзеў: адны вочы гараць на пацямнелым твары. Побач з ім стаяла зусім маладая жанчына, ну проста дзяўчынка, са светлымі косамі. Яна трымала Іонаса пад руку і вялікімі блакітнымі вачыма спакойна глядзела на Алаізу.

— Пазнаёмцеся, мая жонка,— далікатна абняў за плечы Іонас маладую жанчыну.

Тая крышку сарамяжліва ўсміхнулася, падала Алаізе цёплую руку.

— Юлія,— сказала ціха.

Алаіза стаяла, як знямелая. Яна ведала, што нешта трэба гаварыць, але не магла сказаць і слова. Ёй раптам здалося, што Іонас ведае ўсё — і тое, як стаяла яна ноччу на двары, хочучы ўбачыць яго на развітанне, і тое, што пазаўчора ў мроях разам з ім ішла вячэрняю парою. Ёй цяпер здавалася, што пра гэта ведае не толькі Іонас, але і яна, яго жонка. Ёй было страшэнна сорамна. Нібы яна ў адносінах да гэтай мілай жанчыны зрабіла нешта нядобрае, нібы яе ашукала.

— Як вам падабаецца канцэрт?— выручыў яе Іонас.

Алаіза сабрала ўсе свае сілы.

— Па-мойму, вельмі хораша...

— Якая тэхніка, які тэмперамент!— мякка падтрымала размову Юлія. Яна гаварыла па-руску з літоўскім акцэнтам. Трымала Іонаса пад руку і аддана на яго пазірала.

Алаізе раптам палягчэла.

«Бронь божа, я ж нічога кепскага ім не зрабіла і не зраблю... Што ж я вінавата, што мне так думалася, так адчувалася... Але пра гэта ніхто не ведае і ніколі ў жыцці не будзе ведаць...»

— Як вам жывецца? Як ваша работа? Мне Паўлюконіс у Цюрых даслаў ваш верш,— гаварыў Іонас.

— Праўда? Вось дзівак... Ага, я ж вам яшчэ не падзякавала... Вы мне зрабілі такую паслугу. Я цяпер працую ў Нова-Вілейцы...

— Ну, я рады, што змог памагчы вам. Як там пан Полазаў маецца? Мы з ім вучыліся ў Тарту на медыцынскім факультэце, ды вось, ён дайшоў да фінішу, а я — не.

— Пан Полазаў жывы, здаровы... А вы як?

— Я?.. Крышку нібы палягчэла. А вясною зусім паміраў. Вось яна выратавала. Ёй дзякуй...— ласкава паглядзеў Іонас на жонку.

— Так ужо і я...— шчаслівa ўсміхнулася Юлія.

Алаіза раптам адчула да яе вялікую прыхільнасць. І шкада стала гэтай зусім маладой жанчыны з такімі прыгожымі светлымі валасамі, з яснымі блакітнымі вачыма. Мусіць, нясе яна на сваіх далікатных плячах нялёгкую ношу. Ці мала патрэбна ёй мужнасці, духоўнай сілы...

Зазваніў званок, абвяшчаючы канец антракту.

— Прыязджайце да нас. Мы жывём у вёсцы Разамемас, недалёка ад Панявежыса. Тут зноў апынуліся выпадкам.

— Прыязджайце, калі ласка,— прыветна падтрымала запрашэнне і Юлія.

— Дзякуй, дзякуй,— адказала Алаіза.

Яна вярнулася на сваё месца ў залу. Цяпер яна бачыла, што Іонас з жонкай сядзелі на некалькі радоў спераду. Ёй быў добра відаць профіль Іонаса, калі ён паварочваўся да жонкі і нешта гаварыў ёй.

І зноў іграла скрыпка. Цяпер Алаізе здавалася, што яна плача па няспраўджаных марах, стогне ад сардэчнага болю. Але вось з'яўляецца і надзея. Яна шырыцца, расце, і сэрцу Алаізы, замест сораму і болю, яна прыносіць спакой і лагодную сцішанасць. У паўцёмнай зале Алаіза бачыць перад сабою профіль Іонаса, уяўляе ясныя вочы яго жонкі, і ёй ужо не сорамна перад ёю і не зайздросна. Ёй робіцца шкада гэтай маладой жанчыны. І зноў трывогу б'е Алаізіна сэрца. І голас скрыпкі зноў узлятае трывожнымі тонамі. Цяпер белая чайка б'ецца аб скалу ў вялікай пакуце: ломяцца яе скрыдлы, ляціць скрываўленае пер'е.

А можа — гэта і не было каханне? Можа гэта была толькі мара аб ім? Жанчына павінна некага кахаць. Альбо хоць марыць аб каханні. Інакш яна страціць уменне адчуваць прыгажосць жыцця, любіць усё жывое. Але сапраўднае каханне можа ўспыхнуць толькі тады, калі загараюцца абодва сэрцы.

«Калі яны падораць мне сваю дружбу, я з радасцю прыму яе,— думае Алаіза.— Я вельмі хачу іхняй дружбы...»

Хоць і вельмі хацела Алаіза з'ездзіць да Іонаса, але тым летам так і не сабралася. Панявежыс — няблізкі свет. Не знайшла часу. Аднак лёс прывёў яшчэ да сустрэчы.

Абодва адарваныя ад радзімы, абодва хворыя, яны сустрэліся праз два гады ў Закапані. І там іх звязала сапраўднае, шчырае сяброўства. Дружба Алаізы скрасіла Іонасу апошнія месяцы жыцця. Шчыра пасябравала Алаіза і з Юліяй. У сціплым доміку ў Закапане, на зялёнай верандзе слухалі яны ўтраіх музыку славутага піяніста Слівінскага, які тут, у парку, недалёка ад іх дома, рэпеціраваў свае канцэрты.

## XXIV

Алаізу разбудзіў ціхі стук у акно. Ёй нешта снілася — нейкія горы і нейкі чалавек і нешта вялізнае, што рухалася, стукала, і не зразумець было, у сне гэта ці на яве, але стук быў, хоць і ціхі, але настойлівы, і хутка Алаіза зразумела, што гэта ёй не сніц-





ца. Спачатку яна спалохалася. Каму ж прыемна пачуць, што ноччу стукаюць табе ў акно... Пасля ўсё ж асцярожна ўстала з ложка, адхіліла фіранку. За шыбаю ўбачыла бледны ад месяца мужчынскі твар. Аж адхіснулася ад страху, але ў той жа міг пазнала. Сцяпан... Яна хутка апранулася. Спачатку хацела адчыніць парадныя дзверы, але падумала, што наробіць грукату, разбудзіць каго, і адшчапіла кручок, якім было зашчэплена акно.

— Лезце,— шапнула Сцяпану.

Той, чапляючыся нагамі за галіны бэзу, палез у пакой.

— Скуль гэта вы?— шэптам спытала Алаіза.

— Цс-с...— прыклаў Сцяпан палец да вуснаў.— З арыштанцкай.

— Божачка, то як жа сюды трапілі?..

— Пабадзяўся па віленскіх вуліцах. На кватэру ісці пабаяўся, каб не падпільнавалі. І джыгануў сюды... Дасцё прытулак беднаму бадзягу?

І ў нялёгкую хвіліну Сцяпан не траціў пачуцця гумару.

— А вусы, вусы дзе?— углядалася Алаіза ў яго твар.

— Згаліў... Мо таму і пазналі,— павёў Сцяпан пальцамі над верхняю губою.

Алаіза паставіла Сцяпану крэсла, сама села на ложак. У пакоі было светлавата ад месяца. Яны глядзелі адно на аднаго і ўсміхаліся.

— Во, ноччу ўлез праз акно да дзяўчыны! Калі хто бачыў, падумае, што да вас кавалеры ходзяць...— сказаў Сцяпан.

— Нічога, нічога, добра зрабілі, што прыйшлі,— адчуўшы ў тоне Сцяпана ніякаватасць, супакоіла Алаіза.— Дык як жа гэта вас схапілі?

— На заводзе. Збіраў грошы на падтрымку забастоўкі. Ды жандары высачылі. Пх-х...— хіхікнуў ён у кулак.— Прыстаў, як прывялі мяне ў вучастак, узрадаваўся. «Ага,— кажа,— злавілі. А то я праз вас адседзеў на гаўптвахце цэлы тыдзень». Той раз, што вам расказваў, я таксама ўцёк з яго ўчастка... А я яму спакойненька так, без асаблівага спачування: «І яшчэ паседзіцё...» Цяпер, мусіць, бедны, тыднем не адбудзе.

— Трэба сказаць, што майстра вы ўцякаць... Але сцеражыцеся, каб некалі яны вам гэта не ўспомнілі. Больш не трапляйце.

— Ведаеце, што,— крыху памаўчаўшы, сказаў Сцяпан,— вы кладзіцеся і спіце, а я на падлозе скручуся. Раніцаю будзе відаць...

— Не, што вы!— не згадзілася Алаіза.— Трэба нешта прыдумаць. Вось што мы зробім,— узнялася яна з ложка, прыслухалася. Кругом была поўная цішыня, толькі недзе далёка стукаў коламі, набліжаўся да Нова-Вілейкі цягнік.— Я пайду да сяброўкі. Тут харошая жанчына жыве. Наша... А вы кладзіцеся на мой ложак.

— Можа — нялоўка будзіць?

— Нічога, мой ключ падыходзіць да яе дзвярэй. Я ціхенька шмыгану да яе пад коўдру, яна і не прачнецца.

— Ну, глядзіце...— не вельмі пэўна адказаў Сцяпан.

Яны моўчкі слухалі, як набліжаўся, стукаў коламі цягнік. Пад'язджаючы да станцыі, паравоз моцна загудзеў. Гудок разлёгся ў цішыні ночы, аддаючыся недзе слабым водгаласам. Не замаруджваючы хады, цягнік панёсся далей, і не робячы тут прыпынку.

— Скоры,— прашаптала Алаіза.— Значыцца, цяпер тры гадзіны. Ну, я пад яго стукат і пракрадуся.

Рэштку ночы Алаіза прабавіла ў Тацяны Краінскай. Сказала, што прыйшоў чалавек, якога трэба будзе некаторы час хаваць.



Алаіза паднялася рана. Трэба было думаць, як схаваць Сцяпана ад чужога вока. Юзя Пузыркевіч кожную раніцу прыбірала іх пакоі, і Алаізе вельмі не хацелася, каб Юзя ўбачыла ў яе Сцяпана.

Пад галоўным корпусам бальніцы былі зроблены скляпенні. Доўгія, вузкія тунелі ад гэтых скляпенняў ішлі і пад іншыя будынкі. Тунелі цягнуліся пад зямлёю на некалькі вёрст, закручваліся сапраўдным лабірынтам. Яны служылі складамі — і для розных рэчаў і для прадуктаў. Там былі і майстэрні. У некаторых адсеках ляжала паламаная мэбля, струхлелыя сеннікі. Іван Лыкаў казаў, што ў некаторыя куткі гэтых скляпенняў не ступала нага ніводнага служачага бальніцы з дня яе адкрыцця. Адным сваім калідорам тунель ішоў і да іхняга флігеля. У канцы калідора была лесвічка, якая вяла ўніз, да невялікіх дзвярэй, абабітых бляхаю, зачыненых на завалу, з вялізным замком.

Алаіза хацела ўстаць ціхенька, каб не разбудзіць Тацяну, але і тая прачнулася.

— Ты не ведаеш, як адамкнуць дзверы тунеля? — спыталася ў яе Алаіза, зашнуроўваючы чаравік.

— Хочаш туды схаваць свайго госця?— пацягваючыся і пазяхаючы, спытала Тацяна.

— Угадала.

Тацяна села на ложку, абхапіла нагамі калені, укрытыя коўдраю.

— Ключ ёсць у Юзі, але ў яе не варта браць. Пачне цікаваць — навошта.

— Каб Лыкава папрасіць: ён і ў рай і ў пекла дзверы адамкне...— уголас разважала Алаіза.

Але ж Лыкаў жыў у горадзе: пакуль туды ды назад — усе прачнуцца.

— Давай паглядзім, мо які наш ключ падыдзе,— апусціла ногі з ложка Тацяна. Яна надзела спадніцу, накінула на плечы хустку. Разам з Алаізаю выйшлі ў калідор.

Яшчэ ўсе спалі. Вакол было ціха. За акном, што было ў канцы калідора, варушыліся лісты арэшніку, купаючыся ў промнях невысокага сонца. Паветра было чыстае, як шкло, празрыстае.

Тацяна пастукала пальцам па акаваных дзвярах. Яны глуха бомкнулі. Алаіза ўзяла ў рукі вялізны замок, пацягнула за дужку. Зусім нечакана, і на вялікую яе радасць, дужка напалову выпаўзла з свайго лажба. Алаіза пацягнула мацней, і дужка зусім вылезла: замок быў не замкнёны...

Зрабіўшы такое радаснае адкрыццё, Алаіза засунула дужку на месца і пайшла будзіць Сцяпана.

Калі яна ўвайшла ў пакой, Сцяпан не спаў, а ляжаў, падклаўшы пад галаву рукі. Твар у яго быў бледны, стомлены. Мусіць, уцёкі з арыштанцкай, пра якія ён ноччу расказваў са смехам, не так лёгка яму даліся. Але ўбачыўшы Алаізу, ён ажывіўся, вочы яго павесялелі.

Алаіза адвярнулася, даючы Сцяпану магчымасць устаць. І пакуль ён апранаўся, расказвала, якую знайшла для яго схованку.

— Ненадоўга туды, на якую гадзінку, а я пасля прыбягу і выпушчу.

Трымаючы чаравікі ў руках, каб не грукаць, Сцяпан асцярожна пайшоў за Алаізаю ў канец калідора, да дзвярэй тунеля. Яна пусціла яго туды і зноў зачыніла дзверы на завалу, павесіла замок.

Вярнуўшыся ў пакой, яна агледзела ўсё: ці не засталося тут яко-

га знаку, што быў нехта. Пасля памылася, прычасалася, апранула халат і трошкі раней, чым звычайна, пайшла да сваіх хворых.

Гадзіны праз дзве яна вырашыла збегаць дахаты, паглядзець, што там робіцца, і, калі можна, выпусціць Сцяпана.

Падыходзячы да будынка, яна ўбачыла, як з вядром і анучаю выбегла адтуль Юзя і, трасучы сваім тоўстым азадкам, пабегла некуды па дарожцы.

Цяпер у доме зноў было ціха, бо ўсе пайшлі на работу, і Алаіза, азірнуўшыся, ці няма тут каго, шмыгнула да дзвярэй. Адчыніла іх і гукнула ў цемень:

— Выходзьце, вязень!

Але з тунеля ёй ніхто не адказаў. Там было ціха, як у магіле, і, як з магілы, патыхала цвіллю і холадам.

— Сцяпан!— крыху мацней паклікала Алаіза.

Яе голас адгукнуўся недзе ў тунелі, але Сцяпана не было чуваць. Тады Алаіза ўвайшла ў тунель. Тут нічога не ляжала — ні скрынак, ні бочак, як у скляпенні пад галоўным корпусам. Было вельмі цёмна. Алаіза яшчэ раз гукнула ў цемень. Зноў ніхто не адказаў ёй. Яна не ведала, што і падумаць. Зрабілася трывожна: каб не здарылася якой бяды...

Вярнулася ў калідор і села на лесвіцы.

«Можа ён выйшаў іншым ходам? Але ж трэба было неяк даць мне знак... А можа ён пакінуў запіску?» — кідалася ў здагадкі Алаіза.

Яна пайшла ў свой пакой. Там было ўсё чыста прыбрана, памыта падлога. Юзя спраўна рабіла сваю работу. Але ніякай запіскі, ніякага знаку, што Сцяпан заходзіў туды, не было. Алаіза зноў вярнулася да тунеля. Зноў адчыніла дзверы. Прыслухалася. Цяпер ёй здалося, што недзе далёка ў глыбіні тунеля чуецца шоргат. Яна напружыла слых. Так, там нехта быў. Нехта варушыўся. Алаіза чакала. Хутка гукі сталі больш выразныя. Нехта ішоў, спачатку вельмі няўпэўнена, пасля шпарчэй.

«Вось дам яму...»— злавалася Алаіза, чакаючы Сцяпана, здагадваючыся, што гэта ён.

— Куды ж гэта вы дзеліся? Напалохалі да смерці! — накінулася на яго Алаіза, як толькі ён з'явіўся ў дзвярах.

Сцяпан стаяў, жмурачыся ад дзённага святла. Твар яго быў запэцканы ў нешта чорнае, на плячы целяпаўся вялізны касмыль павуціння. Але сам ён здаволена ўсміхаўся.

— Ну і схованка!..— радасна сказаў ён.

Алаіза пацягнула яго ў пакой.

— Я ўжо чорт ведае, што думала...— ушчувала яна яго.

— Паслухайце, дарагая Цётка, гэта ж тут у вас можна чорта схаваць,— абіраў ён з свайго гарнітура павуцінне.— Я цягаўся гадзіны дзве і ні душы не ўбачыў. Дзе навобмацак поўзаў, а дзе святлей было. Там ёсць такія каменныя пакойчыкі з маленькімі акенцамі. У двор выходзяць...

— І ніхто вас не бачыў?

— Ніводная душа. Я ж кажу, хадзіў, хадзіў па гэтым лабірынце, а яму канца-краю няма... Я ўжо баяўся заблудзіцца. Ды, мусіць, трохі і паблудзіў: на адну лінію выходзіў некалькі разоў... Туды б з ліхтарыкам...

— Бачу, што ў вашай галаве ўжо нешта спее...

— Люблю здагадлівых,— прыжмурыў вочы Сцяпан. І, памаўчаўшы крышку, нібы вырашаючы, гаварыць ці не гаварыць, нарэшце адважыўся: — Скажыце, ці няма ў вас тут чалавека, якому б можна было даверыцца? Каб памог тут схаваць шапірограф... Ён цяпер у аднае звягі стаіць,— пачаў тлумачыць, нібы апраўдвацца, Сцяпан.— Раней мы не ведалі, што ён такая зануда. А цяпер усё ные і ные: «Забярыце сваю машыну, не хачу, каб больш стаяла, не хачу дзяцей пасіраціць...»



Сцяпан з надзеяй глядзеў на Алаізу, а яна падумала пра Лыкава. Ён там, у тунелі, гаспадар. Яго ж і майстэрня ў падзямеллі размешчана. Лыкаў ведае там кожны закутак.

— Ёсць у нас адзін чалавек. Трэба будзе з ім параіцца,— сказала Алаіза.

— А ён надзейны?

— Член вашай партыі...

— Ды ну! Вось гэта пашанцавала!.. Вы абавязкова пазнаёміце мяне з ім.

Яны пачалі раіцца, як перадаць таварышам Сцяпана, дзе ён цяпер: ён не мог вяртацца жыць у Вільню.

— Буду хавацца тут, пакуль зноў вусы не адгадую. Цяпер і бараду адпушчу,— пагладзіў ён падбароддзе, на якім ужо вытыркнулася шчаціння.

У Вільні ў апошні час на Вялікай вуліцы па пятніцах і аўторках вечарамі, гадзін з сямі, пачыналі збірацца рабочыя, студэнты, просты люд Вільні. Гадзін пад дзевяць на вуліцы збіралася столькі народу, што само сабою ўтваралася нешта падобнае на дэманстрацыю. Гэтыя гулянні называліся ў Вільні «біржавымі сходкамі», або «біржаўкамі». Тут абменьваліся навінамі, раздаваліся лістоўкі, а часам чуліся і прамовы.

— Заўтра акурат пятніца,— сказаў Сцяпан Алаізе.— Трэба вам схадзіць на біржаўку. Туды прыйдзе Пальчык. Скажаце яму, дзе я, і перадасцё запіску. Я напішу. А калі вы з тым чалавекам пагаворыце?— не цярпелася, відаць, Сцяпану.

— Як толькі ўбачу. Можа і сёння. Ды будзьце ўпэўнены, ён усе зробіць...

— Цаны вам няма, Цётка!— узрадаваўся Сцяпан і раптам падаўся да Алаізы, хочучы абняць яе.

— Прыміце рукі!— страпянулася Алаіза, гнеўна бліснула вачыма на Сцяпана.

— Не, не, не крану,— сур'ёзна спалохаўся Сцяпан.— Што вы, я ж хацеў па-сяброўску...

— Абдымайце па-сяброўску Пальчыка,—адрэзала Алаіза.

— Ці кахалі вы ў сваім жыцці калі-небудзь?— з цікавасцю паглядзеў на яе Сцяпан.— Маладая, прыгожая, а на нашага брата і глядзець не хоча... Вунь, настаўбурчылася, як вожык...

— Пра гэта нам з вамі лепш не гаварыць... ніколі,— ціха сказала Алаіза.

## XXV

У той жа дзень Алаіза знайшла Івана Лыкава і перадала яму просьбу «аднаго чалавека», намякнула яму, што «той чалавек» — дзеяч Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі, што наладзіць для яго друкарню тут, у лячэбніцы, вельмі важна. Іван Лыкаў нават узрадаваўся, што да яго звяртаюцца з такою важнаю просьбаю. А назаўтра прыйшоў да Алаізы, сказаў, што знайшоў у тунелі добры закутак. Ён павёў у падзямелле Алаізу.

Ішлі яны доўга, нарэшце Лыкаў спыніўся перад невялічкімі дзвярыма, якія вялі ў каморку. Каморка была завалена сеннікамі. Пад самай столлю ледзь прапускала святло вузенькае прадаўгаватае акенца з такім брудным шклом, што праз яго нельга было ўбачыць, у які бок двара яно выходзіць.

— Я зраблю спецыяльны замок і да гэтых дзвярэй, і да тых, што вядуць у тунель з вашага флігеля. Акрамя нас — ніхто не адамкне... — сказаў Іван Лыкаў.

— Гэты чалавек, які прывязе сюды шапірограф, цяпер хаваецца ад паліцыі. Пакуль туляецца абы-дзе. Сёння ў мяне начаваў. Але сам разумееш, доўга на адным месцы яму нельга быць. Ды ў нас тут і Юзя Пузыркевіч вельмі цікаўная... Вось каб ён мог у цябе калі начаваць, у Нова-Вілейцы...

Іван Лыкаў крышку памаўчаў, перакінуў сяннік з аднаго месца на другое, пасля адказаў:

— Што ж, калі трэба, то трэба... неяк ужо будзем берагчы чалавека...

Скора шапірограф пераехаў у тунель, а Сцяпан перабраўся жыць да Івана Лыкава.

Алаіза хацела пазнаёміць Сцяпана і з Полазавым, але выявілася, што яны знаёмыя. Полазаў, даведаўшыся, што Сцяпан тут, запрасіў аднойчы яго на пасяджэнне арганізацыі. Сцяпан абяцаў памагаць. І сапраўды цяпер частка лістовак, якія друкаваліся ў тунелі, перадавалася праз Алаізу ў арганізацыю.

На адным з пасяджэнняў было вырашана пашырыць дзейнасць арганізацыі, праводзіць работу і сярод сялян навакольных вёсак.

Алаіза даўно рвалася ў вёску. Яна добра ведала сялянскае жыццё. У кампанію да яе напрасіўся фельчар Эйляшэвіч, і яны ўдваіх вырашылі з'ездзіць у вёску Верава, вёрст за дзесяць ад Нова-Вілейкі.

Конюх дзядзька Селівестар, з вялізнаю барадою, ад якой за вярсту несла моцным тытунём, у зашмальцаванай шапцы, якую не скідаў ні зімою, ні летам, запрог ім рудога коніка, ускінуў на воз пахучага сена. Алаіза палажыла ў гэта сена пачак пракламацый, завязаных у анучку. Эйляшэвіч узяў у рукі лейцы.

Апрануліся яны абодва проста, па-вясковаму, і збоку былі падобны на сялян, мужа і жонку, якія ездзілі ў горад па нейкіх сваіх гаспадарчых справах.

Конік спраўна цягнуў вазок. Колы то падскоквалі на каляінах, то роўна каціліся па пыльнай селавой дарозе.

У вёсцы Верава, куды яны ехалі, быў багаты маёнтак немца фон-Кроша. Драў ён з сялян па тры скуры. Парабкам плаціў вельмі мала. Уся вёска хадзіла да яго на адработкі.

Дарога ішла ўгору, паміж спелага жыта з васількамі. Было горача. Сонца падбіралася да поўдня. Калі яны ўз'ехалі на ўзгорак, убачылі ўнізе сяло Верава з чырвонымі вежамі касцёла, які стаяў сярод пышных дрэў, абнесены каменнаю агароджаю.

Была нядзеля. Каля касцёла стаялі фурманкі, на ганку і пад агароджай сядзелі жабракі.

Эйляшэвіч прывязаў каня за дрэва.

— Пачакаем, ці што, пакуль людзі з касцёла пойдуць? — сказаў ён і, звесіўшы з воза ногі, дастаў папяросу, каб закурыць.

— А мо зойдзем,— не зусім упэўнена сказала Алаіза, прыслухоўваючыся да высокіх галасоў, якія вялі малітву.

Эйляшэвіч схаваў папяросу ў кішэню, саскочыў з воза. Алаіза выцягнула з-пад сядзення пракламацыі, сунула скрутак пад жакецік.





У касцёле было многа народу. Служыў маладжавы ксёндз, чыста паголены. Твар яго, крышку прыпухлы пад вачыма, блішчаў — ксяндзу было горача ў расшытым золатам орнаце. Ён паварочваўся да паствы то бокам, то спіной, то тварам, але глядзеў не на людзей, а некуды паўзверх іх галоў.

Малітва скончылася, і людзі заварушыліся, устаючы з каленяў. Ксёндз узышоў на балкон-казальніцу, адкашляўся і пачаў гаварыць казань. Ён гаварыў, голас яго, аддаючыся ў вежах касцёла, гучаў урачыста і грозна.

— В трудную хвіліну звяртаюся да вас, дзеці мае,— пачаў ён.— Што б сказаў пра вас Езус Хрыстус, каб з'явіўся сёння перад вамі? Ці пахваліў бы ён вас за тое, што робіце вы ў лясах, у маёнтках? Каго вы слухаецеся? З гарадоў прысылаюць да вас людзей, у якіх няма бога ў сэрцы. Вы слухаеце, што яны гавораць, адхіснуліся ад веры, адышлі ад правільнага каталіцкага жыцця...

Ксёндз, як артыст, закочваў вочы, сашчэпліваў рукі. А перад ім быў натоўп — нямыя слухачы. Іх твары, схіленыя долу, былі панурыя. Алаіза ўспомніла чамусьці баль, на якім была з Сільвановічам. Успомніла, як паляцелі тады на залу, на людзей са столі пракламацыі.

«Каб цяпер так сыпануць!» — падумала Алаіза і адчула, як пахаладзела ў яе ў сярэдзіне ад хвалявання.

Яна паціснула руку Эйляшэвіча, даючы яму знак выйсці за ёю. За дзвярыма касцёла яна ціхенька сказала яму, што надумала зрабіць.

— Цяпер? У касцёле?..— перапытаў ён.

— А што ты думаеш, братка... Узлезь на хоры... На...— совала яна яму пад світку загорнуты ў анучу пачак з пракламацыямі.— Толькі скарэй, пакуль не скончыў казань...

Падалася туды і Алаіза. Стала на ранейшае месца. Яна не разумела, што далей казаў ксёндз. Чула толькі яго голас, які то ўзлятаў угору і рабіўся грозны, то цішэў, лагаднеў. Яна азіралася, шукаючы Эйляшэвіча, але таго не было відаць. Ці пройдзе ён на хоры... Ёй раптам захацелася памаліцца, каб усё абышлося добра. Ледзь не прашаптала: «Памажы, божа». Самой стала смешна. Зноў даляцелі словы казані:

— Дзеці мае каханыя! Калі сышлі вы з дарогі хрысціянскага жыцця, то хутчэй вяртайцеся на гэты шлях! Не верце людзям злой волі, якія кажуць...

У гэты момант над галовамі людзей закружыліся, затрапяталіся, апускаючыся ўніз, белыя лісткі паперы... Нібы вецер прынёс іх аднекуль, шпурнуў у божы храм. Людзі скамянелі ад здзіўлення. Потым угору пацягнуліся рукі. Кожны хацеў схапіць лісток, злавіць яго ў лёце ці падняць з падлогі.

Ксёндз стаяў збялелы, не ведаючы, што рабіць. Над яго галавою таксама круціўся лісток. Як каршун голуба, схапіў яго ксёндз, паднёс да вачэй. Ураз зразумеў, што гэта такое. Грозна грымнуў, аддаючыся пад вежамі, яго голас:

— Дзеці мае! Не рушце! То д'яблава насланнё! Не рушце!

Але людзі лавілі лісткі. Алаіза бачыла, што мужчыны, якія стаялі ля дзвярэй, хаваюць іх за пазуху. Старыя бабкі пападалі на калені, жагналіся. А ксёндз грымеў. Ён пасылаў праклёны антыхрыстам, клікаў на іх галовы перуны і маланкі.

З касцёла, тым часам, выходзіў народ. Адны са страхам у вачах, другія ўзрушаныя, вясёлыя.



Выйшаўшы на вуліцу, Алаіза азірнулася, шукаючы Эйляшэвіча. Але яго нідзе не было. «Мусіць, яшчэ там... Каб хоць не злавілі...» — баялася ўжо за яго Алаіза.

Нарэшце, трымаючы пад руку старую бабульку, якая ледзь перастаўляла ногі, на ганку касцёла з'явіўся і Эйляшэвіч.

Ён далікатна вёў старую, нешта гаварыў ёй па-польску, супакойваў. Давёўшы да лавачкі, якая стаяла ў двары, пасадзіў, пакланіўся на развітанне. Увесь выгляд Эйляшэвіча гаварыў: вось які я далікатны, выхаваны, сапраўдны хрысціянін і каталік. Алаіза ўсміхнулася: артыст!

— Давайце хутчэй ад'язджаць ад касцёла,— шапнуў ён Алаізе, кіруючыся да воза. Ён падсадзіў яе, узяў у рукі лейцы. І зноў яны выглядалі, як сямейная пара, што ездзіла ў касцёл і цяпер кіруецца дахаты.

## XXVI

Усеагульны гарадскі мітынг 16 кастрычніка павінен быў адбыцца ў зале чыгуначнага клуба на Вароняй вуліцы. Крэслы былі заняты ўжо гадзін з дзесяці, і людзі сядзелі на падаконніках, стаялі ў праходах.

Алаіза прыйшла з Касяю, Вандай і Маняю. Больш дзяўчат не ўдалося сабраць, бо Сцяпан толькі ўчора вечарам перадаў Касі наказ. Яны стаялі ў праходзе паміж радамі крэслаў і вокнамі. Алаіза абдымала адною рукою Касю, другою Ванду.

Мітынг быў назначаны на адзінаццаць гадзін. Цяпер было палова адзінаццатай. Арганізатары мітынгу, напэўна, не хацелі пачынаць яго раней прызначанага часу. А можа яшчэ чакалі каго. Алаіза дасюль не бачыла Сцяпана, а ён жа меўся быць.

Раптам у гуле галасоў, які дасюль быў нібы спакойны, адчулася трывога. Адразу цяжка было разабраць, што ўсхвалявала людзей, толькі асобныя словы чуліся выразна:

— Патруль! Казакі!

Людзі азіраліся, пыталіся адзін у аднаго:

— Што там?.. Што?

— Б'юць людзей!

— Весь город оцеплен!

— Пся крэў! — гудзела ў натоўпе разнамоўе.

Вестка пра тое, што ўсе вуліцы, якія вядуць да клуба чыгуначнікаў, ачэплены войскам, што на праспекце стаяць салдаты, многіх напалохала. Можа, скора пачнуцца арышты? А мо і проста пачнуць страляць? І людзі ў зале нерваваліся.

Раптам Алаіза ўбачыла, як з дзвярэй, што былі на сцэне, выйшаў Сцяпан. Заклапочана падышоў да стала, дзе сядзелі прадстаўнікі палітычных партый, нахіліўся да Кандратовіча, пачаў нешта яму гаварыць. Пасля адышоўся, узяў крэсла, што стаяла збоку, сеў каля Кандратовіча.

Чалавек з бародкаю і ў пенснэ, які сядзеў з другога боку ад Кандратовіча, пачаў яму нешта гаварыць, паказваючы на залу. Кандратовіч спачатку паціснуў плячыма, пасля кіўнуў галавою.

Чалавек з бародкаю ўстаў.

— Таварышы!— стараючыся перакрыць шум, сказаў ён.— Будзем пачынаць наш мітынг.

Ён пастаяў, абводзячы вачыма залу, чакаючы, пакуль супакояцца людзі, але гоман і шум не сціхалі. Па зале пракацілася новая хваля трывогі.
— Паранілі работніцу!
— Забілі!
— На Нямецкай вуліцы!
— Акалотачны стрэліў! — пайшла па зале новая вестка.
— Таварышы! — зноў падняў руку чалавек з бародкаю і ў пенснэ, але яго зноў ніхто не паслухаў.
— Зняць патрулі!
— Прагнаць салдат! — несліся воклічы.
Чалавек з бародкаю нахіліўся да Кандратовіча, нешта ўзбуджана загаварыў да яго, паказваючы то на людзей, то некуды за акно. Кандратовіч пацізнуў плячом, пакруціў галавою. Да іх нахіліўся і Сцяпан і ўсе, што сядзелі за сталом. Пачалася нейкая рада. Чалавек з бародкаю нешта даводзіў, Кандратовіч і Сцяпан нібыта не згаджаліся. А астатнія націскалі, угаворвалі.
А зала гудзела.
Нарэшце, Кандратовіч устаў.
— Таварышы! Мы вырашылі паслаць дэлегацыю да губернатара фон-Палена! Каб дэлегацыя перадала яму патрабаванне рабочых — зняць патрулі.
— Правільна!
— Хай сам прыедзе! Хай сочыць за сваім войскам! — загудзелі людзі.
— Дэлегацыю мы пашлём з чатырох чалавек. Будзем спадзявацца, што яны пераканаюць губернатара ў неабходнасці выканаць просьбу народа, — гаварыў Кандратовіч.
Ён назваў чатыры прозвішчы, і з-за стала ўсталі чалавек з бародкаю, Паўлюконіс і двое ў чыгуначнай форме. Народ расступіўся перад імі, даючы дарогу.
Калі дэлегаты пайшлі, усе неяк адразу супакоіліся, і Кандратовіч адкрыў мітынг.
— Слова для паведамлення аб сучасным становішчы ў Расіі мае таварыш Сцяпан, — сказаў Кандратовіч.
Сцяпан выйшаў з-за стала, стаў перад натоўпам. Алаіза глядзела, як ён выходзіў, і ёй здавалася, што Сцяпан сам ідзе ў рукі жандараў. Тут жа, у зале, канечне, поўна шпікоў. Недзе пападстройваліся пад рабочых, а самі сочаць за кожным. А за Сцяпанам жа яны даўно палююць... Калі зловяць, успомняць яму ўсё... І разам з тым, яна ганарылася Сцяпанам, радавалася, што ў яе такі сябар.
— Урад звоніць аб пабеданосным міры, — пачаў Сцяпан, — але ён не гаворыць пра тое, што вайна каштавала нам сотні мільёнаў рублёў грашыма, не гаворыць пра рускі флот, які загінуў у гэтай вайне, не гаворыць пра вялізныя працэнты, якія нам трэба плаціць па пазыках. Ён не гаворыць пра Ляоянскае, Мукдэнскае і іншыя паражэнні. Ён не гаворыць пра сотні тысяч людскіх ахвяр! Урад звоніць аб перамозе, але нічога не кажа пра голад, эпідэміі, якія прынесла вайна!
Пасля Сцяпан пачаў гаварыць пра тую вайну, якая ўсё больш разгараецца цяпер у самой Расіі, вайну яшчэ больш жорсткую, не на жыццё, а на смерць!
— Далоў самаўладства!
— Няхай жыве рэвалюцыя! — ускінуў руку Сцяпан.
Пасля яго выступіў прадстаўнік сацыял-дэмакратычнай партыі



Літвы — худы, высокі бландзін, з інтэлігентным тварам. Але толькі пачаў ён сваю прамову, як вярнуліся дэлегаты. Яны заявілі, што губернатар адмовіўся зняць патрулі. Сказаў, што не мае на гэта ўлады. Што гэта можа зрабіць толькі галоўны начальнік краю.
Зала сустрэла такую вестку новым выбухам гневу і адчаю. Больш ніхто не слухаў прамоўцы, хоць ён і спрабаваў гаварыць далей. Літовец пастаяў, хмурачы бялявыя бровы, гледзячы ў залу, і сеў, нахіліўся да Кандратовіча, загаварыў з ім, вачыма паказваючы на ўсхваляваны натоўп.
У гэты момант Алаіза, якая стаяла блізка каля акна, убачыла на вуліцы карэту, запрэжаную парай коней. Карэта пад'язджала да будынка чыгуначнага клуба.
Народ, што стаяў каля будынка, расступіўся, даючы магчымасць пад'ехаць да самых дзвярэй. Калі коні спыніліся, з карэты лёгка выскачыў малады афіцэр з чорнымі, закручанымі ўгору вусікамі, а за ім павольна, з адбіткам незадаволенасці на поўным твары, ступіў губернатар фон-Пален.
— Сам прыехаў!
— Губернатар! — загаманілі людзі.
Праз якую хвіліну губернатар з афіцэрам паказаліся ў дзвярах залы. Афіцэр, выставіўшы наперад левае плячо, пракладваў дарогу губернатару. Той ішоў, не азіраючыся па баках, з выглядам незалежнасці і перавагі над усімі. Але ён выдаў сябе, калі слізгануў позіркам па натоўпе. У гэтым позірку было нешта насцярожанае. Відаць, яму не зусім прыемна было паяўляцца тут, сярод такой вялікай масы людзей, якая трымала сябе так неспакойна. А тут яшчэ пачуліся воклічы:
— Чаму кругом войска!
— Мы ніц злэго не робімы!
— Убраць патруль!
Губернатар стаяў моўчкі, услухоўваючыся ў гоман натоўпу, пасля кінуў некалькі слоў афіцэру. Той прабег вачыма па ўзбуджаных тварах людзей. Заўважыў мужчыну, які сярод іншых выдзяляўся лепшаю вопраткай, сказаў:
— Господин губернатор желает говорить с делегацией...
Жаданне губернатара было перададзена дэлегатам, і хутка яны ўсе чацвёра прабіраліся праз густы натоўп да таго месца, дзе стаяў губернатар.
А натоўп хваляваўся.
— Мала крыві папілі!
— Работніцу застрэлілі! — крычаў нейкі дзядзька проста над вухам Алаізы.
— Душаць народ! — звінеў жаночы голас.
Высокі з бародкаю, у пенснэ, які, відаць, кіраваў дэлегацыяй, падняў руку, просячы, каб народ супакоіўся. Але суняць яго было цяжка. І ўсё ж тыя, што былі бліжэй да губернатара і дэлегатаў, прыціхлі.
Губернатар, ухіляючыся ад позірку кіраўніка дэлегацыі, але гаворачы менавіта да яго, пачаў наўмысля спакойным голасам.
— Я приехал, чтобы убедиться собственными глазами в том, что здесь происходит.
— Вось, можаце пераканацца, — павёў рукою наўкруг дэлегат. — Мы вас не дарма турбавалі. Народ змучаны. Рабочыя баяцца казакаў, войска. І яны нездарма баяцца. Там, дзе так многа зброі, ніхто не гарантаваны ад агню...

— Если народ будет вести себя спокойно, до этого не дойдёт,— зноў пазіраючы некуды праз людзей, адказаў фон-Пален.

— Мы сабраліся пагаварыць пра наша жыццё,— сказаў другі дэлегат, у чыгуначнай форме.— Але народ узбуджаны. Іх раздражняе, што вакол войска. Яны патрабуюць зняць патруль...

Дэлегаты гаварылі з губернатарам спакойна. Людзі, што абступілі іх, моўчкі слухалі.

— Я заинтересован в том, чтобы в моём городе сохранялось спокойствие... Вооруженное столкновение народа с войском — не в моих интересах... Я согласен сделать всё, что в моих силах, чтобы успокоить волнение,— сказаў губернатар.

— У такім разе — здыміце патруль,— сказаў адзін з дэлегатаў.

— Я могу вместе с делегацией с'ездить к генерал-губернатору. Попросим вместе... Думаю, он разрешит снять патруль, хотя бы с Георгиевского проспекта,— сказаў ён нарэшце.

Словы губернатара разляцеліся сярод людзей і адазваліся згодаю. Нібы вецер, які ўвесь час гудзеў над людскім морам, хваляваў яго, пачаў сціхаць, і вось яно ўжо, лагоднае, даверлівае, супакойвае свае хвалі.

Губернатар накіраваўся да дзвярэй. Афіцэр забег наперад, каб расчысціць перад ім дарогу, але людзі ўжо самі расступаліся перад губернатарам, ужо ўсміхаліся, здаволеныя сваёй невялічкай перамогай.

Усе, не змаўляючыся, падаліся да выхаду, спяшаліся на вуліцу, нібы самае важнае цяпер павінна было адбыцца там. І без увагі, без адказу застаўся голас:

— Не разыходзьцеся, таварышы! Заставайцеся на месцы!

На вуліцы губернатар сеў у сваю карэту. Дэлегаты пасталі на падножкі, каб ехаць разам, і коні, якія нецярпліва перабіралі нагамі, скранулі карэту з месца.

Калі губернатарава карэта паехала, уся маса людзей, якая стаяла каля будынка, і ўсе тыя, хто быў у зале і ўжо выйшаў на вуліцу, рушылі за ёю. Народ нібы баяўся цяпер пакінуць губернатара, нібы не верыў яму, што той выканае абяцанне.

І Алаіза з дзяўчатамі, паддаючыся агульнаму настрою, рушылі разам з натоўпам. Кася не спускала вачэй з губернатаравай карэты. Ёй было вельмі цікава, што яна бачыла самога губернатара і што людзі так дзёрзка крычалі яму.

Карэта ехала па праспекце, а за ёю па бруку, па тратуарах ішоў нястройны трохтысячны натоўп. Раптам наперадзе натоўпу, адразу за карэтаю, чырвонаю птушкаю ўзвілося палотнішча. Сцяг! Увесь натоўп нібы замёр на імгненне, а затым рушыў яшчэ дружней, нават, здаецца, падраўняўся. Людзі, якія ішлі па тратуарах, часам забягаючы наперад губернатаравай карэты, цяпер спыняліся, чакалі калоны, каб уліцца ў яе, каб ісці за сцягам.

— Гэта ж Казік! — раптам тарганула Кася Алаізу за руку.— Казік! Казік са сцягам!

Алаіза ўзнімалася на дыбачкі, каб убачыць, хто нясе сцяг, але густы натоўп закрываў ад яе першыя шарэнгі. Толькі чырвоны сцяг калываўся на ветры.

Нарэшце ёй удалося зірнуць наперад, і яна пазнала Казіка. Ён дзвюма рукамі трымаўададраную, мусіць, ад нейкага плота дошку з прывязаным да яе чырвоным палотнішчам. Яго постаць тут жа зноў засланілі людзі, якія ішлі за ім. І калі народ зноў неяк расступіўся, Алаіза ўбачыла каля Казіка яшчэ адну знаёмую постаць.



— Дык там жа і твой Вінцусь! — схапіла яна за руку Касю.

— Праўда?— ажывілася тая, выцягнула шыю, каб яшчэ раз зірнуць наперад калоны.— Дзіва, з раніцы ж сышоў з дому,— нібы з папрокам Вінцусю сказала яна, але ў голасе яе адчуваўся і гонар за мужа, што вось ён ідзе наперадзе, побач з чырвоным сцягам. А калі такі ўбачыла яго, не вытрымала, пачала тузаць Ванду, Маню.

— Дзеўкі, глядзіце, глядзіце,— паказвала яна наперад,— там жа мой!.. Каля сцяга...

Натоўп доўгаю калонаю ішоў па праспекце. Спераду ехала губернатарава карэта. Дэлегатам, якія стаялі на падножках, ды і першым у радах калоны была відаць шэрая заслона салдат, якая перакрывала праспект. Але што ім цяпер гэта шэрая заслона! За імі праўда! Яны — сіла! Зараз гэта шэрая маса ў салдацкіх шынелях расступіцца перад губернатарам, даючы і ім дарогу...

Калона была ўжо крокаў за трыццаць ад салдат, як раптам губернатарскі фурман моцна сцебануў пугаю па конскіх спінах. Коні рванулiся, адносячы губернатараву карэту ад людскога натоўпу. І ў той міг, калі губернатарава карэта знікла за шэраю сцяною салдат, грымнуў залп. Салдаты стрэлілі ў людзей, у густую масу народа.

Натоўп, як адна вялікая істота, хістаючыся, адступіў назад. А праз імгненне стогны, галашэнне, словы праклёну і моцная лаянка змяшаліся над вуліцаю ў адзін крык, поўны страху, роспачы.

Яшчэ адзін залп грымнуў па людзях, якія, пхаючы адзін аднаго, ужо разбягаліся па праспекце, кідаліся ў двары, у пад'езды дамоў.

— Вінцу-усь! — не сваім голасам закрычала Кася. Яна зразумела цяпер адно — Вінцусь быў наперадзе, сярод тых, каго першымі маглі ссячы кулі. Яна хацела кінуцца туды, дзе зусім нядаўна бачыла яго, але людзі, якія беглі назад, адпіхалі. Яна была цяпер, як трэска ў патоку, якую гнала плынню ўніз. Яна ўпіралася з усяе сілы, каб перамагчы націск звар'яцелых ад страху людзей, але не магла зрабіць наперад і кроку.

— Кася! Кася!— крычала ёй Алаіза. Яе з Вандаю і Маняй адарвала, аднесла ўбок, і цяпер яна таксама не магла дабегчы да Касі. Яна моцна трымала за локаць Маню, баючыся згубіць і яе. А Ванда цягнула іх з Маняю ўбок, нешта крычала ім, угаворвала.

— Мамачка! — рваўся над натоўпам тонкі жаночы голас.

— Кася! Кася! — крычала Алаіза, стараючыся прабрацца да яе і цягнучы за сабою Маню і Ванду. Нарэшце яны дабраліся-такі да Касі.

— Сюды, убок...— піхалі яны ўсе Касю, якая, нібы непрытомная, рвалася наперад. Але яны адцягнулі яе на тратуар і самі прыпалі да сцяны. А паўз іх бег і бег натоўп. Некаторыя падалі і заставаліся ляжаць, іншыя ўзнімаліся і беглі зноў. Двое мужчын цягнулі параненага. Ён абвіс у іх на руках, твар у яго быў зусім белы.

— Уцякайма, Цётачка...— прасіла Ванда.— Заб'юць!..

— Змоўкні! — прыкрыкнула Алаіза.— Больш не страляюць.

Салдаты сапраўды стаялі ўжо з вінтоўкамі да нагі. Перад імі на цёмным бруку вуліцы, як вялікая крывавая пляма, ляжала чырвонае палотнішча сцяга. І каля яго таксама расцяклося чырвонае. Толькі цямнейшае за сцяг. Гэта была кроў...

Алаіза ўбачыла, як у двор панеслі дваіх параненых. Неслі, падхапіўшы пад пахі і пад ногі.

— Бяжым! — схапіла яна за локаць Касю.— І вы ўсе... Хутка! — загадала яна.

Яны паслухмяна падаліся за ёю ў той двор, куды панеслі параненых.

Параненых палажылі каля сцяны дома на бруку. У аднаго, зусім маладога, з рота цякла кроў. Другі, пажылы, барадаты, моцна стагнаў, сілячыся падняцца. Вінцуся не было тут, і Кася, якая вельмі баялася ўбачыць і яго параненым ці забітым, нібы трошкі паспакайнела.

Мужчыны, якія прынеслі параненых, стукалі ў дзверы, вокны дома, просячы, каб адчынілі, але перапалоханыя людзі пазамыкаліся і не адчынялі.

— Біце акно! — загадала Алаіза.

Голас у яе быў такі рашучы, што мужчына, які дагэтуль стукаў у дзверы, адразу ж паслухаўся яе. Ён азірнуўся, убачыў на зямлі кавалак пагнутага жалеза, падняў і бразнуў ім па шыбе. Шклоззвінела, пасыпалася. За акном мільгануў перапалоханы твар немаладой жанчыны ў каптуры з карункамі. Жагнаючыся, яна кінулася да дзвярэй. Заляскалі клямкі і засаўкі. Мужчыны ўзнялі на рукі параненых, панеслі ў кватэру. Гаспадыня прыціснулася да сцяны, даючы ім дарогу. І Алаіза з дзяўчатамі ўвайшлі ў кватэру.

Параненых паклалі аднаго на канапу, другога на ложак, з якога гаспадыня паспела сцягнуць шаўковае пакрывала і коўдру, пакінуўшы толькі сяннік, засланы прасцінаю. Яна схапіла і падушкі ў белых наўлечках, але мужчына, які выбіў акно, забраў у яе з рук падушку, паклаў параненаму пад галаву.

— Ручнікоў! Ці прасціradла парвіце! — загадала Алаіза гаспадыні, расшпільваючы каўнер кашулі ў параненага, які ляжаў з заплюшчанымі вачыма.

— Паглядзіце таго... Перавяжыце рану! — загадала яна Мані, якая стаяла каля яе, збялелая.

Маня кінулася да барадатага, які ўсё моцна стагнаў, курчыўся. За ёю да барадатага падбегла і Ванда.

— Ідзіце,— загадала яна мужчынам, якія стаялі і пазіралі, што яна робіць.— Там яшчэ, мусіць, ёсць параненыя. Нясіце сюды.

Грудзі ў маладога хлопца былі залітыя крывёй.

— Ручнік хутчэй! — крыкнула Алаіза гаспадыні, якая ўсё порпалася ў камодзе, выбіраючы што горшае. Нарэшце тая падала нейкую старую, але чыстую споднюю кашулю. Алаіза разадрала яе, адзін кавалак склала і прылажыла да раны, другім пачала перавязваць, але яго было мала.

— Ручнік дайце!— зноў загадала яна, і гаспадыня зноў кінулася да камода, на гэты раз даволі хутка прынесла ручнік. Алаіза зверху перацягнула перавязку яшчэ ручніком. Самае важнае было цяпер спыніць кроў, а пасля — у бальніцу. Без доктара тут не абысціся. Куля, мусіць, сядзіць недзе ў грудзях, яе трэба выняць.

Другі мужчына быў паранены ў жывот. Маня з Вандаю агалілі яго рану, але стаялі, не ведаючы, што рабіць, азіраліся на Алаізу. Ванда нахілялася да мужчыны, які стагнаў на ўсю кватэру, і ўгаворвала яго:

— Дзядзечка, ціха... Зараз перавяжам... Ціха...

Алаіза агледзела і барадатага. І яму патрэбна была бальніца. Ранены ў жывот... Ці выжыве...

У гэты час у калідоры пачуўся тупат ног. Неслі яшчэ параненых.

Кася, якая памагала Алаізе перавязваць параненага, раптам устала, выпрасталася. З жахам глядзела яна на дзверы, праз якія ўносілі чалавека. Глядзела, і не верыла, не хацела верыць сваім вачам. Але бяссільна звешаная галава, абвіслыя рукі, зусім белыя, якімі ніколі не бачыла іх Кася, былі яго...

І з немым крыкам: «Вінцусь!» — Кася кінулася да мужа.



## XXVII

„Не, так гэта не павінна прайсці. Кожная кропля людской крыві мусіць быць аплочана самаю вялікаю цаною. Яна павінна плаціцца крывёю тых, хто ў ёй вінен, плаціцца вялікаю навукаю для ўсіх, хто дасюль яшчэ верыў у нейкую царскую міласць.

У тых, каго забілі, ёсць дзеці, жонкі, маткі. І іхнія слёзы, іхнія пакуты таксама мусяць быць аплочаны. І толькі адна цана можа лічыцца вартаю такіх ахвяр — смерць тырана, знішчэнне трона, які трымаецца на людскіх касцях, плавае ў моры людской крыві».

Так думала Алаіза, то ходзячы ўзад-уперад па сваім пакойчыку, то спыняючыся пасярод яго і невідушчымі вачыма гледзячы перад сабою. Была ноч. Пятая ноч пасля расстрэлу дэманстрацыі ў Вільні. Усе гэтыя ночы Алаіза спала гадзіны па дзве, не болей. Ды ёй і не хацелася спаць. Яна ўсе гэтыя дні жыла паміж Вільняй і Нова-Вілейкай. Баялася пакідаць адну Касю. Каб не зрабіла чаго з сабой, каб не наклала на сябе рукі. Хто ж мог падумаць, што здарыцца такое... Хто ж мог падумаць... Уся Вільня дасюль не можа апамятацца ад гэтага злачынства. Пахаванне ахвяр ператварылася ў агромністую дэманстрацыю. У той дзень з раніцы сыпаў дождж, але за трунамі ішло тысяч з сорак народу. Неслі вянкі з надпісамі: «Смерць забойцам рабочых!», «Далоў самаўладства!», «За кроў рабочых — кроў тырана!» Труны былі абабіты чырвоным, і паскі на вянках былі чырвоныя, з чорнаю абводкай. Сыпаў дождж, і над галовамі людзей раскрываліся чорныя парасоны. Чырвоны і чорны колеры — колер рэвалюцыі і колер жалобы...

Над свежа выкапанымі магіламі гаварылі прамовы. На рускай, польскай і яўрэйскай мовах. І Алаіза выступала. Яна гаварыла пабеларуску, бо Вінцусь, які ляжаў у труне каля яе ног, быў беларус.

— Не, Вінцусь, твая кроў не прападзе марна,— гаварыла Алаіза над яго трунoю.— Яна, як крапідлам, ахрысціць людзей, благаслаўляючы іх на бітву...

Пятую ноч пасля расстрэлу рабочых у Вільні Алаіза не можа спаць. Яе точыць жаданне на ўвесь голас расказаць пра ўсё, што яна думае. Точыць неабходнасць выказаць свой боль, пракрычаць праклён забойцам. Яна ведае, што павінна зрабіць гэта ў новым вершы.

*Калі брызне з грудзей*
*Кроў гарача цуркам,*
*Як крапідлам, людзей*
*Ахрысціла кругом...—*

каторы раз сама сабе паўтарае Алаіза. Гэта пакладзеныя ў верш словы, якія яна гаварыла ў сваёй пахавальнай прамове. Кроў Вінцуся і іншых ахвяр пакліча народ да помсты.

Яна хоча зазірнуць у душу салдата, які пасылаў у натоўп смертаносныя кулі. Што ён цяпер адчувае? Не, ён не можа больш апраўдвацца тым, што яму загадалі страляць, што ён не мог не выканаць загаду афіцэра. Недзе павінна грызці яго сумленне...

*«Я забіў, я праліў*
*Пралетарскую кроў.*

*Я душу загубіў,*
*Заплаціць я гатоў...»*

Так, толькі так ён павінен адчуваць: расстрэл рабочых — гэта забойства, учыненае ім самім, найвялікшы грэх, за які ён мусіць расплаціцца...

У пятую ноч пасля расстрэлу дэманстрацыі Алаіза і напісала гэты верш. Ён выліўся з яе душы адразу, цалкам, бо так свежа было ўсё перажытае, убачанае сваімі вачыма, бо такім вялікім быў боль па ахвярах, па Вінцусю. Яна і ў вершы напісала яго імя. Напісала, каб пра яго ведалі іншыя людзі, каб яго імя паўтаралася сотні, тысячы разоў.

*Не плач, матуля,*
*Не сярдуй, татуль,*
*Што забілі Вінцуля,*
*Што не прыйдзе адтуль;*

*Што чырвоны штандар*
*Прад народам ён нёс,*
*Што крычаў: «Гасудар,*
*Ці наеўся ты слёз?*

*Ці напіўся крыві,*
*Ці накрыўдзіўся нас.*
*Мы з штандарам прыйшлі:*
*Расплаціцца ўжо час».*

У вершы быў не толькі смутак па ахвярах. Увесь верш быў — заклік. Ён — надпіс на вянку, ускладзеным на магілу забітых. А на тых вянках былі не толькі слёзы. І народ не толькі галасіў, але і пяяў. Там, на могілках, спявалі «Вы жертвою пали». А пасля, ідучы з могілак, спявалі «Варшавянку».

*А народ і пяе,*
*Пад штандарам ідзе,*
*На ворага-цара*
*Крэпку руку нясе.*

*Нясе доўг у грудзях*
*На тыранаў, цара,*
*І прыказ у вачах:*
*«Цару згінуць пара!»*

Пад вершам Алаіза паставіла подпіс — «Цётка» і дату «21 кастрычніка 1905 года».

Гадзіннік паказваў палову пятай. Трэба было хоць крыху заснуць. І Алаіза паслала ложак. Лягла, укрылася з галавою. І коўдра і прасціpáдла былі сырыя, халодныя. Яна доўга не магла сагрэцца, яе калаціла. Мо таму, што змерзла ў няпаленым пакойчыку, а мо ад узбуджанасці. Хуталася, каб сагрэцца, заплюшчвала вочы, каб заснуць, але з галавы не выходзілі радкі верша, усплывалі вобразы перажытага ў апошнія дні. Перад вачыма стаяла Зоська, як пазірала яна на бацьку ў труне. Засталася сіратою. Не на вайне забілі бацьку, а дома. І Кася... Як яна білася галавою аб сцяну... І дождж, і чорныя парасоны, і вянкі... Вянкі і вянкі. Кожную магілу аблажылі з усіх бакоў вянкамі.

Пасля зноў паўтараліся ў памяці радкі верша. «Ёсць няігладкія мясціны,— думала Алаіза,— трэба будзе падшліфаваць...»

Яна крыху сагрэлася, але сон не ішоў. Варочалася з боку на бок, а неўзабаве і зусім страціла надзею заснуць. Так ляжала, пакуль па галасах з двара не пазнала, што ўжо раніца. Трэба было ўставаць, апранацца, ісці да сваіх хворых. Нядаўна паступіў новы хворы. Нейкі плюгавы чыноўнічак з канцылярыі зямельнага банка. Яму ў стол падкінулі пракламацыю, і трэба ж, каб у той жа дзень у канцылярыю прыйшлі жандары з вобыскам! У чыноўніка ў стале знайшлі лісток. Сам ён яшчэ не агледзеўся, не бачыў, што яму падлажылі. Чыноўнічка арыштавалі, і ён звар'яцеў ад страху, што яго залічаць у крамольнікі, пагоняць у Сібір.

Каб выказаць свае вернападданніцкія пачуцці і пераканаць турэмнае начальства, што ён не бунтаўшчык, чыноўнічак з раніцы да вечара крычаў у сваёй цэлі хвалу яго імператарскай вялікасці, узносіў да нябёс яго розум, яго добрае сэрца і вялікадушша. З раніцы і да вечара чыноўнічак крычаў: «Да славится ум, найдобрейшее сердце и найвеликшая милость царя-батюшки нашего!», а яшчэ: «Припадаю к стопам вашего императорского величества, молю о счастье поцеловать вашу нежную руку, которая славится благодеяниями своими!»

Спачатку турэмшчыкі палічылі чыноўнічка за вельмі сур'ёзнага злачынцу, небяспечнага крамольніка. Бо нават турэмныя наглядчыкі не маглі дапусціць, што пра іх цара можна зусім шчыра гаварыць такое. Бачылі ў гэтых воклічах адкрытую іронію і здзек з гасудара. А пасля павялі чыноўнічка да доктара, і той адправіў яго ў бальніцу для душэўна хворых.

Сапраўды, толькі вар'ят мог у Расіі пяяць хвалу свайму самадзержцу...

## XXVIII

У гэтыя ж дні краіну абляцела сенсацыйная вестка — цар выдаў маніфест! У ім аб'яўлены свабода слова, свабода мітынгаў, свабода друку, недатыкальнасць асобы. Доктар Сільвановіч, які ездзіў у Вільню па медыкаменты, расказваў, што сваімі вачыма бачыў дэманстрацыю, якая праходзіла па Завальнай вуліцы. У дэманстрацыі ішла багатая віленская публіка, прадстаўнікі буржуазіі, інтэлігенцыі. Яны крычалі аб тым, што рэвалюцыя закончана, што рэвалюцыя перамагла.

— Здраднікі! — грымеў доктар Полазаў, размахваючы газеткаю, у якой таксама было напісана, што царскі маніфест дае «вельмі многа харошага рабочым».

Члены арганізацыі ў Нова-Вілейцы прыйшлі да аднадушнай згоды: маніфест — гэта няўдалая спроба самаўладства ашукаць народ. Праўды ў гэтым маніфесце ні на грош, рэвалюцыя ў Расіі адбываецца не дзеля такога маніфеста. На пасяджэнні арганізацыі было пастаноўлена ў самы бліжэйшы час сабраць сход у памяшканні лячэбніцы, выкрыць перад народам сутнасць маніфеста, зваць народ на далейшае змаганне, да канчатковай перамогі рэвалюцыі.

— Маніфест нам даў свабоду сходаў, пакарыстаемся ёю,— заключыў пасяджэнне доктар Полазаў.— Будзем гаварыць не хаваючыся, уголас. Усё, што думаем. Свабода слова! — засмяяўся ён.

Члены арганізацыі апавясцілі насельніцтва Нова-Вілейкі аб тым, што ў зале лячэбніцы будзе сход, і пад вечар трэцяга лістапада на ўзгорак, дзе стаяла лячэбніца, па шырокай брукаванай дарозе падаліся групкамі людзі.

У зале бальніцы ярка гарэла электрычнасць. На сцэне стаяў стол, засланы белым прасцірадлам. Алаіза з Тацянай Краінскай сустракалі людзей каля галоўнага корпуса, запрашалі іх у залу. Вельмі многа ішло на сход і сваіх — абслуга бальніцы, рабочыя кухні, складаў, майстэрняў. Тут жа круціўся і ўраднік Мароз, тоўсты, з чырвоным тварам і рудымі вусамі. Яго нядаўна прыслалі ў лячэбніцу для на-

гляду за парадкам, бо паліцыя ўжо мела весткі, што тут дзейнічае арганізацыя.Ураднік Мароз спыняў то аднаго, то другога з дактароў, гаварыў ім, як неразумным дзецям:

— Господа, ну что же вы, право... Всё, слава богу, устроилось. Собрания разрешены, говорить можно вволю, так зачем же вы устраиваете это собрание? Расходились бы, право...

Доктар Сільвановіч хапаўся ад смеху за жывот.

— Чулі, што кажа Мароз? — гаварыў ён Алаізе.— Сходы дазволены, дык чаго ж вы збіраецеся...

— Нам трэба, пан Мароз, каб вы тут не аціраліся,— падышоў ён да ўрадніка.— У вашай прысутнасці я ніяк не магу адчуваць свабоду, якую так міласціва даў мне гасудар імператар.

Мароз хмыкнуў у свой руды вус, злосна глянуў на доктара. Відаць, запомніў гэтыя словы, бо пасля ў даносе асабліва распісваў крамольныя выказванні доктара Сільвановіча.

Неўзабаве пасля сходу дырэктар бальніцы Хардзін выклікаў да сябе ў кабінет доктара Полазава.

— Тое, што адбываецца ў лячэбніцы, не адпавядае характару нашай установы,— афіцыйна загаварыў ён.— Дактары забываюцца пра свой свяшчэнны абавязак — лячыць хворых. Празмерна займаюцца палітыкай.

Хардзін, немалады, салідны з выгляду мужчына ў акулярах з залатой асадкай, хмурыў бровы і тузаў ланцужок гадзінніка, які звісаў у яго з кішэні камізэлькі.

— Хаця б таму,— гаварыў ён,— што наша ўстанова медыцынская, вы, як вядучы лекар бальніцы, не павінны б былі дазваляць, каб сюды збіраліся староннія людзі... І тэлефон у нас пастаўлены для паслуг службэбнага характару...

— А я лічу, пан Хардзін,— цвёрда адказаў Полазаў,— што бальніца не можа быць у баку ад грамадскага руху. Бальніца павінна служыць грамадскаму руху і залай, і тэлефонам.

Дырэктар нахмурыўся яшчэ больш, але прымаць нейкія меры да Полазава, мусіць, пабаяўся. Падзеі разгортваліся так, што ўсяго можна было чакаць. Рэвалюцыя набірала сілы. У такім гарадку, як Нова-Вілейка, і то рабілася чорт ведае што...

У Вільні ж атмасфера была выключна напружаная. Па вуліцах хадзілі шпікі, скрозь было поўна жандараў і казакаў. Усе бачылі, што абяцанні, якія даваў маніфест, засталіся абяцаннямі. Часта адбываліся ўзброеныя сутычкі рабочых з паліцыяй. Не так даўно на Завальнай вуліцы казакі затрымалі рабочага, западозрыўшы, што ён страляў у акалотачнага наглядчыка. Рабочыя вырашылі адбіць свайго таварыша. Узброіўшыся дошкамі і каламі, якія тут жа павырывалі з платоў, яны пайшлі на казакаў. Казакі пачалі страляць у рабочых. Было забіта чатыры чалавекі, паранена дзесяць.

Аднойчы Алаіза прынесла на пасяджэнне арганізацыі газету, якую даў ёй Сцяпан. Газета была свежая, нядаўна перапраўленая ў Расію з Жэневы. У ёй пісалася пра падзеі ў Расіі, з вялікімі падрабязнасцямі, з глыбокім веданнем усяго, што тут робіцца.

Ужо тры тыдні ў Нова-Вілейцы быў закрыты завод Поселя. Рабочыя выступілі ў абарону свайго таварыша, якога хацелі звольніць з завода, пабілі ў цэху вокны, паламалі некалькі станкоў. Намесніка Гросмана — пана Будзіловіча, які ненавідзеў рабочых, лічыў іх быдлам і больш за ўсіх хацеў расправіцца з імі сілаю, у мяшку на тачцы вывезлі за вароты і выкінулі на сметнік.

Гросман выклікаў з Вільні войска. Гарадскі галава, ён жа гаспадар фабрыкі, Мозар прапанаваў рабочым стаць здраднікамі, сказаў, што яны павінны выдаць зачыншчыкаў. Абяцаў, што за гэта губернатар дасць ім узнагароду.

Але рабочыя ўзброіліся косамі. Яны заявілі, што, калі хто кране хоць аднаго іх таварыша, перарэжуць казакаў.

Нам патрэбна ваенная дружына,— гаварыў доктар Сільвановіч,— бо што мы за авангард руху, калі ў патрэбны час не зможам выступіць са зброяй у руках!

— Мы мусім мець дружыну, і каб памагаць рабочым і каб даць па зубах чорнай сотні,— падтрымліваў Сільвановіча Эйляшэвіч.— Бо паліцыя збірае басякоў, хоча ўчыніць пагром.

— А хіба тое, што Мозар падбухторваў рабочых пабіць сваіх жа таварышаў, хіба гэта не бандыцтва? — уступіла ў гаворку Тацяна Краінская.

— Ды ён першы чарнасоценец! — падрымаў яе Іван Лыкаў.

У кватэры Полазава, якая цяпер была нібы штабам арганізацыі, пачалася гарачая гаворка, як арганізаваць дружыну, дзе дастаць зброю.

— Людзі ў нас знойдуцца, толькі голас падай,— упэўнена гаварыў Эйляшэвіч.

— Рабочыя з майстэрняў, конюхі, дрывасекі,— загінаў пальцы на руцэ Іван Лыкаў,— іх у нас каля сотні чалавек. Яны хоць сёння возьмуцца за сякеры. Я каля іх папахадзіў... — задаволена сказаў ён.

— Мы, я думаю, таксама ўзялі б у рукі зброю,— абвёў усіх вачыма доктар Сільвановіч.

— А што, калі нам паспрабаваць здабыць яе легальна, праз магазін Малчанава,— раптам хітра прыжмурыўся доктар Полазаў.— Напісаць прашэнне на бальнічным бланку...

— А я надрукую на машынцы,— развівала ідэю Полазава Тацяна Краінская.

Такая думка ўсім спадабалася, хоць і разумелі, што ў гэтым вялікая рызыка. І ўсё ж вырашылі паспрабаваць узброіць дружыну праз магазін Малчанава, які быў у Вільні.

На бланку за нумарам 98, які праз некалькі дзён прынёс доктар Гарэлік, надрукавалі прашэнне. У ім гаварылася, што для самаабароны служачых лячэбніцы ад душэўна хворых, якія не адказваюць за свае ўчынкі, адміністрацыя бальніцы просіць пана Малчанава адпусціць 24 рэвальверы: 4 сістэмы «Браўнінг» і 20 сістэмы «Сміт і Весан».

Дружна пасмяяліся яны з гэтага прашэння. Прыйшлі да вываду, што ані кропелькі не схлусілі.

— Хіба наш цар, Мікалай другі, не душэўна хворы, які не адказвае за свае ўчынкі? — аж клалася са смеху Алаіза.— Так што, бронь божа, мы ўсё вельмі праўдзіва напісалі. Хай пан Малчанаў памагае!

— Амен...— сказаў доктар Гарэлік, ставячы на прашэнні пячатку.

З аперацыяй вырашылі не марудзіць і назаўтра ж паслалі ў Вільню Сільвановіча і Лыкава. Чакалі іх з нецярпеннем. Алаіза некалькі разоў выбягала на дарогу, каб паглядзець, ці не едуць. Іх адправілі на фурманцы, нібы па лекі для бальніцы.

Нарэшце, прыехалі. З-пад саломы, якою былі засланы калёсы, выцягнулі два цяжкія скруткі. Значыцца, прывезлі!

— Пан Малчанаў не меў да чаго прычапіцца,— расказваў вечарам Сільвановіч.— Усе дакументы былі ў поўным парадку. А сам ён такі ж спагадлівы чалавек. Усё пытаўся, ці часта кідаюцца вар'я-

ты на дактароў і як я не баюся там служыць. Я казаў, што кідаюцца часта, што аднаго доктара ледзь не задушылі, бо яны ж дужыя, як чэрці. Таму вось і па зброю прыехалі. Дык ён усё войкаў і загадаў прыказчыку выбраць лепшыя рэвальверы.

Усе радаваліся, што хітрасць удалася.

— Малавата толькі...— пакруціў галавою Іван Лыкаў.

— Што ж, прыйдзецца не грэбаваць ні сякерамі, ні жалезнымі прутамі, ні косамі,— сказаў Полазаў.

Цэлы вечар гаварылі пра адно — арганізацыю баявой сілы.

Было вырашана, што ў дружыну можа ўступіць кожны, хто, ахвяруючы сваім жыццём, згодны выступіць на бой за свабоду, у абарону слабага, пакрыўджанага. Члены арганізацыі рабіліся ядром дружыны. Трэба было брацца за згуртаванне ўзброенай сілы.

## XXIX

Пасля доўгіх і нудных дажджоў, якія сыпалі ўвесь лістапад, пачало падмарожваць. Гразь цвярдзела, лужыны зацягваліся лёдам, які трашчаў пад нагамі, як тонкае шкло. А хутка выпаў і снег. Чысты, пульхны, ён ляжаў някрануты, як белая пуховая коўдра. Зашорхалі рыдлёўкі, расчышчаючы дарожкі, калёсы мяняліся на палазы.

Па першым снезе прайшла праз Нова-Вілейку ўзброеная дружына. Запісалася ў яе чалавек сто. Агнястрэльнай зброі было мала, многія дружыннікі ішлі з косамі, сякерамі, жалезнымі прутамі. Ішлі роўным строем, па чатыры чалавекі ў радзе. Наперадзе — Іван Лыкаў з чырвоным сцягам.

Выйшлі з лячэбніцы і па шырокай брукаванай дарозе накіраваліся ў горад. Гэта была дэманстрацыя ўзброенай сілы. Каб усе ведалі, што ёсць каму выступіць у абарону рабочых, што народ рыхтуецца да ўзброенага паўстання.

Праз вокны дамоў на іх з цікавасцю пазіралі жыхары Нова-Вілейкі. Да шыб прыліпалі і радасныя, і спалоханыя твары. З некаторых двароў выбягалі людзі, махалі дружыннікам рукамі. Чалавек з дзесяць маладых хлопцаў далучылася да дэманстрацыі. Адзін, яшчэ бязвусы, у лёгкай картовай світцы з расхрыстанай грудзінай, чырвонай ад холаду, крычаў:

— І мне дайце стрэльбу! І я з вамі!

Усю дарогу беглі за імі хлапчукі, некаторыя распранутыя, як павыскоквалі з хат. Адзін нават босы, у бацькавай шапцы, нёсся за дружыннікамі і выкрыкваў: «Эй-ля-ля! Эй-ля-ля!» Выказваў так сваё захапленне.

Падыходзячы да завода Поселя, дружыннікі заспявалі «Вставай, подымайся, рабочий народ!..»

Рабочыя, якія ў гэты час былі ў двары, кінуліся да каменнай агароджы, якой быў абнесены завод. Чорныя, у мазуце, твары ўсміхаліся дружыннікам, чорныя рабочыя рукі махалі ім.

А дружыннікі яшчэ больш падраўняліся. Усе ішлі ў нагу, з песняй, бадзёрыя, падцягнутыя, як сапраўды арганізаваная сіла.

Пасля выступлення дружыны ў Нова-Вілейцы пабольшала казакаў. Яны ездзілі на конях па вуліцах, разганялі рабочых, калі тыя збіраліся групкамі і расказвалі навіны.

— Свабода ж слова! — крычалі рабочыя.

Але казакі ўзнімалі нагайкі.



У гэты час у бальніцы здарылася вельмі непрыемная падзея. Алаіза была ў сваім пакоі, калі пачула раптам лямант Юзі: яна прыбегла з двара.

— Матка найсвентша! Эзус, Мар'я! Ой-ёй-ёй!..— лементавала Юзя ў калідоры.

Алаіза адчыніла дзверы.

— Што, Юзя? — спыталася яна, па твары кабеты бачачы, што адбылося сапраўды нешта незвычайнае. Вочы ў Юзі былі круглыя ад страху, твар збялеў, яна ўсё жагналася і галасіла.

На крык Юзі выбеглі Тацяна Краінская і Аня з Розаю.

— Забілі...— паказала Юзя рукою на галоўны корпус лячэбніцы.— У тунелі знайшлі! Сякераю галоўку рассеклі!..

— Каго? Дзе? — пыталіся перапалоханыя дзяўчаты, але Юзя ўсё галасіла і нічога толкам не магла расказаць.

Накінуўшы на плечы хустку, Алаіза выскачыла на двор. Да галоўнага корпуса беглі людзі. І Алаіза падалася туды. За ёю спяшаліся Тацяна і Аня з Розаю.

Каля корпуса тоўпілася многа людзей. Алаіза прабілася ў круг. На снезе ляжаў поп Лебедзеў. На яго доўгіх сівых валасах запяклася кроў. Адкрытыя вочы пазіралі ўгору. Рэдзенькая бародка тырчала, як жменька кудзелі. Адзенне было пакамечанае, бруднае.

— Хто ж яго? За што? — пыталіся адзін у другога людзі.

Расштурхваючы ўсіх, у круг прабіўся ўраднік Мароз. Паглядзеў на забітага, абвёў усіх злоснымі вачыма.

— Што, даміты́нгаваліся? — з яхіднай радасцю сказаў ён.

— Не пляці абы-чаго...— абарваў яго фельчар Эйляшэвіч, які таксама быў тут.

Канечне, забойства папа Лебедзева не мела нічога агульнага з дзейнасцю рэвалюцыйнай арганізацыі, але хто перашкодзіць паліцыі павярнуць справу так, што іменна тыя, хто заклікаў да ўзброенага паўстання, і забілі папа, прадстаўніка царквы, якая стаіць на ахове дзяржаўнага парадку. Такая думка прамільгнула ў Алаізы.

— Паглядзім, каму цяпер наплятуць!..— з пагрозаю адказаў ураднік Мароз Эйляшэвічу.

— Не таму галоўку праламалі,— пачуўся з натоўпу нечы голас.

Ураднік Мароз прабег позіркам па людзях, шукаючы, хто гэта сказаў, але ўсе пазіралі на яго сурова і моўчкі.

— Бунтаўшчыкі... Вісельня па вас плача,— прабурчаў ён, прабіраючыся да дзвярэй корпуса. Ён пайшоў да тэлефона, каб выклікаць з участка паліцыю.

«Будуць вобыск рабіць... Увесь тунель аблазяць... А там жа шапіграф»,— пахаладзела Алаіза.

Яна кінулася дахаты, схапіла ключы ад тунеля і ад клеці, дзе была друкарня. Трэба было скарэй, пакуль не прыйшла паліцыя, выцягнуць станок, фарбу. Але станок цяжкі, адна яна, напэўна, яго не выцягне. Схаваўшы ключы пад хустку, яна зноў кінулася да корпуса, дзе яшчэ заставалася Тацяна Краінская.

Тацяна стаяла ў гушчы людзей, якія абгаворвалі здарэнне, выказвалі свае здагадкі, падазрэнні. Алаіза адвяла Тацяну ўбок, у двух словах сказала ёй, што трэба рабіць. Сяброўка, стараючыся не выказаць ні цікаўнасці, ні здзіўлення, згодна кіўнула галавою, гатовая хоць цяпер бегчы памагаць. Алаіза на хвілінку затрымала яе.

— Пачакай... Трэба нешта зрабіць, каб Юзя на гэты час не нарвалася. Аня з Розаю тут? — шукала яна вачыма дзяўчат.

— Тут, вунь яны,— паказала Тацяна на сясцёр, якія ўсё яшчэ па-

зіралі на забітага папа. Каля іх стаяла і Юзя, усхліпваючы і выціраючы рогам хусткі вочы.

Алаіза падышла да сёстраў, зашаптала на вуха Ані.

— Затрымайце Юзю, каб яна пакуль дахаты не ішла. Загаварыце, завядзіце куды...— прасіла яна Аню.

Аня азірнулася на Юзю.

— Дахаты не пускаць? — перапытала яна.

Алаіза кіўнула галавою.

— Будзе шыта-крыта,— шэптам адказала Аня. Яна не ведала, навошта Алаіза хоча затрымаць Юзю, але калі тая просіць, значыцца, трэба, і адразу згадзілася.

Праўда, як Алаіза ні сцераглася Юзі, як ні хавалася ад яе, усё ж такі нешта Юзя бачыла, нешта ведала, бо пасля, калі супраць членаў арганізацыі ў Нова-Вілейцы павялі следства, Юзя выступала там як сведка. Яна заяўляла на следстве, што сама, сваімі вачыма, бачыла ў фельчаркі Алаізы Пашкевіч вялікія пачкі пракламацый і што тая нечага часта хадзіла ў тунель.

Алаіза і Тацяна Краінская, не вельмі спяшаючыся, каб не выклікаць падазрэння, пайшлі дахаты. Але як толькі зачынілі за сабою дзверы, бягом кінуліся ў тунель. Скінулі завалу. Тацяна несла свечку, захінаючы яе даланёю ад скразняку, які гуляў па тунелю. Перад дзвярыма клеці Алаіза даволі доўга поркалася з ключом, бо Лыкаў зрабіў такія замкі, што і самім гаспадарам адмыкаць дзверы было нялёгка. Усё ж так-сяк адкрыла. Дзяўчаты ўбеглі ў каменны засек. Прыслухаліся, ці не чуваць якіх галасоў, крокаў. Тут, пад зямлёю, рэха аддавалася далёка. Але пакуль усё было ціха. Удваіх з Тацянаю яны ўзяліся за станок. Ён быў вельмі цяжкі, яны ледзь скранулі яго з месца. Колькі той сілы ў дзявочых руках. Але, тужачыся. пацягнулі да выхаду.

Кожны раз, калі жалеза стукала аб сценку ці падлогу тунеля, яны спыняліся, заміралі, прыслухоўваліся. Не чуючы небяспекі, зноў браліся за станок. Так зацягнулі яны яго ў Алаізін пакой. Паставілі ў кутку каля ложка, накінулі на яго коўдру, зверху навалілі адзежы. Рукі ў абедзвюх калаціліся, былі сінія ад фарбы. Але мыць іх не было калі. У тунелі яшчэ заставаліся бляшанкі з фарбаю, клішэ. Пабеглі, каб прынесці і іх. Ім спатрэбілася яшчэ хвілін пятнаццаць, каб забраць з клеці ўсё, агледзець, ці не засталося якога знаку ад друкарні. Падабралі ўсе паперкі, раскідалі сennікі, якімі быў закрыты шапірограф.

Алаіза падзякавала Тацяне.

— Няма за што... Трэба было, дык і памагла,— адказвала тая. Пасля дадала з лёгкім папрокам.— А я і не ведала, што ў цябе тут робіцца...

— Гэта не маё... Гэта таго чалавека, што некалі прыйшоў уночы. Памятаеш, я яшчэ ў цябе тады начавала.

— Памятаю, чаму не...— выціраючы папераю рукі, адказала Тацяна.

Пакідаць станок у пакоі таксама было небяспечна. Паліцыя магла прыйсці і сюды пад выглядам пошукаў забойцы ці яго слядоў. І Алаіза тут жа апранулася, каб ісці ў Нова-Вілейку да Івана Лыкава. Ён каторы дзень быў хворы і не выходзіў на работу. Трэба было расказаць яму пра ўсё, што здарылася, параіцца, як перахаваць станок.

Калі Алаіза дайшла ўжо да рэчкі, ёй сустрэлася некалькі паліцэйскіх, якія кіраваліся ў бальніцу. Алаіза парадавалася, што паспела выцягнуць станок з тунеля. Канечне, кепска будзе, калі станок усё ж



такі знойдуць, але хай яго лепш знойдуць у яе пакоі, чым у тунелі,— думала яна.

Сям'я Лыкава абедала. Проста на стол была пасыпана бульба ў лупінах, ад якой ішла пара. Жонка і чацвёра дзяцей Івана Лыкава — два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі — абіралі бульбу, мачалі ў соль і елі. Сам Лыкаў ляжаў на лаўцы, паклаўшы пад галаву кажух.

— Хлеб ды соль,— сказала Алаіза.

— Дзякуй,— устала з-за стала жонка Лыкава, худая высокая кабета з глыбока запалымі цёмнымі вачыма.— Запрасіла б вас, ды яда наша...

— Я да ўсякай яды прывычная,— мякка адказала ёй Алаіза,— але часу няма за стол садзіцца. Трэба мне з Іванам пагаварыць.

Іван Лыкаў сеў на лаўцы, доўга кашляў, трымаючыся за грудзі.

— Прастудзіўся, халера...— нібы апраўдваючыся, сказаў ён.

Алаіза шэптам пачала яму расказваць пра ўсё, што адбылося ў бальніцы. Жонка Лыкава рабіла выгляд, што размова фельчаркі з мужам яе зусім не цікавіць. Яна абірала бульбу меншанькай дзяўчынцы, сачыла за большымі, каб яны не дурэлі за сталом, а калі тыя з цікавасцю азіраліся на Алаізу, жонка Лыкава злёгку пляскала іх па патыліцы, вяртаючы ўвагу дзяцей да бульбы.

Калі Алаіза ўсё расказала, Іван Лыкаў устаў і пачаў апранацца.

— Куды ж ты, хворы? — незадаволена сказала жонка.

— Нічога,— апранаючы кажух, які быў у яго пад галавою, адмахнуўся ад жонкі Лыкаў.

— Вы б, і праўда, не хадзілі... Скажыце мне, што трэба рабіць, мо я сама спраўлюся,— сказала яму Алаіза.

— Нічога вы самі не зробіце,— адказаў Лыкаў, зашпільваючы гаплікі на кажуху.— Ідзіце ў бальніцу, глядзіце, што там і як. А я пастараюся знайсці Сцяпана.

Яны разам выйшлі з хаты: Алаіза павярнула да лячэбніцы, а Лыкаў пайшоў у другі бок. Алаізе было непрыемна, што падняла хворага чалавека, але, нічога не зробіш, справа вымагала.

Падыходзячы да чыгункі, за якою ішоў тракт у бальніцу, каля пахілага доміка, закіданага снегам, Алаіза ўбачыла дзіцячую постаць. Хлопчык стаяў на адной назе, як бусляня, і полы доўгай світкі нагадвалі апушчаныя, абскубаныя крылы. Калі Алаіза падышла блізка да яго, ён пераступіў з нагі на нагу, працягнуў руку і жаласным голасам папрасіў:

— Панечка, дайце капейка...

На Алаізу пазіралі сумныя чорныя вочы. Яна сунула руку ў кішэню, у другую, выграбла ўсё, што там было, і высыпала ў худую дзіцячую ручку з чорнымі пазногцямі.

«Як ні цяжка ўсім рабочым, але яўрэйскай беднаце яшчэ цяжэй,— думала Алаіза, азіраючыся на хлопчыка, які застаўся стаяць на тым самым месцы.— Цкуюць гэтых бедных яўрэяў...»

Алаіза спяшалася ў бальніцу. «І трэба ж, каб забіць гэтага папа...— з прыкрасцю думала яна.— Каму ён спатрэбіўся?» Яна не вельмі каб шкадавала, яе злавала непатрэбнасць учынку. Забойства магло быць правакацыяй, а магло быць і простым выпадкам. Які-небудзь вар'ят мог засекчы папа, мог нехта звесці асабістыя рахункі. Але павярнуць гэту справу цяпер могуць, як захочуць.

Калі Алаіза вярнулася ў бальніцу, каля галоўнага корпуса яшчэ стаяла некалькі чалавек. Папа ўжо не было, яго паклалі ў трупярню лячэбніцы.

— А паліцыя тут? — спыталася яна ў цёткі Фені, сядзелкі, тоў-

стай немаладой жанчыны, якая ўсё яшчэ не ішла дахаты, чакаючы, мусіць, нейкіх навін.

— Тут, пані фельчарка,— паслужліва адказала яна,— па тунелю ходзяць. Абглядваюць месца, дзе знайшлі труп. І падумаць, панечка, што ў нас тут робіцца! Гэта ж страх будзе хадзіць: шасне хто сякерою па галаве і лаві яго,— залапатала цётка, радая, што знайшла чалавека, якому можна выказаць усё, чым поўнілася яе прагнае да навін сэрца.

Алаіза, не даслухаўшы яе, пайшла ў корпус, апусцілася па лесвічках у падполле, адкуль пачынаўся тунель. Тут, ля ўваходу, нікога не было, мусіць, паліцыя хадзіла ўжо недзе далёка ўсярэдзіне.

Баючыся, каб не звярнуць на сябе ўвагі, Алаіза вырашыла пайсці дахаты, паглядзець, ці ўсё там у парадку.

Дома ўсё было, як раней. Шапірограф, закіданы адзежаю, горбіўся за ложкам, толькі ў пакойчыку стаяў цяпер неўласцівы для жылля пах — аддавала жалезам, друкарскаю фарбаю. Каб заглушыць гэты дух, Алаіза пляснула з бутэлечкі парфумы — на ложак, на адзежу, якой быў акрыты станок.

Разумеючы, што больш яна ўсё роўна нічога зрабіць не можа, Алаіза пачала збірацца на дзяжурства.

А ноччу, калі яна ўжо спала, яе разбудзіў слабы стук у акно, нібы ў шыбу кінулі снежку. Алаіза падхапілася, прыпала да шыбы. У гэты час у шыбу зноў бразнуўся кавалак снегу. Яе нехта клікаў. Накінуўшы паліто проста на сарочку, яна выбегла з дому. У светлай ад снегу і месяца ночы яна адразу пазнала Івана Лыкава і Сцяпана.

— Па станок,— шэптам сказаў Іван Лыкаў, і яны са Сцяпанам на пальчыках пайшлі ў дом.

Мужчыны паднялі станок даволі лёгка.

— Не былі б то мужчыны...— шаптала Алаіза, ідучы за імі.— А мы з Тацянаю ледзь не пападрываліся.

Івана Лыкава душыў кашаль, і ён з усяе сілы стрымліваўся, каб не бухаць, туліўся ротам да пляча, фыркаў у кажух.

— У нас там фурманка,— сказаў Іван Лыкаў, калі яны вынеслі станок з дома.— Каля лазу ў агароджы, за складамі.

— Дзякуй вам, хлопчыкі,— гаварыла Алаіза.

— Вам дзякуй,— сказаў Сцяпан і раптам нахіліўся да Алаізы, пацалаваў яе ў шчаку.— За ўсё дзякуй.

— Ат,— махнула рукою Алаіза, паказваючы гэтым жэстам, што няма за што ёй дзякаваць. А ў самой раптам зашчымела сэрца. Зрабілася шкада, што забіраюць з-пад яе апекі шапірограф. І ў тым, як дзякаваў ёй Сцяпан, яна адчула ноткі развітання. А ёй не хацелася надоўга развітвацца са Сцяпанам. Можа, дарэмна ўзняла яна трывогу? Можа, як абышлося б, не знайшла б паліцыя станка?

— Ідзіце, кладзіцеся спаць, мы ўсё самі зробім,— сказаў Сцяпан.

Яны забралі і фарбу, і клішэ, склалі ўсё ў мяшок, які прынеслі з сабою. Алаіза крышку пастаяла, гледзячы ім услед, азірнулася, ці няма дзе каго блізка ці не падглядвае хто. Але нікога не было відаць. Падаў сняжок, засыпаючы сляды. Хлопцам шанцавала.

Алаіза вярнулася ў пакой, зноў лягла ў ложак, укрылася цяплей, каб сагрэцца, бо на снезе стаяла ў адных пантофлях на босую нагу. Неўзабаве ў калідоры пачуліся крокі. Асцярожныя, мяккія, як каціныя. Пад нагамі рыпнула маснічына, і крокі заціхлі, пасля пачуліся зноў. Прасунуліся па калідоры і пайшлі наверх, да Юзінага пакойчыка.



— Начніца акаянная! Высочвае...— аблаяла Юзю Алаіза.— Але трасцу ты перашкодзіш, станок ужо недзе па дарозе да Вільні...

Назаўтра, ледзь Алаіза прачнулася, новая вестка абляцела лячэбніцу. Да Ані з Розаю прыбегла з горада жанчына, захутаная ў чорны шаль. Яна ўся калацілася, вочы ў яе былі поўныя страху.

— Пагром...— толькі і сказала яна.

Нова-Вілейка ляжала ўнізе, ціхая, сонная, прысыпаная снегам. З комінаў плылі ў неба мірныя дымкі. І не верылася, што ў гэтай цішы, у гэтым спакойным, як здавалася здалёк, гарадку робіцца нешта агіднае, жорсткае, брыдкае.

Аня з Розаю пабеглі да доктара Полазава. Абедзве плакалі. У іх не было родных або блізкіх у Нова-Вілейцы, за каго яны маглі баяцца, але само слова «пагром», якое з маленства чорным жахам жыло поруч з імі, не магло не выклікаць у іх страху і роспачы.

Доктар Полазаў, пачуўшы ад дзяўчат такую вестку, спахмурнеў. Крыху памаўчаў, падумаў, пасля сказаў рашуча:

— Пойдзем на выручку.

Праз некалькі хвілін забомкала жалезная рэйка, аб'яўляючы трывогу і збор дружыны.

Калі дружына, пастроіўшыся, рушыла ў Нова-Вілейку, Эйляшэвіч падбег да Ані з Розаю, якія таксама ішлі ў калоне.

— А вы куды? — напусціўся на іх Эйляшэвіч.— Што вы там зробіце?..

— Не, і мы пойдзем,— рашуча адказвалі дзяўчаты.

— У вас жа і зброі няма. Вы што, кіпцюрамі ваяваць будзеце?

— А гэта што? — выцягнула Роза з-пад хусткі рэвальвер.

У Эйляшэвіча пакруглелі вочы.

— Ну, калі так...— здаўся ён.

— А ў вас што, таксама пісталет? Ці, можа, бомба? — пакасіўся ён на Алаізу.— Не жаноцкая гэта работа. Без вас абышліся б...

— Як на што, дык мы вам вельмі патрэбныя, а тут ужо і замінаем,— адказала Алаіза.

У яе не было зброі, але яна не магла заставацца, калі яе таварышы ішлі на небяспечную справу.

У Нова-Вілейцы, як і ў Вільні, яўрэйская бедната жыла на асобных вуліцах. Гэта былі яўрэйскія раёны, нешта накшталт гета. У гэты раён і кіравалася дружына.

Ціша і спакой, якія, здавалася, луналі над гарадком, былі ўяўныя. Тут чыніўся гвалт і разбой. Крама яўрэя Мэндаля была разбіта. На вуліцы, на снезе, валяліся распоратыя мяшкі з мукою, з крупамі, валяліся раструшчаныя бутэлькі. Вокны ў краме былі павыбіваны, мэбля ў кватэры паламана. Мэндаль ляжаў на падлозе звязаны, жонка яго на ложку, непрытомная.

Дружыннікі развязалі Мэндаля, памаглі ачуняць жонцы. Абодва яны плакалі. Не так шкадавалі дабра, як душыла крыўда за такую вялікую несправядлівасць.

І яшчэ ў дзвюх яўрэйскіх хатах былі павыбіваны вокны і разбіты ўвесь посуд. З распоратых падушак павыпускана пер'е.

На падлозе ў адной хаце ляжаў хлопчык. Над ім сядзелі тры жанчыны і моцна галасілі. Адна, маленькая, худая, відаць, матка, рвала на сабе валасы, білася галавою аб драўляны ложак. А хлопчык ляжаў мярцвяна белы, з адкрытымі чорнымі вачыма. Алаіза ўзяла яго руку, каб паслухаць пульс, і гэта цэненькая рука з чорнымі пазногцямі здалася ёй знаёмай. Алаіза ўгледзелася ў твар. І пазнала. Гэта ж тое самае бусляня, якое стаяла на адной назе каля заснежа-

най хаткі!У гэтую руку яна тады высыпала дробязь... Хлопчык быў мёртвы.
— Як жа яго? — з жалем спыталася Алаіза.
Маленькі барадаты яўрэй, з вачыма, чорнымі, як у хлопчыка, з тварам, чорным ад гора, сіпла расказаў.
— Яе білі,— паказаў ён на жанчыну, якая рвала на сабе валасы.— Лейбка кінуўся, укусіў за руку... А той адвярнуўся і кіем... па галоўцы...
І бацька раптам таксама загаласіў, заскавытаў, голасна, не па-чалавечы. Упаў на калені перад хлопчыкам.
Пагромшчыкі тым часам уцякалі: яны пачулі, што з бальніцы ідзе дружына.
Дружыннікі, падзяліўшыся на два атрады, абыходзілі яўрэйскія вуліцы. На іх нібы ўсё павымірала. Людзі сядзелі ў хатах, пазакрываўшы аканіцы, пазамыкаўшыся.
Калі Алаіза выйшла з дома, дзе ляжаў забіты хлопчык, адзін атрад дружыннікаў вяртаўся ўжо з абходу. Ім удалося злавіць двух пагромшчыкаў. Напакаваўшы мяшкі таварам з мэндалевай крамы, прыхапіўшы тое-сёе з хаты, срэбныя лыжкі, падсвечнікі, яны шкадавалі кінуць дабро і не змаглі так спрытна ўцячы, як іх хаўруснікі. Бандыты схаваліся за хлевам адной яўрэйскай хаты. Думалі, што там перачакаюць, пакуль дружыннікі ходзяць па горадзе. Але іх выдалі сляды, якія яны пакінулі на снезе.
Разזлаваныя, дружыннікі добра прыклалі рукі да бандытаў. І ў аднаго і ў другога на тварах сінелі знакі. Торбы ў іх адабралі, рукі звязалі за спіною і цяпер вялі па вуліцы, як зладзеяў.
— Забойцы! Гады! — крычала ім у твар Роза Малкус і трэсла перад носам рэвальверам.— Зараз без суда, без следства расстраляю!..
Бандыты бачылі раззлаваных узброеных людзей і баяліся, што над імі і сапраўды ўчыняць самасуд. Адзін, нізенькі, без шапкі, са старым рубцом каля вуха і са свежа падбітым вокам, енчыў, прасіўся:
— Мы не білі... не забівалі... Гэта тыя... Богам клянуся...
Вырашылі завесці пагромшчыкаў за горад, яшчэ добра ўсыпаць ім і пусціць, не развязваючы рук.
Так і зрабілі.
— Ідзіце да сваіх! — крыкнуў ім Эйляшэвіч.— Скажыце, што калі прыйдуць яшчэ раз, то літасці ўжо не будзе! Пастраляем!
Пагромшчыкі калаціліся ад страху, не верылі, што іх адпусцяць. А калі пераканаліся, што дружына пайшла, пакінуўшы іх на заснежаных агародах, крадком, азіраючыся, падаліся да лесу, які сінеў за горадам.

## XXX

Гэты раз члены арганізацыі сабраліся не на кватэры Полазава, а ў зале лячэбніцы. Іх былі ўжо намнога больш. На пасяджэнне былі запрошаны і тыя, хто запісаўся ў дружыну, і тыя, хто толькі спачуваў барацьбе, якую вяла арганізацыя.
Выступаў доктар Полазаў.
— У Маскве, Пецярбурзе рабочыя ўзбройваюцца, рыхтуюцца да апошняга ўдару па царызму,— гаварыў ён.
Доктар Полазаў стаяў за сталом, на якім ляжала свежая газета і некалькі доўгенькіх паперак — пракламацый.



— Масква сёння стала цэнтрам рэвалюцыйнага руху. Рабочыя строяць барыкады,— паляпаў Полазаў рукою па газеце.— Яшчэ адзін напор, і самаўладства будзе зламана! Рабочыя Вільні,— узняў ён доўгую белую паперку,— падтрымліваюць выступленне расійскага пралетарыяту. У знак салідарнасці з маскоўскімі рабочымі, з заўтрашняга дня віленскі пралетарыят аб'яўляе ўсеагульную забастоўку. Мы павінны падтрымаць віленскіх рабочых. Павінны падтрымаць маскоўскіх таварышаў, увесь расійскі пралетарыят у яго святой, справядлівай вайне. Хто што хоча сказаць, прашу,— жэстам запрасіў ён удзельнікаў сходу да выступленняў.
— Што там гаварыць! — пачуўся голас Івана Лыкава.— Збіраць дружыну, ісці ў горад! Спыніць заводы!
Івана Лыкава падтрымалі. Але з пярэдняга раду раптам узнялася невысокая постаць доктара Тамашэвіча. Ён узняў руку, просячы слова, і, не дачакаўшыся, пакуль яму дазволяць, выбег наперад, стаў перад людзьмі. Яго гладка паголеныя шчокі гарэлі чырванню. Алаіза чамусьці ўявіла доктара Тамашэвіча хлопчыкам гадоў чатырох. Вось недзе было мілае дзіцятка! Заўсёды чырвоненькае, пухленькае. Мамка, мусіць, недзе хораша даглядала яго, песціла сыночка.
А доктар Тамашэвіч, чырванеючы яшчэ больш, горача гаварыў:
— Ці мала ўжо пралілося людской крыві? А ў цара яшчэ сіла моцная. Не так проста непадрыхтаванаму рабочаму зламаць яе. Трэба шукаць новыя сродкі барацьбы! Выкарыстоўваць легальныя магчымасці! Пасылаць сваіх прадстаўнікоў у Думу, каб там яны адстойвалі інтарэсы рабочых!
— Што твая Дума, што маніфест, адна халера! — выкрыкнуў нехта з месца.
Але доктар Тамашэвіч нібы не пачуў гэтага.
— Наша літоўская сацыял-дэмакратычная партыя папярэджвае рабочых, што новае выступленне можа кепска скончыцца для іх. Будуць новыя ахвяры. А хіба не даволі іх? А тут у нас, у лячэбніцы, цяпер наогул трэба апасацца арыштаў. Пасля забойства свяшчэнніка Лебедзева...
— Ці не ты і прыкончыў папа? — зноў нехта крыкнуў у зале.
На гэты раз доктар Тамашэвіч не вытрымаў:
— Як вы можаце! Як вы смееце! — выкрыкнуў ён. — За такія словы... — узняў ён кулачкі.
Але тут выбег Эйляшэвіч.
— Не, гэта — як вы смееце?!. — крыкнуў ён Тамашэвічу. — Як вы смееце гаварыць ад імя сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы! Я магу зараз прачытаць адозву, падпісаную Капсукасам, лідэрам гэтай партыі.
Эйляшэвіч выхапіў з кішэні пінжака белую паперку, разгарнуў:
— «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! — пачаў чытаць Эйляшэвіч.— На барацьбу! Уся рэвалюцыйная армія ўстае на барацьбу! На барацьбу ўстаюць мільёны!..»
— Гэта пішуць левыя элементы,— выкрыкнуў доктар Тамашэвіч.
— А так, як вы, гавораць правыя элементы, апартуністы! — адрэзаў Эйляшэвіч. — Таварышы! — гаварыў ён ужо да залы. — Ідзе барацьба жорсткая, не на жыццё, а на смерць! Яна ідзе і ў нашых партыях. Апартуністы згодны ісці на перамір'е з царызмам, здраджваюць народу, хочуць падзяліць уладу з царом. Але рабочаму, пралетару, не патрэбна ні ўлада цара, ні ўлада кучкі бур-

жуяў. Яму трэба ўзяць яе ў свае рукі. А да гэтага шлях адзін — узброенае паўстанне, і мы павінны пайсці на гэты апошні бой!

Пасля Эйляшэвіча гаварыў Сільвановіч.

— Тут доктар Тамашэвіч палохаў нас, што ў забойстве папа могуць абвінаваціць нашу арганізацыю. Мы ведаем, што паліцыя гатова ісці на самыя брыдкія правакацыі. Але ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Наша праграма ясная. Мы выступаем супраць самога ладу. Мы не забіваем з-за вугла. Прыйдзе час, і мы сутыкнемся твар у твар з царскай арміяй. Тады нам застанецца адно — ці загінуць, ці перамагчы. Але мы, канечне, пераможам! І ніхто нас не можа спыніць па дарозе да гэтай вайны, да гэтай перамогі.

Зала воплескамі падтрымала выступленне доктара Сільвановіча.

Не так даўно Алаіза чытала ў часопісе «Жало», які недзе дастаў Сільвановіч, памфлет Максіма Горкага «Аб шэрым». Ці не пра такіх, як гэты Тамашэвіч, пісаў Горкі? Ах, як спадабаўся Алаізе памфлет! Сапраўды, цяпер у рэвалюцыі сутыкнуліся два колеры — чырвоны і чорны. Але паміж іх улазіць шэры колер. Самы агідны. Калі чырвоны колер разгараецца, шэры стрымлівае яго. «Крышку сёння, крышку заўтра... Чорны саступіць, калі павесці справу асцярожна...»

Як тонка падмеціў Горкі гэту здрадніцкую ролю шэрых! І як бязлітасна выкрывае іх! Шэры не дае памерці таму, што аджывае, перашкаджае расці жывому, ён і ёсць вечны вораг яркага і смелага...

Калі доктар Сільвановіч скончыў гаварыць, папрасіла слова Алаіза.

— Паслухаць доктара Тамашэвіча, значыцца — адступіць! — звонкім голасам сказала яна.— А ці маем мы на гэта права? Ці дазволіць нам памяць ахвяр? Доктар Тамашэвіч хапае нас за рукі, страшыць новымі ахвярамі... Ну, а як жа тыя, што былі? Так і застануцца ахвярамі, цяпер непатрэбнымі? За што ж загінула ўжо столькі людзей? За тое, каб мы цяпер пайшлі да цара з паклонамі?..

Яна крышку пастаяла, памаўчала, уся напятая ад узбуджанасці. Ёй вельмі хацелася прачытаць радкі з новага верша, які яна цяпер пісала, але верш быў няскончаны, і яна не ведала, ці добра чытаць вось так, толькі дзве страфы, якія лічыла гатовымі. І ўсё ж яны вырваліся. Як заклік, кінула яна ў прыціхлую залу:

*Ах, браце родны, нясуцца весці,*
*Ужо граюць маршы там на ўсходзе;*
*Над кожнай хатай, у кожным месцы*
*Шчабечуць птушкі нам а свабодзе.*

*Ах, браце, важны момант прыходзіць,*
*Важну ахвяру прыйдзецца даць:*
*На небе сонца шчасця ўсходзіць,*
*Толькі патрэбна хмары прагнаць.*

— Выступаць! — такім было рашэнне арганізацыі.

Яшчэ не развіднела, калі дружына рушыла ў Нова-Вілейку. Ды гэта была не толькі дружына. Вялізная калона, у якой ішло многа няўзброеных людзей і жанчын, кіравалася ў горад. Наперадзе ехаў верхам на кані доктар Сільвановіч, за ім ішоў Іван Лыкаў з чырвоным сцягам. Алаіза крочыла побач з Іванам Лыкавым. У радах дружыны былі Таццяна Краінская і Аня з Розаю.

Горад свяціўся ўнізе дробнымі агеньчыкамі. Неба на ўсходзе патрошку святлела. Людзі ішлі рашучыя, поўныя веры ў сваю сілу.



Яшчэ зусім свежаю была памяць аб тым, як уцякалі ад іх чарнасоценцы. Каб не прыйшла тады дружына ў Нова-Вілейку, пагромшчыкі нарабілі б яшчэ больш бяды. А так — разбегліся, пабаяліся. Назаўтра ў лячэбніцу прыходзіла дэлегацыя ад яўрэяў. Дзякавала дружыннікам за выратаванне. Так што яны цяпер — сіла. Гэта адчувалі ўсе, хто ішоў сёння за чырвоным сцягам.

Калі дружына падышла да завода Поселя, было ўжо зусім светла. З заводскага коміна клубамі віўся чорны дым. Снег вакол завода быў прысыпаны чорным дробным пылам. І ўсё вакол тут было чорнае — і пракураныя сцены завода, і жалеззе, якое валялася ў заводскім двары, і постаці рабочых.

— Адчыняй, гаспадар, вароты! — крыкнуў Сільвановіч вартаўніку, дзядзьку з адною нагою, які тупаў каля варот на дзеравяшцы, прывязанай да кульцяпкі.

— А браткі мае, а што ж гэта будзе! — чыкіляў каля варот дзядзька, не ведаючы, ці слухацца Сільвановіча.

— Тое і будзе! Адчыняй, адчыняй, бо мы самі адчынім,— намерыўся злезці з каня Сільвановіч, але вартаўнік заспяшаўся, замітусіўся.

— Ды я магу і сам... Магу адчыніць вам. Проша, проша...— адцягваў ужо ён у бакі жалезныя вароты.

Дружыннікі рушылі ў двор. А туды ўжо выбягалі з цэхаў рабочыя — чорныя, замурзаныя, і ўсміхаліся, паказваючы белыя зубы.

— Іван!

— Паўло!

— І ты тут?

— Здароў! — чуліся галасы.

Рабочыя і дружыннікі пазнавалі адзін аднаго, віталіся.

Кайлюнас трос руку Івану Лыкаву.

Але доктар Сільвановіч хутка астудзіў гэтую радасць сустрэчы.

— Што, працуеце? — не злазячы з каня, гучна сказаў ён.— Па ўсёй Расіі рабочыя бастуюць. У Маскве на барыкадах кроў ліецца, а вы тут пану Поселю капітал зарабляеце? Мусіць, ён апошні час вам добра плаціць?

— Каб яму столькі скул, як ён добра плаціць,— пачуўся з натоўпу голас.

У гэсы час з канторы выбег Гросман — перапалоханы, натапыраны. Расштурхоўваючы рабочых, ён прабіраўся ў гушчу, дзе верхам на кані сядзеў доктар Сільвановіч. А той гаварыў рабочым:

— У Вільні аб'яўлена ўсеагульная забастоўка! Вы павінны далучыцца да яе! Кідайце работу!

— Пан доктар! Пан доктар! — забягаў то з аднаго, то з другога боку Гросман, умольна пазіраючы знізу ўверх на доктара.— Нямožна кідаць цяпер работу! У катле поўна пары... Калі рабочыя спыняць работу, ён узарвецца!

— А калі яны не спыняць работы, то з Вільні прыйдзе не адна сотня рабочых... Тады не толькі з катла выпусцяць пару...— стрымліваючы каня, які гарцаваў пад ім, адказваў доктар Сільвановіч.

Алаіза акідвала вачыма твары людзей. Тут было ўжо шмат яе знаёмых. Вунь Пранук Кудзеля, якому яна перавязвала руку і дала лістоўку. Ён пасля прыйшоў на сходку. Вунь яшчэ рабочыя, якіх яна аглядала тады на заводзе, а да некаторых з іх пасля хадзіла дахаты, лячыла. І яны пазіраюць на яе, як на сваю, усміхаюцца, вітаюцца.

— Таварышы! — ускінула яна руку.— Мы прыйшлі, каб паклікаць вас пад наш чырвоны штандар! Мы прыйшлі да вас, бо толькі

мы ўсе разам, і вы, і мы, можам быць сілаю! Мы прыйшлі паклікаць вас ісці разам з намі змагацца за лепшую долю, за свабоду! Ва ўсёй Расіі рабочыя бяруць у рукі зброю. А вы хіба бязрукія? А хіба не ваш завод робіць косы?

— Правильно говорит фельчерка! — узляцеў над людзьмі маладу дужы голас.— Женщина учит нас, что нужно делать!

Гэта гаварыў Кайлюнас. Ён цяпер узвышаўся над людзьмі, відны ўсім, без шапкі, з капою светлых валасоў, якія падалі на яго абветраны, цёмны лоб.

— Вот склад, где наши косы! За мною, драугас! — і ён збег з груды ламачча, расштурхваючы людзей, падаўся да будынка, пакрытага чырвонаю бляхаю.

З вясёлымі крыкамі, пераганяючы адзін аднаго, за Кайлюнасам кінуліся і іншыя рабочыя. Ломам быў збіты замок з цяжкіх дзвярэй, і скора застукалі, забрынчалі косы, якія разбіралі рабочыя.

З варот фабрыкі дружына выходзіла, вырасшы ўдвая. За чырвоным сцягам цяпер ішло некалькі соцень чалавек. Сонца, прабіўшы зімовыя хмары, раптам засвяціла над горадам, адбілася яркім бляскам на сталі новенькіх, толькі са склада, кос.

Па дарозе да дружыны далучаліся людзі. Дружына падышла да фабрыкі Мозара. І тут гаварылі прамовы, далучаліся да забастоўкі. У дружыну ўлілося некалькі работніц, маладых, баявых дзяўчат.

Алаіза ўвесь час ішла побач з Іванам Лыкавым, які нёс чырвоны сцяг. Яе сэрца гарэла радасцю, яна зноў адчувала сябе на хвалях таго бурлівага мора, якое ўзнімае дух, якое дае сілу, моц, запальвае думку. У яе нараджаліся радкі ўсё таго ж, яшчэ няскончанага верша:

*І дзед старэнькі бяжыць ў дружыну,*
*І ўнучак следам дзеда спяшыць;*
*Хлопец, абняўшы любу дзяўчыну,*
*На барыкадах смела стаіць.*

Людская маса, яе парыў самі пісалі гэты верш. Расказаць пра тое, што адчуваюць цяпер людзі, якія ідуць поруч з ёю, выказаць тое, што адчувае яна, гэта і будзе паэзіяй сённяшняга дня, вартага дзесяцігоддзяў, дня, які вечна будуць помніць людзі, бо ён не можа не паслужыць свабодзе і праўдзе.

## XXXI

Пацяклі дні, поўныя радасці, трывогі і надзеі. Рабочыя Нова-Вілейкі баставалі. Баставалі і чыгуначнікі, на станцыі заставаўся толькі адзін дзяжурны тэлеграфіст для сувязі Нова-Вілейкі з іншымі гарадамі.

Рабочыя ў Нова-Вілейцы рваліся ў бой, і проста грэх было не выкарыстаць гэты рэвалюцыйны запал. Але чакалі дазволу на такі крок з Вільні. Там ведалі пра настроі ў Нова-Вілейцы, але прасілі пачакаць адказу дні два. Трэба было ўсё грунтоўна абмеркаваць, узважыць.

Мінула два дні. Адказу не было. Вырашылі паслаць туды чалавека, каб ён высветліў усё на месцы.

Даручылі гэта Алаізе. Доктар Полазаў назваў ёй явачную кватэру, даў пароль. Яна павінна была спытацца, зайшоўшы ў хату: «Ці можна тут купіць тавару на чаравікі?» І калі на яўцы ўсё было спакойна, калі чалавек быў на месцы, ёй павінны былі адказаць: «Чаму не, можна, і на чаравікі, і на боты...»





Алаіза прыехала ў Вільню ўдзень васемнаццатага снежня. Была адліга. Горад выглядаў шэрым, брудным. Панура глядзелі нямытымі вокнамі аблезлыя камяніцы. З двароў несла смуродам, з-пад расталага снегу выглядалі гурбы непрыбранага смецця. У Вільні было ўсё— і прыгожыя вуліцы цэнтра, і найлепшыя ў свеце касцёлы, і вось гэтыя бруд і смецце ў старадаўніх вузкіх завулках, у дварах...

На Росе, у адным з рабочых раёнаў, каля могілак, знайшла яна патрэбны нумар дома. На дзвярах вісела шыльда з намаляваным жаночым чаравікам.

У хатцы з нізенькай столлю, закіданай калодкамі і абрэзкамі скуры, на зэдліку сядзеў пажылы мужчына ў цыратавым фартуху. У губах ён трымаў дзеравяныя цвікі, па адным браў іх пальцамі і ўбіваў у падэшву чаравіка.

Калі Алаіза спыталася ў яго пра тавар, ён змерыў яе вокам, нібы прыкідваючы, чаго яна варта як заказчыца, сабраў цвічкі з губ у жменю.

— Чаму ж не, можна... І на чаравікі, і на боты,— хрыплаватым голасам адказаў ён.

— Дык дзе ж у вас гэты тавар схаваны? — ужо не па паролю жыва спытала Алаіза.

Дзядзька нічога не адказаў, устаў, акуратна зняў з капыла чаравік, паклаў яго на падлогу і выйшаў у невялічкія дзверы, якія былі ў яго за спіною. Ён даволі доўга не вяртаўся. Алаіза тым часам з цікавасцю азіралася. Гэта быў звычайны пакой беднага шаўца. Стол, пакрыты цыратаю. Ложак. На вокнах пажоўклыя фіранкі з газецін, абрэзаных зубчыкамі. На сцяне абразок з календара — мужык у лапцях ідзе па ніве з сявенькаю. Ці не з мужыкоў і сам шавец? Сумуе недзе па зямлі, па вёсцы... Вось і абразок на сцяну павесіў.

Нарэшце дзядзька вярнуўся, рукою паклікаў за сабою Алаізу. Яна выйшла за ім у другі, чысцейшы пакой, а з таго ў маленькую баковачку, у якой было аж сіне ад дыму. У гэтым дыме яна ўбачыла невысокага шыракаплечага мужчыну ў чорнай кашулі, падпяразанай скураным рамянём. Ён звязваў вяровачкаю стосік кніг, што ляжаў на стале.

— Таварыш Тамаш!— узрадавалася Алаіза, што чалавек, да якога яе паслалі, знаёмы.

І той пазнаў Алаізу.

— Цётка!— з радасцю падаў ён ёй руку.— Дык вось хто тут тавару пытае! Вельмі рады вас бачыць.

Ён пасадзіў яе на канапу, адсунуўшы ўбок пачкі пракламацый.

— Ну, як маецеся? Як жывяцё? Як паэзія? Жыве?

— Паэзія жыве і будзе жыць,— весела адказвала Алаіза.— А вось як вы маецеся? Як там таварыш Сцяпан? Вы ж, мусіць, бачыце яго, а з майго гарызонту ён знік.

— І таварыш Сцяпан жывы-здаровы. Ваюе.

Алаіза хацела спытацца, ці не ведае таварыш Тамаш, дзе цяпер хавае Сцяпан шапірограф, але палічыла, што такое яе пытанне можа быць расцэнена як жаночая цікаўнасць. Да таго ж, пачкі пракламацый, якія яна бачыла тут, дазвалялі здагадвацца, што станок дзейнічае.

Таварыш Тамаш звязваў новы пачак кніг, не выпускаючы з рота папяросы, жмурачы вочы ад дыму.

— Не баіцёся, што можаце расканспіраваць сябе сваім дымам? — пажартавала Алаіза.— Узарвецца страха і паляцяць вашы паперкі,— паказала яна вачыма на пракламацыі.



— Выбачайце...— скоранька патушыў папяросу таварыш Тамаш.

— Ды нічога, я прывыкла. Гэта я так...

За акном цямнеў шэры туман. У баковачку хутка наплываў змрок. Таварыш Тамаш адчыніў дзверы, гукнуў у суседні пакой:

— Кузьма Мітрафанавіч, можа б ты нам якую лямпу даў?

Праз некалькі хвілін у баковачку зайшоў шавец, несучы ў руках лямпу з закураным з аднаго боку шклом. Таварыш Тамаш узяў пасцілку, якая ляжала на падлозе, завесіў акно. Алаіза моўчкі назірала за мужчынамі.

Калі шавец, запаліўшы лямпу і падкруціўшы кнот, каб не чадзіў, выйшаў, таварыш Тамаш засунуў рукі ў кішэні, зрабіў некалькі крокаў па баковачцы.

— Значыцца, вы з Нова-Вілейкі?— сказаў ён, спыняючыся перад Алаізаю.— Вы ж там цяпер, па-мойму?

— Адтуль... Мяне прыслалі да вас... Вы ж ведаеце пра нашы планы,— перайшла на дзелавы тон Алаіза.

Таварыш Тамаш пачаў мерацць крокамі баковачку.

— Прыйдзецца крышку пачакаць,— нарэшце сказаў ён, спыняючыся ля завешанага пасцілкаю акна.

— Але ў нас усё прадумана, у нас ёсць сіла,— энергічна запярэчыла Алаіза.

— Мы ведаем, што ў вас сілы на гэта хопіць... Але мы тут гаварылі, раіліся... Трэба, каб ваша выступленне супала з выступленнямі ў іншых гарадах, з нашым выступленнем. Тады гэта будзе ўдар. А калі вы адны і захопіце ўладу, то праз тыдзень вас знішчаць. Войска, на жаль, пакуль у іх руках.

З таварышам Тамашом нельга было не пагадзіцца, але Алаіза ведала, як чакаюць рабочыя ў Нова-Вілейцы баявога сігналу. І яна, хоць гэта, можа, было і не зусім тактоўна, нецярпліва запыталася:

— Ну, а вы ж калі?..

— Збіраем сілы. Вядзем работу ў віленскім гарнізоне, хочам перацягнуць яго на свой бок,— адказаў таварыш Тамаш.

Гэта было, канечне, вельмі важна, дзеля гэтага варта было пачакаць, стрымаць сваю гарачнасць.

— А як там у Маскве? Якія апошнія навіны — не ведаеце?— спыталася Алаіза.

Таварыш Тамаш усё ж выняў з кішэні папяросу, прыпаліў яе, патрымаўшы над шклом лямпы. Загаварыў, не хаваючы абурэння.

— У пецярбургскім Савеце заселі меншавікі. Яны не падтрымалі паўстання, і на Маскву самаўладства кінула ўсе сілы. Туды прыбылі новыя войскі... Але нічога. Рабочыя ім пакажуць...

Алаіза бачыла, што таварыш Тамаш вельмі балюча перажывае гэтыя весткі. І ў яе заскрэбла на сэрцы. Толькі не хацелася думаць ні пра што благое, хацелася верыць і верыць. І таварыш Тамаш нібы ўгадаў яе настрой, загаварыў, ходзячы па баковачцы і глыбока зацягваючыся папяросай:

— Задушыць нас немагчыма. Пасля таго, што ўжо зроблена расійскім пралетарыятам, не можа быць нават думкі пра адступленне. Усё наша яшчэ наперадзе. І бітвы, і перамогі...

У суседнім пакоі пачуліся крокі, і ў дзвярах паказалася галава шаўца.

— Там яшчэ тавару пытаюць,— паказаў ён рукою ў бок сваёй майстэрні.

— Хто? — спытаўся таварыш Тамаш.

— Салдат нейкі.

— Бачыце,— ажыўлена павярнуўся таварыш Тамаш да Алаізы.— З гарнізона. Дарэчы, мы туды і ваш верш пераслалі. «Пад штандарам». Хай пачакае крышку,— павярнуўся таварыш Тамаш да шаўца.

Алаіза зразумела, што ён хоча давесці да канца размову з ёю.

— Значыцца, я перадам у Нова-Вілейцы тое, што вы мне сказалі,— устала яна.

— Ну, вядома,— заківаў галавою таварыш Тамаш.— Мы вам тады дамо сігнал.

Таварыш Тамаш працягнуў ёй руку і раптам паглядзеў на яе так, нібы хацеў сказаць яшчэ нешта, але не з таго, пра што гаварылі да гэтага, а звычайнае, простае. Ды замяўся і толькі прамовіў, яшчэ раз паціскаючы руку:

— Беражыце сябе...

Праходзячы праз майстэрню шаўца, Алаіза ўбачыла маладога салдата, які стаяў там. Ён трымаў у руках калодку і рабіў выгляд, што вельмі ўважліва яе разглядае. Алаіза ж прыкмеціла той цікаўны позірк, які салдат кінуў на яе.

Яна выйшла на вуліцу. Там было цёмна і мокра. Сыпаў дробны дождж. Алаіза думала, куды ёй падацца. Лепш за ўсё было б пайсці да сястры, пераначаваць, а раніцаю вярнуцца ў Нова-Вілейку. Але нейкае нецярпенне гнала яе туды цяпер жа, хутчэй.

Яна ведала, што выбрацца вечарам з Вільні будзе вельмі цяжка, тым больш, што чыгунка бастуе. Але спадзявалася на выпадак: можа якая дрызіна ці паравоз будуць манеўраваць. Тут жа блізка, мо хто падвязе...

І яна падалася на станцыю. Ішла па цёмных, пустых завулках, хутчэй угадваючы дарогу, чым ведаючы, куды кіруецца.

Нарэшце прыйшла на станцыю. Доўга хадзіла па пустым пероне. Потым пайшла ўздоўж каляі да дэпо, не трацячы надзеі каго-небудзь сустрэць. Далёка бліснуў агеньчык, і Алаіза ўзрадавалася. Агеньчык хутка набліжаўся, і яна ўбачыла, што гэта ішоў мужчына з ліхтаром у руцэ. Яна падалася яму насустрач.

— Дзядзечка,— загаварыла яна,— ці не будзе тут якога транспарту, каб даехаць да Нова-Вілейкі?

— Не будзе, цётачка,— не спыняючыся, адказаў ёй мужчына.— Ідзі дамоў, бачыш, забастоўка...

І голас, і постаць мужчыны здаліся ёй знаёмыя.

— Пачакайце,— спыніла яна чалавека.— Я бачу, што забастоўка, але мне вельмі трэба.

Мужчына стаў, падняў свой ліхтар, каб паглядзець, што за цётка тут ходзіць. Святло ўпала на яго твар, і Алаіза пазнала чалавека.

— Таварыш Кандратовіч! — узрадавалася Алаіза.— Сам бог паслаў мне вас... Хіба вы мяне не пазналі?

— Цётка! — пазнаў яе Кандратовіч.— Што вы тут робіце?

— У Нова-Вілейку хачу вырвацца... Ці не пойдзе тут якая дрызіна ў той бок?

— Бач, чаго захацела: людзі бастуюць, а яна раз'язджае! — пажартаваў Кандратовіч.

— Не да жартаў. Памажыце як-небудзь.

— Каб я мог,— паківаў галавою Кандратовіч.— Але пачакайце,— відаць, успомніў ён нешта.— Гадзіны праз дзве збіраецца манеўровы на Ашмяны. Нашы туды паедуць. Калі хочаце — можаце пачакаць. Я папрашу, яны падвязуць вас.

— Праўда? — узрадавалася Алаіза.— Вось дзякуй. Я ж казала, што мне сам бог паслаў вас. Я пачакаю. Толькі каб не празяваць...

— На станцыі пасядзіце. Я вас паклічу.

— Вось пашанцавала! — радавалася Алаіза, ідучы поруч з Кандратовічам на станцыю.— А то хоць ты пехатою ідзі. Ды ў такую пагоду... Ды ноччу. А што ж гэта вы тут робіце? Адзін на ўсю чыгунку? — спыталася яна.

— Я не адзін,— адказаў Кандратовіч.— Хочам воінскі эшалон затрымаць. На Рыгу яго пасылаюць.

Яны падышлі да станцыі. Кандратовіч пасвяціў ёй, завёў у залу.

— Дык я прыйду па вас, чакайце,— паабяцаў ён.

Алаіза засталася адна ў пустой, цёмнай зале. Марудна пацяклі хвіліны. Тут было не цяплей, чым на вуліцы, і хутка Алаіза пачала адчуваць, як прабірае яе холад. Стылі рукі, дубянелі ногі. Яна прылягла на лаўцы, хуталася ў паліто. Ляжала ціхенька, не варушачыся, каб не выпускаць з-пад паліто цяпла, і каб хто зайшоў сюды, то не здагадаўся б, што ў зале ёсць жывы чалавек.

Яна крышку сагрэлася і задрамала, а калі прачнулася, не ведала, колькі прайшло часу — ці гадзіна, ці толькі некалькі хвілін. Прыслухалася. Усё было ціха. «Можа, Кандратовіч забыўся пра мяне? Але не можа быць. Не такі ён чалавек. Мусіць, яшчэ не гатовы цягнік, ці не сабраліся людзі. Чаго яны едуць у Ашмяны?» — думала Алаіза.

Яна зноў задрамала, а прачнулася ад стуку колаў, ад паравознага гудка. Усхапілася, саскочыла з лаўкі. Адзеравянелыя ногі моцна занылі, і ступаць на іх было балюча. Усё ж перасіліла боль, пабегла да дзвярэй. Думала, што гэта прыйшоў той, манеўровы, які паедзе ў Ашмяны. Але яшчэ не выбегшы на перон, зразумела, што гэта не манеўровы. Па дальняй каляі адзін за другім каціліся вагоны, запавольваючы ход. Калі яна выйшла на перон, убачыла доўгі састаў. Паравоз напераддзе пыхкаў параю. Вагоны яшчэ крышку прапаўзлі і сталі. Некалькі хвілін ніхто не паказваўся з вагонаў, а пасля ў адным з іх дзверы рассунуліся і на платформу саскочыў салдат са стрэльбаю за плячыма. За ім саскочыў яшчэ адзін, яшчэ. А пасля і з іншых вагонаў пачалі выскокваць салдаты. Яны праходжваліся ўздоўж састава, закурвалі.

«Дык гэта той, воінскі, які не хочуць прапусціць...» — здагадалася Алаіза.

Стоячы ля дзвярэй вакзала, яна глядзела, як праходжваліся па платформе салдаты. Ёй і самой захацелася размяць ногі, паглядзець, ці не відаць тут дзе Кандратовіча, спытацца, як з тым цягніком, ці пойдзе на Ашмяны. Не спяшаючыся, пайшла яна ўздоўж лініі, углядаючыся ў цемру і шукаючы святло ліхтара.

Кандратовіча не было відаць, а ісці далёка шукаць яго Алаіза баялася, каб не размінуцца, і яна вярнулася ў залу. Колькі цяпер было часу? Можа той цягнік і не паедзе ў Ашмяны? Але ёй цяпер не было больш чаго рабіць, як толькі чакаць. Не ісці ж ноччу праз увесь горад да сястры... І яна зноў лягла на лаўку. Адчувалася моцная стомленасць. Усё цела ныла, але спаць не хацелася. Нудна цягнуўся час. Думала пра салдат, якія сядзелі ў цягніку, чакалі адпраўкі. Вось яна, цёмная маса, якая сама не ведае, што робіць... І ад гэтай цёмнай масы цяпер у многім залежыць лёс рэвалюцыі. Асабліва стала зразумела, якую важную работу робіць віленскі камітэт, ведучы агітацыю сярод салдат. Недзе ж там ходзіць і яе верш «Пад штандарам». Полазаў казаў, што пераправіў яго ў віленскі гарнізон, а цяпер і Тамаш сказаў, што верш там.

Раптам цішыню прарэзаў паравозны гудок. Пачуўся стук колаў. Шпарчэй, шпарчэй. Няйнакш, як воінскі эшалон рушыў...

Алаіза кінулася да дзвярэй. Так, вагоны, адзін за адным, пакаціліся, паехалі. Цягнік набіраў хуткасць, і вось апошні вагон прамільгануў перад яе вачыма. Хвост цягніка знік у цемені.

Значыцца, не ўтрымалі. Прапусцілі. Хацелася крыкнуць ад бяссільнай злосці, пасылаць некаму праклён.

Яна доўга стаяла, пазіраючы ў той бок, дзе знік эшалон. Даўно не чуваць было стуку колаў, вакол была цішыня. Сыпаў дождж, а яна стаяла і стаяла, і сэрца яе ныла, балела, і расло прадчуванне нечага нядобрага.

Толькі раніцаю прыехала яна ў Нова-Вілейку. Як даведалася пасля, адпраўка цягніка ў Ашмяны зацягвалася, бо стаяў воінскі эшалон. Людзі рабілі ўсё, каб затрымаць яго. Кандратовіч быў усхваляваны, злосны, і Алаіза не захацела яго распытваць. Бачыла, што чалавеку і так моташна. І людзі, якія разам з ёю ехалі ў вагоне, былі змучаныя, хмурыя, мусіць, не спалі ўсю ноч.

Алаіза таксама адчувала сябе кепска. Павекі былі цяжкія, у вочы нібы пяску насыпалі.

Паравоз усяго на хвіліну спыніўся ў Нова-Вілейцы, каб злезла Алаіза, і толькі ступіла яна на платформу, як ён, даўшы кароткі гудок, пабег далей. Не заходзячы дадому, яна накіравалася ў аддзяленне, бо час было заступаць на дзяжурства.

У доктарскім пакойчыку яна памылася, прычасалася, надзела халат і пачала праглядаць карткі хворых, чакаючы доктара Сільвановіча. Ён звычайна прыходзіў крышку раней, і Алаіза думала паспець расказаць яму пра размову з таварышам Тамашом.

Але сёння доктар Сільвановіч чамусьці пазніўся, і Алаіза не ведала, што падумаць. А калі прайшло і дваццаць хвілін, і паўгадзіны, а доктара ўсё не было, Алаіза занепакоілася, хацела ўжо бегчы пытацца ў каго, ці не захварэў ён. Ды тут дзверы пакойчыка адчыніліся, і ўвайшоў доктар Тамашэвіч.

— Маё шанаванне,— павітаўся ён не вельмі весела і пачаў распранацца. Павесіў паліто, застаўся ў халаце, які ўжо быў на ім.— Прыйдзецца нам, панна Пашкевічанка, з вамі папрацаваць,— як не вельмі радасную навіну, паведаміў ёй доктар Тамашэвіч.

— А што доктар Сільвановіч? Захварэў?

Доктар Тамашэвіч пакруціў галавою.

— Дык што ж з ім? — прадчуваючы нешта нядобрае, затрывожылася Алаіза.

Доктар Тамашэвіч уздыхнуў.

— Бяда ў нас, панна Пашкевічанка,— сказаў прыцішаным голасам.— Сёння ўночы арыштавалі доктара Полазава і доктара Сільвановіча.

Белы халат доктара Тамашэвіча пацямнеў у Алаізіных вачах.

— Арыштавалі? — перапытала яна.

— Не кажыце, і ночка была сёння... Усю лячэбніцу перагрэслі... У мяне вобыск рабілі. Кажуць, у ваш флігель прыходзілі, добра, што вас дома не было...

— А куды ж іх павялі? Знайшлі ў іх што-небудзь?

— Канечне, знайшлі. І літаратуры шмат, і зброю. Праўда, на зброю то ў іх ёсць дазвол. А літаратура — дык маніфест жа абвясціў свабоду друку,— разважаў доктар Тамашэвіч.

— Ах, маніфест...— з раздражненнем сказала Алаіза.— Свабода, а людзей жа вунь пабралі!



Навіна аглушыла Алаізу. Яна разумела, як гэта кепска для ўсёй арганізацыі, як гэта можа ўдарыць па настроі людзей. А доктар Тамашэвіч лаяў дырэктара бальніцы, які дазволіў арыштаваць дактароў, не здолеў аберагчы іх ад паліцыі.

— Гэта ж трэба, такіх дактароў пабралі! — не супакойваўся ён.

Алаіза чамусьці не верыла ў шчырасць яго спачування. Здавалася, што ў душы доктар Тамашэвіч зларадпічае. Казаў жа на сходзе, што трэба пераходзіць да іншых форм барацьбы. Не паслухалі яго, дык вось, маеце...

Але трэба было ісці з ім на абход хворых. І Алаіза, сцяўшы зубы, пайшла за ім у палаты.

## XXXII

Арышт Полазава і Сільвановіча не спыніў работы арганізацыі. Каб паказаць паліцыі і жандарам, што не яны былі галоўныя кіраўнікі «крамольнага таварыства», парашылі адразу ж сабраць у лячэбніцы новы сход.

Пра тое, што ў лячэбніцы арыштавалі дактароў, скора стала вядома па ўсёй Нова-Вілейцы, і Алаіза баялася, каб не сарваўся сход. Але прыйшло многа і сваіх, і з завода Поселя, з фабрыкі Мозара.

Кайлюнас, выступаючы на сходзе, заявіў, што яны, рабочыя Нова-Вілейкі, не збіраюцца адступаць, што арышт дактароў з лячэбніцы іх не напалохаў. Яны цяпер будуць гатовы прыйсці на дапамогу сваім таварышам. Калі трэба будзе, яны сваімі грудзьмі заслоняць іх ад карнікаў.

На заводзе Поселя цяпер таксама была арганізавана дружына. Кіраваў ёю Кайлюнас. Праз некалькі дзён пасля гэтага сходу дружына рабочых, узброеная косамі, сапраўды ўступіла ў бойку з казакамі, ратуючы членаў арганізацыі ад новага арышту.

Асноўным пафасам сходу быў пратэст супраць арышту дактароў. Раіліся, як ім памагчы, як вызваліць з-пад арышту. Эйляшэвіч прапанаваў скласці петыцыю, у якой пад пагрозай палітычнай забастоўкі патрабаваць вызвалення Полазава і Сільвановіча. Патрабаваць, каб выслалі з лячэбніцы ўрадніка Мароза, па даносе якога, гэта ведалі ўсе, арыштаваны дактары.

Назаўтра петыцыя была складзена. Пад ёй стаяла больш чым сто подпісаў. Але падпісаліся не ўсе. Калі Эйляшэвіч прынёс яе доктару Тамашэвічу, той прачытаў петыцыю і аддаў назад.

— Усё гэта глупства,— сказаў ён.— Ніхто гэтай папёркі і чытаць не будзе.

— Гэта ж тыя самыя легальныя метады барацьбы, якія вы так абаранялі,— сказаў Эйляшэвіч.— Ці вы ўжо і ад іх адмаўляецеся?

— Я падтрымліваю толькі тыя дзеянні, якія лічу разумнымі, якія могуць даць практычныя вынікі,— з пачуццём уласнай годнасці адказаў Тамашэвіч.

— Што вы яму кланяецеся! — узлавалася Алаіза.— І без Соры торг будзе. Не бачыце — чалавек не хоча следу пакідаць! Не хоча больш з намі кампанію весці!

— Фельчарыца Пашкевіч! — суха, афіцыйна сказаў доктар Тамашэвіч.— Вам час ісці ў палату... Чакаюць хворыя...

«Вось як загаварыў,— пеканула Алаізу.— Загадвае... Ну і гніда!» — падумала яна і, ні слова не сказаўшы, выйшла з пакоя.

Петыцыя была перададзена дырэктару Хардзіну. Яе ўручалі доктар Гарэлік і фельчар Эйляшэвіч.

Дырэктар бальніцы прачытаў, паклаў перад сабою на стале, прыціснуў зверху вялікай белай далоняй.

— Я не падпісваў ордэры на арышт і не маю ўлады вызваліць,— памаўчаўшы і паглядзеўшы то на аднаго, то на другога, адказаў ён.— Я рабіў усё, што мог, каб папярэдзіць такі паварот. Я папярэджваў доктара Полазава, што ў бальніцы не месца для мітынгаў і сходаў...

Доктар Гарэлік, стрымліваючы хваляванне, адказаў:

— Я ведаю, што тады адказаў вам доктар Полазаў, і цяпер магу паўтарыць яго словы: бальніца не можа быць у баку ад грамадскага руху. Мы не толькі дактары, мы — грамадзяне.

— У такім разе,— гнеўна бліснуў вачыма дырэктар,— я пакідаю вашу петыцыю без адказу,— адсунуў ён даланёю паперку ўбок.— Усё,— устаў ён, паказваючы, што больш не хоча размаўляць з дэлегацыяй.

Алаіза была на вячэрнім дзяжурстве. Хворыя ціха ляжалі ў сваіх палатах. Старая нянька анучаю, накручанаю на шчотку, выцірала падлогу. Пад столлю цьмяна гарэла электрычная лямпачка, пахла лекамі, прасцірадламі, памытымі ў хлорцы, і было ціха і спакойна, як бывае ціха і спакойна па вечарах у бальніцах, калі не здараецца якога-небудзь выключнага выпадку.

Алаіза прылягла на канапе, чакаючы канца дзяжурства, да якога заставалася яшчэ з гадзіну часу.

І раптам цішыню прарэзаў стрэл. Алаіза ўсхапілася. Прыслухалася. Стрэлілі яшчэ раз, і аднекуль здалёк данеслася ржанне коней, прыглушаныя чалавечыя галасы. Алаіза схапіла паліто, накінула яго на плечы і бягом кінулася ўніз па лесвіцы.

На вуліцы было цёмна і марозна. Дзьмуў халодны вецер і данасіў з-за парку ўзбуджаныя чалавечыя галасы. Адчувалася, што ў тым баку многа людзей, што там конныя, узброеныя.

З другога аддзялення выбегла Аня Малкус, якая таксама ў гэты час дзяжурыла.

— Што гэта? Што там? — спалохана пыталася яна ў Алаізы.

— Не ведаю... Бяжым ў галоўны корпус,— пацягнула Алаіза Аню за рукаў халата. Тая выбегла без паліто.

Яны пабеглі да галоўнага корпуса. У ім свяціліся амаль усе вокны, але, пакуль яны беглі, вокны гаслі адно за адным: спалоханыя стрэламі, людзі тушылі святло.

Дзяўчаты былі ўжо блізка ад галоўнага корпуса, калі ўбачылі чалавека, які напрасткі бег цераз парк ім насустрач. Бег з таго боку, адкуль стралялі.

Яны спыніліся, не ведаючы, хто гэта такі, якую вестку ад яго пачуюць.

А той дабег да дзяўчат і стаў, аддыхваючыся.

— Дык гэта вы! — пазнала Алаіза чалавека. Гэта быў Пранук Кудзеля з завода Поселя.— Як вы тут апынуліся?

— Бальніцу абкружаюць,— здолеў нарэшце вымавіць Пранук Кудзеля.— Там Кайлюнас з нашымі... Не пускаюць жандараў. Уцякайце.

Дзяўчаты адразу зразумелі, што адбываецца. Прыйшлі арыштоўваць.

— Уцякайце... Іх многа... Усіх вас пабяруць... Мароз прагаварыўся. Мяне Кайлюнас паслаў вам пераказаць...

— Дзякуй, браток,— шчыра падзякавала Алаіза. І падумала: «Як жа хутчэй папярэдзіць іншых...»



— Я пабягу назад, мы будзем трымаць іх... А вы тут прэнтка,— ужо на хаду кінуў ім Пранук і пабег назад.

— Ты ляці дахаты. Скажы Тацяне, яна павінна быць дома... А я пабягу да хлопцаў, яны на дзяжурстве,— надзяваючы паліто, гаварыла Алаіза.

— А як жа Роза?.. Ай-яй-яй!.. Яна ж хворая,— прастагнала Аня.

Роза, сапраўды, каторы дзень ляжала ў ложку. Прастудзілася, у яе была гарачка, і Алаіза разумела Аніну трывогу.

Напалоханыя стрэламі і тым невядомым, што рабілася каля бальніцы, з карпусоў выбягалі служачыя. Уся плошча ля бальніцы здалася Алаізе, як ніколі, вялізнай. Над усім панавалі вялізныя, доўгія карпусы з вежамі.

Аддзяленне, у якім працаваў Эйляшэвіч. размяшчалася ўбаку ад галоўнага корпуса, у адной з чатырох доўгіх камяніц, якія стаялі адна пры адной, утвараючы квадрат. Алаізе трэба было перабегчы на другі бок гэтага квадрата. Яна кінулася ў парадныя дзверы, выбегла праз чорны ход і апынулася ў вялізным, закрытым з усіх бакоў двары.

Цяпер гэты двор здаўся Алаізе пасткаю. Яна бегла да сцяны супрацьлеглага дома, і ёй здавалася, што яна ўпрэцца ў гэтую сцяну і не знойдзе выйсця. І сапраўды, яна кінулася ў адны, у другія дзверы — замкнёныя. І толькі ў кутку, дзе адна камяніца сутыкалася з другою, дзверы былі адчынены.

Па слаба асветленай лесвіцы яна пабегла на другі паверх, дзе быў доктарскі пакой аддзялення.

Тут, як некалькі хвілін таму назад і ў яе аддзяленні, было ціха і спакойна. Нянечка канчала мыць падлогу. Убачыўшы Алаізу, яна выпрасталася, не выпускаючы з рук анучы, здзіўлена паглядзела на яе ўстрывожаны твар. Мусіць, тут не чулі стрэлаў, корпус стаяў глыбока ў парку.

— Дзе фельчар Эйляшэвіч? — задыхаючыся і ад бегу і ад хвалявання, спыталася Алаіза.

— Там,— паказала нянечка рукою на доктарскі пакой.

Эйляшэвіч спаў, лежачы на канапе, пакрытай белым прасцірадлам. Алаізе на міг здалося, што чутае і бачанае некалькі хвілін таму назад прыснілася ці здалося ёй — так ціха і спакойна было тут, так бесклапотна спаў Эйляшэвіч, падклаўшы пад шчаку далонь.

Але яна ведала, што ёй нічога не здалося і не прыснілася, што Пранука Кудзелю яна толькі што бачыла не ў сне, а на яве, што стрэлы чула сваімі вушамі. Яна схапіла Эйляшэвіча за плячо.

— Уставайце! — тузанула яго.

Эйляшэвіч уміг прахапіўся. Вочы яго вінавата заморгалі — ён не меў права спаць на дзяжурстве і цяпер, напэўна, падумаў, што нешта здарылася ў аддзяленні.

— Уцякайце! — трэсла яго за плячо Алаіза.— Ідзе паліцыя... Хіба вы тут нічога не чулі?

— Што?.. Дзе? — не мог нічога зразумець Эйляшэвіч.

Алаіза схапіла яго паліто, якое вісела каля дзвярэй, кінула Эйляшэвічу на калені.

— Апранайцеся і ўцякайце! — загадала яна.

Эйляшэвіч паслухмяна нацягнуў паліто, яшчэ, мусіць, да канца не зразумеўшы, што адбываецца. Ён не вельмі спяшаўся, і Алаіза схапіла яго за рукаў, пацягнула за сабою, на хаду расказваючы, што робіцца там, каля варот.

Нарэшце ён, здаецца, зразумеў усё.

— А як жа іншыя? — затрывожыўся ён.

— Трэба папярэдзіць Гарэліка. А мо да яго ўжо дайшло? Бальніца заварушылася,— гаварыла Алаіза.

Яны беглі праз той закрыты двор. Алаіза — наперадзе, Эйляшэвіч — за ёю. Яна вяла яго да дзвярэй, праз якія ўвайшла сюды.

— Дык вы бяжыце дахаты, а я да Гарэліка заскочу,— сказаў Эйляшэвіч.— Мне па дарозе. І дахаты трэба забегчы.

Яны былі ўжо каля выхаду з корпуса, калі пачулі ў парку гучныя галасы, тупат ног па мерзлай зямлі. Захіляючыся за дзверы, Эйляшэвіч глянуў туды і адхіснуўся, прыпаў да сцяны, засланіў Алаізу.

— Сюды, панове, сюды! — пачуўся голас Мароза. Мусіць, ён вёў паліцыю, паказваў дарогу.

Жандары прайшлі паўз дзверы, за якімі яны стаялі, і Алаіза падумала, што гэта добра — доўгія, як казармы, карпусы, у якіх шмат уваходаў і выхадаў...

Калі тупат ног і галасы сціхлі, яны выскачылі са сваёй схованкі і пабеглі ўздоўж сцен корпуса.

— Значыцца, прарваліся,— шапнула Алаіза.— Бяжыце... І ратуйцеся. Толькі да Гарэліка забяжыце... А я дадому заскочу. Пагляджу, як у нас. Там Тацяна была. І Роза хворая...

На міг яны спыніліся. Стаялі нейкі момант у цемені, углядаючыся адзін другому ў твар, нібы хочучы сказаць нешта важнае на развітанне, якое невядома якім будзе — ці кароткім, ці доўгім. Але нічога не сказалі, толькі паціснулі рукі.

— Дзякуй...— ужо наўздагон шапнуў Эйляшэвіч.

«Лыкава тут няма... Да Гарэліка забяжыць Эйляшэвіч... Але як там Роза?» — думала Алаіза, бегучы да свайго дома. Яна на хвіліну спынілася, прытулілася да дрэва, прыслухалася. Здалёк плылі гукі — гоман галасоў, тупат ног, конскіх падкоў. Але больш не стралялі.

Раптам Алаізе здалося, што яе абкружаюць, што яна ўжо чуе галасы не толькі за сабою, але і наперадзе. Яна зноў стала, прыхілілася да тоўстага дрэва. Спачатку ёй здалося, што яна нічога не чуе, акрамя біцця свайго сэрца. Нават узрадавалася — гэта здалося ёй. Але тут жа ўбачыла, што ў тым баку, куды яна бегла, амаль каля самага іх дома, замільгалі постаці. Яна выразна пачула тупат ног на іхнім ганку і стук у дзверы. Стук быў моцны, патрабавальны.

Алаіза яшчэ шчыльней прытулілася да дрэва. Тупат ног і стук болем і нянавісцю адазваліся ў яе грудзях. Здаецца, каб у яе была зброя, яна пачала б страляць.

Ім не адчынялі, і тады цёмная постаць рушыла да акна, забарабаніла ў шыбу. Нарэшце дзверы рыпнулі, і пачуўся жаласны енк Юзі. Яна нешта гаварыла, нечага прасілася, слёзна маліла. У адказ ёй злосна забубнілі. Юзю адштурхнулі, і постаці адна за адной зніклі за дзвярыма.

«Ці паспела Тацяна ўцячы? — запякла Алаізу трывога.— І што будзе з Аняю і Розай? А мо іх не крануць?.. Не возьмуць жа чалавека з ложка, у гарачцы...»

Яна бачыла, як запальваліся адно за адным вокны ў іх флігелі. Праз іх было відаць, як соваюцца па пакоях жандары, нечага шукаюць, нешта перабіраюць, кідаюць. Але ні Тацяны, ні Розы з Аняю не было відаць, і гэта крышку супакоіла Алаізу.

Ёй трэба было, пакуль не позна, ісці адсюль. Сысці пакуль хаця б на гэтую ноч. А там будзе відаць. Яна, канечне, вернецца. Не можа быць, каб гэта было поўным разгромам.

Але пакуль трэба было выбірацца. Яна была без хусткі, у паліто, надзетым паўзверх халата. Але ісці апранацца цяплей не было куды. І ззаду былі жандары і тут, у флігелі. Стаяць і чакаць, пакуль яны пойдуць, небяспечна. Яна не хоча, каб яе арыштоўвалі. Яна ненавідзіць іх і не хоча быць у іх палоне. Ёй трэба з імі ваяваць...

Яна падняла каўнер, зашпіліла паліто на ўсе гузікі.

Бальнічная плошча была абнесена высокім плотам. Алаіза ведала, што за складамі, якія стаялі пры самым плоце, недалёка ад іх флігеля, быў лаз. Праз гэты лаз хадзіў да яе Сцяпан, калі жыў у Лыкава ў Нова-Вілейцы, праз яго вынеслі яны тады друкарскі станок.

І Алаіза, перабягаючы ад дрэва да дрэва, прыслухоўваючыся, баязліва азіраючыся на флігель, падалася да лаза.

За бальнічнай агароджай разлягалася поле з белымі плямкамі снегу. Неба над ім было густое, цёмнае, без месяца, без зор. І здавалася, што гэтае пустое неба вісіць над пустою зямлёю, і нічога вакол няма, апрача пустаты і цемры. І колькі б ні ішла яна наперад — нічога не ўбачыць, нікога не сустрэне, бо кругом няма нічога і нікога, акрамя гэтай цемры.

І яна — ці яна гэта? Нейкае маленькае стварэнне, мурашка, якая надумала перавярнуць свет...

Недзе далёка бліснуў агеньчык. Ён бліснуў у горадзе, які быў за гэтым нямым полем. І Алаізе стала крыху лягчэй. Значыцца, цемра і пустэча не бясконцыя. Там, далёка, ёсць людзі. І людзі ў тым горадзе могуць даць ёй прытулак у гэтую цяжкую ноч...

Яна пайшла праз поле да горада. Яна не ведала, што ідзе з лячэбніцы назаўсёды. Каб яна гэта ведала, то мо хоць азірнулася б, пастаяла, паглядзела на цёмную сцяну парку, якая заставалася ў яе за спіною, патанала ў цемры, зლівалася з небам.

Яна думала, што яшчэ вернецца сюды, вернецца, як міне гэта трывожная ноч, як развіднее.

Але дарога праз поле была яе апошняй дарогай па гэтых мясцінах. Далейшы яе шлях пралягаў не па роднай зямлі.





Марыя ШАЎЧОНАК

●

# СТЭП

Ні дрэва нідзе, ні кусціка,
Стэп без канца і краю.
Затое — у танцы пусцішся,—
Прастору усім хапае.
Сонца палынам прагоркла,
Села за сінім узгоркам.
І, нібы лодкі ля берагу,
Прыціхлі палаткі белыя.
Гэта яны — палаткі,
Цэмент, раствор, спяцоўкі —
Для ўзлёту мары крылатай
Першая наша пляцоўка.
Ні дрэва нідзе, ні кусціка,
Стэп без канца і краю.
Зялёныя, родныя вуліцы
Сняцца высотнаму крану.

●

Ужо не дзяўчынкі, не хлапчукі,
Але і яшчэ не дарослыя,
Яны не такія зусім, як мы,
Яны па-наіўнаму простыя.
Заўтра экзамен... о, час пакут!
Кнігі «жуюць» дапозняга.
А ноччу ўсё сніцца ім інстытут
І позірк кагосьці грознага.
Мы ж — чуць з усмешкай да іх цяпер,
Пройдзена ўсё, пражыта.
З гонарам свой адчуваем «верх»,
З горыччу лепшага зычым.
Хутка яны зажывуць, ды як!
Будуць гурткі і лекцыі.
Будуць, напэўна, сядзець штодня,
Як некалі мы, у Ленінцы.
Усё да драбніц пакідаем ім —
Няпісаных зводы правіл.
Але інстытут называем сваім
Па звычаю і па праву.

●

Не дарэмна гавораць —
мудрасць
Заключаецца ў прастаце...
Мы ўскладненнямі любім мучыць
І сябе, і сваіх дзяцей.

Сярод ніў і лясоў узросшы,
Я прымаю такую быль.
Зноў і зноў прастаце зайздрошчу,
Простай гэтак не проста быць.

Не мудрыце, паэты, гэтак,
Напішыце прасцей і менш,
Вы убачыце — стане свету
І патрэбным і блізкім верш.

●

Мінае ўсё — і снег, і вёсны,
Мінае лета і зіма.
Мінае ўсё, усё, як вёрсты,—
Ступіў і — пройдзеш, і — няма.
Паспешна стукаюць калёсы,
Хутчэй наперад, да канца.
І што за справа, што кагосьці,
Магчыма, трэба пачакаць.
Адстаў — астанься. Гэта жорстка,
Але закон і факт — як ёсць.
Глядзіш — жыццё здаецца простым
І вечнай наша маладосць.
А што такое успаміны?
І чым адрозніць іх ад мар?
Ці крок, што след сабой пакінуў,

Ці то ўяўлення смелы дар?
Бягуць сцяжынкі і дарогі,
І кожны, кожны паварот
У сэрца стукае трывогай
І навізной зямных прыгод.
Усё мінае, а здаецца —
Нібы ранейшым застаецца.

●

Гук адзін, другі
                сцякае быццам
Са смычка, які плыве па скрыпцы.
Кружыцца і, не знайшоўшы выйсця,
Падае пад ногі жоўтым лісцем.

Гук адзін, другі...
                за кожнай нотай
Цягнецца душа усёй істотай,
Нібы то сама яна, жывая,
З-пад смычка па кроплі выцякае.

Гук адзін, другі —
                агеньчык сіні
Над струной асенняй павуціны.
Чалавечым роздумам глыбокім
Вее ад зямлі на кожным кроку.

Гук адзін, другі
                расце, знікае,
Гэта восень, восень залатая
Думае і, не знайшоўшы выйсця,
Падае пад ногі жоўтым лісцем.

□ □ □



Павел ПРУДНІКАЎ



●

# АПОШНЯЯ ПЕСНЯ

Памяці юнага падпольшчыка Федзі Дзярабы, які загінуў ад рук фашысцкага ката ў 1944 годзе.

На узлессі, дзе паснулі
Дрэў сівых рады,
Дзе тужлівыя зязюлі
Лічаць нам гады,

Там, дзе кат жаўцеў ад злосці,
Чырванеў, як рак,
На грудзях гары Мілосці
Паміраў юнак.

Паміраў ён на парозе
Сталага жыцця
І спяваў аб перамозе,
Гледзячы ў прасцяг.

Думкі-мары абдымалі
Цэлы белы свет.
Пальцы к сэрцу прыціскалі
Ленінскі білет.

Ведаў, хутка пранясецца
Страшная страла —

І навечна абарвецца
Звонкая струна.

І паўсталі прад вачыма:
Школа, родны дом,
Маці, што дабру вучыла,
Рэчка, сухадол...

Думкі прэч: і песня зноўку
Грымнула, як гром!
Шчоўкнуў выстрал —
Песня змоўкла...
Могілкай стаў роў.

Куля катава скасіла
Хлопца-юнака.
Але грознай помсты сіла —
Горная рака —
Перайшла да бацькі, маці,
Да братоў, сяброў.
Вечна жыць — не паміраць ёй,
Палымяніць кроў.

□ □ □

## У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ:

Вершы Анатоля ГРАЧАНІКАВА, Мар'яна ДУКСЫ, Анатоля КАЗЛОВІЧА, Уладзіміра ПАЎЛАВА, Міхася РУДКОЎСКАГА.

Дзень сённяшні — дзень заўтрашні

# НА ПАЛЕССІ ГОМАН

Рэпартаж



...Спрадвеку хадзілі легенды і казкі пра цудоўныя скарбы, што схаваны ў нямых і гіблых палескіх балотах. Гэтым паданням і верылі і не верылі, таму што чалавек не меў сілы, каб адолець і перамагчы спрадвечную багну, якая прыносіла яму хваробы, няшчасці, а часам і смерць. Дрыгва нічога не давала палескім сялянам — яна, як і нядоля, высмоктвала з іх апошнія сілы, азмрочвала і без таго змрочнае жыццё. Так было спрадвеку, так было да часу, пакуль над Палессем не засвяціла па-новаму сонца, пакуль не зазвінела тут чароўнае слова «Камуна». Тады з новымі сіламі выйшлі людзі змагацца за балотныя скарбы, змагацца за інакшы лёс Палесся. Пра яе, пераўтвораную багну, пісаў тады незабыўны Янка Купала:

...За гарамі, за даламі,
Ў балотах пустынных
Паўставала, вырастала
Новая краіна.
Непраходныя былі дзе
Балотныя гаці,—
Там красуюць, там буяюць
Нівы, сенажаці.

...Экскаватар мае сілу волата. Падуладны вопытным рукам, ён крок за крокам выцясняе балота. Мёртвае царства вяртаецца да жыцця.

— Прайшло, здаецца, і не так многа часу з таго дня, калі мой бацька спрабаваў дабрацца да залатога дна са звычайнай рыдлёўкай, — расказвае



Экскаватаршчыкі Канстанцін Міхаленя і Рыгор Катовіч.

экскаватаршчык Канстанцін Міхаленя, — а перайначылася ўсё, сапраўды, як у казцы. За дзень з машынай раблю столькі, колькі раней усёй вёскай за год не рабілі... Вось калі сапраўды настаў час у балота скарбы адваёўваць...

Канстанцін Міхаленя са сваім напарнікам Рыгорам Катовічам працуюць у калгасе імя Гарбачова. Гэтая гаспадарка не з бедных, але ісці наперад, як кажуць, багацець на балоце, імкнецца ўвесь час. Тым больш, што ў раёне ёсць прыкметныя ў гэтых адносінах маякі. Узяць хоць бы той жа калгас «Чырвоная змена». Тут канкрэтна паказалі, якая сіла ўрадлівасці тоіцца ў асушаных тарфяніках... Багатыя ўраджаі, сытая жывёла, шырокі размах будаўніцтва... Ды што лішне гаварыць: мільён дзвесце тысяч рублёў калгасных грошай ляжыць на рахунку ў «Чырвонай змене». Ці патрэбна яшчэ якое пацвярджэнне найвышэйшай пробы таго золата, што ляжыць у палескай зямлі!

Механізатары дапамагаюць сёння здабываць гэты скарб. На адным участку працуе экіпаж Міхалені і Катовіча, на другім «флоцкі» экіпаж Канстанціна Бунаса. Флоцкі?.. Так, сапраўды. Справа ў тым, што нядаўна яшчэ трое з чатырох членаў экіпажа былі маракамі. Канстанцін Бунас служыў на Балтыцы і на Ціхім акіяне, Іван Матох — плаваў на Чорным моры, Міхаіл Трубчык — на Каспійскім. Нічога не скажаш — умеюць хлопцы перамагаць стыхію. Трэба за змену выняць 300—350 кубаметраў грунту, а яны вымаюць да шасцісот. Па-першае, дасканала ведаюць машыну. Па-другое, гэтак жа дакладна вывучылі тактыку наступу на балота. Па-трэцяе, хлопцы па-свойму мераюць суткі — адна пара змяняе другую, за рычагамі і сустракаюць сонейка і праводзяць...

Экіпаж экскаватаршчыкаў: Лявон Пузевіч, Міхаіл Трубчык, Канстанцін Бунас і Іван Матох.





Бульдазерыст Мікалай Палаўчэня.

— Мы разумеем, — Канстанцін Бунас паказвае на свой экіпаж і на экскаватар, — мы разумеем, што без нас калгасу такой работы не адолець. Таму і стараемся, тым больш, што і ў калгаснікаў і ў нас — адна мэта...

...Так, мэта ва ўсіх, хто працуе цяпер у сельскай гаспадарцы ці абслугоўвае яе патрэбы, адна, яна вызначана рашэннямі XXIII з'езда партыі і майскага Пленума ЦК КПСС. Практычная «расшыфроўка» дзівоснага слова «меліярацыя» — амаль што галоўнае звяно. І трэба аддаць належнае меліяратарам, будаўнікам, калгаснікам і рабочым саўгасаў Любаншчыны: яны «расшыфроўваюць» гэтае чароўнае слова, бадай, лепш, чым хто ў рэспубліцы.

Амаль пяцьдзесят чатыры тысячы гектараў балот ужо асушана, з іх каля сарака тысяч узарана, чатыры з лішнім тысячы занята пад сенажацямі і тры з лішнім — пад выпасамі. На адзінаццаці тысячах гектараў закладзены ганчарны дрэнаж. Па выніках мінулага года ўраджайнасць збожжавых у раёне дасягнула 16,8 цэнтнера з гектара, бульбы — 214, цукровых буракоў — 206, карняплодаў — 332, сена шматгадовых траў па першым укосе — 29 цэнтнераў з гектара. Вось яно, здзяйсненне адвечнай мары палешукоў пра ўрадлівыя нівы, пра духмяныя сенажаці!

Але гэта яшчэ не «дно». Прыклад лепшых гаспадарак раёна сведчыць, што там, дзе «згаварыліся» з тарфянікамі, вынікі значна лепшыя.

...Дырэктар саўгаса Модзін... Знаёмае прозвішча. Дык гэта ж той самы, пра каго пісаў Янка Купала ў паэме «Над ракой Арэсай», арганізатар і адзін з кіраўнікоў славутай камуны, створанай на Палессі ў дваццатыя гады. Першымі камунарамі былі дэмабілізаваныя чырвоныя кавалерысты. Пасля Модзін быў старшынёю калгаса, дырэктарам саўгаса, ваяваў супраць фашыстаў, пасля вайны вярнуўся на Палессе і вось ужо чатырнаццаць гадоў узначальвае саўгас «Любанскі». Сёлета заслугі Эмануіла Натанавіча Модзіна перад сельскай гаспадаркай адзначаны залатою зоркаю Героя Сацыялістычнай Працы.



Так у саўгасе «Любанскі» робяць з травы муку.

Чым славіцца саўгас? Перш за ўсё тым, што тут няма земляў, не ўключаных у севазварот, земляў, на якіх не столькі пасецца, колькі топчацца жывёла, ды амаль без карысці махаюць косамі касцы. А ўвесь жа саўгас размешчаны на тарфяніках.

У «Любанскім» зямля працуе з поўнай аддачай. І калі яшчэ сям-там пакуль гэтай поўнай аддачы няма — вінавата не зямля, а недасканалая сістэма меліяравання, недахоп той колькасці мінеральных угнаенняў, якую ўносяць цяпер; віна людзей-вучоных, якія не вывелі да гэтага часу спецыяльных для балотных глеб гатункаў збожжа, пшаніцы, ячменю, гародніны...

— Вось з гэтай прычыны, — тлумачыць дырэктар саўгаса, — мы не можам узяць усё тое, што ёсць у нетрах Палесся, хоць саўгас і славіцца ўстойлівымі ўраджаямі.

Лічбы? Вось яны: ураджай збожжавых у сярэднім за апошнія пяць гадоў па 21,8 цэнтнера з гектара, бульбы — каля 350, цукровых буракоў — 220, морквы — 500, сена — 40 цэнтнераў. Пацвярджэнне таму, што нетры Палесся не вычарпаны поўнасцю — рост грашовых прыбыткаў саўгаса! Летась атрымана 375 тысяч рублёў прыбытку, сёлета ж гэтая сума «набегла» прыкладна за паўгода. Здабываць такія прыбыткі шмат памагае тэхніка. Саўгас мае ўстаноўкі для нарыхтоўкі травяной мукі і ўжо вядзе гэтую справу на трывалай прамысловай аснове. Цяперашні гадавы план саўгаса — чатыры тысячы тон вітамінных мукі з сена на продаж і тысяча тон для сваіх патрэб; на будучы год ужо шэсць тысяч, а на сямідзесяты год — дзесяць тысяч тон.

...Машыны, машыны... Але галоўнае ўсё-такі людзі. Іх настойлівасць, энтузіязм, любоў да справы вызначаюць усе вынікі. У тым жа «Любанскім» мне расказалі пра Хведара Статкевіча — гістарычнага, можна сказаць, чалавека, трактарыста. Пачынаў ён яшчэ ў трыццатыя гады, калі на Палессе яшчэ толькі-толькі даносіліся галасы машын. Пачынаў на «Інтэры» — замежным трактары. Пасля, калі атрымалі свае, перасеў на іх і ваяваў з балотамі, пакуль не давялося ісці на вайну з фашыстамі. І ён пайшоў. Дакладней сказаць, паехаў на сваім трактары, каб не пакідаць яго акупантам. На трактары з прычэпленай гарматай прайшоў праз Смаленск, дайшоў да Масквы, адтуль вярнуўся ў Беларусь, а закончыў вайну пад Кенігсбергам. Закончыў, прыйшоў дадому і зноў — на трактар. І да гэтага часу Герой Сацыялістычнай Працы Хведар Мікалаевіч Статкевіч — салдат і араты — у страі, ён таксама «расшыфроўвае» сёння дзівоснае слова меліярацыя.

Яго, гэтае слова, «расшыфроўваюць» экскаватаршчыкі і трактарысты, землеўпарадчыкі і аграномы, партыйныя і камсамольскія работнікі, шафёры, будаўнікі...

Поспехаў ім!

**Аляксандр ШЧАРБАКОЎ.**

Фота **А. Дзітлава.**

# ПЯРО ЖАР-ПТУШКІ

**Рэпартаж**

Начальнік аддзела кадраў на хвіліну адарваўся ад папер і паглядзеў на Валодзю, які, прывітаўшыся, падаў яму лісток.

— Што гэта? Заява? — спытаў Яўген Паўлавіч і, прачытаўшы заяву да канца, дадаў: — Значыць, звальняешся, таварыш Пятроўскі?

— Звальняюся.

— З начальствам не паладзіў, ці заробкі малыя?

— І з начальствам жыву ў згодзе, і заробкі не малыя...

— Тады я проста не разумею цябе, таварыш Пятроўскі. Куды і хто цябе гоніць? Жар-птушку шукаеш?

— Ее, жар-птушку, — падтакнуў начальніку аддзела кадраў Валодзя.

— Але куды ж ты ўсё-такі цяпер?

— На будоўлю.

— На лаўсанавы?

— Угадалі, Яўген Паўлавіч.

— Ну, браце, ведаеш... З завода ды на будоўлю!.. Тут жа ты заўсёды пад дахам, у цяпле. І такая спецыяльнасць у руках. Токар-карусельшчык. Ды ці ведаеш хаця ты, што такое будоўля?..

Начальнік аддзела кадраў быў лагодны і, як здавалася Валодзю, меў намер угаварыць яго застацца на заводзе. Ён так рабіў заўсёды, калі звальняўся добры рабочы, а Пятроўскі быў такі. Начальніку аддзела кадраў вельмі хацелася, каб Пятроўскі працягнуў руку за сваёй паперкай. Але хлопец не рабіў гэтага.

Яны нейкі час маўчалі, нібы выпрабоўваючы адзін аднаго. Яўген Паўлавіч зноў паўтарыў сваё:

— Ці ведаеш ты, што такое будоўля?

Уладзімір Пятроўскі добра ведаў будоўлю. Адразу пасля заканчэння васьмігодкі звязаў з ёю свой лёс. Ужо тады, калі ў прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы слухаў майстра, надта карцела хутчэй стаць на рыштаванне і класці цагліну за цаглінай. Ён папрацаваў на многіх будоўлях Магілёва. І цяпер, калі здараецца праходзіць міма металургічнага завода імя Мяснікова, Валодзя не ўтрымаецца, каб не пахваліцца: «Я гэты цэх будаваў». Скажа, і сэрца радасцю напоўніцца: будаўнік і праз пяць, і праз пяцьдзесят гадоў можа бачыць сваю работу.

Начальніку аддзела кадраў, відаць, не падабаецца адказ Уладзіміра, і ён пускае ў ход свой апошні козыр:

— А калі зноў прыйдзеш прасіцца на завод? Што тады з табой рабіць?



**Лаўсанбуд. Цагліну за цаглінай кладзе Уладзімір Пятроўскі.**

— Не прыйду.

— Ну, глядзі. Табе відней. Не маленькі...

Гэта размова прыгадалася Уладзіміру ўжо нешта месяцы праз два, калі з брыгады звольнілі Пецьку. Дзіўны быў гэты Пецька. Мусіць, калі ішоў на будоўлю, то спадзяваўся, што яго на руках там будуць насіць. Хлопец не так ужо і многа патрабаваў: хаця б разрад павысілі, ці брыгадзірам назначылі, ці пра кватэру паклапаціліся. У брыгадзе ўжо даўно раскусілі Пецьку, але ён не пераставаў скардзіцца, спрабуючы знайсці сабе спагадлівага хаўрусніка. Старыя рабочыя яго не слухалі. Тады ён пад'язджаў да навічкоў. Колькі разоў пачынаў гутарыць і з Валодзем. Аднойчы той не вытрымаў:

— Паслухай, Пецька, а ты хапуга. Як кажуць, няма ў цябе ні сумлення, ні павагі. Абы толькі ўварваць пабольш. А што зрабіў?

— А ты хто такі? — як уджалены, падхапіўся Пецька. — Выслужваешся, па халявах начальству ляпаеш...

Уладзіміру хацелася на грубасць адказаць грубасцю, але ён стрымаўся і ціха, цвёрда адказаў:

— Як цябе толькі брыгадзір церпіць? Я цябе даўно адправіў бы на ўсе чатыры...

— А я і сам пайду.

— Ну і ідзі. З табой не густа і без цябе не пуста.

— Сапраўды, чым так працаваць, то лепш ішоў бы ты ад нас, — уступіў нарэшце ў размову брыгадзір Фёдар Брыгадны.

— І пайду, няма дурняў! — крычаў на ўсю бытоўку Пецька. Потым схапіў свае рукавіцы, ямчэй насунуў на патыліцу шапку і драпануў за дзверы. Ніхто не паглядзеў яму ўслед. Толькі з палёгкай уздыхнулі. Усе ведалі: з такой натурай не станеш будаўніком.

Дарэмна крычаў Пецька, што Пятроўскі выслужваецца, кар'еру робіць. А якая тут кар'ера, калі спачатку нават работы па спецыяльнасці не знайшлося. Уладзімір — муляр, а яму прапанавалі: «Калі жадаеш — ідзі да Брыгаднага цесляром». І ён пайшоў. Праз нейкі час сякера была ў яго руках такой жа паслухмянай, як і кельма.

Умець — за плячыма не насіць. Кожная спецыяльнасць у жыцці можа спатрэбіцца. Такога пункту гледжання Уладзімір прытрымліваўся, калі паступаў у палітэхнікум. І хоць цяжка спалучаць вучобу з работай на будоўлі, але тэхнікум не пакінуў.

«Тут будзе ўзведзен буйнейшы ў Еўропе камбінат сінтэтычнага валакна «Лаўсан» — гэты надпіс прачытаў Уладзімір на транспаранце ля пяціпавярховай будыніны заводакіраўніцтва і падаўся на будоўлю. Гэта толькі на першы погляд здаецца, што на пляцоўцы пануе цішыня. Можа таму і непрыкметныя першыя крокі вялікай будоўлі, што яшчэ вядзецца разбіўка будучых карпусоў, закладваюцца іх падмуркі. Работы большае з кожным днём, хаця паранейшаму здараюцца перабоі і затрымкі з будаўнічым матэрыялам.

Каля бытоўкі сядзяць хлопцы, грэюцца на сонцы, дымяць цыгаркамі. Уладзімір прывітаўся і прымасціўся на нізкай, збітай з дошак, лаўцы. З бытоўкі выбег брыгадзір і загаварыў да Пятроўскага:

— Валодзя, з упраўлення перадавалі, каб прыйшоў...

— Чаго?

— Хіба ж я ведаю? Там скажуць, — адказаў брыгадзір і хітра ўсміхнуўся.

Уладзімір пайшоў.

Начальнік участка Аляксандр Сяргеевіч Вазнясенскі, заўважыўшы хлопца, паклікаў рукой, каб ішоў да яго. Калі Пятроўскі падышоў, падаў яму руку і ціха сказаў:

— Прысаджвайся. Во толькі адну справу ўтрасу і з табой зоймемся.

Ён падпісаў нейкія паперы, аддаў іх чалавеку, што сядзеў насупраць, і ўжо тады загаварыў:

— Дык вось, таварыш Пятроўскі, прапанова адна ёсць.

Уладзімір насцеражыўся і бліжэй падсунуўся. А Вазнясенскі тым часам гаварыў:

— Як ты глядзіш, каб брыгаду ўзначаліць? Ведаеш, брат, якая брыгада? Эксперыментальная! Будоўля вялікая, толькі пачынаецца. Яшчэ ўсё наперадзе. Мы павінны будаваць якасна і хутка. Дзеля гэтага трэба карыстацца толькі перадавымі метадамі і сродкамі. Мы не маем магчымасці, і гэта будзе не зусім апраўданай рызыкай — праводзіць эксперыменты ўсёй будоўляй. Рабіць гэта павінна адна брыгада, тая, што ты ўзначаліш. Зразумеў? Ты будзеш даваць прысуд той ці іншай навінцы, што прыйшла на будоўлю. Ад цябе і тваіх хлопцаў будзе залежаць многае. Зразумеў?

— Хто яго ведае, — пачаў неяк нерашуча і няўпэўнена Уладзімір.

— Што, хто яго ведае? — спыніў хлопца Вазнясенскі. — Ты ж у тэхнікуме займаешся, камуніст. Думаю, справішся. Табе толькі людзей падабраць, дык гэта зробім. Лёня! Дзе ён? — гукнуў Аляксандр Сяргеевіч і пачаў некага шукаць вачыма.

Да стала падышоў сінявокі хлопец.

— Знаёмся. Гэта наш камсамольскі сакратар Леанід Галіноўскі, — і загаварыў ужо да Леаніда:

— Лёня, памажы Пятроўскаму... Трэба хлопцаў падабраць. Адным словам, памятаеш, мы з табой надоечы гаварылі пра эксперыментальную брыгаду. Дык вось яе кіраўнік — таварыш Пятроўскі. Адным словам, дзейнічайце цяпер разам. А загад аб прызначэнні будзе падпісаны сёння ж.



Хлопцы з эксперыментальнай: Вадзім Койда, Уладзімір Емяльянаў і Уладзімір Пятроўскі.

— Добра, Аляксандр Сяргеевіч, зробім!

Так неўспадзеўкі Уладзімір Пятроўскі стаў кіраўніком эксперыментальнай брыгады. У галаве неадступна вярцелася думка-трывога: ці здолее.

Прыкмеціўшы невясёлы Валодзеў настрой, Галіноўскі пажартаваў:

— Дык ты, як той камандзір без войска? Нічога. Ідзі на аб'ект, а я праз некаторы час падашлю хлопцаў...

Эксперыментальнай брыгадзе даручылі збудаванне бытавога корпуса для аднаго цэха. Яго трэба было пачынаць з нуля, з падмурка. Пакуль брыгадзір бегаў па тэхнічную дакументацыю, утрасаў з прарабам свае першыя пытанні, заказваў дыспетчару на заўтра бетон, сакратар камсамольскай арганізацыі фарміраваў брыгаду. Ужо апоўдні Валодзю адшукалі двое хлопцаў: адзін стройны і высокі, у сінім камбінезоне, другі ў ботах і армейскім галіфэ, у чырвонай паласатай кашулі.

— Ты Пятроўскі? — спытаў той, што ў армейскім галіфэ.

— Я.

— Тады мы да цябе. Галіноўскі паслаў.

Так у эксперыментальную брыгаду трапілі Генадзь Рагозін і Арнольд Васіленка. Брыгадзіру яны спадабаліся. Абодва жвавыя, кемлівыя, руплівыя бетоншчыкі. З такімі лёгка працаваць. Толькі скажы, што трэба зрабіць, а як і што, каб лепш і хутчэй, самі даўмеюцца. Следам за імі прыйшлі Уладзімір Емяльянаў, Вадзім Койда, Анатоль Глякаў, Мікалай Галуза. Шэсць чалавек — гэта ўжо цэлы калектыў. З імі ўжо можна штосьці зрабіць, хаця брыгада будзе яшчэ расці.

Эксперыменты пачаліся з першага кроку. Усе ў брыгадзе на бу-

доўлі не навічкі. Ведаюць, што кожны аб'ект абносіцца агароджай. Агароджа гэта драўляная — слупкі, дошкі, шалёўкі. Пастаіць яна пэўны час, потым разбяруць яе, скінуць у груду. А адтуль — туды дошку, сюды дошку, і няма больш іх. Трэба новыя. І так за кожным разам.

А што калі і агароджу зрабіць «вечнай»: не з дошак, а металічную? Тое ж самае з рыштаваннямі. І работы менш. Усё гатовае. Здаецца проста, а якая выгада!

Заключэнне брыгады было адно — даць на будоўлю дарогу металічнай агароджы і рыштаванням. Мільёны кубаметраў лесу зберагуць яны для народнай гаспадаркі, для будоўляў новай пяцігодкі.

Потым задумаліся ў брыгадзе над тым, каб устанавіць вібражолаб. Якую палёгку прынясуць ён бетоншчыку? Не трэба ўручную перакідваць бетон. Самазвал выльe цэлы кузаў бетону ў вібражолаб, а ты ўжо дзейнічай. Забетаніраваў адзін падмурак, пад'язджай да наступнага: вібражолаб жа лёгка перасоўваецца.

Ідзе на будоўлю новая тэхніка, ідзе ў эксперыментальны цэнтр, як цяпер на «Лаўсанбудзе» называюць брыгаду Уладзіміра Пятроўскага. Хлопцы і сам брыгадзір ведаюць, з якой цяжкасцю іншы раз прабівае сабе дарогу новае, перадавое, з якім недаверам глядзяць на яго людзі, што прывыклі працаваць па-старому. Даказаць перавагу гэтага новага, знайсці хутчэйшыя і рацыянальныя шляхі, — якія памогуць будаўніку працаваць з поўнай аддачай — такая задача эксперыментальнай брыгады, маленькай часцінкі шматтысячнага калектыву, які за пяцігодку павінен збудаваць буйнейшы ў Еўропе камбінат сінтэтычнага валакна. Такая задача вызначана Дырэктывамі пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі, якія прыняты на XXIII з'ездзе КПСС. Так сказана. Так будзе зроблена.

... Дамоў Валодзя вяртаўся позна. Разам з ім у аўтобусе ехалі Генадзь Рагозін і Арнольд Васіленка. Гаварылі пра справы сённяшнія і думалі пра заўтрашнія. За размовай і не прыкмецілі, як аўтобус праскочыў дняпроўскі мост і, натужна равучы, пачаў узбірацца па крутой дарозе ў горад. Генадзь раптам паглядзеў у акно і нечакана прапанаваў:

— Хлопцы, давайце тут выскачым, на Дняпро паглядзім.

Там, унізе, асветлены агнямі, чорнай стужкай віўся Дняпро. Два шнуркі вулічных ліхтароў перабягалі праз мост і расплываліся ў моры электраагнёў зарэчнай часткі горада.

— Як прыгожа, хлопцы, у вашым Магілёве! — захапіўся Генадзь.

— Ты што, не тутэйшы? — спытаў Уладзімір.

— Не, з-за Урала я. Там нарадзіўся, там вырас і працаваў. А потым... У Казахстане на будоўлі пазнаёміўся з магіляўчанкай. З ёй і прыехаў сюды. І не шкадую. Добра тут у вас. І будоўля мне падабаецца. Я адразу сваёй жонцы сказаў, што працаваць пайду толькі на лаўсанавы.

— Табе што! З жонкай заўсёды лёгка дагаварыцца, — жартам пачаў Арнольд. — А вось мне было. Ледзь адпусцілі з аўтабазы, дзе раней працаваў. Толькі я ўсё роўна на будоўлю пайшоў. Такое ж, як кажуць, не часта бывае. А пабудуем камбінат — хімікам стану. Толькі скончу школу, паступлю ў завочны хіміка-тэхналагічны тэхнікум...

Яны стаялі над Дняпром. Моўчкі слухалі цішыню летняга вечара, глядзелі туды, дзе казачнай жар-птушкай зіхацеў горад, за якім была іх будоўля, іх лаўсанавы. Пра што яны думалі ў гэты час? Можа пра тое пяро ад жар-птушкі, што знайшлі хлопцы за Дняпром і якое стала для іх штодзённым шчасцем.

**Уладзімір КУЗЬМЯНКОЎ.**

Фота **У. Вяхоткі.**

г. Магілёў,
«Лаўсанбуд».





**Салігорскі шахцёр.**

Фота **Ю. Іванова.**

Свет у вобразах

Сцяпан КУХАРАЎ



Галоўны ўрач Марат Сцяпанавіч Ліхачоў.

# ДОКТАР ВЫБРАЎ ЛОШНІЦУ

Нарыс

Неяк праводзілася абласная нарада ўрачоў-хірургаў, і там я ўпершыню пачуў пра доктара Марата Ліхачова. На фотавітрыне паказваліся дасягненні хірургаў Міншчыны. Там быў асобны куток пра Лошніцкую ўчастковую бальніцу, якую ўзначальвае Марат Сцяпанавіч.

Там жа, у канферэнц-зале Мінскай абласной бальніцы, мы і пазнаёміліся. Марат Сцяпанавіч — сярэдняга росту, шчуплы, рухавы чалавек, выглядае куды маладзей за свае трыццаць чатыры гады. У касцюме, пры гальштуку, Марат якраз такі, як і ўсе дактары. І акуляры, удала падабраныя да твару... Мускулістыя рукі мужчыны і ў той жа час нейкія далікатныя, адразу запамінаюцца.

— Калі ласка, прыязджайце, — Марат Сцяпанавіч ахвотна запрашае да сябе ў Лошніцу, але тут жа дадае, шчыра здзіўляючыся: — Толькі, што пра мяне пісаць? Проста не ведаю... Але прыязджайце, бальнічку паглядзіце, з маімі калегамі, з лошніцкімі медыкамі, пазнаёмлю...

Марат Сцяпанавіч з нейкай асаблівай цеплынёй прамовіў гэтае слова «бальнічка», і нам захацелася абавязкова пабыць там.

* * *

На васемнаццатым кіламетры за Барысавам ёсць паваротак з Маскоўскай шашы на гравійку. Недалёка, за пагоркам, у вянку купчастых прысад, цагляныя будынкі. Гэта — Лошніца.

Аўтобус, які ўвесь дзень курсіруе з горада, меней як за гадзіну даставіць вас у вёску. Лошніца нечым нагадвае старое беларускае мястэчка: сярод новых, сучасных дамоў сустрэнеш старадаўнія будыніны. Адразу пры ўездзе — цэнтральная плошча, дзе кантора саўгаса, сельсавет, сталоўка... Злева — доўгія цагляныя прамавугольнікі, над якімі ўзвышаецца вежа — аўтарамонтны завод. Ад яго працягнулася новая вуліца, некалькі мураваных двухпавярховых домікаў. А ўся Лошніца — справа: галоўная вуліца, і ад яе ў розныя бакі вузкія, крывыя вулачкі.

На галоўнай вуліцы, упрытык з сельсаветам, сядзіба ўчастковай бальніцы. З-за агароджы, з белай цэглы, весела глядзіцца на вуліцу шырокімі вокнамі аднапавярховы будынак. З вуліцы пад вокнамі кусты бэзу, маладыя дрэўцы, а збоч на двары — цэлы гурт старых густаверхіх бяроз; крыху далей, на сядзібе, некалькі старадрэвін — расахатая ліпа, каржакаватыя яліны. Яны засталіся, як успамін ад тых часоў, калі тут была земская бальніца. Злева заімшэлы, але яшчэ ніштаваты дамок — таксама спадчына даўно забытага земства.

А гэта ўжо новае: гараж і качагарка, незакончаная будыніна для пральні. На двары кveткі, цыбатыя таполькі, а на гародзе — малады яблыневы садок...

...Марат Сцяпанавіч пазваніў з Барысава, што затрымаецца па справах. Давялося самому знаёміцца з лошніцкімі медыкамі.

У кабінеце галоўнага ўрача адзіны на ўсю бальніцу тэлефон, і таму ўвесь час бесперастанку званкі, заходзяць і выходзяць людзі. Тут жа завіхаецца светлавалосая дзяўчына ў беласнежным халаце і ў такой жа шапачцы.

Пра яе нельга інакш сказаць, яна іменна завіхалася: раз-пораз званіла ў Барысаў, у гарадскую бальніцу, наморшчвалася і ўсё непакоілася: «Скажыце, калі ласка, як там наша хворая? У яе цяжкія, дачасныя роды». Дазваніўшыся, бралася запаўняць гісторыі хвароб — перад ёю ляжаў цэлы стосік картак. Потым нечакана падхоплівалася, запіхвала ў кішэню

Урач Эма Ржэвуская прыйшла на ферму, каб пагутарыць з даяркамі пра гігіену працы.



свой фанендаскоп і спяшалася ў палаты. Неўзабаве яна вярталася, зморана праводзіла рукамі па твары і зноў уруплівалася ў карткі... Ёй не давалі доўга пасядзець.

Прыйшла медсястра, коратка сказала:

— Людміла Уладзіміраўна, прывезлі хворую...

Адразу ж падхапілася, умомант знікла за дзвярыма. Вярнулася, можа, праз гадзіну, заклапочаная, але такая ж жвавая, як заўсёды, — не была б дзяўчына.

— Зноў парадзіха, — з трывогай, заклапочана прагаварыла Людміла Уладзіміраўна. — Цяпер нікуды з бальніцы. Давядзецца дзяжурыць...

— А акушэрка? — заўважыў я, але Людміла Уладзіміраўна адразу ажывілася: — І не кажыце. У нас быў выпадак... проста цяжкі выпадак, і мы не маглі ўратаваць жанчыну. Цяпер пры родах абавязкова, апрача акушэркі, дзяжурыць урач. І, між іншым, я з гэтым згодна, жыццё чалавека — даражэй за ўсё. Гэта наш, можна сказаць, абавязак...

Мы разгаварыліся. Людміла Чарнуха — адзін з чатырох урачоў, якія працуюць у Лошніцы. Ужо два гады, як скончыла Мінскі медыцынскі інстытут. Барысаўчанка. У горадзе ёсць кватэра. Маці — пенсіянерка. Таксама медык. Людміла, яшчэ калі вучылася ў сярэдняй школе, выбрала такую ж спецыяльнасць, як і яе маці. І калектыў у Лошніцы ёй упадабаўся: акушэркі, медсёстры, санітаркі — усе старанныя, паслухмяныя. Усе яе паважаюць, заўсёды стараюцца дакладна выконваць яе патрабаванні. «Людміла Уладзіміраўна сказала...» «Людміла Уладзіміраўна, паглядзіце, ці так у нас атрымалася, як вы раілі...»

І «галоўны», як амаль усе за вочы называюць Марата Сцяпанавіча, — такі кіраўнік, з якім можна параіцца, у якога ёсць чаму навучыцца. Людміле прыемна, што і Марат Сцяпанавіч свой чалавек, былы выпускнік таго інстытута, дзе і яна вучылася.

— Значыць вы, Людміла Уладзіміраўна, у вёсцы, як кажуць, прыжыліся?...

Дзяўчына неяк ўся аж страсянулася — не чакала такога раптоўнага пытання. І разам з тым адчувалася, што для яе яно хвалюючае, нават балючае. Яна доўга ў роздуме маўчала і загаварыла неяк здалёк, нібы пра тое ж, але з другога боку.

— Што ж вы думаеце, цяперашняя вёска?.. Цяпер у вёсцы, калі хочаце ведаць, цяжэй працаваць. Адны выклікі колькі адбіраюць сілы! Не бывае таго дня, каб не выклікалі і ў Лошніцу, і ў Навасады, і ў Мужанку, і ў Прыяміна. Ды не толькі днём, а і сярод ночы... А зімою, калі ўсе дарогі замяце, дабіраешся да таго ж Прыяміна хіба што на фурманцы ці пехатою. І бывае, што выклікаюць без пільнае патрэбы, прыйдзеш, а той «хворы» п'яны, і спіць сабе, як з кірмашу прыехаўшы. Крыўдна часам бывае, калі іншы раз людзі не заўважаюць, як для іх жа стараешся, начамі не спіш. Не зважаючы ні на што, бяжыш на трывожнае «памажыце, доктар!» Не думаеш ні пра сон, ні пра адпачынак. Вы думаеце, у нас ёсць вольны час: няма яго, мы загружаны работай па горла. Ведаем адзін маршрут: дом — бальніца, бальніца — дом. А ў мяне яшчэ маці хворая. Каб быў тэлефон, я ёй пазваніла б. А так вось сяджу і трывожуся...

Людміла, нібы згадаўшы пра маё тое пытанне, шчыра сказала:

— Вядома, калі ўдумаешся глыбей, то тут, у нашай бальніцы, большае поле для практыкі, для паглыблення прафесійнасці. Але ж, зразумейце і нас, маладых. Не кожны захоча адразу ж, са студэнцкай парты, запрэгчыся ў работу... І я, напэўна, папрацую ды, як другія... У горадзе работа знойдзецца...

Людміла апусціла вочы, задумалася, а потым прагаварыла:



— Не, я, мусіць, не збягу. Нешта пачынаю да Лошніцы прырастаць, а чаму — і сама не ведаю. Можа, што мне работы тут шмат. А калі працуеш, то на ўсё іншае забываеш. Вось толькі мама адна там, без прыгляду...

Мы не заўважылі, як у кабінет увайшоў другі малады ўрач Іван Бельскі. Плячысты хлопец-здаравяк, з густым пшанічным чубам, прысеў на канапу і ўважліва, моўчкі прыслухоўваўся да нашай гаворкі. І на ягоным твары — блукала хітраватая, іранічная ўсмешка, якою ён нібы пацвярджаў усё, пра што гаварыла яго калега.

— А як вы тут, у Лошніцы, уладкаваліся, Іван Максімавіч? — спытаў я, адчуваючы, што і ён не супраць таго, каб прыняць удзел у нашай размове.

І ён расказаў, што вырас у вёсцы. На Бярэзіншчыне, у лясной глыбінцы, ёсць вёска Журавок. Адтуль пайшоў у самастойнае жыццё: скончыў у Магілёве медыцынскае вучылішча, фельчарскага хлеба пакаштаваў крыху, калі служыў на флоце.

Пра сваё жыццё на новым месцы Іван Бельскі сказаў:

— Пакуль што жыву, як на калёсах. Ложак, пад ложкам — чамадан. Як у студэнцкія гады. Халасцяцкае жыццё, а ў мяне ж у Мінску жонка, нядаўна пажаніліся...



**Урач Іван Бельскі сам малады, але ўжо мае вопыт работы. Яго і перадае ён практыкантцы Тамары Хацкевіч з Плешчаніцкага медвучылішча.**

Калегі, як выявілася крыху пазней, лічаць Івана Бельскага аптымістам. Ён ні на што не скардзіцца. Яму і саўгасная сталоўка не надакучыла, ён з ахвотай чытае лекцыі на тую ж спрадвечную тэму «Аб шкодзе алкаголю і курэння», праводзіць заняткі са слухачамі ўніверсітэта здароўя пры сельскім клубе.

У бальніцы доктар Бельскі вядзе амбулаторны прыём. Перад яго пакойчыкам заўсёды людна: старыя, жанчыны, бацькі з дзецьмі на руках. За дзень перабывае трыццаць, сорак чалавек. Асабліва напружаныя дні — субота і панядзелак. У суботу хацелася б раней вырвацца ды з'ездзіць у Мінск. Але дзе там! Іншы раз Іван збярэцца на аўтобус і ў думках ужо ў Мінску, ля інтэрната камвольнага камбіната, дзе працуе жонка, а тут прывязуць новага пацыента ці спатрэбіцца тэрміновая аперацыя, і ўсе планы рушацца.

У Бельскага, як і ў Ліхачова, і ў Чарнухі — аддзяленне: чатыры палаты. З хворымі колькі клопату! Бывае, што трэба прыйсці і ранічкаю, і позна ноччу. Няма такога дня, каб пасля таго, як скончацца рабочыя

гадзіны, яго зноў не паклікалі. Бывае, прабудзе ў бальніцы аж да рання.

І ўсё ж, Іван Максімавіч поўны энергіі, вясёлы чалавек. Вось ён толькі што скончыў прыём. Відаць, што моцна стаміўся. Прайшло некалькі хвілін — выкурана яшчэ адна цыгарэта, і ўжо чуецца яго лагодны голас:

— Пайду ж да сваіх бабулек, бо іх там, у калідоры, зноў ужо назбіралася...

І гэта не з іроніяй, а з цеплынёй у голасе, з добрай чалавечай заклапочанасцю.

Іншы раз Людміла Уладзіміраўна (яна ў бальніцы спецыялізуецца як урач-гінеколаг) пажартуе:

— От, Іван Максімавіч, і ўмееце ж вы загаворваць гэтых бабулек, не раўнуючы, як той чараўнік-знахар...

Бельскі весела смяецца, а потым ужо сур'ёзна гаворыць:

— А мне здаецца, што ўрач лечыць не толькі лекамі, але і сваёй звычайнай чалавечай дабратою. Чалавек у ёй адчувае асаблівую патрэбу якраз у той момант, калі занядужае...

— Гэта так, — згаджаецца Людміла Уладзіміраўна. — Мне здаецца, калі любіш чалавека, дык ён табе хутчэй адкрые сваё сэрца... А гэта пры многіх хваробах вельмі важна.

Раптам абодва заспяшаліся: Людміла Уладзіміраўна — у аддзяленне, на абход, Іван Максімавіч — у амбулаторыю, на прыём. Я выйшаў у калідор. Ложкі стаялі і ўздоўж сцяны, бо месцаў у палатах не хапае. Людміла Уладзіміраўна ўходжвалася ля пажылога чалавека, які сядзеў на ложку. Даносіўся яе мяккі ласкавы голас: «Дыхайце глыбей. Яшчэ, калі ласка!..» І твар у яе быў такі прыгожы, адухоўлены, і вочы свяціліся такой пяшчотай, што мне падумалася: дзяўчына не памылілася, выбраўшы сабе спецыяльнасць урача.

...Пад вечар прыехаў Марат Сцяпанавіч. Даведаўшыся, што я ўжо сам пазнаёміўся з яго калегамі, ён задаволена прагаварыў, праціраючы акуляры:

— Вось і добра. Мая місія, значыць, аблегчылася. А ў мяне сёння таксама была ўдалая паездка. Па-першае, дамовіўся з будаўнікамі, каб браліся за работу, па-другое, прыдбаў сякія-такія патрэбныя матэрыялы. І яшчэ... Здаецца, завербаваў у Лошніцу аднаго выпускніка з медінстытута. Разумееце, нам вельмі патрэбен урач. Ды і не адзін, а два і нават тры...

У стацыянары семдзесят пяць ложкаў. Бывае, што збіраецца да дзевяноста чалавек хворых. Бальніца лічыцца ўчастковай, а фактычна яна стала, як раённая. Аднак з гэтым пакуль што не лічацца...

Ён раптам занепакоіўся, пачаў некуды званіць па тэлефоне, але не дазваніўся, махнуў рукою, задумліва пахадзіў па кабінеце і, як бы ўзрадаваўшыся нейкай сваёй нечаканай здагадцы, весела сказаў:

— Што ж, можа нашу бальнічку паглядзім?

* * *

Мы былі ў палатах, агледзелі аперацыйную, абсталяваную новай, сучаснай апаратурай. Кінулася ў вочы чысціня, парадак, нягледзячы на тое, што ў бальніцы цесна і яўна адчуваецца недахоп «жылой плошчы».

Марат Сцяпанавіч паказвае ў аперацыйнай то адну, то другую навінку, якую яму ўдалося набыць, гаворыць:

— Ужо два гады, як мы робім аперацыі. І атрымліваецца нядрэнна. Спачатку, вядома, да нас ішлі, баючыся, неахвотна. А цяпер, калі што з кім здарыцца, у Лошніцу едуць нават з далёкіх вёсак. Едуць і з Барысава,



калі ў гарадской бальніцы не бывае месца. Нам удалося выратаваць жыццё многім людзям...

...Зусім нядаўна гэта было. Марат Сцяпанавіч выкраіў часіну, каб узяць у рукі кніжку, як да яго прыбегла дзяжурная медсястра Вольга Шутко:

— Марат Сцяпанавіч, чалавека прывезлі... Мужчына... уся галава разбіта... Пад аўтамашыну трапіў...

Доктар апрануў халат і ўмомант апынуўся ў прыёмным пакоі. Агледзеў хворага. Гэта быў рабочы саўгаса «Лошніца». Ехаў на веласіпедзе і ўрэзаўся ў борт аўтамашыны. Прывезлі ў бальніцу непрытомнага.

— Цяжкі выпадак, — вырвалася ў Марата Сцяпанавіча, але ён тут жа, падбадзёрыў сябе і ўсіх, хто быў побач: — Аднак, мне здаецца, чалавек будзе жыць!...

Пачалося настойлівае, упартае змаганне за чалавека, за яго жыццё. Аперацыя была складаная і доўгая. Марат Сцяпанавіч цярпліва некалькі гадзін запар выбіраў шматлікія драбнюсенькія асколкі, якія разам з валасамі былі ажно ля мозгу...

У кнізе, дзе вядзецца ўлік зробленых аперацый, ёсць запіс ад 15 красавіка 1964 года. У гэты дзень Марат Ліхачоў зрабіў сваю першую аперацыю — левастароння пахавая грыжа. Аперацыя прайшла ўдала. Радаваўся хворы. Можа не менш за яго радаваўся і малады хірург, які дагэтуль толькі марыў рабіць аперацыі самастойна.



Аперацыю робіць галоўны ўрач.
Фота С. Чырэшкіна.

За першай пайшлі другая, трэцяя... У 1964 годзе — семдзесят тры аперацыі. Летась — сто семдзесят дзве, сёлета ўжо — за сто даўно пераваліла.

Яшчэ студэнтам Марат Ліхачоў цвёрда вырашыў стаць хірургам. Тады ж нарадзілася думка — паехаць у вёску, на ўчастак, каб мець шырокае поле для практыкі.

Яму выпала Лошніца. Ну і што ж! І ў Лошніцы — людзі, і яны не будуць супраць таго, каб у іх вёсцы быў свой доктар, такі, якому можна было б давярыцца, калі напаткае хвароба.

Лошніцы, між іншым, не шанцавала на ўрачоў — яны тут доўга не затрымліваліся. Аперацыйная медсястра Вольга Максімаўна Шутко, якая працуе ў бальніцы больш за дваццаць гадоў, прыгадвае, колькі перабыло ў іх «галоўных». Налічыла чатырох: Карасік, Дабравольскі, Акульчык, Кузняцова... А колькі было радавых урачоў — дзесяткі! Усе, як толькі крыху агледзяцца, стануць на ногі, хутчэй стараюцца выбрацца на лепшае месца.

— А як падумаеш, узважыш усе «за» і «супроць»,— разважае Марат Сцяпанавіч, — дык і не будзеш строга судзіць таго, хто не змог тады тут надоўга прыжыцца, — і ён паказвае пасярод двара звычайную вясковую студню пад накрыўкай: — Гэта была наша водная «артэрыя». Цягалі вёдрамі ваду і для кухні, і для патрэб бальніцы. А зімою, як усё замерзне, не вельмі нацягаеш з яе вады. Былі цяжкасці, і ці толькі з вадою!..

Дзесяць год назад, пасля заканчэння медінстытута, Марат Ліхачоў

прыняў Лошніцкую бальніцу. Старую драўляную будыніну ўжо колькі разоў ладзілі, рамантавалі, падпіраючы падпоркамі. А трэба ж было лячыць хворых. І Марат Ліхачоў, які стаў галоўным урачом, прыняў на тым часе смелы план — збудаваць у Лошніцы новую бальніцу.

Лёгка сказаць — збудаваць новую, калі ёсць старая, калі яна лічыцца на ўсіх балансах. Пытанне ставілася не раз і не два на вялікіх і малых сесіях, але ў райвыканкоме сказалі коратка і ясна: «На рамонт, калі ласка, сродкі атрымлівайце. А новую ніяк нельга, бо што скажуць у іншым месцы, дзе і гэтакай няма...»

Нарэшце дазвол атрыманы: на сродкі, адпушчаныя для капітальнага рамонту, можна будзе збудаваць новае памяшканне. Марат Ліхачоў, параіўшыся са сваімі калегамі, прыйшоў да думкі, што новая бальніца павінна быць большая, а яму ў раёне зноў паставілі ўмову: будуй толькі на старых падмурках і ні на крок не адступай.

Марат доўга даводзіў, што цяперашняя апаратура патрабуе большых плошчаў, нельга разгарнуцца ў такіх пакойчыках-каморках, якія былі раней. «Дарагі, ты яшчэ захочаш такую клініку, як у сталіцы,— цвёрда адказалі яму. — Для Лошніцы будзе добра і такая...» Ён тады прапанаваў будаваць бальніцу на два паверхі, інакш усё адно будзе цесна, і рана ці позна пра бальніцу давядзецца турбавацца. І тады старшыня райвыканкома замахаў рукамі: «Што ты, Ліхачоў, марочыш нам галовы. Што табе яшчэ трэба? Хопіць і аднапавярховай, пакуль я дажыву да пенсіі...»

Праўда, той кіраўнік пайшоў-такі на пенсію. А Марат Сцяпанавіч, думаючы, як бы хутчэй збудаваць новую амбулаторыю, прыгадвае тыя свае баталіі і сам сябе хваліць: «Дабра, што я тады ўсё ж не збаяўся і на два крокі пашырыў будынак. Зусім інакш выглядае бальнічка».

Цяпер усё стала гісторыяй. З іранічнай усмешкай прыгадвае Марат Сцяпанавіч, як тады даводзілася ўсё браць нібы з бою: трэба было ўмець здабыць і матэрыялы, і глядзець, каб цябе не абвялі вакол пальца будаўнікі. Сам быў і за прараба, і за кладаўшчыка. Не адзін раз даводзілася, скінуўшы бальнічны халат, разам з усімі супрацоўнікамі брацца за рыдлёўку ці тачку — усе па яго прыкладу выходзілі на будаўнічую пляцоўку. І працавалі так, што самі будаўнікі аж дзівіліся.

— Дарагая мне гэтая бальнічка, — раптам кратаючы акуляры, узрушана гаворыць Марат Сцяпанавіч: — Разумееце, усё рабілі самі, па цаглінцы, як гаворыцца, збіралі. Можа яшчэ не ўсё як мае быць зроблена. Вось, кажаце, і на двары яшчэ непарадак. Прыбудоўку надумалі: хочам, каб у радзілку быў асобны ўваход. Там будзе прыёмны пакой, душ паставім... Каб усё было, як у людзей...

Марат Сцяпанавіч запыніўся, пазіраючы на расахатую ліпу і доўга стаяў моўчкі, захоплены нейкімі сваімі думкамі, а потым нечакана загаварыў:

— Я, можна лічыць, гарадскі. У мяне бацькі ў Мінску. На Ленінскім праспекце кватэру добрую маюць. І за гэтыя дзесяць год, што жыву ў Лошніцы, змог бы ўжо даўно быць у горадзе. Мае аднакашнікі, калі сустракаемся на якіх нарадах у Мінску, дзівяцца: «Ты ўсё сядзіш там, у сваёй Лошніцы. От, дзівак!..» Можа, сапраўды дзівак...

«Цудоўны хірург. Залатыя рукі»,— чуў я. калі яшчэ збіраўся ў Лошніцу. Мне не давялося бачыць Марата Ліхачова ў аперацыйнай, са скальпелем у руках. І не ведаю, ці падгледзеў бы там нешта большае, чым тое, што паназіраў, сустракаючыся з ім і ў бальніцы, і пасля работы.

Між іншым, сам доктар вельмі шкадаваў, што тыя мае пяць дзён выдаліся занадта «ціхімі» — не было ні аднай аперацыі. Але ж яго разы са два выклікалі ўночы ў Барысаў, у першую клініку на аперацыі. Ён сам, па сваёй ахвоце, мае там практыку.



Я гутарыў з галоўным урачом першай Барысаўскай гарадской клінікі, хірургам-ветэранам Барысам Мікалаевічам Мардвінавым, якога Марат лічыць сваім добрым настаўнікам.

— Марат! — ускінуў чорныя калматыя бровы стары доктар і, поўны захаплення, гаварыў: — Гэта мой сын. Вядома, па нашай агульнай справе. Я за Марата падпішуся, калі трэба, усім сэрцам. І ў партыі ён будзе. Прымем яго ў партыю. Так, гэта мой сын! Адзін з тых, кім я ганаруся, каму я з лёгкім сэрцам перадам маю любімую справу — хірургію.

Між іншым, сам «сын», калі пачуў пра сябе такое, шчыра сказаў: «О, каб мне пражыць так жыццё, як Барыс Мікалаевіч, — больш мне нічога не трэба было б».

Я прыгадаў чэхаўскага «Іёныча», тужлівыя скаргі земскага ўрача на тое, што жыццё яго праходзіла ў Дзяліжы цьмяна, без уражанняў, без думак. Скіраваў сваю гаворку на тое, што часам і цяпер маладыя ўрачы, трапіўшы пасля бурнага гарадскога жыцця ў вёску, скардзяцца на неўладкаванасць побыту.

— Тое, што ў вёсцы сумна, — загаварыў ён, — дык у гэтым вінаваты часта мы самі. Бацыла суму, як ні дзіўна, у нас саміх. Чалавеку дзейснаму, які мае сваё захапленне, сумаваць няма калі. Лошніцкія ўрачы, трэба прызнацца, вельмі загружаны работай. Але ж, як падумаеш, то можна было б лепш арганізаваць вольны час і ў нашым калектыве. Шэсцьдзесят чалавек — гэта ж сіла!

Зноў задумаўся, апусціў долу вочы, нібы вінавацячыся:

— Думаем над гэтым, думаем. Вось хор ствараецца ў нас, часцей будзем сустракацца з вясковай моладдзю. — Потым горача дадаў: — Упэўнены, што той, хто прыедзе да нас, у калектыў, не пашкадуе!..

Марат Ліхачоў, як вядома, сам выбраў Лошніцу. Гэта добры прыклад і для яго калег, і для тых, хто яшчэ прыедзе ў Лошніцу.

# МІНСК ПЕРАДЮБІЛЕЙНЫ

***Беларуская сталіца перад сваім юбілеем. У наступным годзе Мінску будзе дзевяць вякоў. І дарма, што ўзрост такі салідны — наш Мінск з кожным днём усё прыгажэе. Кожны год мы заўважаем новыя, сучасныя будынкі, лёгкія, стройныя. Гэта плён натхнёнай працы беларускіх дойлідаў. Мы пачынаем вас, чытачы, знаёміць з архітэктурнымі прэм'ерамі. Мінскі медыцынскі інстытут. Аўтар праекта — архітэктар Міхаіл Бакланаў.***

*Фота В. ЖДАНОВІЧА*



# З БІЯГРАФІІ КАМБРЫГА

Маленства Барыса Гарбачова прайшло ў вёсцы Забалоцце на Рагачоўшчыне. Барыс з малых год пазнаў увесь цяжар сялянскай працы. Быў пастушком, потым неяк скончыў пачатковую школу і наняўся парабкам. Шаснаццацігадовым юнаком паступіў рамонтнікам на чыгунку.

1913 год. Барыса Гарбачова прызываюць у царскую армію, у кавалерыйскі полк. Неўзабаве пачынаецца сусветная вайна. Апрануты ў салдацкі шынель, сялянскі сын храбра змагаецца на руска-германскім фронце. Быў паранены і за доблесць узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. Пасля выздараўлення — зноў вайсковая служба.

Знаходзячыся ў этапным батальёне ў Мінску, Барыс Гарбачоў пазнаёміўся з вядомымі бальшавікамі М. В. Фрунзе, А. Ф. Мясніковым, В. Г. Кнорыным, К. І. Ландэрам і ўключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць, каб актыўна прапагандаваць ленінскія ідэі сярод воінаў і насельніцтва.

У лютым 1917 года Барыс Гарбачоў уступае ў партыю бальшавікоў, ён выбіраецца ў склад Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, удзельнічае ў стварэнні салдацкіх і чырвонагвардзейскіх атрадаў, якія ўзначалілі барацьбу мінчан за ўладу Саветаў.

Наступная старонка біяграфіі Барыса Гарбачова звязана з Ігуменскім паветам, куды яго накіравала партыя для ўстанаўлення Савецкай улады. Яго выбіраюць старшынёй павятовага камітэта і народным камісарам па ваенных справах.

У той час на тэрыторыі Ігуменскага павету (цяпер Чэрвеньшчына) знаходзіліся асобныя часці польскіх легіянераў контррэвалюцыйнага корпуса Доўбар-Мусніцкага. Яны раззбройвалі салдат-франтавікоў, якія накіроўваліся на Усход, нападалі на чырвонагвардзейскія і партызанскія атрады, рабавалі сялян. Трэба было іх уціхамірыць, і ваенком Барыс Гарбачоў становіцца на чале чырвонагвардзейскага атрада ў 200 шабляў і з чатырма станковымі кулямётамі. Чырвонагвардзейцы ў студзені 1918 года нечаканым налётам разбілі легіянераў. Лягчэй уздыхнулі сяляне, у вёсках былі створаны органы савецкай улады, арганізаваліся партыйныя ячэйкі.

Але неўзабаве на Беларусь напалі нямецкія інтэрвенты. Барыс Гарбачоў са сваім атрадам адышоў у Магілёў, дзе быў прызначаны начальнікам штаба Аршанскай групы чырвонагвардзейскіх і партызанскіх атрадаў. У маі Гарбачову даручылі новае адказнае заданне — сфарміраваць добраахвотніцкі кавалерыйскі полк. Яго касцяком сталі загартаваныя ў баях рэвалюцыйныя салдаты былой рускай арміі, чырвонагвардзейцы і чырвоныя партызаны. Першае баявое хрышчэнне новы полк атрымаў пад Оршай і Магілёвам, а потым удзельнічаў у падаўленні паўстання анархістаў у Смаленску і контррэвалюцыйных банд на Смаленшчыне.

Верасень 1919 года. Па загаду камандавання полк накіраваўся на Паўднёва-Заходні фронт, па дарозе знішчаючы дробныя банды. Там ён уліўся ў конны корпус Сямёна Будзённага і разам з будзёнаўцамі граміў белагвардзейцаў пад Варонежам. У хуткім часе, калі была створана Першая конная армія, полк Гарбачова быў пераўтвораны ў брыгаду асобага прызначэння.

Пад Касторнай Першая конная нанесла ўдар белым. У гэтым баі камбрыг Барыс Гарбачоў праявіў выключную мужнасць і адвагу. Першым кінуўшыся ў атаку, ён павёў за сабой бясстрашных коннікаў і разграміў белых. Чырвоная конніца, вызваліўшы Данбас, без перадыху гнала дзянікінцаў да мора. Першы ордэн Чырвонага Сцяга — узнагарода Барыса Гарбачова за ўмелае кіраўніцтва брыгадай і асабісты гераізм у баях пад Касторнай і ў Данбасе.

Баі пад Растовам, Батайскам, Белай Глінай, Ціхарэцкай, Майкопам... Пад Белай Глінай чырвоныя коннікі захапілі штабны поезд генерала Крыжаноўскага, некалькі бронепаяздоў і шмат зброі праціўніка. За ўдзел у гэтых аперацыях камбрыг Гарбачоў атрымаў другі ордэн Чырвонага Сцяга.

Брыгада Барыса Гарбачова вызначылася і ў баях з белапольскімі інтэрвентамі. Адарваўшыся ад сваіх, конніца Будзённага глыбока зайшла ў тыл праціўніка. У раёне Замосце-Грубашаў яе акружылі белапалякі. Камандаванне прыняло рашэнне — прарваць варожае кальцо. Гэтае заданне было даручана брыгадзе асобага прызначэння. Байцоў павёў бясстрашны камбрыг. Удар быў такі імклівы, што ворагі разбегліся, хто куды. У палон было ўзята каля тысячы белапольскіх салдат, шмат зброі, Чырвоная конніца, выйшаўшы на прастор, зноў пачала граміць ворагаў. Барыс Гарбачоў атрымаў трэці ордэн Чырвонага Сцяга.

Потым чырвоныя кавалерысты брыгады ваявалі з войскамі Врангеля ў Паўночнай Таўрыі, удзельнічалі ў славутым прарыве на Перакопе і зноў гналі белых да Чорнага мора... І махноўцы на Украіне, і розныя банды на Паўночным Каўказе пазналі сілу ўдараў чырвоных коннікаў, якімі камандаваў бясстрашны камбрыг.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны Барыс Сяргеевіч Гарбачоў вучыўся ў Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, а потым быў камандзірам 12-й кавалерыйскай дывізіі, начальнікам Ваеннай школы імя УЦВК, камандаваў войскамі Уральскай ваеннай акругі.



Загінуў Барыс Сяргеевіч у росквіце сіл у 1937 годзе, як ахвяра культу асобы. Цяпер яго добрае імя вернута народу.

Васіль МАРУТКА.

# РАДАВЫ ГІСТОРЫІ

Сярод людзей, якімі ганарацца працоўныя сярэднеазіяцкіх рэспублік, ёсць імя нашага земляка Еўдакіма Прохаравіча Дубіцкага, бясстрашнага бальшавіка-ленінца, народнага камісара шляхоў зносін Туркестанскай рэспублікі, якога белагвардзейцы закатавалі ў ноч з 18 на 19 студзеня 1919 года ў часе контррэвалюцыйнага мецяжу.

Увосень 1908 года ў вёску Ротна Лукомльскай воласці пачалі наведвацца незнаёмыя людзі. Яны зазіралі сюды «па дарозе» і, як правіла, доўга не затрымліваліся. Гэтых людзей цікавіў толькі адзін чалавек — Еўдакім Дубіцкі, ці, дакладней, яго мінулае, бо ён працаваў тэлеграфістам на Прывісленскай чыгунцы і дома не жыў. У вёсцы ведалі, што за ўдзел у забастоўках рабочых-чыгуначнікаў Еўдакіма кудысьці пераводзяць. Куды?



Еўдакім Дубіцкі.

Пра гэта стала вядома толькі праз некалькі месяцаў. Дубіцкія атрымалі пісьмо ад сына ўжо са станцыі Чылілі Арэнбургска-Ташкенцкай чыгункі. Потым станцыі Саўрань, Чумыш, Менавы Двор, Сарачынская, Яйсан, Тоцкая... Пасылаючы небяспечнага тэлеграфіста ў глухія куткі, царскія ўлады разлічвалі, што ён перастане думаць пра палітыку.

У лістападзе 1917 года Еўдакім Дубіцкі ўступае ў партыю бальшавікоў. Пасля пераходу ўлады ў рукі Саветаў у Бузулуку камісарам службы пуці прызначаецца Еўдакім Дубіцкі. Гэта быў самы цяжкі ўчастак. Трэба было ўсюды паспець, знаходзіць выхад з самых заблытаных сітуацый. Толькі на ўчастку Бузулук-Арэнбург сабралася каля трыццаці эшалонаў з дэмабілізаванымі салдатамі і афіцэрамі. Атрымалася так, што гаспадарылі на станцыях афіцэры. Яны не падначальваліся мясцовым уладам, падбухторвалі салдат на выступленні, зрывалі адпраўку эшалонаў. Яны, нарэшце, наладзілі сувязь з атаманам Дутавым, які збіраў пад свае сцягі ўсіх ворагаў Савецкай улады.

Дубіцкі не разгубіўся. Ён стварыў з бальшавікоў і беспартыйных рабочых невялікія агітацыйныя групы і разам з імі цэлымі суткамі быў сярод салдат. Лягчэй стала працаваць, калі сюды прыбыў пасланы Леніным надзвычайны камісар Туркестана П. А. Кобазеў. Разам з ім удалося навесці парадак на чыгунцы.

Пад кіраўніцтвам Еўдакіма Дубіцкага і іншых бальшавікоў у Бузулуку збіралася зброя, будаваліся ўмацаванні. Былі бяссонныя ночы, трывожныя дні, але камісар быў заўсёды бадзёры, не даваў сумаваць іншым.

Калі ў часе работы III дэлегацкага з'езда Арэнбургскай (былой Ташкенцкай) чыгункі ў Бузулуку выбухнула контррэвалюцыйнае паўстанне, за атрадам Дубіцкага пайшлі не толькі чыгуначнікі, але і дэмабілізаваныя воіны, якія раней аб'явілі сябе нейтралістамі. Выступленне белых было падаўлена. Вярнуўшыся з барыкадаў, Дубіцкі далажыў пра гэта з'езду. Дэлегаты горача віталі яго.

На гэтым з'ездзе Еўдакім Дубіцкі быў аднадушна выбраны членам галоўнага камітэта Арэнбургскай чыгункі і камісарам службы руху.

У красавіку 1918 года на барацьбу з белаказацкай контррэвалюцыяй на дапамогу Туркестану па заданню Леніна прыбылі чырвонагвардзейскія падраздзяленні. І сярод іх два атрады беларусаў на чале з Георгіем Васільевічам Зіноўевым, якога хутка прызначылі камандуючым Арэнбургскім фронтам.

Сустрэўшыся з землякамі, Еўдакім Дубіцкі зрабіў усё, каб памагчы рэвалюцыйным атрадам выканаць адказнае заданне. Адпраўка войск да Самары, на якую наступалі белачэхі, эвакуацыя з Арэнбурга на працягу двух дзён ста дзесяці эшалонаў з людзьмі, зброяй і маёмасцю — яскравая старонка ў кароткай біяграфіі Дубіцкага.

...Нарэшце, трывалая сувязь з Туркестанам была наладжана. Арэнбуржцы адпраўляюць на падаўленне мецяжу белых у Ашхабадзе чатыры тысячы байцоў — Жлобінскі і Чалябінскі атрады, Маскоўскі і Казанскі палкі, а таксама бранявую часць. Гэтай групай войск камандуе Еўдакім Дубіцкі.

Пасля вяртання з Закаспійскага фронту Дубіцкага выбіраюць наркомам шляхоў зносін Туркестанскай рэспублікі.

Г. В. Зіноўеў, які хутка прыехаў у Ташкент з дакладам на аб'яднанае пасяджэнне ЦВК і СНК Туркестана, цёпла павіншаваў свайго сябра з новым прызначэннем. Еўдакім Прохаравіч паціснуў таварышу руку і адказаў: «Я радавы гісторыі, партыя даверыла мне гэтую пасаду, і я зраблю ўсё для таго, каб апраўдаць яе давер'е».

Гэта была іх апошняя сустрэча, хоць Георгі Васільевіч Зіноўеў нярэдка бываў у Ташкенце. Радавы гісторыі не заседжваўся ў кабінеце, ездзіў па ўсёй рэспубліцы, бываў на франтах, забяспечваў бесперабойныя чыгуначныя перавозкі.

Працаваць даводзілася ў вельмі складаных абставінах. Эсэры сабатавалі распараджэнні Наркамата. Зімой 1918 года ў Ташкенце стварылася цяжкае становішча з прадуктамі. Эшалоны з зернем, што накіроўваліся ў сталіцу маладой рэспублікі, асядалі ў тупіках. Еўдакім Прохаравіч асабіста сачыў за прасоўваннем кожнага поезда. Толькі яго невычарпальная энергія і настойлівасць сарвалі тады небяспечную авантюру скрытых ворагаў Савецкай улады.

Тагачасны нарком харчавання Туркестанскай савецкай рэспублікі Арыстарх Андрэевіч Казакоў успамінаў пазней, што Дубіцкаму ўдалося наладзіць рэвалюцыйную дысцыпліну ва ўсіх службах транспарту. Ён выбіраўся членам Ташкенцкага гаркома партыі, членам выканкома ташкенцкага Савета, а потым і членам туркестанскага ЦВК. Па заданню ўрада нарком ствараў чырвонагвардзейскія атрады з рабочых і служачых чыгункі. Еўдакім Прохаравіч быў дэлегатам першага і другога з'ездаў кампартыі Туркестана.

«Левыя» эсеры, здраднікі, тыпу Осіпава, які быў тады ваенным камісарам, люта ненавідзяць яго, спрабуюць абвінаваціць у дыктатарстве. Так было, у прыватнасці, на пасяджэнні туркестанскага ЦВК у лістападзе 1918 года, дзе ад імя фракцыі бальшавікоў Еўдакім Прохаравіч унёс прапанову стварыць Надзвычайны ваенна-палявы суд для барацьбы з ворагамі і контррэвалюцыйнымі змоўшчыкамі.

Дзень 18 студзеня 1919 года прайшоў у трывозе. Дзіўна паводзілі сябе некаторыя вайскоўцы — яны не выдалі пропускаў кіруючай групе чыгуначных работнікаў для начнога патрулявання па горадзе. Увечары контррэвалюцыянеры на чале са старшынёй Осіпавым змянілі надворныя пасты. У паветры запахла порахам.

Калі раздаліся першыя стрэлы, Дубіцкі схапіў рэвальвер і пабег у горад, пакінуўшы разгубленую жонку Зінаіду Васільеўну. Абяцаў хутка вярнуцца.

Яму ўдалося прабрацца да чыгуначнікаў і ўзняць іх па трывозе. Потым Еўдакім Прохаравіч памчаўся на кватэру члена Рэўваенсавета рэспублікі Салікава. Уначы яго бачылі на вуліцах сярод чырвонаармейцаў, якія змагаліся супраць контррэвалюцыянераў. Пад раніцу Дубіцкі дабраўся да інтэрната туркестанскага ЦВК. Як потым было ўстаноўлена, там ён сустрэў лідэра «левых» эсераў Успенскага. Гэта была гібельная сустрэча — Успенскі, фактычна, выдаў Дубіцкага бандытам.

На вуліцы Тараса Шаўчэнкі, каля казармаў 2-га палка, яго схапілі белагвардзейцы і па загаду Осіпава па-зверску забілі.



Помнік туркестанскім камісарам у Ташкенце.

Тут жа на двары казармаў былі закатаваны старшыня Саўнаркома рэспублікі В. Д. Фігельскі, нарком унутраных спраў А. Н. Малкоў, рэдактар газеты «Чырвонаармеец» Н. Троіцкі. У розных частках горада белагвардзейцы расстралялі яшчэ дзесяць камісараў.

Яны загінулі, але справу, пачатую імі, нельга было знішчыць. Ташкенцкі пралетарыят сумесна з рэвалюцыйнымі салдатамі і чырвонагвардзейскімі атрадамі, якія падаспелі на дапамогу, хутка разграмілі мяцежнікаў.

26 студзеня 1919 года ўвесь горад праводзіў у апошні шлях сваіх чырвоных камісараў, мужных змагароў за народнае шчасце. Яны былі пахаваны ў брацкай магіле ў Аляксандраўскім парку, дзе цяпер пастаўлены помнік.

Смерць напаткала бальшавіка Еўдакіма Прохаравіча Дубіцкага, які марыў вярнуцца ў родную Беларусь, у самым росквіце творчых сіл. Не вярнуліся дадому паляк В. Д. Фігельскі, украінец М. С. Качурынер і астатнія адзінаццаць камісараў. Да апошняга дыхання яны выконвалі свой інтэрнацыянальны абавязак.

**Міхаіл ІОСЬКА,**
**выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

# ГРОЗНАЕ РЭХА ДЖУНГЛЯЎ



Тут была школа. 9 лютага 1966 г. амерыканскія цяжкія бомбы і ракеты зруйнавалі яе.

**Смерць стартуе з палубы.** У снежні 1965 года ля берагоў В'етнама з'явіўся амерыканскі карабель «Этэрпрайз» — самы вялізарны ў свеце атамны авіяносец. Камандзір гэтага плывучага носьбіта смерці Халаўэй, відавочна, вырашыў пабіць рэкорд па колькасці баявых вылетаў... Яго падначаленыя, нягледзячы ні на трапічныя ліўні, ні на частыя туманы, робяць па сто сорак самалётавылетаў у дзень. Авіяносец мае 330 метраў у даўжыню, шырыня ўзлётнай палубы 80 метраў. На яе садзіцца каля ста баявых самалётаў. Самыя сучасныя машыны, апошнія дасягненні амерыканскай авіяцыйнай тэхнікі, праходзяць выпрабаванне на в'етнамскай зямлі. Тут і навейшы знішчальнік тыпу «Ф-4», які можа весці абстрэл з вышыні васемнаццаці кіламетраў, і злавесны «Ф-105», і транспартныя «С-47», з якіх можна скідваць не толькі тоны смертаноснага грузу, але і аглядаць мясцовасць.

Дзейнічаюць амерыканскія лётчыкі, як драпежныя піраты. Яны выбіраюць раён і пачынаюць яго «прасаваць» бомбамі. Пасля гэты ўчастак абстрэльваюць з шасціствольных гармат. Гэта і ёсць тактыка спаленай зямлі.

Пентагон разглядвае вайну ў В'етнаме як рэпетыцыю да вялікіх узброеных сутычак. Таму мірная в'етнамская зямля з'яўляецца як бы своеасаблівым палігонам, дзе амерыканцы выпрабоўваюць новую баявую тэхніку і распрацоўваюць злавесныя тактычныя аперацыі. Зімой гэтага года, напрыклад, яны перакінулі ў В'етнам аэрамабільную дывізію. Каля пяцісот верталётаў і самалётаў — іх называюць лятаючай жандармерыяй — могуць даставіць гэтую дывізію на любую адлегласць, у любы раён джунгляў.

Перш чым апусціцца на зямлю В'етнама, якая гарыць нянавісцю да акупантаў, амерыканскія ваякі трэніруюцца. Гэта таксама ўваходзіць у сістэму падрыхтоўкі. «На мінулым тыдні без страт амерыканскія войскі чатыры разы занялі вёску Вінь Хоа», — пісаў не так даўно амерыканскі часопіс «Тайм». Што гэта? Чарговае данясенне або мары азвярэлых «джы-ай», у якіх в'етнамская зямля гарыць пад нагамі? Ні тое, ні другое. Вінь Хоа — дакладная копія тыповай в'етнамскай вёскі, яна размешчана ў глыбіні лесу, у штаце Джорджыя. Такая ж «вёска» пабудавана ў форт-палку, у штаце Луізіана. Дзевяноста восем гадзін у тыдзень трэніруюцца салдаты пад кіраўніцтвам чатырохсот дзевятнаццаці інструктараў, з якіх трыццаць адзін пабываў у В'етнаме. Аднак, нягледзячы на гэтыя падрыхтаванні, тысячы амерыканскіх маці атрымалі ўжо ад Пентагона маленькі нацыянальны сцяг — сімвал гібелі іх сыноў.

Колькі ж будзе каштаваць амерыканцам бессэнсоўная вайна ў В'етнаме? На думку спецыялістаў, у бюджэтным годзе, які скончыўся трыццатага чэрвеня, Злучаныя Штаты Амерыкі асігнавалі чатыры мільярды семсот мільёнаў долараў, а ў наступным (з першага ліпеня 1966 да канца чэрвеня 1967 года) будзе патрачана дзесяць з палавінай мільярдаў. Гэтыя лічбы зусім не абстрактныя, яны абапіраюцца на самыя рэальныя падлікі.

Адкуль бяруцца сродкі, каб забяспечыць армію, якая дзейнічае ў В'етнаме? Федэральны ўрад для гэтага выкарыстоўвае ўсе меры. Паводле афіцыйнай заявы ў маі гэтага года кангрэс зацвердзіў суму новых падаткаў, якая перавышае чатыры мільярды долараў. Вайна вельмі балюча б'е па штодзённым бюджэце сярэдняга амерыканца. Трыста мільёнаў долараў спатрэбілася Пентагону, каб дамовіцца з фірмамі аб тэрміновай пастаўцы амуніцыі, бомбаў і рухавікоў. Для своечасовага выканання гэтых заказаў былі адкрыты заводы і фабрыкі, закансерваваныя на працягу дзесяці гадоў.

Вайна ў В'етнаме, блакада ўзбярэжжа патрабуюць, каб у амерыканскім флоце былі маленькія і быстраходныя караблі. Тут на дапамогу Пентагону прыйшлі англійскія капіталісты: нягледзячы на абурэнне сваіх заакіянскіх канкурэнтаў, яны зрабілі паслугу амерыканскаму флоту і прынялі заказ на такія судны. Пентагону гэта будзе каштаваць семсот мільёнаў долараў.



Вось яны — ахвяры амерыканскага імперыялізму.

На службу вайне пастаўлена і мараль.

У парыжскім штомесячніку «Тан модэрн» у пачатку гэтага года з'явіўся вялікі артыкул пад назвай «Амерыканцы ў В'етнаме». Прафесар, які не пажадаў назваць свайго прозвішча, аналізуе псіхічны стан амерыканскіх салдат, імкнучыся знайсці тыя спружыны, якія прыводзяць у рух гэтую нечалавечую машыну знішчэння. Падрыхтаваны школай, тэлебачаннем, кінабаевікамі і коміксамі, малады амерыканец, атрымаўшы аўтамат і неабмежаванае права забіваць, менш за ўсё думае пра чалавечую мараль. Але ж яму нечым трэба заглушыць сваё сумленне. Толькі за мінулы год амерыканскія салдаты вытраслі са сваіх кішэняў на аплату прастытутак, барменаў і шуляроў Сайгона сорак мільёнаў долараў!

Агрэсія ў Вьетнаме суровым рэхам аддаецца ў сэрцах простых амерыканцаў. Нават у тых, хто



**Даваяваўся. Удзельнік буйнай карнай экспедыцыі амерыканскіх экспедыцыйных войск «Белыя крылы» рады ўцячы ад расплаты.**

не пасылаў сыноў на гэтую бессэнсоўную бойню, хто не атрымаў канверта з сумнай весткай. Міф аб «вялікім грамадстве» Джонсана цяпер канчаткова развеяўся. І адчувае гэта, у першую чаргу, радавы амерыканец, на плечы якога лёг увесь цяжар ганебнай вайны. Прэзідэнт Джонсан заявіў: «Асноўная эканамічная палітыка, якая апраўдвала зніжэнне падаткаў, у апошнія гады павінна быць адкладзена... з-за ваенных дзеянняў у В'етнаме». Заява другога амерыканскага лідэра, міністра фінансаў, не менш «абнадзейваючая»: толькі ў гэтым годзе падаткі ўзрастуць на шэсць мільярдаў дзвесце мільёнаў долараў. Усё гэта ўжо цяпер б'е па кішэнях простых амерыканцаў, якія нават не падпадаюць пад катэгорыю беднякоў. А такіх у Злучаных Штатах Амерыкі трыццаць сем мільёнаў.

Амерыканскія салдаты адыгрываюць усё большую ролю ў правядзенні крывавых аперацый: на наёмнікаў надзея не вялікая, ды і супраціўленне В'етконга, на думку Пентагона, зацягнулася. І вось адзін янкі ідзе з аўтаматам, лічачы, што толькі бог зразумее, што ён тут робіць. Другі адмовіўся ад усялякіх ілюзій «вызваленчай» вайны і спакойна выконвае каманду. Трэці з глыбокім фанатызмам паліць і ўзрывае ўсё, што трапляецца на вочы. Гэта не робаты, гэта цывілізаваныя забойцы, народжаныя пачварным капіталістычным грамадствам.

Усё больш і больш амерыканцаў знаходзяць свой апошні прытулак у джунглях В'етнама. Ім не памагаюць ні звышмагутныя бамбардзіроўшчыкі, ні атрутныя газы, ні хімічныя бомбы, якія янкі прымяняюць не толькі супраць арміі вызвалення, але і супраць мірнага насельніцтва. Толькі за «сухі сезон» (з кастрычніка да мая месяца, калі ў В'етнаме не бывае дажджоў), войскамі Арміі вызвалення, партызанскімі атрадамі забіта, паранена і ўзята ў палон 114 тысяч салдат і афіцэраў, у тым ліку 43 тысячы амерыканцаў. Знішчана больш як 440 самалётаў і верталётаў. Гінуць на чужой зямлі амерыканскія хлопцы, плачуць амерыканскія маці, а манаполіі кідаюць у бой усё новыя і новыя ахвяры. Брудная ж вайна ў В'етнаме нясе ім нечуваныя барышы — 20 працэнтаў ад усіх прыбыткаў у год, або паўтара мільёна долараў кожны дзень.

Штодзённа разгортваючы газеты або слухаючы апошнія паведамленні па радыё, мы шукаем і чакаем звестак з В'етнама. «В'етнам змагаецца. В'етнам пераможа!» — напісана на сцягу патрыётаў. Навейшым сродкам знішчэння — самалётам і гарматам, авіяносцам і ракетам агрэсараў — супрацьпастаўлена мужнасць в'етнамскага народа, памножаная на самаахвярнасць, гераізм і адвагу. Моладзь дэмакратычнай рэспублікі В'етнам уключылася ў рух «За тры гатоўнасці: гатоўнасць змагацца на месцы, абараняючы свой завод, інстытут, кааператыў; гатоўнасць добраахвотна ўступіць у армію; гатоўнасць ісці туды, куды пакліча партыя». В'етнамскія юнакі і дзяўчаты на поўначы і поўдні краіны ідуць у першых радах герояў, паказваючы цуды храбрасці і гераізму.

**Адзін супраць узвода.** У паўднёва-в'етнамскіх правінцыях Куангчы і Тхатхіе марыянетачная дывізія, падзяліўшыся на групы, пачала «прачэсваць» джунглі. Партызаны, дачуўшыся пра дзеянні ворага, пакінулі стаянку. Там засталася толькі варта з двух чалавек. Чан Кім Куай, член Асацыяцыі моладзі за вызваленне Паўднёвага В'етнама, з двума таварышамі вартаваў партызанскую базу. І вось у джунглях з'явіліся карнікі. Куай вырашыў не пускаць наёмнікаў на базу, дзе знаходзіцца маёмасць атрада і снаражэнне.

Пакінуўшы таварышаў ля стаянкі, Куай падпоўз да карнікаў справа і выдаў сябе агнём. Пасля, прыціснуўшы агнём да зямлі варожы ўзвод, юны партызан пабег у бок лесу. Дабраўшыся да замініраванага поля, ён залёг і ўбачыў, як варожы афіцэр ускочыў у воўчую яму. Да яго кінуліся салдаты, але тут грымнуў выбух. І нечакана для Куая ўзвод адступіў, адступіў перад адным чалавекам.

Сем дзён уцякаў Куай ад карнікаў і адводзіў іх ад базы. Знясілены, галодны, ён дабраўся да гор, за якімі знаходзілася галоўная партызанская база. Убачыўшы палатачны лагер, Куай здзівіўся: вельмі ж адкрыта размясціліся палаткі. Значыць, побач засада, а палаткі толькі для блізіру. Трэба было папярэдзіць сваіх, хоць заставалася адна граната і патронаў толькі на адну чаргу. Куай кінуў гранату і адкрыў агонь. Яго знайшлі на другі дзень на тым самым месцы. Жыццё яшчэ цеплілася ў ім, і яго адратавалі.

... Гэта толькі адзін з хвалюючых эпізодаў гераічнай барацьбы в'етнамскай моладзі. Юнакі і дзяўчаты В'етнама робяць подзвігі штодзённа, кожную гадзіну, і ў гэтым масавым гераізме тая сіла, якая паспяхова супрацьстаіць агрэсіі.

Увага моладзі ўсяго свету цяпер прыкавана да самаадданай барацьбы в'етнамскага народа супраць агрэсараў. Група рабочых Мінскага тарктарнага завода напісала пісьмо ў ЦК ЛКСМ Беларусі: «Мы хочам грудзьмі абараняць свабодны в'етнамскі народ ад замахаў амерыканскіх агрэсараў. Нам па дваццаць пяць год, халасцякі, зброяй валодаем добра, былі выдатнікамі ў Савецкай Арміі. Будзем абараняць зямлю свабоднага В'етнама, як сваю Радзіму». Пад гэтым пісьмом гатовы падпісацца тысячы нашых юнакоў, якія жывуць свяшчэннымі пачуццямі класавай нянавісці да імперыялізму.

І не выпадкова Ле Фыонг, член ЦК Федэрацыі моладзі за вызваленне Паўднёвага В'етнама, выступаючы на XV з'ездзе ВЛКСМ, выказаў глыбокую падзяку моладзі краін сацыялістычнага лагера, усёй прагрэсіўнай моладзі.



**Адпомсцім!**

Усё перадавое чалавецтва, незалежна ад колеру скуры, палітычных пераконанняў і веравызнання, у адзіным страі выступае за свабоду в'етнамскага народа. Мітынгі і дэманстрацыі пратэсту, асада амерыканскіх пасольстваў, самаспальванні будыйскіх манахаў — усё гэта прыкметы нарастаючага гневу і нянавісці да піратаў дваццатага стагоддзя.

Асабліва яскрава гэта праявілася ў майскія і чэрвеньскія дні, калі два буйнейшыя пасля Сайгона паўднёва-в'етнамскія гарады Дананг і Гуэ адмовіліся падпарадкоўвацца ваенным уладам. Лозунг «Дао-дао-мі!» — «Янкі далоў!» — стаў самым папулярным пры выказванні ўсенароднага гневу. Таму сайгонскія ўлады пры падтрымцы амерыканскага пасла Лоджа ўзмацнілі рэпрэсіі супраць мірных жыхароў Сайгона. А ў адказ барацьба патрыётаў расце і пашыраецца. У Данангу была разгромлена рэзідэнцыя новага мэра, у Гуэ дэманстранты спалілі амерыканскае консульства...

Народ В'етнама непераможны!

**Эдуард ДУБІНСКІ.**



# ЖАНР ДАКУМЕНТАЛЬНЫ

Дамаўляючыся з Іванам Рыгоравічам Новікавым пра сустрэчу, я даведаўся, што да яго прыехаў удзельнік віцебскага падполля, адзін з герояў яго будучай кнігі. І таму натуральна, што гаворка наша пачалася звычайным пытаннем: «Над чым цяпер працуеце?»

— **Пішу пра віцебскае падполле,** — расказвае Іван Рыгоравіч. — **Калі мы дамаўляліся з вамі пра сустрэчу, у мяне сядзеў Мікалай Якаўлевіч Нагібаў. У вайну ён быў начальнікам разведвальна-дыверсійнай групы ў Віцебску. Хочацца напісаць і пра яго жонку — Тацяну Сямёнаўну Шчукіну, якая ні на крок не адыходзіла ад свайго мужа. Гэта была баявая жанчына, вельмі баявая...**

— Вы так гаворыце, быццам ведалі яе?

— **Не ведаў. Але многа ад каго чуў пра яе, пра яе самаадданасць і гераізм.**

Пісьменнік паказвае фота Тацяны Шчукінай, яе мужа і дзяцей. Я гляджу на здымак гэтай проста апранутай жанчыны, і мяне ахоплівае пачуццё нейкай асаблівай павагі да яе.

— А што паслужыла «зачэпкай» для работы над гэтым творам?

— **У 1962 годзе ў Маскве выйшла мая кніга «Вера Харужая». Там упаміналіся імёны Мікалая і Тацяны Нагібавых: у яго была падпольная мянушка «Смелы», у яе — «Скромная». Калі я яшчэ збіраў матэрыялы для кнігі, то мне сказалі, што Нагібаў і яго жонка загінулі. І вось пасля таго, як выйшла кніжка, нечакана атрымліваю пісьмо за подпісам — «Нагібаў». Чытаю і вачам сваім не веру. Нагібаў жывы!**

**Праўда, гэтае першае пісьмо было не зусім прыемнае для мяне. Сэнс яго прыблізна такі: «...я прачытаў Вашу кніжку і спачатку абурыўся — адкуль Вы ўзялі, што ў сорак другім годзе ў Віцебску не было падпольных груп, калі на самай справе там дзейнічалі даволі вялікія групы і многа чаго рабілі яшчэ да таго, як прыехала Вера Харужая. Я спачатку думаў, што гэта ваша выдумка, але, пазнаёміўшыся з архіўнымі матэрыяламі, пераканаўся, што там дакументы няпоўныя, і ў гэтым не ваша віна».**

**Пісьмо Нагібава мяне зацікавіла, і я, паралельна з работай над аповесцю «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», пачаў збіраць матэрыял для новай кнігі. Завязаў перапіску з Нагібавым, зноў пачаў капацца ў архівах, знайшоў цікавыя, датаваныя 1942 — 1943 гадамі запісы сакратара падпольнага гаркома Васіля Раманавіча Кудзінава, данясенні партызанскіх разведчыкаў. Пасля паехаў у Віцебск, пазнаёміўся з людзьмі, а пазней і з самім Кудзінавым...**

Нашу гутарку часта перапыняе то тэлефонны званок, то хто-небудзь з наведвальнікаў: Іван Рыгоравіч Новікаў — уласны карэспандэнт «Праўды» па Беларускай ССР. Натуральна, што не ў таго, дык у другога заўсёды ёсць да яго пільная патрэба. Вось і зараз да Івана Рыгоравіча прыйшла пажылая жанчына. Пасля размовы з ёю з твару Івана Рыгоравіча доўга не сыходзіць усхваляванасць.

— **Вы чулі, што яна сказала: «...хацела многа чаго сказаць, а нічога не магу...»? Мужа яе, удзельніка Мінскага падполля, павесілі фашысты, а дачку несправядліва абвінавацілі пасля вайны. Зараз дачка рэабілітавана. Пры перавыданні кнігі «Руіны страляюць ва ўпор» я абавязкова ўспомню пра яе дачку — Ніну Адзінцову. Яна першая наладзіла сувязь з капыльскімі партызанамі.**

— Значыць, Вам даводзіцца часам дапаўняць ужо напісаныя творы новымі фактамі?

— **Кожны раз, калі перавыдаю, дапаўняю.**

— Ці не ў гэтым асноўныя цяжкасці дакументальнага жанру?

— **Не толькі. Тут сустракаешся з двума супрацьлеглымі патрабаваннямі. З аднаго боку, крытыкі патрабуюць мастацкасці — каб у творы быў і домысел, і паказ героя праз дэталі, і зладжаная сюжэтная лінія. Словам, яны падыходзяць да дакументальнай аповесці, як і да ўсякага іншага мастацкага жанру. З другога боку, самі героі патрабуюць, каб было напісана толькі так, як было ў жыцці, без аніякіх адступленняў, каб не парушалася храналогія, каб дакладна апісваліся абставіны, характары, патрэбы людзей. Усякае адступленне выклікае пратэст саміх герояў ці людзей, якія іх ведалі.**

**У кнізе «Руіны страляюць ва ўпор», напрыклад, расказваецца пра аднаго з армейскіх разведчыкаў, які быў засланы ў Мінск пад мянушкай «Макар». Таварышы, якія ведалі яго, сцвярджаюць, што гэта быў невялічкі ростам, жвавы, чарнявы хлопец. Я так і напісаў. І вось аднойчы да загадчыка партархіва Сцяпана Захаравіча Пачаніна, у якога я якраз быў, зайшоў адзін з былых армейскіх разведчыкаў і сказаў, што Новікаў, маўляў, сказіў вобраз «Макара»: «Напісаў, што «Макар» невялічкі... А ён жа быў ростам з мяне!» Паглядзелі мы на гэтага былога разведчыка — і ён ростам таксама невялічкі. Але што ты тут скажаш чалавеку...**

**Некалькі слоў пра сюжэтную лінію,** — гаворыць далей пісьменнік. — **Я не магу парушыць храналогію. Вельмі нямнога мне дадзена, каб парушаць яе. Я не магу даваць характарыстыку інтымнага ў жыцці герояў. У мяне быў такі выпадак. Апісаў я добрыя ўзаемаадносіны хлопца з дзяўчынай. Напісаў так, як яно было на самай справе. Хлопец той загінуў у засценках СД. Дзяўчына засталася жывая і выйшла замуж за другога чалавека, у іх стварылася добрая сям'я. І тое, што я напісаў пра яе асабістыя пачуцці ў юнацтве, вельмі непрыязна ўспрыняў муж, у сям'і пачаўся разлад. Яна мне звоніць, пытаецца, навошта я напісаў пра гэта. І я мусіў усю гэтую лірыку пры выданні аповесці кнігай выкрасліць. А пасля на канферэнцыях мяне многія папракалі: чаму паскупіўся на апісанні лірычных пачуццяў сваіх герояў.**

— Выходзіць, што той, хто бярэцца за дакументальныя жанры, знаходзіцца між двух агнёў? Героі патрабуюць фактычнай дакладнасці, чытачы — мастацкай пераканаўчасці?

— **Выходзіць, што так. Нельга бяздумна давяраць таму, што часам**

расказваюць табе твае будучыя героі. Трэба давяраць і правяраць. Бывалы чалавек можа выдумаць такое, у што потым сам паверыць і будзе выдаваць гэта за сапраўднае. Напрыклад, адзін з былых партызанскіх камандзіраў расказваў мне, што мінскі падпольшчык (Жан) летам сорак другога года зайшоў у кабінет гарадскога бургамістра Іваноўскага, застрэліў яго з бясшумнага пісталета і выйшаў. «Жан мне сам расказваў пра гэта»,— запэўніваў мяне камандзір. Было гэта тады, калі я толькі пачаў вывучаць мінскае падполле. Потым выявілася, што бургамістр быў застрэлены ў канцы 1943 года, калі Жана не была ў жывых.

Хачу звярнуць увагу яшчэ на адно: на пэўны «эгацэнтрызм» герояў. Амаль кожны з іх лічыць, што толькі ён быў у цэнтры падзей і ўсё разгортвалася вакол яго. Псіхалагічна такое можна зразумець. Падзеі герой бачыў сваімі вачыма з аднаго нейкага пункта, і такімі яны засталіся ў яго памяці. Часта ён нават не ўяўляе, што на іх можна глядзець з другога боку, другімі вачыма.

— У якой ступені, на Вашу думку, магчымы домысел у дакументальным мастацкім творы?

— Домысел якраз абмежаваны, вельмі абмежаваны. Між тым, і без яго нельга. Тут не столькі домысел, колькі інтуіцыя, выкарыстанне логікі, яе законаў. У некаторых выпадках, карыстаючыся фактамі, я дадумваў абставіны. І гэта не супярэчыла жыццёвай праўдзе. Цікава, калі быў арыштаваны адзін з рэзідэнтаў СД, ён даў паказанні, якія супалі з маімі апісаннямі. Але ж на такія эксперыменты я адважваюся рэдка, бо можна памыліцца, і звычайна імкнуся, як мага дакладней, выявіць факты і абапірацца толькі на іх.

— А як жа з дыялогам?

— І тут я скарыстоўваю факты. Перш чым герой зробіць той ці іншы ўчынак, я павінен уявіць, што ён мог сказаць у такі момант, у такой сітуацыі. Уменне «ўжыцца» ў героя, суперажываць з ім — адно з галоўных у пісьменніцкай працы. І вялікай пахвалой служаць для пісьменніка словы з ліста славака, выкладчыка ўніверсітэта ў г. Брно, былога ўдзельніка падпольнай барацьбы І. Шчадэя, у якім ён пасля знаёмства з маёй кнігай пра мінскае падполле, выказвае меркаванне, што пісьменнік Іван Новікаў — быў падпольшчык.

— Сам я франтавік, спецыфікі падпольнай работы не ведаў,— гаворыць Іван Рыгоравіч.— У гэтым была дадатковая цяжкасць. У вайну я камандаваў узводам, потым быў начальнікам разведкі дывізіёна.

— Вы — мінчанін?

— Я з Магілёўшчыны, але Мінск для мяне — самы дарагі горад.

Размова наша пераходзіць на аўтабіяграфічныя моманты жыцця пісьменніка, на гісторыю стварэння кніг «Руіны страляюць ва ўпор» і «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску». У 1959 годзе Іван Новікаў у «Правде» надрукаваў «Запіскі Веры Харужай». З газеты папрасілі напісаць пра падполле яшчэ. Пісьменнік разам з членамі спецыяльна створанай тады камісіі пачаў працаваць над матэрыяламі пра мінскае падполле. Складанае гэта было пытанне, шмат было нявысветленага. Фактаў сабралася багата, захацелася расказаць паўней, чым гэта было ў тым артыкуле, што публікаваўся ў «Правде». Так узнікла патрэба напісаць дакументальную аповесць «Руіны страляюць ва ўпор». Працуючы над гэтым творам, Іван Новікаў натрапіў на след чэкісцкай групы. І тут ён пачаў збіраць матэрыял для другой кніжкі, якая атрымала назву «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску».

Іван Новікаў вельмі адданы тэме падполля. І таму цікава было паслухаць яго думкі наконт адлюстравання літаратурай гераізму нашых людзей у дні Вялікай Айчыннай вайны.

— У нас доўгія гады была занядбана тэма гераізму, гаварылі, што вайна — гэта гісторыя, мінулае, і не варта капацца ў архіўным пыле. А калі я капнуўся ў гэтым пыле, то аказалася, што там — чалавечая кроў. Гераізм нашых людзей у вайну цяжка пераацаніць,— падкрэслівае пісьменнік.— Асабліва цікавіцца героікай вайны моладзь. І вельмі прыемна на канферэнцыях чытачоў слухаць маладых рабочых, школьнікаў, якія ў героях падполля бачаць для сябе прыклад. Трэба шырэй паказваць героіку Вялікай Айчыннай вайны, у нас ёсць магчымасць яшчэ больш энергічна і больш умела на вопыце мінулага выхоўваць патрыятычныя пачуцці. Амаль у кожным горадзе ў нас былі падпольныя арганізацыі. А які багаты матэрыял дае партызанскі рух! Фактаў хапае, трэба толькі не баяцца цяжкасцей дакументальнага жанру і абнародаваць усё тое, што было зроблена ў вайну.



Шчодрым патокам уліваецца ў нашу літаратуру фактычны матэрыял. Успаміны, дакументальныя аповесці, запісныя кніжкі — гэтыя жанры ў значнай меры вызначаюць стан сучаснай літаратуры. Нават у мастацкіх творах аўтары падкрэсліваюць сапраўднасць фактаў, сітуацый. Гэта прадыктавана натуральным жаданнем пісьменнікаў больш цвёрда стаяць на глебе рэальнага жыцця. І памагчы пісьменніку разабрацца ў гэтым багацці фактаў, асэнсаваць іх магла б наша крытыка, у адрас якой Іван Рыгоравіч робіць некалькі заўваг:

— У дакументальным жанры выступаю не адзін я. Многія выступалі. Магу ўспомніць Міхася Лынькова, Янку Брыля, аднаго з нашых відных нарысістаў Ігната Дубdroўскага, цікавыя нарысы Анатоля Клышко, Янкі Сіпакова, Веры Палтаран, кнігі Уладзіміра Мехава, Валянціна Панамарова, Вольгі Сіманавай, Уладзіміра Дадзіёмава. Тут можна назваць багата імён. А наша крытыка ставіцца да гэтага жанру, як да нявартага ўвагі. Няма ніводнай пакуль што кнігі пра беларускі нарыс, якая абагульніла б здабыткі ў гэтым жанры, дапамагла б нарысістам узняць майстэрства, выявіць заканамернасці жанру, вырашыць многія іншыя праблемныя пытанні. Нават на пятым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, які б мог падагуліць вопыт мінулых гадоў у гэтым жанры, у справаздачным дакладзе Праўлення Саюза пра дакументалістаў было сказана скарагаворкай.

Словам, у нас гэта самы занядбаны жанр. У той час як ён павінен быць самы перадавы, бо дакументалісты — першаадкрывальнікі тэм, характараў, вобразаў.

Аляксей ГАРДЗІЦКІ.




# КРЭСІВА. ІСКРЫ. АГОНЬ.

**Васіль ЗУЁНАК. Крэсіва. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1966**

Памятаеце, прыдбаў андэрсенаўскі салдат цудоўнае крэсіва? Ударыш ім — і спраўдзіцца нават немагчымае. Вось, прыблізна, у гэткім стане і я. У руцэ ў мяне «Крэсіва», кніга вершаў паэта Васіля Зуёнка. Але спачатку некалькі заўваг. Занадта, бадай, дэкларатыўны першы верш зборніка — «Мільёны год». Нягледзячы нават на пругкі рытм і някепскую канцоўку (што, увогуле, для невялікага верша зусім няблага). Але такі ўжо ў нас звычай: напхаць у пачатак кнігі самых сярэдніх вершаў. Нібы адчэпнага даць: за ся-

рэднасць не лаюць, то вось вам пад удар пешку, абы зберагліся фігуры другой лініі.

Некаторая спрошчанасць верша «З вайны сустрэлі мацяркі сыноў» — таксама не радуе. Боль ва ўсіх аднолькавы, калі сын не вярнуўся з вайны. Ды толькі гаварыць пра яго трэба кожны раз інакш. Калі гэтага няма — тады ўвогуле не трэба. Васіль Зуёнак гэта ведае. Ведае хаця б таму, што побач стаіць верш «Помнік», дзе гэтая адметнасць зроку выяўлена высакародна, па-свойму, сапраўды па-народнаму.

Перад намі паэт. Паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адкрытым гукам жыцця, слыхам і адкрытым болю і любві сэрцам.

Няма патрэбы тлумачыць розніцу паміж паэтам і нейкім іншым чалавекам. Усе ведаюць, напрыклад, са школьнага курсу фізікі, што чалавек, падскочыўшы, штурхае нагамі шар зямны, і той не адкочваецца толькі таму, што неверагодная розніца ў масе, але ўзаемадзеянне між чалавечым целам і зямлёй — роўнае. Усе ведаюць, і ўсе, каму гэта не спатрэбілася ў пасляшкольным жыцці, — забываюць. Але ніхто з тых, хто прачытае верш паэта, — не здолее забыць. Паэзія запамінальная да смерці.

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем —
Ля Халопеніч,
на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
ні травы,
ні вецер...
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся.

Гэта не ілюстрацыя да закону фізікі. Дзеля гэтага трэба было самому ляжаць пад той яблыняй і адчуць, як яблык упаў у траву, як азвалася — гулка на дасвецці — зямля. Трэба было, каб, як ад кожнай сапраўднай паэзіі, здрыгануўся не толькі шар зямны, але і сэрца таго, хто чытае. А калі чытаеш і мурашкі бягуць па спіне, гэта і ёсць — яе вялікасць Паэзія.

Хочацца сказаць аб галоўнай якасці паэзіі В. Зуёнка. Якасць гэтая — сапраўдная чалавечая дабрата, той гуманізм, якому павінна вучыць паэзія і дзеля якога яна толькі і існуе на зямлі.

Ён у паэта ва ўсім. Птушкі недаверліва злятаюць з гнёздаў, і чалавек, каб не астылі гнёзды, ідзе прэч. Ён ведае, што іх занадта многа крыўдзілі. Адкуль ім ведаць, што паэт здатны «піць з жураўлямі піва», што ён «свой»? У недаверы птушак — той недавер, які занадта часта існаваў між людзьмі ў гісторыі і якога не павінна існаваць. Таму што чалавецтва стала дарослае і недавер пахне смерцю. І гэтая дабрата і ўсёразуменне ў аўтара «Крэсіва» паўсюль. У вершы «Добры прыезд». У ненадакучлівай філасафічнасці «Часа абнаўлення, часа вяртання». Словам, Васіль Зуёнак з тых, хто стаў бы нарогам, рунню, дажджом, хлебам і, урэшце, зноў чалавекам.

Духмяных бы лустаў накроіў:
Прыходзьце —
Усе,
хто не снедаў,
Хто полудзень меў у прыглядку,
Хто ноч сустракае нішчымна, —
Прыходзьце.

У маленькай кніжцы шмат вершаў з сапраўды глыбокай філасафічнасцю. Так, ёю: бо сказанае аб простасці, чысціні, празрыстасці зусім не выключае складанасці. І не выключае глыбокага майстэрства. Напрыклад, у найтанчэйшым па інструментоўцы вершы «Успамін».

Завіхалася,
шчыравала,
Абдымала ды мілавала...
О, рукі,
Рукі ў ільняной старонцы...
Духмянасць поля і гарачнасць
сонца...
Мачулішча —
блакіт палёў,
Нябёс,
Блакіт вачэй —
блакіт туманны
Слёз.

Падобнае за апошні час нячаста даводзілася бачыць. А тут тое сустракаем у вельмі асацыятыўным, часам нават занадта ўскладнёным вершы «Ралля — аснова». Шукаць, урэшце, трэба і тут. На кожнай сцежцы нашай паэзіі. І паэт шукае.

Ніхто чамусьці не задумаўся, а чаму ў нас малавата вершаў на так званую «рабочую» тэматыку і чаму яны не заўсёды першакласныя па якасці. Якая таму прычына? Можа яна ў тым, што праца, скажам, селяніна, рыбака, паляўнічага апаэтызавана самім шматтысячагадовым існаваннем паэзіі, што вакол яе традыцыя, звычкі, вакол яе — народная песня, прырода, што жыццё горада, жыццё завода здаецца, па неабходнасці, нівеліраваным. А можа прычына ў тым, што мы гаворым пра паэзію «сялянскую», «рабочую», паэзію «для нешматлікіх» (глупства якое!!!) і пры тым забываемся на тое, што існуе адна паэзія — чалавечая і дзеля чалавека, у неадрыўным адзінстве і ў разнастайнасці почыркаў.

І вось перад намі вершы: «Над лесам — заводскія гмахі», а найперш — «Соль», ледзь не найлепшы ў зборніку, сапраўдны гімн працы і чалавеку.

Не ад сонца ідзём у глыбіні —
Па сонца ідзём.
Сонца гіне:
У кайданы крышталёў
закута —
Ляжыць у падземных закутках.
Ідзём —
магутныя —
Вызваліць брата
З-за кратаў.

Немагчыма працытаваць увесь верш з вольнай і мужнай яго інтанацыяй. Трэба прачытаць самому.

Яшчэ адной якасцю паэта ёсць — трывалая і дыхтоўная, моцная народная стыхія. Я пазнаю гэтыя радкі нават у перакладзе: па тыпова беларускай, вясковай пяшчоце і мяккасці, па адной гэтай падзяцы:

...Дзякуй, яблынька,
дзякуй, белая,
За казку...

Гэта тая дабрата і ласкавасць супакутавання, якая пераварочвае душу, калі бачыш адваногага салдата ў лазні, які не пусціў з сабою на паліцу хромавую нагу. Гэта дабрата да тых, хто ў небыцці, але гэта яшчэ і дабрата трывогі, перасцярогі, пяшчоты, клопату, папярэджання, мужнасці, як у адным з найлепшых вершаў зборніка «Ідуць дажджы»:

Ідуць дажджы...
І ліст лілеі
Над смерцю рыб —
хаўтурны стол.
Ідуць...
і стронцыю ўдары
Цвікі у труны
б'юць і б'юць...
А ў небе хмары,
хмары,
хмары...
Ідуць дажджы...
Дажджы ідуць.

Народная стыхія паэтава яшчэ і ў спеўнасці. Не ў той, што нараджае «шлягеры», а ў той, што бярэ інструментоўку народнага — «Шчыравала пчала» — і надае ўсяму гэтаму **сучасны** змест. І гэта больш сучасна, чым вольны верш, які кананізавалі некаторыя з нашых паэтаў.

Вершы «Калі б так проста кахалася», «Я не ведаю дзень той», «Прадвесне», «На Начы», «Чырвоныя ветры» — сучасныя.

І шмат яшчэ чаго з народнай стыхіі ёсць у творчасці В. Зуёнка. Гэта і гонар чалавека, які «жыве сяўбой, бярэ сяўбой». І страсная любоў да роднай прыроды, уменне пісаць аб ёй так, што верш хвалюе, як яна сама. Вось выезд восені:

Лейцы верасень сплёў
з павуціны,
Пугу звіў кастрычнік
з пянькі,
Лістапад
лісця ў воз падкінуў, —
Паганяй!
Нацянькі!
Едзе восень,
глядзіць задаволена,
Як ляцяць ад яе і бягуць,
Як чарот ліхаманіць ад золі,
Як ірве з багнішча нагу —
Уцякаць сабраўся мачэўнік...
Ды не ўцёк — падвялі карані.
Едзе восень —
па пнях, па карчэўю...
Едзе восень
на рабым кані.

Гэта — сарказм і іронія («Каменная філасофія», «Стары цацрук»). І цудоўная лірыка разлукі і кахання, то гарачая, то празрыстая і чыстая снегавой беллю («Ля далёкіх паўстанкаў»). І тое ж

язычаскае «Нахіляўся, як дзікі лясун», — з такой нечаканай і таму поўнай чароўнасці празаічнай канцоўкай.

Чалавек, які сказаў, што кнігаўкі — трыццатае калена марскіх чаек і — рыдаюць, бо трызняць аб назаўсёды страчаным моры, гэты чалавек — паэт. Ён паэт, бо сказаў пра зялёную поўню, што праз тыдзень выйдзе над лесам, што хмарка і верабей б'юць крыламі, купаючыся ў лужыне.

Але нават каб нічога не было напісана, акрамя верша «Тры вышыні, тры сілы знаю ў лесе», — аднаго з найлепшых за апошнія гады, пра які гаварыць і гаварыць бы асобна — хапіла б і яго. Філасофія, глыбіня, сіла высакароднага сімвалу. Верш, над якім думаць і думаць, перажываць і перажываць. Верш з соснамі, рабрыстымі, як здані, ад падсочкі, з соснамі, што пазбаўлены жывіцы, крыві — чаму і знікае смольны дух з хат, звонкасць — з цымбал, вышыня думкі — у паэтаў. Цудоўны, высокі верш, які якраз і сцвярджае, што не знікае і не знікне вышыня думкі ў сапраўдных паэтаў.

Хацелася б напаследак пажадаць маладому аўтару доўгага шчаслівага, добрага шляху. Каб яго крэсіва заўжды высякала, распальвала сапраўдны, святы агонь паэзіі.

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ.**

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ ІМЁНАЎ




**М. В. БІРЫЛА. Беларуская антрапанімія. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1966**

Гэтае асаблівае падарожжа ў амаль нязведаныя яшчэ пушчы беларускіх асабовых найменняў (антрапаніміі) зрабіў даследчык нашай мовы кандыдат філалагічных навук М. В. Бірыла. У яго кнізе «Беларуская антрапанімія» даследуецца паходжанне каля дваццаці тысяч сучасных беларускіх прозвішчаў, а разам з тым утварэнне і складванне прынятых цяпер у нас найменняў асобы чалавека.

Паходжанне нашых прозвішчаў — гэта, па сутнасці, паходжанне сучаснага поўнага трохслоўнага наймення асобы і розных простых найменняў, характэрных для вуснай мовы народа. Прозвішчы, як і імёны па бацьку, з'яўляюцца ўтварэннямі пазнейшымі. У складзе асабовых найменняў людзей у Беларусі яны пачалі шырока ўжывацца і замацоўвацца гадоў паўтараста назад. Таму вывучэнне сучасных прозвішчаў і лексічнай базы іх утварэння прывяло даследчыка да раскрыцця гісторыі беларускай антрапанімічнай сістэмы наогул. Кніга М. Бірылы з'яўляецца ўводзінамі ў яе.

Сучасныя беларускія прозвішчы склаліся ў пераважнай большасці на базе ўласных імён або размоўна-бытавых найменняў нашых недалёкіх продкаў. Таму кніга прысвечана разгляду прозвішчаў, утвораных ад традыцыйна-царкоўных імён, і прозвішчам, што паходзяць ад старых мясцовых усходнеславянскіх імён, якія мы цяпер назвалі б мянушкамі.

Галоўнае месца ў кнізе займае дэталёвае раскрыццё першапачатковай базы беларускіх прозвішчаў. Для тых, якія ўтвораны ад традыцыйна-царкоўных імён, такой базай сталі разнастайныя народна-размоўныя варыянты імені. Яны былі вельмі шматлікія, разнастайныя і пашыраныя ў мінулым, ды бытуюць у народзе і цяпер. Падобныя «спадарожнікі» мела кожнае імя. Часта іх было больш за дзесяць, як, напрыклад, у імя *Андрэй — Андрэец, Андрыюк, Андрыян, Андрус, Андрук, Андруш* і іншыя (адсюль прозвішчы разам з *Андрэеў, Андрэенка — Андрэйцаў, Андрыевіч, Андрыенка, Андрыюк, Андрыяш, Андруховіч, Андруш, Андрушэвіч, Андрушкевіч, Андрэйкавец, Андрыеўскі* і г. д.). Каля 30 варыянтаў мела, напрыклад, імя *Аляксандр — Аляксанка, Алесь, Аляхно, Алік, Ляксандра, Лесь, Санька, Сашка* і г. д. Даследчык прыводзіць больш 50 варыянтаў імя *Іван*. Прозвішчаў жа, звязаных з гэтым імем і яго «спадарожнікамі», зарэгістравана больш за сотню!

Матэрыялы і назіранні над асаблівасцямі шматвяковага асваення чужых традыцыйна-царкоўных імён, іх «нацыяналізацыі» маюць практычнае значэнне пры вырашэнні пытанняў сучаснай беларускай грамадзянскай іменалогіі. Найбольш важнымі з гэтых асаблівасцей з'яўляецца адпадзенне канцавога **—ій** або **—й** *(Антон, Кандрат, Васіль, Макар)*, а пры збегу зычных — адначасова і канцавога зычнага *(Лаўрэн, Арсен)*, дабаўленне канцавога галоснага **а** **(о)** у імён на зычны *(Аляксандра, Гаўрыла, Даніла, Марка, Пятро, Кірыла)*, ужыванне зычнага **м** замест **н** *(Мікіта, Мікола, Мікіпар, Міканор)*, ужыванне зычных **п**, **х** ці спалучэння **хв** замест **ф** *(Астап, Хведар, Сцяпан, Трахім, Цімахвей, Хама)* і іншыя. Такія варыянты, утвораныя народам і ўжываныя спрадвеку, найбольш адпавядаюць духу нашай мовы, яе законам.

Многія беларускія прозвішчы ўзніклі на базе мясцовых бытавых асабовых імён, якія ўжываліся побач з варыянтамі традыцыйна-царкоўнымі. Аўтар кнігі называе іх «дваюраднымі братамі» хрысціянскіх імён. Вялікую культурна-гістарычную цікавасць мае ўстаноўлены даследчыкам лексічны склад гэтых першабытных імён-мянушак. У якасці такіх імён выкарыстоўваліся пераважна назвы жывых істот — *Баран, Бахмат* (конь), *Кот, Кроль* (трус), *Хорт* (сабака), *Бобр, Тур, Жук, Камар, Сверш* (цвыркун), *Шашаль, Рак, Рабак* (чарвяк), *Гусак, Арабей, Угорыч* (вугор), *Пячкур* і іншыя (адсюль прозвішчы — *Баранец, Бараноўскі, Бахмат, Кот, Жук, Жучкевіч, Жукавец, Комар, Камароўскі, Кроль, Хорт, Бабровіч, Рабачук, Тур, Туркоў, Арабей, Коршунаў, Коршак* і г. д.), назвы раслін — прозвішчы *Баравік, Буяк, Арашкевіч, Буковіч, Кухаль, Лозка, Крапіва, Крапівін, Грэчка, Грэч* і г. д.. Імем маглі стаць назвы прылад працы (прозвішчы *Шыла, Абуховіч, Кляўчэня)*, рэчаў і прадуктаў ужытку (прозвішчы *Бурносаў, Лашкевіч, Сагановіч, Кадлубовіч, Скарына, Груца, Суднік, Смоляк* і г. д.). Шырока ўжываліся ў якасці імя назвы асоб па прафесіі, занятку, становішчу ў грамадстве (прозвішчы *Войцік, Дзягцяр, Коваль, Рэзнік, Кажамяка, Кучар, Паламарчук)*, па знешняму выгляду ці па духоўных якасцях (прозвішчы *Горбач, Лобан, Некрашэвіч, Грамыка, Ламака, Таміла, Шыпіла)*, па месцы пражывання (прозвішчы *Быхавец, Шклоўскі, Мінчук, Залескі)* і іншыя.

На вялікім матэрыяле з пісьмовых помнікаў XV—XVII стагоддзяў даследчык паказвае разнастайныя шляхі складвання сучаснага тыпу наймення асобы. Першапачаткова для больш поўнага вызначэння асобы, калі ў гэтым узнікала патрэба, побач з уласным імем чалавека ўжывалася яго імя па бацьку. Звычайнымі былі формы імені па бацьку на **—овіч, —евіч, —іч.** Таму ў нас так многа адпаведных прозвішчаў. Выкарыстоўваліся таксама і прыналежныя прыметнікі (тыпу *Пятроў, Сідараў, Васюцін, Янкоўскі, Хведароўскі)*, але значна радзей. Абазначэнні бацькоў у некаторых месцах Беларусі мелі свае словаўтваральныя дыялектныя асаблівасці. На ўсходзе, напрыклад, пашыраны былі ўтварэнні тыпу *Сідаронак, Мікіцёнак, Аўхімёнак* (усход Магілёўшчыны) або *Сідарэнка, Мікіценка, Аўхіменка* (Гомельшчына, Магілёўшчына і Віцебшчына), на паўднёвым захадзе — *Андрук, Аніщчук, Васілюк, Астапчук*, на поўдзень ад Мінска — *Лукашэня, Пратасеня, Тарасеня* і г. д.

Імя па бацьку ўтваралася ад хрысціянскага імя бацькі і ад яго імя-мянушкі. Поўнае імя чалавека ўтваралася іншы раз шляхам указання побач з яго хрысціянскім імем другога імя-мянушкі *(Іван Верашчака, Прохар Сярбай)* або наадварот *(Сарока Міцюха, Добыш Дзямід, Козел Фядзец)*.

Імя па бацьку або проста імя адной асобы магло замацоўвацца і замацоўвалася ў шэрагу выпадкаў як адметнае імя не толькі членаў яго сям'і але і ўсяго роду. Гэта ўжо другі этап утварэння прозвішчаў. У такіх выпадках імя або імя па бацьку служыць адной з частак назвы асоб некалькіх пакаленняў сям'і і набліжаецца па сваёй ролі да прозвішча.

У заключным раздзеле кнігі робіцца агляд разнастайных відаў поўнага наймення асобы ў мінулым. У зносінах паміж людзьмі былі пашыраны не толькі двухслоўныя, але і трохслоўныя найменні тыпу *Багдан Мікіціч Ланевіч, Томка Марцінавіч Курмін, Васіль Дзікоўскі Астаповіч, Ян Палагейка Дзегцярэвіч, Крыштоф Мішка Баба*, чатырохслоўныя — *Леў Фядковіч Заневіч Даха, Філон Сямёнавіч Кміта Чарнабыльскі*, а таксама і больш мнагаслоўныя (напрыклад, жаночае шасціслоўнае *Ярмоліная Хамінічная Воўкаўна Паладзя Мацкаўна Галутвіна)*. Найменне асобы часам узнікала са словамі самага незвычайнага ўтварэння і паходжання і без выразнай субардынацыі паміж імі. З іх і вылучыліся потым тры рангі асабовага наймення — імя, імя па бацьку і прозвішча з больш-менш стандартнымі «знакамі адрознення» ў форме і па ўжыванню.

Пры разглядзе такога амаль што неабсяжнага па аб'ёму матэрыялу ў сціслых рамках кнігі аб'ёмам каля 18 аркушаў для многага з антрапаніміі, таксама вельмі цікавага, не засталося месца. Аўтар, напрыклад, не ўказвае геаграфіі прозвішчаў, не пры-

водзіць матэрыял для раскрыцця паходжання прозвішчаў, якія ўтвораны ад імён-мянушак. У кнізе апушчан канкрэтны аналіз утварэння прозвішчаў ад хрысціянскіх імён, які самому чытачу іншы раз не пад сілу зрабіць.

Шкада і яшчэ аднаго. Няма ў кнізе алфавітнага індэксу імён і прозвішчаў, якія разглядаюцца на яе старонках. Без гэтага чытачу немагчыма хутка навесці даведку пра канкрэтнае прозвішча ці імя і яго паходжанне. У выдавецтве, якое добра афарміла і надрукавала кнігу, трэба было падумаць пра дадатковую плошчу для такога індэксу. Невялікі і тыраж кнігі: усяго толькі 1000 экземпляраў.

Беларускія асабовыя найменні доўгі час былі цёмнымі, запаведнымі нетрамі лексікі беларускай мовы. Сюды амаль не заглядвалі ўкладальнікі слоўнікаў літаратурнай мовы і мясцовых беларускіх гаворак, абыходзілі іх дапытлівыя даследчыкі. А яны заслугоўваюць увагі і вывучэння.

Як і іншымі ўласнымі назвамі (назвамі гарадоў, вёсак, вадаёмаў, памятных мясцін агульнанароднай і мясцовай гісторыі, інакш кажучы, анамастыкай) асабовымі найменнямі цікавяцца многія. Да іх ёсць практычны інтарэс у сувязі з неабходнасцю ўпарадкавання пашыраных найменняў людзей: размежаванне афіцыйных і гутарковых або дыялектных варыянтаў імён, а таксама беларускіх і рускіх, беларускіх і польскіх, выпрацоўка норм пры ўжыванні імён у пісьмовых і вусных літаратурных зносінах, правапіс і вымаўленне імён, нарэшце, выбар імён і іншае.

У нетрах антрапаніміі схавана шмат фактаў, важных для гісторыі беларускай мовы. У ёй знайшлі адбітак і некаторыя бакі грамадскіх адносін паміж людзьмі ў мінулым, іх культура, прыроднае асяроддзе.

У апошнія гады па беларускай антрапаніміі з'явілася некалькі прац. Іншамоўным прозвішчам на Беларусі прысвяціў два артыкулы М. Грынблат, «Слоўнік асабовых уласных імён» склаў М. Суднік, грунтоўна заняўся вывучэннем прозвішчаў М. Бірыла. Хочацца спадзявацца, што следам за імі, як за першымі разведчыкамі, пракладуць свае сцежкі ў антрапанімію і іншыя беларускія мовазнаўцы.

**Алесь КРЫВІЦКІ.**

# ПОДСТУПЫ ДА ТЭМЫ

**С. ПЯТРОВІЧ. Народныя тэатры Беларусі. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1966**




Народныя тэатры — з'ява новая, народжаная сацыялістычнай рэчаіснасцю, як рэалізацыя класічнай думкі У. І. Леніна: «Мастацтва належыць народу». Але кожная новая з'ява не ўзнікае на голым месцы, яна найбольш «родзіць» там, дзе для гэтага ёсць спрыяльная глеба, дзе захаваліся пэўныя традыцыі самадзейнай творчасці. Не на дзірване выраслі народныя тэатры і ў Беларусі. Звыш чатырох тысяч драматычных гурткоў налічваецца цяпер у рэспубліцы. І зусім натуральна, што многія з іх падняліся да таго ўзроўню майстэрства, калі сталі пастаяннымі цэнтрамі выхавання эстэтычных густаў народа і атрымалі ганаровае званне народных тэатраў. Іх цяпер у рэспубліцы трыццаць.

Малады тэатразнаўца Сяргей Пятровіч паставіў сабе за мэту «старанна вывучыць увесь разрознены матэрыял», што з'явіўся на старонках перыядычнага друку за пяць гадоў існавання народных тэатраў у Беларусі і, абапіраючыся на ўласныя назіранні, сустрэчы і гутаркі з энтузіястамі тэатральнай самадзейнасці, высветліць спецыфіку і эстэтыку народнага тэатра.

Варта адразу шчыра сказаць, што канкрэтнага матэрыялу ў кнізе багата. А вось грунтоўных, навукова асэнсаваных вывадаў — не надта каб. Кніга напісана ў публіцыстычным плане — як тэатральны агляд, як заўвагі і роздумы чалавека, для якога, аднак, лёс мастацкай самадзейнасці — часцінка яго штодзённага жыцця. У кнізе шмат трывог і сумненняў з поваду надзённых праблем тэатральнай самадзейнасці, ад вырашэння якіх залежыць далейшы рост творчай актыўнасці той часткі нашай грамадскасці, якую мы называем народнымі талентамі.

Што датычыць тэарэтычнага асвятлення ўсіх праблем, закранутых у кнізе, дык тут непачаты край работы, якую аўтар, трэба спадзявацца, не абміне ў сваіх творчых планах. Подступы да тэмы зроблены, але іменна подступы. Ды інакш і не магло быць, бо пяцігадовы тэрмін дзейнасці народных тэатраў не дае, мне здаецца, падстаў рабіць навуковае абгрунтаванне многіх бакоў самадзейнай творчасці на сцэне. Дарэчы і сам аўтар гаворыць пра тое ж: «Цяжка яшчэ акрэсліць межы і вызначыць ясныя шляхі развіцця народнага тэатра».

І ўсё ж спробы абагульнення першых крокаў дзейнасці народных тэатраў зроблены С. Пятровічам. Узяць хоць бы вызначэнне задач народнага тэатра. Тут аўтар, зазірнуўшы крышачку ў гісторыю, спрабуе адрозніць сённяшнія народныя тэатры ад тых, што існавалі да рэвалюцыі, як сродак барацьбы з цемнатою і невуцтвам, як сродак далучэння рабочых і сялянства да мастацтва. Але гэта былі тэатры **для народа**, заўважае аўтар, без удзелу самога народа (хоць больш дасканалае вывучэнне пытання магло прывесці да бясспрэчных вывадаў аб тым, што існавалі шматлікія гурткі і тэатры з удзелам працоўных).

Зусім недастаткова раскрыта роля такіх выдатных дзеячоў беларускага тэатра, як І. Буйніцкі і У. Галубок у актывізацыі самадзейнай творчасці народа. Аўтар заяўляе, што «савецкі народны тэатр узнік і пачаў развівацца праз 40 гадоў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі». Хоць тут жа на наступнай старонцы абвяргае сябе.

Сучасны народны тэатр, як гаворыць аўтар, гэта «добраахвотная масавая арганізацыя высокаадукаваных і таленавітых аматараў тэатральнага мастацтва, своеасаблівая школа творчасці і рознабаковай асветы, створаная на базе лепшых гурткоў мастацкай самадзейнасці, закліканая на грамадскіх асновах адлюстроўваць у сваёй рабоце жыццё і працоўную дзейнасць савецкага чалавека, прапагандаваць у масах ідэі камунізма, садзейнічаць выхаванню эстэтычных густаў народа».

Не ўсё ў гэтай формуле можна прыняць без агаворак, але ў аснове сваёй яна правільна акрэслівае задачы народнага тэатра на сённяшнім этапе яго дзейнасці. Цяжка, напрыклад, пагадзіцца з акцэнтам аўтара на высокую адукаванасць, як абавязковую ўмову для акцёра народнага тэатра, бо гэта супярэчыць масавасці арганізацыі і абвяргаецца прыведзеным у кнізе фактычным матэрыялам (раздзел «Людзі тэатра»). Нельга пагадзіцца і з акрэсленымі аўтарам строгімі рамкамі рэпертуару тэатра, які нібы не павінен уключаць у сябе лепшыя здабыткі сусветнай драматургіі, а толькі тыя, дзе адлюстраваны жыццё і працоўная дзейнасць савецкага чалавека.

Адно, скажам адразу — вельмі істотнае, вызначэнне С. Пятровічам задач тэатра не выклікае пярэчанняў. Ён піша: «народныя тэатры створаны не для таго, каб некалі замяніць «састарэлае» прафесіянальнае мастацтва, а каб дапамагаць больш шырока ахопліваць гледачоў, выхоўваць іх. Гэта старэйшы і малодшы паплечнікі, якім даручана ісці разам».

Уласна кажучы, аўтар і разглядае нараджэнне і станаўленне народных тэатраў, як вынік творчай садружнасці прафесіянальнага мастацтва ў асобе мастацкіх кіраўнікоў самадзейных калектываў, як правіла, людзей з тэатральнай адукацыяй і сцэнічным вопытам, з аматарамі, што не шкадуюць свайго вольнага часу для старannай вучобы, для натхнёнай творчасці. У кнізе не абмінуты і прыклады разумнай, плённай, бескарыслівай шэфскай дапамогі выдатных дзеячоў беларускай сцэны калектывам народных тэатраў.

С. Пятровіч разглядае народны тэатр перш за ўсё як **універсітэт выхавання** аматараў і гэтым як бы ўзвышае задачы, што стаяць перад асяродкамі культуры на вёсцы і ў рабочым пасёлку ці невялікім горадзе, якімі з'яўляюцца народныя тэатры. І зусім правільна аўтар бачыць найбольшы творчы плён у тых калектывах, дзе наладжана сістэматычная прафесіянальная вучоба. Там жа, дзе аснова дзейнасці — найбольшая колькасць спектакляў, «самадзейны акцёр заштампоўваецца, заспакойваецца, пачынае прыслухоўвацца да пахвальбы і спыняецца ў сваім творчым росце».

Раздзелы «Мастацкі кіраўнік — аснова калектыву», «Людзі тэатра», «Самадзейныя артысты і гледачы» напісаны вельмі схематычна, пералічальна, без належнага заглыблення ў прадмет гаворкі. Гэта — вынік, мабыць, недастатковага вывучэння «жывога матэрыялу» і празмернага захаплення ўражаннямі іншых, засведчанымі на старонках друку. Куды больш пераконвае аўтар, калі разглядае мастацкія здабыткі тэатра — самі спектаклі. Разгляд рэпертуару С. Пятровіч вядзе па трох асноўных кірунках: сучас-

насць на сцэне, нацыянальная драматургія, класічная спадчына. Асобна спыняецца ён на спробах тэатраў сыграць музычную камедыю і даць сцэнічнае жыццё аднаактовым творам. Аўтар не шкадуе часу, каб самым падрабязным чынам разгледзець удачы і пралікі тэатраў у пошуках рэпертуару і прыйсці да абагульняючых вывадаў.

А вывады гэтыя цікавыя: «Народныя тэатры Беларусі... разгортваюць маштабныя палотны аб баявой і працоўнай дзейнасці савецкага чалавека на ўсіх гістарычных этапах пабудовы камуністычнага грамадства», «гонячыся за арыгінальнай беларускай п'есай, кіраўнікі часам бяруць да пастаноўкі зусім слабыя творы, якія абыдзены прафесіянальнымі тэатрамі», «эстэтычнае і культурнае выхаванне мас праз народны тэатр было б немагчыма без лепшых узораў сусветнай драматургіі», «музычная камедыя і народная опера ўсё настойлівей пачынаюць заваёўваць беларускую самадзейную сцэну», «дзенідзе той ці іншы народны тэатр часам і ўключыць у свой рэпертуар аднаактовую п'есу, але гэта здараецца ўсё радзей і радзей з кожным годам».

Чалавекам, зацікаўленым творчым ростам народных талентаў, выступае С. Пятровіч у заключным раздзеле кнігі, дзе спыняецца на праліках самадзейных калектываў і тых перашкодах, якія штучна стрымліваюць далучэнне шырокіх мас да тэатральнай творчасці. Ён перасцерагае ад паспешлівага прысвоення званняў народнага тэатра калектывам, у якіх не сфармавалася выразнае творчае аблічча (абы выканаць план росту!), паўстае супроць «аматаршчыны» і бачыць самы плённы шлях, каб усцерагчыся яе,— вучобу. Але для сістэматычнай студыйнай вучобы патрэбны кадры рэжысёраў-педагогаў. І зусім апраўдана тая трывога, якую б'е С. Пятровіч: у большасці кіруюць самадзейнасцю артысты і рэжысёры пенсіённага ўзросту, якія «адкіпелі» на прафесіянальнай сцэне, цяпер жа толькі перадаюць вопыт і веды. А творчы агеньчык калектываў народнага тэатра трэба падтрымліваць штодзённа ўласным вопытам.

Не абмінуты ўвагай даследчыка і пытанні крытыкі работы народных тэатраў у друку, грамадскага абмеркавання іх спектакляў, справаздачных паказаў, творчых канферэнцый, абменных выступленняў, памяшкання, транспарту, матэрыяльнага забеспячэння і інш. Зусім своечасова ставіць аўтар пытанне пра стварэнне ў Мінску «Тэатра народнай творчасці».

Ужо адно тое, што С. Пятровічу ўдалося сабраць такі багаты матэрыял пра тэатральную самадзейнасць і сістэматызаваць яго вакол кардынальных творчых праблем, вырашэнне якіх заклікана абуджаць у людзях творцаў, робіць кнігу «Народныя тэатры Беларусі» карысной для кожнага культурнага чалавека.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



## РЫХТУЮЦЦА ДА ДРУКУ:

**Інтэрв'ю з Уладзімірам Дубоўкам. Роздум Алеся ЯСКЕВІЧА над лірычнай прозай.**

Сурёзнае
Курёзнае

# ПРАБЛЕМЫ МІЖЗОРНЫХ ПАЛЁТАЎ

Калі я быў юнаком, я вельмі любіў чытаць навукова-фантастычныя творы пра міжпланетныя падарожжы. Мяне вельмі цікавіла, ці можна паляцець на іншыя планеты сонечнай сістэмы, ці існуе там жыццё, і асабліва разумныя істоты, і ці не прыляталі яны калі-небудзь да нас на Зямлю. Маёй настольнай кнігай у тую далёкую пару былі шосты і сёмы нумары часопіса «Природа и люди» за 1928 год, у якіх давалася кароткае апісанне ўсіх прынцыпаў міжпланетных пералётаў, прапанаваных з самых даўніх часоў. Прайшло болей чвэрткі стагоддзя, а мяне па-ранейшаму цікавяць гэтыя пытанні, і я думаю, што і вы, дарагія чытачы,—хто цяпер зусім яшчэ малады і для каго міжпланетныя падарожжы становяцца рэальнасцю—таксама цікавіцеся, ці можна паляцець на планеты не толькі нашай, але і іншых сонечных сістэм, ці ёсць там жыццё, разумныя істоты і ці не наведваліся яны калі-небудзь да нас на Зямлю. Пра тое, як глядзіць на гэтыя праблемы сучасная навука, якія гарачыя спрэчкі яны выклікаюць і колькі ў іх тоіцца прывабнага для маладога розуму, я і хачу расказаць тут.

Развіццё навукі ў апошнія гады прывяло да таго, што старое меркаванне Джардана Бруна пра існаванне ў Сусвеце населеных разумнымі істотамі светаў набыло характар навуковай гіпотэзы. Многія вучоныя цяпер выказваюць думку, што ў нашай галактыцы ёсць значная колькасць зор, акружаных планетнымі сістэмамі, прычым на асобных планетах існуюць жыццё і нават разумныя істоты, якія дасягнулі высокай ступені цывілізацыі. Дасягненні фізікі, хіміі, біялогіі і кібернетыкі, а таксама вывучэнне ўмоў узнікнення і развіцця жыцця на Зямлі дазваляюць цяпер з большай верагоднасцю сцвярджаць, што разумнае жыццё на планетах нашай галактыкі ўяўляе адносна рэдкую з'яву, а нашы іншапланетныя «браты па розуму» зусім не падобны да людзей. Вельмі мала верагодна тое, што ў нашай галактыцы ёсць такія планеты, насельнікі якіх маюць поўнае біялагічнае падабенства з людзьмі і адрозніваюцца ад іх толькі ўзроўнем культуры і цывілізацыі. Аднак пісьменнікі-фантасты вельмі задаволены—гэта мала верагодна, але ж не немагчыма!

Паспрабаваць праверыць гэтую гіпотэзу можна рознымі спосабамі. Па-першае, можна ісці шляхам астранамічных даследаванняў і шукаць у нашай галактыцы сляды дзейнасці іншапланетных разумных істот. Так, напрыклад, можна паспрабаваць знайсці электрамагнітныя сігналы, якія пасылае адна з высокаразвітых іншапланетных

цывілізацый, каб аб'явіць пра сваё існаванне іншым такім жа цывілізацыям.

Пачынаючы з 1960 года ў ЗША і СССР праводзяцца перыядычныя даследаванні радыёвыпраменьвання асобных зон нашай Галактыкі, каб выявіць радыёсігналы штучнага паходжання. Аднак пакуль што гэтыя работы не ўвянчаліся поспехам. У сучасны момант узровень развіцця радыётэхнікі такі высокі, што калі такія радыёсігналы будуць прыняты і расшыфраваны і будзе ўстаноўлена, адкуль яны пасылаюцца, то можна будзе паслаць туды свае радыёсігналы і ўстанавіць такім чынам двухбаковую міжзорную радыёсувязь. У прынцыпе магчыма таксама міжзорная сувязь з дапамогай востра накіраваных пучкоў праменняў, якія пасылаюцца звышмагутнымі квантавымі генератарамі: можна дапусціць, што ў будучым такую сувязь могуць ажыццявіць з дапамогай гравіясігналаў, таму што гравіяхвалі, або хвалі прыцягнення, як відаць, існуюць.

Па-другое, можна ісці шляхам геалагічных, археалагічных, а таксама гісторыка-філалагічных даследаванняў і паспрабаваць знайсці сляды прабывання «касмічных прышэльцаў» на Зямлі ў геалагічныя і нават у гістарычныя часы. З прычыны таго, што сучасная навука з большай верагоднасцю лічыць разумнае жыццё на планетах нашай галактыкі рэдкай з'явай, то верагоднасць наведвання сонечнай сістэмы і Зямлі іншапланетнымі касманаўтамі з іншай сонечнай сістэмы ў геалагічную і тым болей у гістарычную эпоху вельмі малая, але ўсё ж не роўная нулю.

З усяго гэтага вынікае прынцыповая магчымасць навуковага пошуку слядоў «касмічных прышэльцаў» на Зямлі. Такі пошук — не антынавуковы занятак, як гэта здаецца некаторым. Безумоўна, няма ніякай неабходнасці арганізоўваць навукова-даследчыя інстытуты або экспедыцыі, якія толькі і будуць займацца пошукамі слядоў іншапланетных гасцей на нашай Зямлі. Але трэба помніць і тое, што нават вельмі малаверагодныя падзеі не з'яўляюцца немагчымымі. Так, напрыклад, амаль неверагодна, што кістапёрыя рыбы, якія ўзніклі 350 мільёнаў год таму назад, у пачатку дэвонскага перыяду, маглі дажыць да нашага часу, і тым не менш у 1938 годзе была злоўлена кістапёрая рыба, якую назвалі лацімерыяй.

Цяпер у нас няма ніводнай геалагічнай знаходкі, якая бясспрэчна сведчыла б, што Зямлю наведвалі госці з космасу. Сярод велізарнай колькасці міфаў, легенд і паданняў старажытных народаў таксама не выяўлена пакуль ніякіх бясспрэчных сведчанняў на гэты конт. Некаторыя помнікі матэрыяльнай культуры старажытнасці, напрыклад, японскія гліняныя статуэткі «догу», пра якія ўпамінае пісьменнік А. Казанцаў, а таксама шэраг старажытных паданняў, напрыклад, сумерыйская легенда пра Этана і яго палёт, на першы погляд, могуць служыць бясспрэчнымі доказамі таго, што ў гістарычныя часы Зямлю наведалі іншапланетныя касманаўты, але крытычны навуковы аналіз і ў гэтых выпадках дазваляе з большай верагоднасцю растлумачыць іх паходжанне чыста зямнымі прычынамі.

Трэба сказаць, што іншы раз «касмічная тэорыя» паходжання таго ці іншага помніка матэрыяльнай культуры або міфа старажытнасці з'яўляецца куды больш стройнай і праўдападобнай, чым «зямная тэорыя». Работы А. Казанцава, М. Аграста і В. Зайцава, прысвечаныя гіпотэзе «касмічных прышэльцаў», нягледзячы на шэраг вельмі цікавых думак, у цэлым, на нашу думку, разглядаюць факты, што пацвярджаюць гэтую гіпотэзу, недастаткова строга. Вучоным проста вельмі хочацца, каб «касмічныя госці» былі ў старажытнасці, і яны часам аналізуюць факты не аб'ектыўна, а пад «касмічным» кутом гледжання.

Гэтак жа малаверагодна, што сляды «касмічных прышэльцаў» з другой сонечнай сістэмы будуць знойдзены на Месяцы, Венеры і Марсе, калі нашы міжпланетныя караблі высадзяць там навуковыя экспедыцыі. Хоць сучасная навука з дастатковымі падставамі лічыць, што на Марсе цяпер няма разумнага жыцця, нельга зрабіць катэгарычнага вываду пра тое, што яго на гэтай планеце ніколі і не было. У бліжэйшыя дзесяцігоддзі будзе вырашана найцікавейшае пытанне аб тым, ці існавала ў мінулым на Марсе высока развітая цывілізацыя, калі і чаму гэтая цывілізацыя знікла. Зазначым, што пытанне аб развіцці і прычынах гібелі цывілізацыі на якой-небудзь планеце з'яўляецца адным з самых цікавых пытанняў як прыродазнаўчых, так і грамадскіх навук.

Можна, нарэшце, ісці шляхам фізічных даследаванняў і шукаць спосабы ажыццяўлення міжзорных пералётаў. Гэты шлях надзвычай цяжкі, але і найболей цікавы. Калі будзе здзейснена ідэя заралёта, то на ім можна будзе накіраваць навуковую экспедыцыю і ў другую сонечную сістэму і даследаваць магчымасць засялення яе людзьмі ў тым выпадку, калі яе не насяляюць «браты па розуму».

Да заралёта прад'яўляецца адзінае патрабаванне: яго хуткасць павінна быць блізкай да хуткасці святла ў пустаце — 300.000 км/сек. Гэта, відаць, найбольш магчымая хуткасць у прыродзе. Такое патрабаванне абумоўлена тым, што міжзорныя адлегласці да бліжэйшай к сонечнай сістэме вобласці нашай галактыкі вылічаюцца па меншай меры некалькімі светлавымі гадамі. Вядомыя зоркі Эпсілон Эрыдана і Тау Кіта, у якіх, як мяркуецца, існуюць планетныя сістэмы, аддалены ад Сонца на адлегласць 10,5 і 10,3 светлавыя гады. Адсюль вынікае, што заралёт павінен мець рухавікі неверагоднай магутнасці, і калі ён не выкарыстае знешняе асяроддзе ў якасці паліва, то павінен несці ў сабе велізарныя яго запасы і таму мець гіганцкія памеры.

Навука ўжо цяпер можа ўказаць на некаторыя фізічныя прынцыпы міжзорных пералётаў, але не можа яшчэ адназначна адказаць на пытанне, ці будуць прыдатныя гэтыя фізічныя прынцыпы для



## ЗАКОН ВУЧЫЦЬ ХІТРАВАЦЬ

**У дзяўчат касты Кадава Канбі (Індыя) ёсць грунтоўныя прычыны зайздросціць сваім сёстрам ва ўсім свеце. Яны маюць права выйсці замуж у адзін-адзінюсенькі дзень. Гэты шчаслівы дзень бывае адзін раз у дванаццаць гадоў. Вось чаму дзесяцігадовыя дзяўчынкі тут лічацца ўжо даволі сталымі нявестамі. Але дзяўчаты абхітрылі жорсткі закон. Яны ўступаюць у фармальны шлюб з... букетам кветак. Як толькі кветкі завянуць, маладая жонка становіцца ўдавой і можа тады выходзіць замуж, калі задумае. На ўдаву звычай не пашыраецца.**

## ПЕРШЫ АЎТАМАБІЛЬНЫ НУМАР

**Пачатак нумарацыі аўтамабіляў быў зроблены берлінскім купцом Рудальфам Герцагам, які ўлетку 1901 года павесіў на сваёй машыне таблічку. На гэтай таблічцы было напісана IA1.**

**Гэты сталы ўжо чалавек быў па-юнацку закаханы ў сваю маладзенькую жонку. Свой аўтамабіль ён назваў яе імем: IA азначае Іагана Анкер. А лічба 1 сімвалізавала, як відаць, першае і апошняе каханне гаспадара машыны.**



тэхнічнага ажыццяўлення іх. Таму многія вучоныя наогул сумняваюцца ў гэтым. Калі ў сонечнай сістэме будуць калі-небудзь знойдзены сляды «гасцей» з другой сонечнай сістэмы, то гэта будзе найвялікшым адкрыццём, таму што адразу стане відавочнай магчымасць міжзорных пералётаў.

Цяпер нам вядомы два фізічныя прынцыпы міжзорных пералётаў: анігіляцыя рэчыва і антырэчыва, якая складае аснову фатоннага рэактыўнага рухавіка, і выкарыстанне міжзорнага вадароду ў праматочным рэактыўным рухавіку. Першы з іх быў найболей грунтоўна тэарэтычна распрацаваны Е. Зенгерам у 1956 годзе, а другі — Р. Бюсарам у 1960 годзе. Іх тэарэтычныя разлікі заснаваны на механіцы быстрых часцінак, якая з'яўляецца вынікам спецыяльнай тэорыі адноснасці А. Эйнштэйна.

Міжзорны касмічны карабель з фатонным рэактыўным рухавіком называюць звычайна фатонным заралётам, або проста фатоннай ракетай. Схема фатоннага рэактыўнага рухавіка, які працуе на анігіляцыі такая. У камеру згарання з двух рэзервуараў упырскваюцца аднолькавыя порцыі рэчыва і антырэчыва, напрыклад, вадароду і антывадароду. Пад уздзеяннем нейкіх знешніх фактараў, магчыма, магнітнага поля, жорсткае гама-выпраменьванне, якое ўзнікае пры анігіляцыі рэчыва і антырэчыва, набывае накіраваны характар і стварае цягу, якая дазваляе фатоннаму заралёту дасягнуць субсветлавых хуткасцей.

Можна сабе ўявіць шматступенчаты фатонны заралёт і нават разлічыць яго стартавую масу. Першая ступень разганяе заралёт да субсветлавой хуткасці, а другая тармозіць яго практычна да нулявой хуткасці паблізу сонечнай сістэмы, якая даследуецца. Трэцяя ступень зноў разганяе заралёт на зваротным шляху да хуткасці $v$, а чацвёртая тармозіць яго паблізу нашай сонечнай сістэмы. Калі $c$-хуткасць святла ў пустаце, то нескладаныя разлікі паказваюць, што, напрыклад, пры $\frac{v}{c} = 0{,}99$ адносіны стартавай масы пятай ступені, гэта значыць жылой часткі заралёта, да мінімальнай стартавай масы ўсяго заралёта складаюць $\frac{1}{40\,000}$. Такім чынам, калі стартавая маса жылой часткі складае 1 000 тон, а гэта зусім няммнога, то мінімальная стартавая маса ўсяго заралёта будзе роўна 40 мільёнам тон. Пры гэтых разліках мяркуецца, што ў чатырох ступенях фатоннага заралёта выкарыстоўваецца анігіляцыйнае паліва і маса пакою жылой часткі не змяняецца ў часе пералёту.

Прыведзеная лічба дае толькі мінімальнае значэнне стартавай масы фатоннага заралёта, таму што не ўлічваюцца масы канструкцый (абалонак, рухавікоў і г. д.) для ўсіх чатырох ступеняў. Больш складаныя разлікі паказваюць, што з улікам мас канструкцый стартавая маса фатоннага заралёта ўзрасце ў многа разоў у параўнанні са сваім мінімальным значэннем. Такім чынам, колькасць антырэчыва, неабходнага для фатоннага заралёта, складзе мільёны тон.

Схема фатоннага рэактыўнага рухавіка з'яўляецца пакуль што чыста гіпатэтычнай і мае прынцыповыя недахопы. Атрыманне антырэчыва ў велізарных колькасцях і яго захаванне — праблема вельмі складаная для навукі і тэхнікі нават у далёкай будучыні. Акрамя таго, сённяшняя навука яшчэ не ведае, як стварыць накіраванае гама-выпраменьванне для атрымання цягі. Такім чынам, тры асноўныя, на нашу думку, праблемы фатоннага заралёта застаюцца сёння яшчэ не вырашанымі.

Міжзорны касмічны карабель з праматочным рэактыўным рухавіком на міжзорным вадародзе, або апарат Бюсара, называюць звычайна міжзорным самалётам. Гэты касмічны карабель заснаваны на выкарыстанні міжзорнага вадароду падобна да таго, як звычайны самалёт з праматочным рэактыўным рухавіком выкарыстоўвае паветра. Схема яго рухавіка такая. Пры палёце касмічнага карабля ўстаноўлены на ім велізарны экран збірае міжзорны вадарод і накіроўвае яго ў камеру згарання, дзе адбываюцца тэрмаядзерныя рэакцыі, у прыватнасці ператварэнне вадароду ў гелій. Распаленая плазма выкідваецца праз соплы, і ўзнікае цяга, якая дазваляе міжзорнаму самалёту дасягнуць субсветлавых хуткасцей. Такім чынам, сэрца рухавіка міжзорнага самалёта — гэта тэрмаядзерны рэактар, які перапрацоўвае міжзорны вадарод. Паколькі ў нас цяпер прынцыповыя асновы канструявання тэрмаядзерных рэактараў пачынаюць ужо распрацоўвацца, міжзорны самалёт здаецца на першы погляд куды больш рэальным, чым фатонны заралёт.

На жаль, схема праматочнага рэактыўнага рухавіка на міжзорным вадародзе таксама з'яўляецца чыста гіпатэтычнай і мае прынцыповыя недахопы. Па-першае, экран для збірання міжзорнага вадароду павінен мець грандыёзныя памеры. Паколькі сярэдняя шчыльнасць міжзорнага вадароду паводле дадзеных астранамічных назіранняў складае прыблізна 1 атам/см, то нескладаныя разлікі паказваюць, што мінімальны радыус круглага экрана роўны 1 800 км, калі стартавая маса міжзорнага самалёта складае ўсяго 1 000 тон, а ўласнае паскарэнне роўна паскарэнню сілы цяжару на Зямлі. Адсюль вынікае, што экран міжзорнага самалёта павінен быць палявым, г. зн. вакол міжзорнага самалёта павінны быць створаны звышмагутныя электрамагнітныя палі, якія збіраюць міжзорны вадарод і накіроўваюць яго ў камеру згарання. Аднак цяпер пакуль што няма нават тэарэтычнай мадэлі такога палявога экрана.

Акрамя таго, міжзорны самалёт трэба спачатку разагнаць да значнай хуткасці, каб забяспечыць дастатковы для работы праматочнага рухавіка збор міжзорнага вадароду. Адсюль вынікае, што для разгону і спынення міжзорнага самалёта патрэбны дадатковыя



## ПРАВЫ ВАДЗІЦЕЛЯ

**Калі толькі з'явіліся першыя аўтамабілі, за руль мог сесці кожны, хто меў сродкі, каб набыць машыну. У Германіі, напрыклад, з машыны бралі вялізны падатак, а гаспадару выдавалася адпаведнае пасведчанне. З цягам часу колькасць аўтамабільных катастроф стала расці. І тады адзін нямецкі журналіст прапанаваў, каб паліцыя, выдаючы гаспадарам машын пасведчанні пра аплату падатку, адначасова правярала практычна, ці могуць яны вадзіць аўтамабіль.**

**Першыя ў свеце вадзіцельскія правы былі выдадзены ў Германіі ў 1910 годзе.**

## САКРЭТ ПТУШАК

**Сава — адзіная птушка, якая можа глядзець абодвума вачыма адразу.**

**Бяскрылая птушка ківі-ківі нясе яйкі, якія толькі ў чатыры разы меншыя за яе самую.**

**Курапатка — адна з самых асцярожных птушак. Расказваюць, што калі сямейству курапатак трэба перайсці шашу, дык робіцца гэта так. Спачатку ідзе адна «мама», даходзіць да сярэдзіны шашы, азіраецца вакол і вяртаецца за птушанятамі. Яны ідуць за ёй, а «тата» замыкае шэсце. Ці не таму рэдка калі курапатка трапляе пад колы машын?**



рэактыўныя рухавікі, хутчэй за ўсё фатонныя. Неабходнасць камбінаваць праматочны рэактыўны рухавік на міжзорным вадародзе з дадатковымі фатоннымі рэактыўнымі рухавікамі прыводзіць да думкі, што міжзорны самалёт павінен быць, відаць, яшчэ большым па сваіх памерах, чым фатонны заралёт. Такім чынам, дзве асноўныя, на нашу думку, праблемы міжзорнага самалёта — праблема экрана і праблема дадатковых рухавікоў — застаюцца пакуль нявырашанымі.

З усяго сказанага можна зрабіць вывад, што пабудова фатонных заралётаў і міжзорных самалётаў нават у далёкай будучыні — справа малаверагодная. Распрацоўваючы далей тэорыю фатонных заралётаў і міжзорных самалётаў, навука будзе настойліва шукаць і новых шляхоў ажыццяўлення міжзорных пералётаў. На нашу думку, гэтыя шляхі будуць звязаны з вывучэннем фізічнай прыроды прасторы і часу, з пазнаннем іх уласцівасцей.

**Барыс ФЯДЗЮШЫН,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

Ленінград.

# ПАД ГУЛ ПАЖАРНАГА ЗВАНА

У 1932 годзе англійскі фізік Чэдвік адкрыў у ядры атама часцінку, якая не мела зараду, і назваў яе нейтронам. Адкрыццё нейтрона азначала пачатак новай эры, калі чалавек зазірнуў у таямніцы атама.

Бамбардзіруючы нейтронамі хімічныя элементы, фізікі заўважылі, што ядро атама аднаго элемента, паглынаючы нейтрон, ператвараецца ў ядро другога элемента, які стаіць у перыядычнай табліцы на адну клетку далей.




А што, калі «абстрэльваць» нейтронамі ўран — элемент, які стаіць у 92-й клетцы табліцы Мендзялеева, задаў сабе пытанне італьянскі вучоны Энрыка Фермі. Тады, відавочна, атрымаецца новы штучны элемент, якога няма ў прыродзе. І павінен ён стаяць у наступнай, 93-й клетцы. У 1935 годзе Фермі абпраменіў нейтронамі кавалачак урану і знайшоў ва ўране дзесятак радыёактыўных элементаў. Ці быў сярод іх трансуранавы 93-ці элемент? І якія там яшчэ былі элементы? Гэтага Фермі не ведаў.

Доследы італьянскага вучонага паўтарылі нямецкія фізікі Ліза Мейтнер, Ота Ган і Ф. Штрасман, француженка Ірэн Жаліо-Кюры і югаслаўскі фізік П. Савіч. Уважліва даследуючы кавалачак урану пасля абпраменьвання яго нейтронамі, Ірэн Жаліо-Кюры і П. Савіч знайшлі ў ім замест трансуранавага элемента рэдказямельны лантан. Ган і Штрасман у сваіх доследах знайшлі, акрамя лантану, яшчэ і барый. Амерыканскія вучоныя Мак-Мілан і П. Абельсан, абпраменьваючы ядры ўрану нейтронамі, атрымалі элемент 93 і назвалі яго «нептуніем».

Да 1950 года штучным шляхам было атрымана шэсць новых хімічных элементаў: 93—98. Неўзабаве ў некаторых замежных часопісах з'явіліся паведамленні аб сінтэзе яшчэ двух новых заўранавых элементаў — 99—100. Адзін з іх назвалі афініем, другі — цэнтурыем, г. зн. «сотым». Аднак паведамленні гэтыя не пацвердзіліся. Абодва элементы былі знойдзены толькі праз два гады ў прадуктах распаду тэрмаядзернага выбуху, які правялі Злучаныя Штаты Амерыкі ў Ціхім акіяне. Радыёактыўныя рэчывы пасля выбуху былі сабраны і адасланы для даследавання ў лабараторыі. Праз некалькі месяцаў Глену Сібаргу і яго супрацоўнікам удалося вылучыць два новыя элементы, якія былі названы эйнштэйніем і ферміем.





Сінтэзы заўранавых элементаў паказалі вялікія магчымасці сучаснай фізікі, якая ажыццяўляе мары алхімікаў аб пераўтварэнні элементаў. Асабліва яскрава гэта праявілася пры сінтэзе 101-га элемента, названага мендзялеевіем у гонар вялікага рускага хіміка Д. І. Мендзялеева. Маючы ўсяго семнаццаць атамаў новага элемента, вучоныя дакладна вызначылі яго месца ў перыядычнай сістэме.

Сінтэз мендзялеевію суправаджаўся няўдалай спробай бамбардзіраваць фермій гукамі... пажарнага звана. Глен Сібарг са сваімі памочнікамі вырашыў узяць за мішэнь атамы эйнштэйнію. Маючы вельмі мала яго атамаў, амерыканскія вучоныя нанеслі іх на танюсенькі лісточак золата. Пасля праз фольгу доўгі час прапускалі магутны пучок альфа-праменняў, ахаладжваючы лісток вадою і вадкім геліем. Пад дзеяннем гэтых «мікраснарадаў» нараджаліся атамы мендзялеевію, якія сілай аддачы адкідваліся на суседні залаты лісток. Новы элемент ад эйнштэйнію адлучаўся з дапамогай іянітаў-зярнятак іёнаабменнай смалы.

У часе доследаў было заўважана, што 101-ы элемент вельмі хутка ператвараецца ў соты, атамы якога здольны самі па сабе да радыёактыўнага распаду. Асколкі ядраў, сутыкаючыся з малекуламі паветра, іянізуюць іх, прычым скачок іянізацыі тут жа рэгіструецца лічыльнікам.

Калі пяро самапісца адзначала новы скачок, раздаваўся аглушальны гул пажарнага звана, які быў злучаны з лічыльнікам. А ўжо ўслед за звонам пачыналі радасна крычаць «хросныя» бацькі, нованароджанага атама мендзялеевію.

У адзін з летніх вечароў 1957 года ў Нью-Йорку над будынкам газеты «Нью-Йорк Таймс» загарэліся вялізарныя элекртычныя літары: «У Стакгольме адкрыты элемент 102. Ужо атрымана 12 атамаў. Новы элемент названы «нобеліем». Больш падрабязныя паведамленні пра адкрыццё нобелію з'явіліся ў многіх газетах і часопісах. Група шведскіх, амерыканскіх і англійскіх вучоных сінтэзавала 102-гі элемент, бамбардзіруючы ізатоп кюрыю-244 ядрамі ізатопа вугляроду-13.

Праз некалькі месяцаў пасля паведамлення аб «нараджэнні» 102-га элемента ў лабараторыі Сібарга была зроблена спроба атрымаць новы элемент ва ўмовах, падобных на шведскія, аднак гэтыя спробы не мелі поспеху.

Восенню 1957 года ў Савецкім Саюзе пад кіраўніцтвам вядомага савецкага фізіка Г. М. Флерава былі таксама пастаўлены доследы для штучнага атрымання 102-га элемента. У лабараторыі Аб'яднанага інстытута ядзерных даследаванняў у Дубне быў атрыманы другі ізатоп 102-га элемента, які «жыў» усяго шэсць секунд. Даведаўшыся пра доследы ў Савецкім Саюзе, Глен Сібарг пацвердзіў вынікі, атрыманыя нашымі фізікамі.

Замежныя вучоныя назвалі новы элемент нобеліем, у гонар заснавальніка міжнароднай прэміі за лепшыя навуковыя дасягненні, хоць спачатку меркавалася назваць яго «рэзерфордзіем» у гонар стваральніка першай атамнай мадэлі — англійскага вучонага Рэзерфорда. Магчыма з цягам часу 102-му элементу дадуць назву «масковій». Таму што найбольш дакладныя і пра-



вільныя звесткі пра яго былі атрыманы маладымі савецкімі вучонымі.

Вось як апісвалі адкрыццё новага элемента ў Дубне: «Тонкую пласцінку ўрану бамбардзіруюць ядры неону, разагнаныя ў паскаральніку. Ядро неону трапляе ў ядро ўрану, і замест выбуху адзін раз на сто мільёнаў выпадкаў адбываецца «звышмікраскапічны» цуд — нараджэнне 102-га.

Ядры 102-га, выбітыя з уранавай мішэні, тармозяцца ў газе і асядаюць на рухомую стужку, дзе і жывуць усё сваё нядоўгае жыццё. Аднак, паміраючы, яны нараджаюць другі элемент — фермій і альфа-часцінку. Пры гэтым ядро фермію пераносіцца са стужкі на так званы збіральнік ядраў аддачы. Цяпер збіральнік трэба хутчэй вынясць з паскаральніка, і па колькасці і размеркаванню ядраў фермію па ім меркаваць аб 102-ім.

Падобна таму, як па касцях вымерлых жывёл палеантолагі ўзнаўляюць іх выгляд, па ядрах фермію «ўзнаўлялі» 102-гі. Дослед быў паўтораны шмат разоў, што выключала магчымасць памылкі...»

Пакуль што апошнім у радзе заўранавых элементаў з'яўляецца 103-і элемент — «лаўрэнсій». Ён быў атрыманы групай амерыканскіх вучоных. Яго жывучасць — перыяд паўраспаду ўсяго 8 секунд — не дазваляе пакуль што вывучыць хімічныя ўласцівасці.

Нядаўна савецкія фізікі Г. М. Флераў і яго супрацоўнікі сінтэзавалі 104-ы элемент, бамбардзіруючы ядрамі неону ізатоп плутонію-242. На жаль, новы жыхар атамнай карты існуе ўсяго мільённыя долі секунды. Таму яго ўласцівасці таксама пакуль што нельга вызначыць.

Больш двух год затрацілі савецкія і чэхаславацкія вучоныя, каб раскрыць характар і ўласцівасці новага штучнага элемента. Аказалася, што 104-ы элемент з'яўляецца хімічным аналогам рэдкага металу гафнію, які займае ў табліцы Мендзялеева 72-ю клетку. Ён з'яўляецца як бы родапачынальнікам новай групы звышцяжкіх элементаў з асаблівымі фізічнымі і хімічнымі ўласцівасцямі.

У пачатку чэрвеня ў горадзе атамнікаў — Дубне адбылося пасяджэнне юбілейнай сесіі Міжнароднага вучонага савета пад старшынством акадэміка Н. І. Багалюбава. На пасяджэнні абмяркоўвалася пытанне, як назваць нованароджаны 104-ы элемент. Было прынята рашэнне ахрысціць яго «курчатавіем», у гонар выдатнага савецкага фізіка-атамніка Курчатава.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# ПАРТЫЗАНСКІЯ ПРЫГОДЫ

## ПРЫЦЕМКАМ

Грышу Юдзянку, маладому партызану, не пашанцавала. У паходзе нацёр нагу, сеў пераабуцца, а тут страляніна — напароліся на засаду. Ратуючыся ад куль, хлопец рынуўся ў хмызнякі. Стаіўся пад разложыстай алешынай і вырашыў перачакаць да вечара, каб прабрацца да сваіх.

Марудна цягнуўся летні дзень. Падвечар Грыша наважыў выбрацца са схованкі. Меркаваў, што прыцемкамі дабярэцца да чыгункі Слуцк—Асіповічы, высачыць варожыя патрулі, перабярэцца цераз насып, а там — і ў атрад недалёка...

Не паспеў Грыша трохі адысціся, як нехта моцна ўдарыў яго па галаве, і ён упаў.

— Папаўся, партызан!.. Капут!..

Да немцаў, што затрымалі Грышу, падышоў яфрэйтар. Ён нешта пагаварыў з імі і — падаў каманду:

— Форвэртс!

Напрасткі да чыгункі было не болей як паўкіламетра. Да немцаў далучыліся паліцаі, што былі ля насыпу.

Вуграваты, крываროты паліцай намерыўся быў ударыць Грышу, але сам паляцеў ад моцнага Грышавага штуршка.

— Ах, ты яшчэ біцца!?— залемантаваў ён, зрываючы з пляча вінтоўку.

— Хальт! — раўнуў на яго немец.— Авэк! — і да Грышы: — На палатно партызан кладь мінэн. Ті дольжен вынят мінэн, будет жит. Не будеш жит — твой дэлё...— І зарагатаў.

«Здрадзіць сваім,,— ліхаманкава мільганула думка.— Але ж пра міну немцы ведаюць: усё роўна дастануць... Не, лепей няхай узарвецца яна, і я разам з ёю...»

— Згодзен, толькі рукі развяжыце!

Немцы разблыталі вяроўку на руках, падвялі да насыпу і паказалі:

— Вунь там. Ідзі па палатне — убачыш!..

Грыша ступаў уперадзе, а немцы з паліцаямі крокаў на трыццаць ззаду.

Прыгледзеўся Грыша да жвіру і ўбачыў паміж шпалаў нешта бліскучае. Прыгнуўся, а немцы падаліся назад, спалохаліся, што і ім дастанецца. Ён разгроб пясок і ледзь не зарагатаў: паміж шпалаў, злёгку прыцярушаная пяском, ляжала... алюмініевая накрыўка ад салдацкага кацялка.

Грыша выпрастаўся, глянуў на сонца. Яно ўжо ўшчарбілася за лесам. Хвілін якіх пятнаццаць і — сцямнее... Трэба дачакацца.

Немцы паўкругам ляжалі непадалёк за насыпам.

— Эй, фрыцы! — гукнуў Грыша.— Цыгарэтэн! Раўхен!

Адзін немец прыўзняўся і памахаў рукой. Маўляў, ідзі сюды, дам табе закурыць, перад смерцю не шкода.

Грыша падышоў, узяў цыгарэту, прыкурыў і, не спяшаючыся, паплёўся да «міны». Сеў на рэйкі, зацягнуўся цыгарэтай. Сонца ўжо схавалася, з нізіны пацягнуліся рэдзенькія шматкі туману: бадай у самы раз...

— Ахтунг! — на ўсю сілу крыкнуў Грыша і стрымгалоў кінуўся з насыпу ў хмызнякі.

Немцы апамяталіся тады, калі ён убег у густы хмызняк. Кулі засвісталі навокал яго, але хутка змоўклі...

На золку Грыша ўжо быў у атрадзе. Пра свае прыгоды ён нікому не расказаў. Толькі праз два дні сувязны, што жыў непадалёку ад таго месца, дзе ляжала «міна», паведаміў, як партызан абхітрыў фашыстаў. Немцы цэлую ноч сцераглі тую накрыўку, не прапускаючы па чыгунцы цягнікі. І толькі назаўтра апоўдні прайшоў першы эшалон.

## ГАСЦІНЕЦ

Улетку нямецкі гарнізон у Любані быў так шчыльна акружаны партызанамі, што паліцаі не маглі нават і носу высунуць. Кожная вылазка дорага каштавала ворагу. Сядзелі, быццам мышы ў нары. Як іх з тае нары выманіць? І партызаны дадумаліся.

З Сарачоў, што побач з Любанню, выехала фурманка. Карослівы конік ціха тупае вузлаватымі нагамі. На возе трое. Адзін рыпае на пашарпаным гармоніку, двое на ўвесь голас гарланяць нейкую песню.

Фурманку заўважылі немцы. Пачалася страляніна. Тыя, што ехалі на возе, сыпанулі хто куды. А конік тупае сабе дарогаю...

Каля моста цераз Арэсу фурманку падцікоўваюць паліцаі. Яны бяруць каняку за вуздзечку і крычаць:

— Партызанскія трафеі!

Прыбягае сам начальнік паліцыі. Ён абмацвае мяшкі на возе, потым загадвае:

— Усё даставіць мне на кватэру!

Цэлая працэсія цягнецца за фурманкай. Спыніліся ля двара начальніка.

— Бульбу скіньце ў сенцы, а сала — у хату! — распараджаецца ён.— Каняку распрэгчы!

Найбольш дагодлівы служака, не чакаючы, пакуль разгрузяць воз, падбягае да хамута, развязвае супонь. Аглушальны выбух. Пяць паліцаяў мёртвымі валяцца на дол. Начальнік паліцыі яшчэ дыхае, але адной нагой ужо на тым свеце: бо выбухам расшкуматала яму жывот.

А праз тыдзень яшчэ тры паліцаі адправіліся на той свет. Бульба, якая была ў мяшках, зрабіла сваё. Паліцаі набралі кошык, каб спячы ў прыску, а бульбачка была з «начынкай»...

Такую хітрую пастку прыдумаў партызан брыгады імя Чкалава Аляксандр Залаты.

## ВЯСЕЛЛЕ З КАМЕНДАНТАМ

Вёска Зяблішча на Палессі была ў 1942 годзе ключавой пазіцыяй. Недалёка адсюль зручная пераправа цераз Пціч. Тут партызаны рабілі «перакуры» перад выхадам на чыгунку Гомель — Брэст. Немцы вырашылі зачыніць партызанам шлях. Для гэтага пачалі ствараць гарнізон з мясцовых паліцэйскіх.

Трэба было разграміць яго так, каб і страт не панесці і каб надоўга запамяталі тыя, хто пайшоў служыць ворагу.

Нядзеля. Няярка свеціць восеньскае сонца. На прызбах сядзяць бабулі. Каля іх бегае дзятва. Раптам усіх быццам ветрам здзьмула: «Немцы, немцы»! — панеслася з канца ў канец.

А па вуліцы сапраўды ішла калона салдат, гэтак з паўроты. Уперадзе высокі лейтэнант, поруч нізенькі перакладчык з белай анучкай на левым рукаве.

Спыняюцца каля адной хаты.

— Гдзе ест староста? — з польскім вымаўленнем пытаецца перакладчык у бабулі.

— Пан стараста на вяселлі,— калоцячыся ад страху, шамкае бабка.— Там вунь,— і паказвае ў канец вёскі.

«Немцы» ідуць туды. Вось і хата, адкуль даносяцца песні, п'яная гамонка. Значыць, тут вяселле.

«Лейтэнант», «перакладчык», трое «немцаў» ідуць у хату. У качарэжніку стаяць вінтоўкі. Каля іх спыняюцца два «немцы». «Лейтэнанта» і «перакладчыка» запрашаюць за стол, ачышчаюць месцы на покуце. Падносяць самагонку. Але «немцы» круцяць галовамі і — накідваюцца на закусь...

Непадалёку ад «лейтэнанта» маладая жанчына. Трымаецца ганарыста. Маўляў, мужыччо, не разумеюць далікатнага абыходжання... Падае «лейтэнанту» надушаную хустачку, каб заслаў калені і не запэцкаў штаны. Ёй яшчэ нечым хочацца ўслужыць немцу, і яна стараецца завесці гутарку на нямецкай мове, без паслуг перакладчыка.

— Ві гайсен зі? — пытаецца яна.

— Вас іст дас? — мычыць лейтэнант, бо рот у яго запханы свежанінай.

— Ві альт біст ду? — пачынае яна зноў.

«Лейтэнант» урэшце кідае жаваць і на ўсю хату крычыць:

— Адчапіся, сцерва! Рукі ўгару, сволачы!..

За сталом усе ўпокат.

Праз паўгадзіны каля клуба быў суд. Двум асабліва зацятым служакам імем народа была прысуджана заслужаная кара. Астатнія адпушчаны. Праз тыдзень яны былі ўжо ў партызанскім атрадзе.

Так закончыў існаванне варожы гарнізон у Зяблішчы. Партызаны з атрадаў Папругі і Фалітарава, параапранаўшыся ў нямецкую форму, бліскуча правялі аперацыю. Праўда, Васька Струкава, які выконваў ролю «лейтэнанта», празвалі «Васіздас». Гэта былі адзіныя словы, якія ён ведаў па-нямецку.

## БЕЗ ПАРАШУТА

Гэта было на пачатку 1944 года. У часе варожай блакады група партызан з атрада імя Гастэлы знайшла прытулак каля вострава Клянавішча на Любаншчыне. Патронаў было мала, і таму вырашылі дачакацца цемнаты, каб перабрацца цераз Арэсу.

Хлопцы зашыліся ў густы лазняк, сяк-так уладкаваліся. Было дамоўлена першымі не страляць, адбівацца толькі пры нападзе.

Праходзіць гадзіна-другая. Ціха. Валодзя Мазуркевіч наважыўся агледзець наваколле. Ускараскаўся на бярозу, замаскаваўся ў голлі і назірае. А сябры сочаць за ім. І раптам, калі яны глянулі не на бярозу, а пад яе, убачылі чатырох немцаў. Тыя выбралі сабе сухое месца, разуліся, выліваюць з ботаў ваду, выкручваюць анучы.

Што рабіць? Страляць? А хто ведае, колькі фашыстаў прабралася сюды. Як даць сігнал Валодзю?

А ён і сам ужо заўважыў небяспеку. Тое, што адбылося потым, цяжка і пераказаць, і апісаць. На галовы немцаў, якія нічога і не падазравалі, звальваецца нешта жахлівае. Хруснуў хрыбет у аднаго. Удар прыкладам прызямліў другога. Два, быццам, апантаныя, босыя кінуліся ў балота, забыліся на аўтаматы.

— Як яно атрымалася, і сам не ведаю!..— расказваў потым Валодзя.— Гляну ў я ўніз і што толькі прыкмеціў — лысіну аднаго фрыца. На яе і сігануў. Якраз пацэліў.

Забралі хлопцы дзве пары гумавых ботаў, два аўтаматы, сумку з дакументамі. Ноччу перабраліся цераз Арэсу і выйшлі да сваіх.

**Амяльян ШУРПАЧ.**



# ДАРОГА Ў НЕБА

**Фотарэпартаж Валянціна Ждановіча**



Палёт Уладзіміра Гурнага на тросе.



Яшчэ ў 1913 годзе рускі лётчык Пятро Несцераў выканаў на самалёце мёртвую пятлю. Бадай, з таго часу пачаўся новы від спорту, і пяты акіян стаў самым вялікім стадыёнам свету.

Цікавасць да авіяцыйнага спорту з кожным годам расце. І ці не таму, што, акрамя мужнасці і спрыту, тут патрэбна дасканалае веданне самай сучаснай тэхнікі. Чалавеку XX стагоддзя сорамна спадзявацца толькі на сілу сваіх мускулаў, але і без фізічнай загартоўкі не абыдзешся. Таму акрабатыка і вышэйшы пілатаж, бла-

Таіса Перасекіна.



Таня Скрыпнікава — парашутыстка III разраду. Гэта — пасля работы. А працуе кантралёрам Мінскага гадзіннікавага завода.



У паветры дзве кордавыя мадэлі. Кіруюць імі з зямлі майстры спорту Аляксандр Тауцька і Уладзімір Валошын.

кітны шоўк неба і белы шоўк парашута, цвёрдасць рукі і магутнасць матора аб'ядналіся ў агульным панацці — ваенна-тэхнічны спорт.

У Мінскім аэраклубе ДТСААФ займаюцца сотні спартсменаў: рабочыя, тэхнічная інтэлігенцыя, студэнты, старшакласнікі. Ёсць, напрыклад, дзяўчаты, якія ў рабочы час водзяць тралейбусы, а ў вольны — кіруюць планёрамі. 19-гадовая студэнтка, будучая настаўніца Таня Кладава выконвае фігуры вышэйшага пілатажу на ЯК-18, бывалым «ястрабку», на якім Кажадуб і Пакрышкін збівалі фашысцкіх асаў.

Беларускім авіятарам славы не пазычаць. Увесь савецкі народ памятае подзвігі Гастэлы і Грыцаўца. А летась мінскі спартсмен Вадзім Аўсянкін стаў абсалютным чэмпіёнам свету па акрабатычнаму пілатажу. Гэтага ж звання ўдастоена і беларуская спартсменка Таіса Перасекіна. Усім вядома імя майстра парашутнага спорту, трэнера зборнай каманды краіны Уладзіміра Гурнага, які ўпершыню асвоіў палёт на тросе, прычэпленым да самалёта. У мінскім аэраклубе займаюцца кемлівыя авіямадэлісты, мацнейшыя ў краіне верталётчыкі.

Дарога ў пяты акіян пачынаецца ў спартыўным аэраклубе. Але, калі спатрэбіцца, — сённяшнія спартсмены ўзляцяць у неба баявымі сокаламі, стануць мужнымі абаронцамі сваёй Радзімы.

Усё падагнана. Яшчэ раз праверана...





Сустракай, зямля! Мы — твае сыны.



Жэня Тычкоў — юнак, якіх у нас многа. Сёння — парашут, заўтра — касмічны карабель. А пакуль — вучоба ў політэхнічным інстытуце.

Як тут не захопішся!







Міхаіл Жалабоўскі на дыстанцыі.

# ЧЭМПІЁН СА СКІПАРАВІЧ

Гул авацый на трыбунах стадыёна то заціхаў, то нарастаў з новай сілай. Віноўнік урачыстасці, невысокі, крыху сутулаваты хлопец у вялікіх рагавых акулярах, стаяў на вышэйшай ступеньцы п'едэстала і неяк збянтэжана, зусім не пачэмпіёнску ўсміхаўся. Нясмела, быццам просячы прабачэння за нешта, ён прыняў віншаванні двух астатніх прызёраў. Здавалася, што ён яшчэ не зусім верыць у свой поспех. Але такім ён быў толькі знешне, ад той сціпласці і сарамлівасці, якія захаваліся ў ім яшчэ з маленства. На самай жа справе іменна ён, а не хто іншы, верыў у перамогу. Верыў даўно, верыў настойліва яшчэ з той пары, калі ўпарта трэніраваўся адзін на лясных сцежках.

Міхаіл Жалабоўскі нічым не вылучаўся сярод сваіх аднагодкаў — ні ў школе, ні ў роднай вёсцы Скіпаравічы, дзе ён нарадзіўся і жыў. Як і ўсе хлапчукі, вучыўся ў школе, любіў поле, лес. І раптам вясною на школьным кросе заняў першае месца. Чэмпіёна павіншавалі і хутка пра яго забыліся — кросы ў Казлоўшчынскай сярэдняй школе праводзіліся часта, і кожны раз быў свой пераможца. Але Міхаіла перамога акрыліла, ён адчуў у сабе нейкую незвычайную сілу. Нават вучыцца стаў лепш.

У Слоніме рыхтаваліся да раённага кросу. Як заўсёды, выказваліся прагнозы наконт будучых пераможцаў.

А Жалабоўскі трэніраваўся. З'явілася моцнае жаданне стаць дужым. Ад Скіпаравіч да Казлоўшчыны пяць кіламетраў. Некалькі хвілін язды на веласіпедзе. Але Міхаіл выязджаў з дому як мага раней і да пачатку ўрокаў «прападаў» там на спартыўнай пляцоўцы. Пасля заняткаў было горш. Каля школы збіралася многа моладзі, а ён не любіў гледачоў. Тады і аблюбаваў Міша знаёмы з самага дзяцінства бор. Спачатку ўздоўж узлесся, затым дарога збочвала ў шумлівы гай. Па вузкай сцежцы, пятляючы сярод бялявых бярозак, маршчыністых хвой і каржакаватых волатаў-дубоў, зноў вярталася на ўзлессе. Адмерваў, прыкладна, дзесяць кіламетраў.

І гэтак штодзень. Трэба мець цвёрды характар, жалезную волю і, галоўнае, мэту, каб нават у выхадныя дні, пры дрэнным надвор'і не даваць сабе перадышкі. Іншы раз вельмі стамляўся. Хацелася кінуцца ў мяккі зялёны мурог, забыцца пра ўсё і дыхаць свежым, чыстым паветрам, слухаць спеў жаваранка. Але ён адганяў гэтыя думкі і трымаўся намечанага плана, бо добра ведаў, што варта хоць раз даць сабе палёгку, як потым цяжка будзе зноў увайсці ў прывычны рытм.

Дадому вяртаўся палявой, ухабістай дарогай. Стары веласіпед падскокваў і жаласна рыпеў. Колы буксавалі ў перасохлым і сыпучым пяску, а ногі, здавалася, адпачывалі.

А мэта? Ці была яна тады ў Міхаіла?

— Мэта? — перапытаў ён з простай, крыху сарамлівай усмешкай. — Мэта, вядома, была. Хацелася стаць пераможцам раённага кросу...

Гэта, мабыць, рызыкоўна і вельмі саманадзейна ставіць перад сабою такую мэту — стаць пераможцам спаборніцтваў, не ведаючы і не бачачы сваіх сапернікаў. Але іменна з такой думкай прыехаў Міхаіл Жалабоўскі ў верасneўскую раніцу 1963 года ў Слонім. Іх падзялілі на дзве падгрупы: мацнейшыя — вучні дзіцячай спартыўнай школы і больш слабыя — школьнікі. Міхаіла Жалабоўскага не задаволіла такое рашэнне.

— Хачу бегчы разам з мацнейшымі, — звярнуўся ён да суддзяў. — Дазвольце...

Генадзь Станіслававіч Вялькіцкі — трэнер ДСШ — акінуў юнака недаверлівым позіркам. Невысокі, са смуглявым хударлявым тварам. Вялікія акуляры, якія зручна размясціліся на прамым танклявым носе, надавалі яму выгляд разгубленага студэнта-першакурсніка перад экзаменам. Параўнаў яго са сваімі выхаванцамі. Усе здаровыя, рослыя, дужыя!...

Міхаілу дазволілі стартаваць разам з выхаванцамі спартыўнай школы. Узмах флажка старцёра, і бегуны дружна, цеснай групаю рвануліся наперад. Суддзі глядзяць на секундамеры. Спартсменам трэба зрабіць два кругі — 1000 метраў. Спачатку ўсе бягуць разам. Жалабоўскі недзе ў сярэдзіне. І вось ён абыходзіць аднаго, другога, трэцяга. Ён вядучы. Але ўперадзе яшчэ цэлы круг. Калі прабягалі міма фінішу, нехта з суддзяў развёў рукамі:

— Не адстаў. А я недзе ззаду яго шукаў. Настойлівы малы!

— Малайчына, лёгка ідзе, — заўважыў Вялькіцкі.

На самай справе Міхаілу было зусім нялёгка. Стомленасці не адчуваў, ногі быццам у паветры ляцелі, але ад хвалявання сціснула сэрца, цяжка было дыхаць. Здавалася, што вось-вось ён упадзе. Але ж ногі, нібы крылы, неслі яго ўсё далей і далей, і ён у думках паўтараў: «Трэба перамагчы, трэба перамагчы...»

У трэнера змагаліся два пачуцці: радасць і зайздрасць. Радаваўся, што ў раёне з'явіўся добры спартсмен, ганарыўся гэтым. Але зайздросціў, што ён не ў спартыўнай школе. «Гадамі з імі займаюся, добра ведаю іх здольнасці і яшчэ ўчора некаторым прадказваў перамогу... А тут невядомы хлопец з лясной вёскі зблытаў усе карты».

А Міхаіла Жалабоўскага ўжо віншавалі. 2 мінуты 39,8 секунды — такі вынік да гэтага часу быў недасяжны для слонімцаў.

Пасля ўрачыстага закрыцця кросу пераможца падышоў да Вялькіцкага.

— Мне можна да вас на трэніроўкі прыязджаць? — запытаў ён.

— У Слонім? — сумеўся трэнер. — За трыццаць кіламетраў?

— А што? Калі дазволіце, буду ў вас займацца...

Гэта сапраўды трэба моцна і аддана любіць сваю справу, каб займацца ў выпускным класе сярэдняй школы і яшчэ кожную нядзелю пры любым надвор'і прыязджаць за дзесяткі вёрст на трэніроўкі. Усю зіму...

Усё ж, як і раней, асноўным месцам трэніровак быў лес. Крыліся інеем дрэвы, потым апрануліся ў белую снежную вопратку, зноў зазелянелі вясной, а ён кожны дзень бываў тут.

Іншы раз Генадзь Станіслававіч Вялькіцкі сам прыязджаў у Скіпаравічы. Тады яны займаліся ўдвух — бегалі, зімою хадзілі на лыжах, падоўгу спрачаліся, марылі пад бясконцыя песні старога бору.

Знешне яны не падобныя — трэнер і яго вучань, але іх, нібы магнітам, цягнула адзін да аднаго. Міхаіл ужо не разумеў, як ён мог раней трэніравацца без Генадзя Станіслававіча, ад якога шмат чаму навучыўся, які шмат яму памог.

Калі Міхаіл паступіў у інстытут фізічнай культуры, яго новым настаўнікам і трэнерам стаў вопытны

спецыяліст, заслужаны трэнер БССР Томас Робертавіч Рэнэль.

Год прабег вельмі хутка. Лекцыі, трэніроўкі, лекцыі. Рыхтаваўся, набіраў сілы, але заўсёды быў у спартыўнай форме, гатовы да спаборніцтва. Ён чакаў старту.

І вось вясна 1965 года. Яе па праву можна назваць стартавай. У традыцыйным лёгкаатлетычным матчы каманд Прыбалтыкі і Беларусі Міхаіл выходзіць пераможцам. У кросе на прыз газеты «Правда» ён стаў чацвёртым сярод мацнейшых юніёраў, яго ўключылі ў зборную каманду Савецкага Саюза. Яму даверылі адстойваць гонар нашай краіны за мяжой.

Запоўненыя трыбуны будапешцкага стадыёна. Старт забегу на 1 500 метраў. Сярод пятнаццаці ўдзельнікаў — двое ў пунцовых майках з гербамі краіны Саветаў. Адзін з іх — наш зямляк Жалабоўскі — фінішыруе чацвёртым. Але і гэты яго вынік на 0,7 секунды перавысіў норму майстра спорту. На наступны дзень забег на 800 метраў. Толькі на 0,8 секунды адстаў Міхаіл ад спартсмена з ГДР Б. Дзісара. Узнагарода — срэбраны медаль.

У Мінск Міхаіл вярнуўся раніцай, а ўжо недзе к вечару стартаваў на дыстанцыі 1000 метраў на першынстве рэспублікі па лёгкай атлетыцы. Хваляваўся трэнер, хваляваліся сябры — ці не падвядзе спартсмена стомленасць пасля дарогі. Спакойны быў толькі сам Жалабоўскі — бег роўна, хутка. А пасля таго як аб'явілі, што Міхаіл Жалабоўскі ўстанавіў новы рэкорд рэспублікі, гул воплескаў доўга стаяў над стадыёнам. На гэтых спаборніцтвах Міхаіл стаў тройчы чэмпіёнам рэспублікі. Не часта такое ўдаецца нават вопытным майстрам.

Не паспеў ён як след адпачыць, абдумаць і ўзважыць усё, што здарылася, як трэба было ехаць у Алма-Ату, на спаборніцтвы лёгкаатлетаў краіны. Сюды з'ехаліся лепшыя бегуны, прыгуны, кідальнікі — пераможцы рэспубліканскіх спартакіяд.

Першы дзень прынёс непрыемнасці. Міхаіл на дыстанцыі 1 500 метраў выступіў няўдала, але гэта няўдача не вывела яго з раўнавагі. Як заўсёды, ён застаўся спакойны, гатовы да барацьбы. На наступны дзень уся краіна даведалася, што здольны беларускі лёгкаатлет у забегу на 800 метраў толькі адзін з каманды дайшоў да фіналу. Потым палепшыў рэспубліканскі рэкорд, які трымаўся каля сямі год, і заняў пятае месца, пакінуўшы за сабою многіх вопытных майстроў, удзельнікаў і нават пераможцаў шматлікіх усесаюзных і міжнародных сустрэч.

Леташні спартыўны сезон Жалабоўскі закончыў у Тбілісі на першынстве юніёраў краіны. Тут не было яму роўных. Двойчы выходзіў на старт і двойчы пераадольваў дыстанцыю першы.

Ужо стала традыцыяй у нашай краіне летні сезон лёгкаатлетаў пачынаць з кросу на прыз газеты «Правда». Ён падобны на шырокую мнагаводную раку. Па кроплях і струменях збіраецца яна ад самых далёкіх гарадоў і сёл, каб выліцца бурлівым патокам на Маскоўскім іпадроме ў Дзень друку 5 мая.

Апошнім экзаменам перад паездкай у Маскву, пробай сіл беларускіх лёгкаатлетаў з'явіўся фінал рэспубліканскага кросу, які адбыўся 24 красавіка. Знамянальным і сімвалічным ён быў для Жалабоўскага — упершыню крос праводзілі ў Слоніме, на радзіме маладога бегуна. Як старыя сябры, сустрэліся Генадзь Станіслававіч Вялькіцкі і Міхаіл Жалабоўскі. Ім было пра што пагаварыць. Вялькіцкі выхаваў яшчэ аднаго чэмпіёна рэспублікі — Анатоля Ганчара. Двум яго лепшым вучням прадстаяў экзамен перад землякамі — у Слонім паглядзець спаборніцтва з'ехаліся калгаснікі з навакольных сёл.

Старт на 3 000 метраў. Родная зямля, водар вясны, цёплыя ўсмешкі знаёмых дадалі Міхаілу сіл. Ён бег лёгка, прыгожа. І адразу стаў вядучым. Так і прыбег першы на фініш, амаль на 12 секунд апярэдзіўшы наступнага бегуна. Першы абняў свайго выхаванца Вялькіцкі. Потым падышоў Анатоль Ганчар, які на дыстанцыі 1 000 метраў заняў чацвёртае месца. Як тут не радавацца!

5 мая ў Маскве Жалабоўскі выступаў на дыстанцыі 3 000 метраў. Адстаяць першынство, даказаць, што ты сапраўды лепшы бягун краіны сярод юніёраў, было нялёгка — 250 юнакоў змагаліся за званне чэмпіёна на гэтай дыстанцыі. Адразу пасля старту вызначылася група лідэраў. Уперад выходзілі то адзін, то другі, але ніхто не хацеў адрывацца... Міхаіл быў спакойны і, як заўсёды, пільна сачыў за сапернікамі, гатовы ў любую долю секунды паскорыць тэмп, змяніць манеўр. Ужо на фінішнай прамой ён бачыў і ведаў, што самы грозны яго сапернік — літоўскі спартсмен Альфонсас Гедмінас. За якую долю секунды, знешне не мяняючы тэмпу бегу, Жалабоўскі дагнаў яго, і фінішная стужка спакойна лягла яму на грудзі.

Над трыбунамі пракаціліся воплескі. Масквічы горача віншавалі хлопца з беларускай вёскі Скіпаравічы, які выйграў забег. Міхаіл па звычцы спакойна, толькі крышачку саромеючыся, стаяў на вышэйшай ступеньцы п'едэстала гонару і ўспамінаў свае першыя трэніроўкі. Воплескі нечым нагадвалі шум роднага Скіпаравіцкага бору.

**Георгі ФІЛОНЧЫК.**



**Міхаіл Жалабоўскі і Анатоль Ганчар з трэнерам Генадзем Вялькіцкім.**

Фота **Д. Церахава.**

**БЕЗ СЛОЎ.**








# ВУЧЫЦЕСЯ АНАЛІЗАВАЦЬ

Уменне аналізаваць адкладзеныя партыі — вельмі неабходна кожнаму шахматысту-практыку. Між тым, многія нават вопытныя майстры, рыхтуючыся да турнірных баёў, менш за ўсё ўлічваюць непазбежнасць аналізу будучых адкладзеных партый. А гэта ж мае важнае значэнне для фізічнай падрыхтоўкі шахматыста.

Безумоўна, аналіз адкладзеных партый павінен быць разумны. Трэба перш за ўсё ўлічыць, што далёка не заўсёды можна зрабіць вычарпальны разгляд у хатніх умовах, а вось свежую галаву для барацьбы на турніры трэба мець заўсёды. Х. Р. Капабланка, напрыклад, быў праціўнікам празмерна скрупулёзнага аналізу і лічыў за лепшае перад даігрываннем больш адпачываць, гуляць на свежым паветры.

І ўсё ж такі, як правіла, амаль заўсёды прыходзіцца аналізаваць адкладзеныя партыі, не шкадуючы ні часу, ні сіл.

Як, напрыклад, абысціся без аналізу ў наступнай пазіцыі?

**Суэцін — Бранштэйн** (XXXI першынство СССР).



**Белыя:** Крd3, Ле6, Са2; пп.: a3, b2, d5, f3, h4 (8).

**Чорныя:** Крf5, Лg1, Кd4, пп.: a4, c5, g6 (6).

У эндшпілі ў белых дзве лішнія пешкі, але апошнім ходам 1. ... Кb5 — d4 чорныя стварылі фігурную контргульню, і ад белых патрэбна вялікая дакладнасць на шляху да рэалізацыі перавагі.

Тут я запісаў, як бачыце, мацнейшы ход 2. Ле8!, адразаючы караля ад галоўнага козыра яго — прахадной пешкі d5. Пры аналізе асабліва цяжкім і турботным быў працяг: 42. ... Лd1+, 43. Крс3 Лс1+, 44. Крd2 Лс2+, 45. Крd3 Л:b2. 46. Сс4 К:f3. Трэба сказаць, што гэты працяг я «расшліфаваў», як кажуць, дарэшты. Вось адзін з варыянтаў аналізу: 47. Крс3! Лb6 (інакш рашае 48. d6!), 48. Сd3+! Крf4 (або g4), 49. Ле4+ Крg3, 50. Л:а4, і, калі 50. ... Ке5, дык 51. Ле4! К:d3, 52. Кр:d3 Лb3+, 53. Крс4 Л:а3, 54. Кр:с5, і белыя — на фінішнай прамой для дасягнення мэты.

Часу на аналіз было мала, і другія варыянты працягу партыі не разбіраў.

Ужо гуляючы з партнёрам, я амаль адразу ж сутыкнуўся з крыху непрадбачанай праблемай. Пасля 42. ... Лd1+, 43. Крс3 мой праціўнік зрабіў 43. ... Крf4, думаючы пры зручным выпадку арганізаваць нешта накшталт сеткі матаў. Мне трэба было, у адпаведнасці з абставінамі, імгненна шукаць канкрэтны шлях рэалізацыі. У некаторай меры памагло агульнае пранікненне ў тонкасці пазіцыі. Я разумеў, што галоўны ўдар трэба накіраваць тут супраць пешкі с5, пазбаўляючы гэтым апоры каня чорных, а значыць, разбураючы надзеі чорных стварыць сетку матаў.

Грунтуючыся на гэтым, быў зроблены ход 44. Лс8!, і меўся на ўвазе варыянт: 44. ... Лс1, 45. Крd2 Лс2, 46. Крd3 Л:b2, 47. Сс4 К:f3, 48. Крс3! Лb6, 49. Л:с5, і белыя маюць усе шансы перамагчы. Мусіць, ход 44. Лс8, у сваю чаргу, быў крыху нечаканым для майго партнёра. І тут ён адразу ж дапусціў памылку, якая паскорыла яго паражэнне.

44. ... Кb5+?, 45. Крс2 Лh1, 46. Л:с5! (Працсей за ўсё. Белыя могуць цяпер спакойна прыкрываць свайго караля, таму што іх ладдзя абараняе поле «с1».)

46. ... Лh2+, 47. Крb1 Кd6 (Бязмэтна 47. ... Лh1+ з-за 48. Лс1!), 48. Ла5 Кр:f3, 49. Л:а4 Ке4, 50. Сb3 Л:h4, 51. Сс2 Лh1+, 52. Кра2 Кd6, 53. С:g6. Барацьба закончана. Зрабіўшы некалькі хадоў, чорныя здаліся.

Напрошваецца вывад, што зусім неабавязкова ў хатнім аналізе імкнуцца вылічваць усе магчымыя варыянты (не кажучы пра тое, што ў многіх выпадках гэта проста-такі немагчыма). Бясспрэчна адно — вельмі важна адчуваць не толькі асноўныя ідэі партыі, але і матывы, стратэгічныя і тактычныя тонкасці барацьбы, іншымі словамі, адчуваць дух партыі, унутраную сутнасць пазіцыі, выпрацаваць у сабе, як цяпер часам кажуць, нейкую «радыёактыўнасць» адчування партыі.

І тут важную паслугу аказвае выразны, па магчымасці найбольш глыбокі аналіз асноўных працягаў партыі. Ва ўсякім разе, гэта больш карысна, чым імкненне многіх пераскідвацца ад аднаго варыянта да другога, толькі павярхоўна разбіраючы кожны з іх. «Радыёактыўнасць» — адна з асноўных якасцей сапраўды глыбокага аналізу. Пра гэта ў свой час, праўда, у некалькі іншым плане, вельмі грунтоўна гаварыў яшчэ гросмайстар А. І. Німцовіч. Як прыклад, які пацвярджае выказаную думку, прывядзем даігрыванне партыі **Суэцін — Хасін** (XXXIII першынство СССР, 1965 год).



**Белыя:** Кре1, Ла2 і h7, Кd2; пп.: a4, c3, d4, h2 (8).

**Чорныя:** Крс8, Лf8 і f2, Ке4; пп.: a6, c4, d 5 (7).

Ход белых.

Становішча белых выглядае крытычным. Адзіны спосаб, які б дазволіў ім весці яшчэ супраціўленне, у варыянце: 1. Ла7! (Праігрывае 1. Лb2 Лg2!, 2. Крd1 Лg1+, 3. Крс2 К:d2 і г. д.) ... К:с3 (Большага чорныя атрымаць не паспяваюць. Пагражае, вядома, 2. Ла8+, а калі 2. ... Крb8, дык 3. Л:а6, і пагроза 4. Лb2+ дае белым верную нічыю), 2. Ла8 Крd7, 3. Л:f8 Л:f8, 4. Ла3.

Гэта пазіцыя, па сутнасці, была пачатковай у зусім няўдзячным з выгляду аналізе. Хоць на дошцы матэрыяльная роўнасць, але справы белых вельмі цяжкія, і галоўным чынам з прычыны няўдалага размяшчэння іх фігур. Не толькі фігуры чорных, але і пешкі d5 і с4 скоўваюць магчымасці каня і ладдзі белых. Пасля фарсіравана-

га 4. ... Ле8+, 5. Крf1 Ке4, 6. Кf3 я ў сваім аналізе лічыўся галоўным чынам з ходамі 6. ... Лb8 (або спачатку 6. ... Лf8, 7. Крg2 Лb8) і 6. ... Кре6, імкнучыся правесці караля на каралеўскі фланг.

Не буду стамляць чытачоў прывядзеннем варыянтаў. Заўважу толькі, што, калі на першы з гэтых працягаў удалося знайсці больш-менш здавальняючае 6. ... Лb8, 7. Ле3, маючы на ўвазе пры выпадку рухаць пешку h2 або ствараючы пагрозу Кf3—e5+:c4 і г. д., дык супраць маршруту караля прыдумаць што-небудзь здавальняючае ці было магчыма (хоць я і шукаў вельмі ўпарта).

Пры даігрыванні вельмі хутка ўзнікла пазіцыя пасля 6. Кf3, і тут мой партнёр (наколькі я паспеў зразумець, абсалютна пераконаны ў перамозе) некалькі нечакана зрабіў 6. ... с3.

Прызнаюся, гэта быў адзін з тых нешматлікіх выпадкаў, калі нечаканасць была вельмі прыемная і не ашаламляльная, як звычайна. Мне стала ясна, што партнёр недаацэньвае рэсурсы белых: у каня ж цяпер з'явілася цудоўная база на палях е5 і d3! Праўда, ладдзя белых пакуль што выключана з барацьбы.

7. Ла2 Лb8, 8. Ке5+ (Пасля заканчэння партыі мой партнёр прызнаўся, што зусім выпусціў з поля зроку рэальную сілу гэтага манеўру каня. Такім чынам, пачалася практычная гульня). 8. ... Кре6, 9. Кd3 Крf5. Цяпер маршрут чорнага караля зусім не такі грозны, 10. Кре2 а5, 11. Ла1!

Цяжкі і, магчыма, адзіны ход! Белыя аддаюць пешку fh2 і дапускаюць ладдзю чорных на другую гарызанталь. Але і белыя нарэшце каардынірують дзеянні сваіх сіл і пачынаюць контргульню на караля чорных. Заканчэнне дакладна разлічана белымі:

11. ... Лh8, 12. Лf1+ Кре6, 13. Кf4+ Крd6, 14. Лg1! Л:h2+, 15. Крd3 Лd2+, 16. Кре3 с2, 17. Лg6+ Крd7, 18. Лg7+, і—нічыя.

У гэтым выпадку задумы партнёра (с6—с3) парыраваліся зусім не дакладным хатнім аналізам гэтага працягу, а хутчэй якраз той «радыёактыўнасцю», пра якую гаварылася вышэй. Згодна дыялектыцы мыслення, у гэтым ёсць і свая «лыжка дзёгцю ў бочцы мёду»: калі не было дастатковай абароны супраць лепшага працягу чорных (план з маршрутам іх караля на f5 і г. д.), мусіць, не трэба было, асабліва пры недахопе часу на аналіз, так падрабязна распрацоўваць асноўны варыянт. У такіх выпадках трэба як мага выразней вывучаць якраз тыя варыянты, дзе партнёр ідзе не па асноўным шляху (і ў тым ліку, вядома, як след «прашліфаваць» натуральнае 6. ... с3). У сувязі з гэтым—агульная парада маладым шахматыстам: калі няма аб'ектыўных магчымасцей для дасягнення мэты (выйгрышу або нічыёй), трэба старанна праверыць усялякія нечаканыя для праціўніка хады.

Абагульняючы разгледжаныя прыклады, можна зрабіць яшчэ некалькі істотных практычных вывадаў. Аналіз адкладзеных партый павінен грунтавацца, як і практычная гульня, на аб'ектыўнай ацэнцы пазіцыі. На жаль, многія маладыя шахматысты не звяртаюць увагі на гэта. Нізкая якасць іх аналізу часам бывае з-за таго, што, перш за ўсё, яны не здольны правільна расцаніць адкладзеную пазіцыю. Раскідаючыся ў пошуках эфектыўных варыянтаў, такія гора-аналітыкі забываюць пра аб'ектыўны бок справы і пры даігрыванні ад гэтага церпяць.

Вядома, спецыфіка мыслення ў працэсе практычнай гульні і ў часе аналізу розная. У працэсе аналізу часам патрэбна бывае стражэйшая матэматычная дакладнасць, не гаворачы ўжо пра акуратнасць, даведзеную да дасканаласці. Натуральна, што магчымасці пранікнення ў таямніцы пазіцыі пры хатнім аналізе значна ўзрастаюць. Тут можна сказаць словамі Гётэ: «Спыніся, імгненне,—ты цудоўнае!»

Часта ў працэсе аналізу складаных пазіцый сама ацэнка адкладзенай пазіцыі можа быць не толькі ўдакладнена і паглыблена, але і кардынальна зменена. (Што, дарэчы, зусім не адмаўляе неабходнасці адразу мець адпаведную пачатковую ацэнку адкладзенай пазіцыі). Вышэй мы разгледзелі спосабы аналізу «тэхнічных» заканчэнняў, што значна часцей сустракаецца на практыцы. Але часта адкладзеныя пазіцыі маюць і тактычныя камбінацыйныя матывы. Аналіз такіх пазіцый, як правіла, амаль што выключае якія-небудзь аналогіі і магчымасці карыстацца тэарэтычнымі дапаможнікамі. І тут яшчэ больш павялічваецца значэнне канкрэтнага ўліку магчымасцей.

Наступнае заканчэнне адкладзенай партыі літаральна ўвесь час трымаецца на адной тэме.



**Белыя:** Крh1, Ле1, Сb4 і b1, Кс3; пп.: а2, d5, е4, f4, g2, h4 (11).

**Чорныя:** Крg8, Ла8 і с8, Сd7, Кd6; пп.: b6, е7, f6, g6, h7 (10).

Пазіцыя на дыяграме ўзнікла ў партыі Фурман—Суэцін (XXI першынство СССР). Зрабіць яе ацэнку, зыходзячы з агульных меркаванняў, нялёгка. У чорных—якасць за пешку, але ў белых—два сланы, моцны пешачны цэнтр і пагроза прарыву е4—е5.

І ўсё ж аналіз паказаў, што становішча белых вельмі цяжкае. Уся справа ў некалькі «вісячым», не гарманічным размяшчэнні сіл белых, што дазваляе чорным ствараць контратаку на пункты е4, b4 і а3 хутчэй, чым белыя здолеюць рэалізаваць свае задумы. Падзеі разгортваліся фарсіравана, хоць убачыць гэта было зусім не так проста, як можа здацца пры разыгрыванні заканчэння: 1. ... Лс4!, 2. а3 Лас8, 3. Ле3 (Нельга 3. Ке2, бо вельмі слабы пункт е4). ... Лd4!, 4. Крh2 Крf8. Толькі на адну хвіліну чорныя могуць дазволіць сабе перадышку ў сваім контрнаступе. Неабходна ўключыць у барацьбу каня, а для гэтага абараніць пешку е7 каралём. Цяпер конь чорных вельмі эфектна ўрываецца на с4, пагражаючы Кс4:а3. З-за слабага пункта е4 белыя бездапаможныя.

5. h5 gh, 6. е5 Кс4, 7. Ле1 fe!, 8. fe К:а3, 9. Лf1+ Кре8, 10. е6 С:е6! Апошняе звяно тактычнай аперацыі. Праз некалькі хадоў белыя здаліся.

Прыведзеныя тут прыклады і назіранні—толькі невялікія ўводзіны ў гэтую складанейшую тэму. Не выключаецца, што ў будучым пра метады аналізу адкладзеных партый будуць пісацца спецыяльныя грунтоўныя працы. Мне ж хацелася падзяліцца сваім асабістым вопытам. Я перакананы, што аналізу адкладзеных партый можна навучыцца. А такое ўменне дасць вялікае маральнае задавальненне, таму што часам такім чынам можна дабівацца сапраўды цудоўных вынікаў.

**Аляксей СУЭЦІН,**
**міжнародны гросмайстар.**

*Усмешкі маладосці*

# З ЧЭХАСЛАВАЦКІХ ДОСЦІПАЎ

### Ян КОЛЕСАР

Абмежаванасць можа быць неабмежаванай.
Некаторыя, каб стаць на ўласныя ногі, спачатку поўзаюць.
Асудзілі яго недахопы. Яго — не.
Так згаладаўся па праўдзе, што з'еў бы і таго, хто яе прынясе.

### Эміль ЗАБОРСКІ

Калі хто-небудзь кіне ў цябе каменем, кінь у яго хлебам... двухтыднёвай даўнасці.
Разумнейшы саступіць... калі слабейшы.

### Мілан РУЖЫЧКА

Падкрэсліваў цяпер галоўным чынам тое, што нядаўна браў у двукоссе.
Асцярожнасць часам бывае сястрой баязлівасці.
Бяда ў тым, што колькі б разоў ні мераў, адразаць будзе даручана іншаму.
Шкада, што самыя гаваркія людзі часта не маюць чаго сказаць.
Горш за ўсё, што ў старасці, калі табе застаюцца адны ўспаміны, пачынаеш страчваць памяць.
Пустазелле неабходна выполваць, нават калі пакуль няма чым сеяць.
Балбатаць можна і пяром.
Найбольш злосна гаўкаюць адзін на аднаго сабакі, калі абодва на ланцугу.
Не маглі прыйсці да згоды, бо аж занадта добра разумелі адзін аднаго.
Часам ужо ў пачатку спектакля цябе ахоплівае напружанне: ці вытрымаеш да антракту.
У час яго прамовы ўсе падпіралі кулаком падбародак — каб выпадкам не раскрыць рот.
Сапраўднай шчырасцю хутчэй саб'еш людзей з панталыку, чым пераканаеш.
Усё адносна: адзін бачыць у світанні пачатак дня, другі — канец ночы.
Дурнота заразлівая. Асабліва калі яна выгадная.
Найбольш голасна рагоча той, хто нічога не зразумеў.
Надзвычай важна прыняць рашэнне іменна тады, калі іншага выбару не застаецца.

### Ян БЕЗОЎШКА

Характарыстыку склалі з такім разлікам, каб нельга было зразумець: ці перад вамі лепшы токар, ці здольны футбаліст.

### Уладзімір ВАГНЕР

Недзе пачуў, што кожны робіць тое, на што здатны. З таго часу не рабіў нічога.

### Ян УРВАЛЕК

Тапелец за заслугі хапаецца.
Аптымізм — захворванне прафесійнае?



### Уладзімір ЗЕМАН.

Калі вы не разбіраецеся ні ў чым абсалютна, то, прынамсі, ніхто не абвінаваціць вас у вузкай спецыялізацыі.
Далёка не заўсёды чалавека блазнам робіць касцюм.
І ўступленне ў гісторыю залежыць ад добразычлівасці білецёраў.
Некаторыя лічаць, што надыход камунізма адбудзецца прыблізна так: прыедзе хто-небудзь з цэнтра і перарэжа стужку.

### Іржы ШТАЛ

Найбольшы ўплыў на працягласць дыскусій мае расклад руху транспарту.

### Антанін ШТУБНЯ

І тупік мае сваю перспектыву.
Паказваў на свае рукі, загрубелыя ад воплескаў.
Ідэя была добрая, але не ў прадпісанай упакоўцы.
Быў абвінавачаны ў непажаданай інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў.
Сваю згорбленасць тлумачыў тым, што ўвесь час быў напагатове.
Не паспеў закончыць школу жыцця, як нажыў скляроз.
Звесткі аб шкоднасці скразняку можна з поспехам выкарыстаць, каб забараніць праветрыванне.

### Іржы Й. ТРНКА

Людзі пачынаюць курыць, каб скараціць дзяцінства, а кідаюць, каб прадоўжыць старасць.
«Будзь цярплівы!» — адно з найважнейшых жыццёвых правіл. Шкада толькі, што мы недастаткова разважлівыя, каб быць дастаткова цярплівымі.

### Вацлаў ЗІМА

Дэмакратыя для яго была ўсім, таму так крута праводзіў яе ў жыццё.
Зусім не баяўся прызнаць памылкі... сваіх падначаленых.
Быў супраць беспрынцыповага падхалімажу. Падхалімнічаў прынцыпова.

### Мілаш ЕТЭЛ

Найлепшым кінакрытыкам быў аб'яўлены кажан — ён, нібыта, разглядаў фільм з правільных пазіцый. Той факт, што кажан вісеў галавой уніз, палічылі неістотным.

### Габрыэль ЛАУБ

Халуйства было надзвычай высокакваліфікаванай прафесіяй, пакуль не зрабіла ў свеце палітычнай кар'еры.
Куры нясуць яйкі з нясціплым кудахтаннем. Аднак яйкі смачныя.
«Што б ні рабіў бог, ён усё робіць добра»,— гаварылі некалі нашы дзяды. Хіба маглі яны сказаць інакш?

### Цырыл ШЭДЫ

Хто не ідзе з намі, той неабавязкова пойдзе супраць нас. Можа ён наогул не ўмее яшчэ хадзіць.

### Олдржых ФІШАР

Той, хто скардзіцца на няроўнасць зарплаты, мае звычайна на ўвазе тых, каму плацяць больш.
Мы прызнаем толькі два віды крытыкі: добразычлівую і несправядлівую.
Цікава: людзі часта просяць прабачэння, калі гавораць вам праўду, і не просяць, калі хлусяць.
Гэта быў зусім выключны чалавек. Нават сляпая кішка была ў яго толькі блізарукай.
Такі ўжо цяпер час: з дзесяці чалавек дзевяць піша афарызмы. Але толькі адзін мысліць — дзесяты.

Сабраў і пераклаў **Алесь МАЖЭЙКА.**

## Нашы аўтары

**ВЕРАМЕЙЧЫК Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Петрыцкае на Брагіншчыне.

Скончыў Рэчыцкае педвучылішча, потым — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічае ў Рэчыцкім раёне.

**КАПЫЛОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Потым працаваў журналістам, настаўнікам.

Цяпер працуе рэдактарам мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь».

Неаднаразова выступаў з апавяданнямі ў нашым часопісе.

**НАЎРОЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Светлагорскім раёне. Скончыў Бабруйскую школу санфельчароў, а пасля Мінскі медыцынскі інстытут. Працуе ўрачом у Мінску. Аўтар зборніка вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю».

**МАСАРЭНКА Алесь** нарадзіўся ў 1938 годзе на Слаўгарадчыне (вёска Ходараў). Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў інструктарам Слаўгарадскага РК ЛКСМБ, потым служыў у Савецкай Арміі. Дэмабілізаваўшыся, паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер працуе выхавальнікам у адной з мінскіх школ-інтэрнатаў.

У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**ШАБАН Яўген** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Калодзіна на Мядзельшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

Працаваў акцёрам і загадчыкам літаратурнай часткі тэатра імя Я. Коласа. Цяпер — на тэлестудыі ў Мінску.

**ШАЎЧОНАК Марыя** нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Новы Востраў на Клічаўшчыне.

Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічае на Гродзеншчыне.

**ПРУДНІКАЎ Павел** нарадзіўся ў 1911 годзе ў в. Стары Дзедзін на Клімаўшчыне. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, потым скончыў Ленінградскі педінстытут імя Пакроўскага і настаўнічаў. Пісаць пачаў у 30-я гады. Выйшаў зборнік вершаў «Песні грузчыкаў» пад псеўданімам Паўлюк Буравей.

Цяпер працуе настаўнікам на Браслаўшчыне.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ», № 8**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.VII.66 г. Падпісана да друку 27.VII.66 г.
АТ 12228. Тыраж 7895 экз. Зак. 397. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



Рудольф Дубялір. Сустрэча.



Леанід Шчэмелеў. Людачка.



Яўген Ціхановіч. Пуцявы абходчык.